Іграецца марш. Лазоўскі Вінцэнт дзьме ў дудку і паглядае на хлопцаў так, як-бы хоча сказаць: „я-ж гаварыў, што фальшывіць і вельмі-ж трудна музыканту. Бач, як я спраўляюся“...

Флейта Лазоўскага малодшага глушыць усё.

На дварэ цёмна і цёпла; растае мокры сьнег і весела маўчаць сады. Пахне мокраю зямлёю і сенам, і яшчэ звоніць вада з вядра каля калодзезя... І вось з хаты, дзе граюць, выходзяць двое і стаяць.

— Пройдзем у гэты бок,—гаворыць хлопец.

— Толькі недалёка,—адказвае дзявочы голас,—мне холадна.

— Вам холадна?.. Вы зусім прыехалі, ці яшчэ паедзеце?..

— Мусіць, зусім. Няма як цяпер з дому.

І яны ідуць па мокрай і цьвёрдай дарозе. Чуць прасьвечваюцца сьвятлейшым за зямлю колерам каменьні, з боку мізэрныя астаткі сьнегу нейкаю жаўцізнаю вызначаюцца на зямлі.

— А я вас раней зусім ня ведаў... як вы жылі яшчэ ў мястэчку.

— Я-ж тры гады ня жыла дома.

— Вы служылі дзе ў горадзе?

— Служыла.

— Дзе?

— За дамашнюю работніцу.

— А я адзін раз бачыў вас, першы раз; вы стаялі каля калодзезя, а я ішоў з мястэчка... і глядзеў на вас...

І яму яшчэ больш хочацца гаварыць; гаварыць аб тым, аб чым ён сягоньня не гаварыў, сказаць тое, чаго не сказаў ёй. І от ён паварочвае галаву і глядзіць на яе збоку. І абое маўчаць.

— Хадзем назад,—гаворыць яна.

— Хадзем.

І зусім ня тое адказаў, што хочацца яму сказаць, нічога не сказаў ён.

І от ён бярэ яе пад руку і так ідуць яны, не гаворачы ніводнага слова. Каля варот яна гаворыць.

— Дык гэта Купрыяновіч Зыгмусь ваш бацька?

— Мой бацька...

Ізноў маўчаць.

— Я зьмерзла.

— Так цёпла і вы зьмерзьлі?

У хаце іграюць польку. Душна. Многа пар скача, і весела глядзіць на іх старшы музыкант Сьмігельскі. Васпаваты твар яго напружаны ўсімі рысамі ад радасьці музыкі, пад'уладнай яму, ён ведае, што доўга яшчэ пакуль давядзецца пакінуць іграць гэтую польку, і рукі яго ходзяць спакойна. У некаторых месцах ён падморгваньнем падае знакі Мацюкевічу, і той рад—з вялікім захапленьнем ён мацней б'е ў бубен. Сьмігельскі не пакідае падаваць знакі, Мацюкевіч пачынае глядзець яму ў вочы з запытаньнем—ня ведаю, што трэба. Раптоўная злосьць у адзін

момант крывіць на бок воспаваты твар Сьмігельскага. Ён усхватвае руку з смыкам угору і растапырыў пальцы. Даніельскі скеміў, што нешта здарылася і падмяніў старшага—раптам з утуру перайшоў на самую польку і глядзіць, калі старшы зноў пачне граць і зноў трэба будзе хваціць утурам. Дысцыпліна! Сьмігельскі крыкнуў Мацюкевічу, у рытм полькі са злосьцю.

— Таль-леркаю накрый!

— Р-р-раз!—ухнуў Мацюкевіч і „накрыў талеркаю“. Талерка ляснула і аддзяліла другую частку полькі. У цеснай хаце ляснула ўва ўсіх і ў вушах, але рытм папраўіўся, і вось ужо захапленьне пачалося полькаю.

Сьмігельскі нездаволены, ён зусім ня грае і крычыць у самае вуха Мацюкевічу:

— Трэба было раней; няўжо ты ня можаш дагадацца, заўсёды паскудзтва выйдзе, а не работа!..

Мацюкевіч цяпер найбольш налягае на талерку і траскучы і пляскаты кароткі звон усё павялічвае адрывістасьць такту. Па ходу полькі Сьмігельскі раптам здагадваецца, што Мацюкевіч бадай што ў самы раз накрыў талеркаю барабан, і вось ён ужо грае. Францішак Даніельскі сачыў за кожным яго рухам і як толькі ўпаў яго смык—перайшоў на ўтур.

І цяпер стаіць вышэй усіх галавою, прыгнуты трохі круглымі і слабымі плячыма сваімі, распусьціў вусы—няма як падкруціць іх, рукі заняты—і кідае смык уніз і ўгару роўна і нявысока. І глядзіць на ўсіх... Можа-б дзеравам, глухім і сухім, абзывалася яго скрыпка, каб чуваць яе было з-за праразьлівага крыку флейты вёрткага Лазоўскага, можа яна тады, каб пачуў хто яе, сказала-б—„як сабе хочаш, можаш ня слухаць; ня слухай. Але я патрэбна ўдушліваму, вялікаму ростам, прыгнутаму Францішку Даніельскаму, што закінуўшы худому каню на ноч сена, прышоў сюды з цеснае хаты свае. І цяпер забыўся і на гэтую хату, бачыўшую за свой век столькі думак і сьлёз, забыўся і на надакучыўшыя з малых дзён клопаты—за што-б гэта падкаваць каня, на ўсё забыўся, нават на слаўную і ціхую дзяўчыну—дачку сваю, што тут вось скача пад яго музыку... І стаіць ён тут вышэй усіх ростам, глядзіць на ўсіх у дзейнасьці сваёй, і агні гараць у вачох яго. Гараць і ня меркнуць. І так гарэлі яны многа раз, калі слухаў ён у местачковым касьцёле, як пад пярэста размалёванай стольлю, на хорах, на малой фісгармоніі арганісты выконваў грымучыя і вялікасныя кантаты. І тады мары ўзносілі яго на хоры. І вось ужо ён вырас большым за ўсё істотаю сваёю, і з-пад яго пальцаў льлюцца сьлёзы і грыміць радасьць. І раптам падаюць вялікасна і паволі, размалёваныя ў жоўтыя сланэчнікі, тонкія дошкі, што закрываюць яго на хорах ад людзкога натоўпу... І вось закалыхаліся самі касьцёльныя хоры і няма ўжо іх, і няма касьцёла. І зямля ачысьціла прасторы ад гор і лясоў, каб ня было ніякіх пялёнак для вока людзкога, і сьвет напоўніў усё вакол прадстаўнікамі сваімі. Перад імі, на вялікай

зямлі, грыміць вялікасьць усіх вялікасьцяй музыкі—і гэта-ж ён дзейнічае тут сіламі істоты свае, і творыць і напаўняе!

Блізкі мой, і родны! Як павяду цябе сягоньня ў вялікія скляпеньні людзкіх сымфоній? Якія пэрсімфансы пакажу табе? І ў які дзень суджана мне спаткацца з табою на ціхіх загонах узьнятай табою ральлі—у вострым і тонкім разуменьні тваім — твае скрыпкі і вялікасных сымфоній?!"

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Францішак Даніельскі ідзе позна дадому. Утомлены, але яму ня хочацца ісьці ў хату. І ён стаіць адзін уночы на змрочнай дарозе. І міма яго шмат праходзяць... Ідзе пасёлкаўская Надзя і з ёю сын Зыгмуся Купрыяновіча—праводзіць яе дадому. Даніельскі чуе іх гаворку:

— Калі мы яшчэ будзем бачыцца?

Яна нічога не гаворыць, мусіць думае, ці трэба і ці варта ёй з ім бачыцца.

— Я ня ведаю калі.

— Заўтра.

— Я ня ведаю.

— Чаму?

— Не... ня заўтра...

— Я прыду заўтра.

Яна думае трохі, пасьля гаворыць:

— Заўтра мяне ня будзе дома, я пайду ў мястэчка плацьце шыць.

— Дык я прыду правяду вас.

Яна зноў думае.

— А я ня ведаю, у які час выйду з дому.

Ён больш не набіваецца. Ён трохі злосны. Выфранчаны і акуратны, ён далікатна трымае яе пад руку і моцна размахвае леваю рукою. Ад яго моцна пахне ружовым мылам.

І вось іх ня відаць ужо; блізка пасёлак патануў у ясным змроку, і толькі чарнеюць канавы ўздоўж дарогі. Местачковыя хлопцы, пакуль зьвернуць напрамік паплавамі, ідуць хутарскою дарогаю, і Даніельскі далучаецца да іх.

— Чаму гэта першы марш ямчэй выйшаў за апошні?

— Усякія прычыны... От і Вінцэнтага дудка высахла... А то ўтаміліся... Бяз прычыны нічога быць ня можа, а прычыны могуць быць усякія.

— У тую нядзелю ў нас маецца быць спэктакль, трэба будзе з Сьмігельскім пагаварыць...

— Ня ведаю; калі не паедзем граць вясельле. Таксама наказвалі, яшчэ ў тую пятніцу...

Яны ціснуць руку Даніельскаму, яны трохі гумарыстычна настроены, моцна ўзбуджаны, але сёньня ня могуць нейк звычайна папрыяцельску пакпіць з яго. Так ідуць паплавамі, а Даніельскі адзін зварочвае налева

і мокраю сьцежкаю ідзе дадому. Маленькі, раскіданы хутар яго чарнее сярод маўклівых палос ральлі.

Дома ён гаворыць сваім:

— Зыгмусяў Ясь увесь вечар не адыходзіў ад Макарэвічавае Надзі з пасёлкаў. І цяпер праводзіць яе дадому.

Жонка падняла на ложку галаву, працерла заспаныя вочы і запытала.

— Адзін пайшоў з ёю?

— Адзін.

— І скакаў увесь час з ёю?

— Найбольш з ёю.

— А я яе нават і ня бачыла яшчэ цяпер.

— Вельмі лоўкая дзяўчына.

— А як яна адзета была?

— У нейкае кароткае сіняе плацьце... Прыдзе зараз Юзэфа—раскажа.

— А дзе Юзэфа?

— Там яшчэ забавілася.

Юзэфа прышла ўсьлед за бацькам. Невялікая і зграбная. Слаўны твар цяпер здаваўся ўвасабленьнем дзявочага хараства. Маці запытала:

— Ясь пайшоў з Макарэвічаваю Надзяю?

— Што вам за інтэрас, хто з кім ходзіць. Чаму вы ня сьпіцё?! З кім хто ходзіць—гэта яго дзела.

— Як то яго!.. Я-ж іх абаіх добра ведаю, што мне ня цікава, ці што.

І была нездаволена, што дачка нічога ёй не сказала. Такім чынам, у нас з заўтрашняга дню пачнецца гаворка, што Макарэвічава Надзя з пасёлку гуляе з Ясем Купрыяновічам. Доўга будуць гаварыць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У тую ноч, пад дзень, востры вецер абвеяў зямлю і замарозіў ваду. Зямля мерзла ўвесь наступны дзень і наступную ноч. Жытняя рунь на мерзлай ральлі здалася раўнейшаю і густою. А перад трэцяю ноччу ўпаў сухі сьнег, і чорныя зарасьнікі пакалечанае быдлам крывое бярозы здаліся сінімі. Неба стала густым і панурым.

Уночы падыходзілі да хутарскіх хлявоў ваўкі. Пасьля перайшлі да пасёлкаў, нічога не ўзялі і падаліся полем у бок местачковых прысад,—глыбокія сьляды парушылі роўную бель.

Зімовыя птушкі аселі на хвоях.

Уночы скардзіцца заяц. Сьмяецца і плача.

*(Працяг будзе)*

# АБУДЖЭНЬНЕ ЧАЛАВЕКА

## Іоганэс Бэхэр

### I

Настаўнік Гюнтэр кожнай раніцай прачынаўся роўна ў тры чвэрці сёмай. Ён садзіўся зараз-жа на ложка, перакачваўся на край і пачынаў прывязваць сваю драўляную нагу, якую прымацоўваў да бядра поясам, а апошні прышпільваў ужо да істужкі, перакінутай цераз плячо. А ў гэты самы час яго жонка клапацілася на кухні. Зьеўшы моўчкі сваё сьнеданьне, Гюнтэр пунктуальна а палове восьмай кульгаў з дому. Яго крокі па сходках гучэлі цьвёрда і аднабока; глуха лічыла ўдары яго драўляная нага.

Усё сваё жыцьцё—працу і кароткія адпачынкі—Гюнтэр падпарадкаваў гадзіньніку, і гэта жыцьцё, пасьля таго, як ён вярнуўся з вайны, цякло, як і жыцьцё мільёнаў людзей, яму падобных: яны былі машынамі, якія працавалі па нейкаму невядомаму закону; гэта Гюнтэр, як і шмат іншых людзей, называў „лёсам“.

Гэтаму лёсу патрэбна было, каб Гюнтэр радзіўся сынам бедных бацькоў. Пабачыў ён сьвет у аднэй вёсцы, настолькі пустэльнай і глухой, што ў ёй смурод адзіноты, як трупны пах, прасякнуў усе пакоі. Пад імі скаціна штодзень і ноч тапталася, бразгаючы ланцугамі. У гэтых пакоях, ужо шмат гадоў неправетраных, толькі і разьлівалі слабое сьвятло гіпсавыя фігуры сьвятых, у імпэцэ модлаў на каленах што імкнуліся да бога. А ў сялян, бурчлівых тумарнікаў, твары заўсёды, як з гліны вылепленыя. Кожны, хто ў пакой уваходзіў, грукаў драўлянымі чаравікамі і моўчкі хрысьціўся. Вось да чаго прывязаў лёс Гюнтэра, здольнасьці якога прызначылі яму быць настаўнікам. Ледзь споўнілася яму шаснаццаць гадоў, як ён узяўся ўжо за прыватныя лекцыі. Голад, хваробы: так лёсам азначыўся лёс.

О, лёс! Лятуценьні і ідэалы, накіраваныя на барацьбу за лепшае існаваньне ўсіх людзей, хутка і бязьлітасна былі распляжаны пасьля сустрэчы з рачаіснасьцю. „Дурныя лятуценьні“—вось якімі словамі Гюнтэр пазьней, не бяз прыкрасьці, успамінаў звычайна гэтыя гады захапленьня. Лёс! Палкае сонца мараў жыцьця, якое ў высокім лёце думкі маляваў ён сабе пералівамі ўсіх колераў на нябесным скляпеньні, рабілася ўсё менш і менш, звужвалася і, нарэшце, зрабіўшыся маленькай кропкай, зусім згасла ў яго сэрцы.

Сетка лёсу рабілася ўсё вузей і вузей.

Гэта лёс яму вялеў пайсьці на вайну, дзе гранатай адарвалі яму нагу, а далей—зноў гэты пракляты лёс—дзякуючы нядбалым адносінам санітарнага пэрсоналу, у яго пачалося заражэньне крыві. Да гэтага далучылася яшчэ шкадлівая хісьць да морфінізму, чаму навучыла яго адна з сёстраў. І з вялікімі мукамі на працягу месяцоў ён адвыкаў ад яго.

Ніякага сумненьня: лёс выбраў Гюнтэра сваёй ахвярай.

У гэты самы час лёс паклапаціўся яшчэ і аб тым, каб памерлі, хутка адзін пасьля другога, яго бацькі, настолькі бедныя, што сыну давялося напавер прыдбаць труну. Лёс у асобе старшага вайсковага лекара, які з энэргіяй змагаўся з „жыцьцём за кошт дзяржавы“, знайшоў у Гюнтэра 50 процантаў працаздольнасьці, і дзеля гэтага дзяржава, гэты складаны мэханізм лёсу, прызначыла яму невялікую пэнсію. З яе дапамогай ён змог падратаваць сваё пакалечанае цела, прыдбаўшы драўляную нагу. Лёс, нарэшце, прывёў яго да жанчыны, якая выпадкова называлася Эммай. Ен не кахаў яе, але яна яму была патрэбна, бо на аднэй назе ня так хутка паскачаш, як двуногія; а іх, двуногіх, было шмат. Жаніўшыся на ёй, ён проста жаніўся на дзьвюх здаровых нагах; замест драўлянай нагі—сапраўдны жывы протэз—нага з чалавекам, нага з вухам, вокам і ротам. Як не абмежаваны быў яе розум, яна ўсё-ткі дапамагала яму мірыцца з яго стратай. Эмма расьцірала што вечар чурбанок яго нагі, абмывала яе сьпіртам. З часам ён адчуў да яе каханьне: бо-ж і ён патрабаваў гэтага. Бывалі моманты, калі ён меў праблёскі шчасьця. Але наогул яго жыцьцё, шэрае і бясформенае, было нярухомым. Пустое і парожняе. Усё дальш мігацела шчасьце. Мігацела маленькай іскаркай.

## II

Усе няўхільныя шляхі свайго жыцьця ён прайшоў вельмі хутка, прычым ён сам сябе падганяў: „Марш! Уперад! Ня так марудна, эй ты, сьлімак! Хутчэй, чарвяк! Барджэй, барджэй!“

Бывалі вечары, у якія Гюнтэр перад сном казаў „дабраноч“ сваёй назе і далікатна яе гладзіў. „Гайда, упартая, драўляная нага! Пачакай крыху! Пацярпі! Нарэшце, я ўдыхну ў цябе жыцьцё!“

Прыходзілі ночы, бяссонныя ночы. Як прыдаўлены лёдавым насьцілам, абліваючыся халодным ад жаху потам, ён успамінаў шал вайны, момант атакі, калі на губах выступала пена, а вочы завалакваліся імглою. Яго зубы скрыгіталі. Сілком гнаў ён ад сябе гэтыя ўспаміны.

Вайна скончылася. Поўны надзеі бачыў перад сабой панства замірэньня. Радасны і з паднятай галавой кульгаў ён пасьля школьных заняткаў, выправіўшы кучу сшыткаў, па крывых завулках маленькага гарадка, куды яго перавялі з вясковай глушы.

Быў цудоўны веснавы дзень. Трамвайныя рэйкі блішчэлі, як серабрыстыя ніці. Мільёнавокая зелень. Дрэвы сьмяяліся зялёным сьмехам сваіх пупушынак.

Драўляныя балаганы і палаткі былі разапяты па абодвух бакох вуліцы. Вястуны стаялі на вазох і ручных павозках, рухаючы сваімі чырвонымі галовамі; тузін каруселяў грукатаў адначасна; а запрашальнік, акружаны натоўпам, глуха бурчэў: „Размалёваныя красавіцы: карлікі і волаты, людаеды і гіены—сюды, мае паннačкі, прадстаўленьне пачынаецца". З тыраў данасіліся гукі стрэлаў. Лялькі з трэскам выскаквалі кожны раз, калі практычныя стралкі пападалі ў чорную цэль.

Мужчыны, з плякатамі за сьпінамі, павольным крокам перасоўваліся, з мёртва-нярухомымі тварамі, — процэсія ішла за сваім павадыром— волатам на дыбах, які выпэцкаў чырвонай фарбай свой клоунскі твар. На галаве-ж у яго красаваўся старамодны, вежападобны цыліндар. Чатыры плякатанасіцелі выступалі наперад, паварочваліся, нахіляліся і зноў выпростваліся. У кожнага на сьпіне красавалася літара. Складзеныя разам літары давалі імя „Udet". Рогат і воплескі. Жывы плякат адышоў. „Udet",—зароў у рупар чалавек на дыбах, — адзіны пасвойму непераможны. Лёт „Удэта" гарэзны і лёгкі, яго рухі плынна пераходзяць адзін у другі. Найвышэйшая асалода глядзець на яго. Са сваім самалётам ён доўга можа ляжаць на сьпіне ў паветры, як муха на столі".

Купку гэрольдаў у сярэднявяковай вопратцы, якія выяжджалі на вуліцу на важкіх ламавозах, прарэзваючы паветра трубнымі гукамі, віталі моцным „ура" і „брава". Гэрольды пратрубілі туш. Непарушная ціша. „Попуры з войнаў",—малюнак „сьветавая вайна", у справодзінах вялізных фэервэркаў, грукату гармат, трэску стрэльбаў, — прожэктары, полымя запаленай сталіцы ворагаў, барабанны стук, сыгналы, песьні салдатаў, „ура" пераможнікаў,—усё гэта выклікае ў нас жывыя ўспаміны аб змрочным часе пакуты і панаваньня жалеза".

Прыемны пах піва і кілбас струменіўся з палаткі-рэстарану; пры ўваходзе ў яго два вартавых у форме фрыдрыхаўскіх грэнадэраў запрошвалі публіку: „Заходзьце, паны, тут лёгка зможаце вызваліцца ад сваіх грошай".

Асфальтавы казан, чорны сыроп. Бронзавыя труны блішчэлі ў вітрынах халтурных кантор, труны на львовых лапах. Некалькі дзяцей схаваліся за рогам, выкрыкваючы няпрыстойныя словы і паказваючы языкі. Настаўнік-калека жартаўліва пагразіў ім палкай і пакульгаў па пяшчаных дарожках уздоўж ракі да „парадызу"*).

„Парадызамі" называліся гарадзкія паркі.

Рака, абрамаваная таполямі і каштанамі, рабіла ў тым месцы маленькае возера. У „парадызе" было шмат лавак, абсаджаных кустамі; яго гушчэрны зарасьнік даваў кахаючымся нямала зацішкаў. Тут у „парадызе" часта праседжваў Гюнтэр цэлымі гадзінамі.

*) Парадыз—рай.



**Іоганэс Бэхэр,**

нямецкі пролетарскі поэта і пісьменьнік, які выказаў жаданьне быць пастаянным супрацоўнікам часопісі „Полымя“.

Мяккая зелень гарэзнымі хвалямі спускалася к рацэ, адбіваючыся ў вадзяным люстэрку.

Мост дугой нацягнуўся цераз раку. Цераз гэты мост-дугу, пад якім відаць было верхавіну гары, праходзілі ламавікі і кучкі працаўнікоў. Фабрычныя гудкі раўлі, званілі званы; з гэтымі гукамі мякка зьліваліся органы каруселяў і глухі гоман далёкага натоўпу.

Гюнтэр сядзеў яшчэ на лаўцы. Сёньня ён расьцягнуў міласьліва дараваны лёсам час адпачынку,—покуль зоркі не заблішчаць на небе.

Спробаваў ён зноў увераваць у бога. Мір быў найвышэйшым яго імкненьнем.

Ваенны інвалід пракульгаў каля яго. Ён быў яшчэ ў паходнай шэрай форме, на якой атрутныя кіслоты і дым гранат размалявалі жоўтыя плямы. На крывой сьпіне замест ранцу — шарманка. За ім ішоў зусім сьляпы шахцёр. Перад ім бег сабака, носам абнюхваючы паветра. У шахцёра вісела на грудзях скрынка з мініятурнай шахтай.

На схіле гары шэрая, як попел, турма; чатырохкантовая—муры, муры, чатыры разы муры, і пасярэдзіне вежа, на якой кожны квадранец хрыпла кашляў гадзіньнік.

Была цёплая вясновая ноч. Уся прырода, здавалася, квола шаптала. Гюнтэр дыхаў. Пры кожным уздыху яму здавалася, што кавалак за кавалкам вырастае яго нага, а драўляная гніе, пакуль зусім не адпадзе. Вялікдзень, сьвята ўваскрашэньня быў блізка.

Са словамі „Хрыстос уваскрос“ ён устаў з лаўкі, перадаўшы месца жанчыне з дзіцянём, захінутым у брудную гуньку; яно ледзь-ледзь пішчэла.

Гюнтэр пайшоў дамоў.

Размаляваны твар старой курвы прашмыгнуў каля яго. П'яныя гарланілі; за вокнамі чулася музыка. Мужчыны з кулакамі ў кішэнях і з картузамі, насунутымі на лоб, стаялі кучкамі на рагох вуліц. Яго аклікалі.

„Бурлівы настрой“, вырашыў Гюнтэр і паглядзеў на ўзоранае неба. Паліцэйскі патруль са стрэльбамі, у суправодзе вэлёсыпэдчыкаў, падымаўся па галоўнай вуліцы. Гюнтэр скараціў апошнюю часьціну дарогі, накіраваўшыся цераз могілкі; пасярэдзіне іх стаяў крыж; яго гнілое дрэва блішчэла ноччу, як здань.

Засынаючы, ён ня мог адагнаць ад сябе вобразу крыжа, які ідзе ў сьвет; а сьвет—гэта вялізарнае поле трупаў, глуха хвалюецца навокал яго. Залатым дажджом са скрыдлаў крыжа струменіцца агонь.

Гюнтэр бачыў выразна, як пасьляпёныя гэтым чароўным хараством мільёны людзей маліліся крыжу з закрытымі вачыма. Знак крыжа зьзяў. Зьзяла і поле трупаў. Як рой камароў, мільёны людзей ляцелі да гэтага крыжа, падаючы на поле трупаў, на якім яны з пяяньнем гімну агню-крыжу згаралі ў полымі.

## III

Дождж льлецца ўжо сёмы тыдзень.

Ніводная птушка ўжо больш не пяе. Пяяньне даўно ўжо прыпынілася ў гэтым патопе, які абрушыўся на ўсю краіну і зрабіў яе нейкай кашай.

Дождж, дождж.

Хмарная твань, струмені з нябёс,—а зямля, прасякнутая сьлінавым гноем, як вялізарная губка, з сітавін якой вяла выпаўзаюць тысячы чарвякоў і сьлімакоў.

Будынак, у якім жыў Гюнтэр, быццам прыляпіўся да бясформенай камлыгі гліністай пароды; акружаў яго чорна-зялёны конус вінаграднікаў, якія прыступам лезьлі на вышыню.

Заліўны дождж кратамі закрыў вокны.

Гюнтэр прыціснуўся ілбом да шкла.

Бульбяныя палі плаваюць. Ураджай гніе ў вадзе. Магутны дажджавы душ без перапынку палівае краіну. Дажджавы павук прадзе свае дрыготныя ніці, завалаквае ўвесь сьвет сваёй сеткай.

Гурчэньне дажджу наганяе сон.

Пахмурая песьня.

Гюнтэр сьніць дождж, які яму здаецца шырокай белай істужкай з чорнымі палоскамі і сьветла-зялёнымі плямкамі.

Грукат мэханічнага барабана абудзіў яго.

Дождж...

Пытае бяз слоў: „Жыцьцё!? Што гэта такое жыцьцё?“

Тры чвэрці сёмай.

Прывязаў сваю кульбаку і пайшоў сваёй дарогай.

## IV

Лятуценьне аб „дасканалым чалавеку“ ніколі ня ўмірае. Кожны марыць аб гэтым пасвойму. Адзін—у пачатку свайго жыцьця, калі ўсё яшчэ так нявыразна. Але жыцьцё—гэта поле, дзе вядуць барацьбу паміж сабой розныя невядомыя сілы. Другі марыць ужо ў канцы жыцьця, рэдкімі хвілінамі, марыць перад тым, як назаўсёды зачыняцца за ім дзьверы, пасьля таго, як лёс яго канчаткова перамог і нішто ўжо больш ня зможа зьмяніцца.

Некаторыя мараць у перапыны, раз у год, мараць асьцярожна, каб лятуценьні не папсавалі іх сапраўднага жыцьця. Мараць лежачы, стоячы, нават не ўсьведамляючы сабе гэтага.

Гюнтэр з асаблівым захапленьнем марыў аб „дасканалым чалавеку“, бо чурбанок яго нагі ўсё больш прыносіў яму пакуты; на адрэзе ён сьціраўся ў кроў і пачынаў гніць, і толькі з вялікім напружаньнем сіл, закусіўшы губы, ён мог прывязваць драўляны працяг нагі.

Гюнтэраў чурбанок настолькі быў гарачым, што ручнік, якім яго жонка рабіла прымочкі, пачынаў параваць. Рэнтгенаўскі здымак адшукаў у чурбанку касьцяныя асколкі. Опэрацыя здавалася немінучай.

Гюнтэр добра ведаў такія чурбанкі, якія жылі ад аднэй опэрацыі да другой. Крывавыя чурбанкі, якія ніколі не загойваліся. Вялізарная рана ўнізе на тулаве, у якім пульс біўся, як молат, і з якога з гноем выцякалі сухажыльлі, кроў і нават самае жыцьцё.

„Дасканалы чалавек“, па думцы Гюнтэра, павінен, перш за ўсё, уладаць дзьвюма нагамі. Забясьпечаная мускуламі істота, уладар сваіх пачуцьцяў і думак, загартаваны ў бойках з прыродай, якія з разьвіцьцём чалавецтва прымалі ўсё больш высокія і складаныя формы.

Калі Гюнтэр ішоў па вуліцы, ён вачыма шукаў „дасканалага чалавека“.

Але, мусіць, гэта ня быў „дасканалы чалавек“, які з набітым протоколамі портфэлем толькі што прашмыгнуў каля яго, хоць у яго і былі дзьве спрытных нагі, пры дапамозе якіх ён хутка зьнік у вастрожным будынку.

Ды і калегі Гюнтэра ня былі „дасканалымі людзьмі“. Ані троху. Гэта хутка выявілася.

Гюнтэр са сваімі лятуценьнямі аб „дасканалым чалавеку“ заставаўся самотным. Зьдзейсьніць-жа самому думкі аб „дасканалым чалавеку“ было для яго, як ён праканаўся, вельмі цяжка. Так, напрыклад, пры ўсім сваім жаданьні ён ня мог адрасьціць сабе новай, здаровай нагі, ня кажучы ўжо аб іншых перашкодах да ўдасканаленьня, якія трапляліся яму на кожным кроку.

„Дасканалы чалавек“ у абставінах, у якіх недасканаласьць зьяўляецца проста такі законам, гэта—вялікая недарэчнасьць. Праўда, існавалі дурні, якія, выабражаючы што яны адкрылі і ажыцьцявілі дасканалага чалавека, выявілі гэтым вялікую дурасьць: прагульваліся па вуліцах і пляцох на пацеху „недасканалым“ у валасяніцах, гадаваліся толькі такімі стравамі, як мухі, карэньні і чарвякі; з орэолам дасканаласьці ў вобразе пераплеценых макавымі кветкамі косаў або з хвалістай грывай на галаве.

Аднак, Гюнтэру якраз у гэты час здалося магчымым і вартым завяваньне жыцьця, якое сапраўды было-б свабодным і прыгожым.

Але шлях да яго расплываўся ў бязьмежнай далечы.

З думкамі аб дасканалым чалавеку Гюнтэр, здрыгваючыся ад болю, пракульгаў к пад‘езду школы.

Тут абсталяваўся ваенны інвалід. Дзеці густым натоўпам стаялі і крычалі навокал яго. Гэта быў зусім бязногі. Поўны калека, у якога былі толькі тулава, галава і рукі. Скураная падушка была прышпілена зьнізу. Ён прытуліўся да школьнай сьцяны; капялюш яго быў прыколаты

шпількай да грудзей, але ў ім замест ахвярункаў валяліся абрэзкі паперы, каменьчыкі і ўсялякае шкумацьцё.

Некалькі хлапцоў, чыста адзетых у матроскую вопратку, плявалі ў капялюш пад радасныя крыкі і рык акружаючых.

Дарэмна імкнуўся калека адагнаць іх. Зычны рогат—дарослыя падыходзілі, глядзелі і, паківаўшы галовамі, ішлі далей сваёй дарогай.

Калі Гюнтэр падыходзіў да школы, дырэктар школы ўжо прыняў спосабы, каб ліквідаваць гэту брыду, а калі патрэбна было-б, дык нават і сілай прагнаць калеку.

Таварышы Гюнтэра адзін за другім выходзілі з школы і ўгаварвалі калеку. .Але ён відавочна не разумеў іх; калі-ж адзін з настаўнікаў падняў яго пад пахі і пасадзіў на сярэдзіну тротуару, ён сьвідруючым крыкам прарэзаў паветра.

Набліжаўся паліцэйскі патруль. Паліцэйскія гатавалі гумавыя палкі. „Асвабадзеце вуліцу!“ Вахмістр стукнуў па калену. Важкім цяжарам перакуліўся ён і, скурчыўшыся, як вожык, скаціўся на край вуліцы.

У гэты момант Гюнтэру здалося, што ў яго зноў дзьве здаровых нагі. Ён стаў каля ваеннага інваліда, супроць вахмістра, у якога вочы былі ў тумане, быццам то была бойка. Таварышы Гюнтэра, стоячы на школьных сходках, жвава гаманілі.

Закрываўлены калека тымчасам зноў выкараскаўся на тротуар, вышчарыўшы зубы. Ён удзячна ўсьміхаўся Гюнтэру. Адапхнуўшыся рукамі, паплыў далей.

У гэты самы момант раздаўся школьны званок. З непераможнай сілай ён пацягнуў Гюнтэра за сабой у памяшканьне школы.

## V

Пасьля таго, як забастоўка, што пачалася на вугольным заводзе, пашырылася на ўсе фабрыкі гораду, у тым ліку і на самыя патрэбныя: газавы завод, вадаправод, электрычную станцыю, і нават рабочыя ўсяго прамысловага раёну зьбіраліся далучыцца да тых, што баставалі—сельскія работнікі ваколічных вёсак баставалі ўжо з тыдзень—ня мінула трох дзён, як прышлі весткі, што з хвіліны на хвіліну трэба чакаць прыходу ўрадовых войск. Буржуазія пахавалася. Газэты перасталі выходзіць. Чыгуначны рух спыніўся. На ўсіх вітрынах магазынаў спушчаны былі жалезныя вакяніцы.

Ня гледзячы на папярэджаньні з боку яго знаёмых аб надыходзячай небясьпецы, Гюнтэр сьмела і бесклапотна гуляў па ўсім горадзе. Ён гутарыў з забастоўшчыкамі, і яны бяз труднасьцяй пераканалі яго, што правы на іх баку. Ён цісьнуў ім рукі і ад усяго сэрца жадаў посьпеху. У думках ён прымаў самы гарачы ўдзел у іх барацьбе. Гаварыў шчыра: „Правільна, так; толькі ня ўжывайце гвалту!“ Рабочы, ужо ў гадох, амаль што разваліна, у якога пры гутарцы ішла крывавая сьліна з роту, пярэчыў: „На чыім баку гвалт? Падумай толькі! Што нам застаецца рабіць,

калі голад душыць увесь народ!? Ці-ж наша галоднае існаваньне ня ёсьць бязупыннае, найдасканалае масавае забойства!?“

Масы вырасталі з зямлі.

Устрывожаны людзкі акіян роў:

„Голад!“

На ратушы палаў чырвоны сьцяг. Нутраная бура падганяла масы. Людзкая хваля неспакойна кацілася па пляцы. Пяць прамоўцаў адначасна гаварылі. Словы іх стукаліся аб фасады дамоў і аддаваліся назад глухім водгульлем.

Накшталт фугасаў, то тут, то там разьлягаліся масавыя выкрыкі: „Няхай жыве! Далоў!“ Гюнтэр усё глыбей спушчаўся ў магнэсавы вір мас.

Ён стаяў нярухомы, утаропіўшы погляд у прамоўцу, які сядзеў на плячох аднаго з рабочых і кідаў адтуль у шматтысячны ўсхваляваны натоўп кліч аб барацьбе за ўладу.

Тут ён быў заўважаны адным з сваіх колег, які выглядваў з-пад фіранкі акна супроцьлеглага дома.

Гюнтэр шаптаў: „Кара жыцьця растае, жыцьцё прыходзіць у рух. Цячэ... Шэрая бяздольная маса... Я—маё ўласнае жыцьцё“...

Ужо пры апошніх словах прамоўцаў пачулася пяяньне мас, быццам у рытме грукаючых машын, спачатку быццам падземнае і прыдушанае, потым разросчанае і, урэшце, скончанае быццам грукатам малатоў і доўгім гулам. І ўся маса, быццам у адзін голас закрычала: „Зброі“. Шапкі паляцелі ўгару. Сьціснутыя кулакі накіраваліся ў прастор. Гюнтэр зьняў капялюш.

* * *

Далёкая траскатня стрэльбаў; коньніца з стрэльбамі праз плячо ў грозным маўчаньні цягнецца па мастох. Гюнтэр сядзеў дома, ля вакна. Нага яго не балела. Ён чакаў і сам ня ведаў, чаго чакае.

У „Парадызе“ была бойка. Рабочыя ўжо былі адагнаны за раку. Толькі паасобныя выстралы баразьнілі брук. Гюнтэрава мара аб „дасканалым чалавеку“ была зжыта. А таксама і вера яго ў будучае царства згоды, якую ён усё яшчэ, ня гледзячы на самыя рэзкія пярэчаньні, спакойна пеставаў у глыбіні душы.

Ён глянуў у люстэрка—ці не затуманіліся зноў яго вочы.

Але вочы яго былі чыстыя і ясныя.

Ужо пачалі страляць на вуліцы, дзе Гюнтэр жыў. Стрэлы зьверху. Стрэлы зьнізу. Людзі беглі ўлукаткі. Гюнтэр адчыніў вакно. Стальныя шлёмы паказаліся на абодвых канцох вуліцы, згіналіся да зямлі, нават клаліся або краліся каля дамоў. Зьнізу ўгору кідаліся ручныя гранаты ў кватэры, вымяталі ўсё дашчэнту.

Прагрукатаў бранявік.

Стралялі і з дахаў.

Галоўная позыцыя рабочых—дом профсаюзаў—бомбадыравалася.

Гюнтэр толькі што пасьпеў заўважыць дастаўку цяжкага мінамёту, які быў устаноўлены пад аховаю царквы, як раптам дзьверы за ім разьляцеліся ад прыкладаў. Трое ў шлемах стаялі пасярод пакою. Вочы іх, і накіраваныя ў яго рулі стрэльбаў зьліліся ў адно.

Гюнтэр апусьціў вочы.

„Настаўнік Гюнтэр, так ці што?“

Не далі яму нават часу прычапіць драўляную нагу. Хутка! Сьцягнулі яго на аднэй назе ўніз па ўсходах. Калі ён агледзеўся, дык быў ужо на пляцы каля ратушы, падскакваючы міма групы афіцэраў, што вітала яго крыкамі: „Глядзі, конік!“ Дочкі буржуяў, адзетыя ва ўсё белае, раздавалі падарункі. Якісь лейтэнант сьцёбнуў яго бізуном па твары. Паненкі сьмяяліся. „Глядзі, настаўніка Гюнтэра вядуць, цікава!“

„Гайда, кульгавы!“—грукалі канвойныя, п'яныя дашчэнту, і хтось ткнуў яго прыкладам у зад так, што ён цераз галаву адкаціўся на некалькі крокаў. „Бах! вось ён ляжыць!“—зараўлі ўсе, калі ён, бездапаможна махаючы рукамі, з усяго разгону ляснуўся ў жоўта-бурую лужыну. Колега Гюнтэра, які пачапіў сабе „жалезны крыж“, стаяў на рагу вуліцы, гутарачы з вышэйшым афіцэрам і адвярнуўся, калі Гюнтэра вялі міма яго. Некалькі груп палонных, з паднятымі ўгару рукамі, выганяліся канвойнымі, з штыхамі на стрэльбах, з сумежных вуліц.

Ланцугі рабочых, адзін за другім, прывязаныя на доўгім аркане да сёдлаў. Уланы, што іх вялі, трымалі свае пікі непасрэдна за сьпінамі палонных, якія беглі рысьсю.

Драцяныя канаты працягнены ўпоперак вуліцы.

„Хто пойдзе дальш,—будзе расстраляны“—грукае ў далі цяжкі мінамёт, што разьвярнуў барыкаду з булыжніку і ўсякага роду мэблі.

„Расстраляны“—праграмеў водгук залпу, які быў пушчаны з бліжэйшых вышнявін у набіты бягунамі пограб. Полк за палком маршыруе цераз масты ў горад. Гэта было грубае пяяньне: „Птушачкі ў лесе“... Тысячы ахрыпшых галасоў станавіліся кунежлівымі і ціхімі пры словах: „На радзіме, на радзіме мы ўбачымся“. Гюнтэр павінен быў напрудзіць усе свае сілы, каб не закрычаць, як шалёны.

Перад турмою канвой прыпыніўся. Вароты былі шырока рашчынены. Каманды чуліся па калідорах. Удары, біцьцё нагамі. Жалезныя дзьверы з лязгам самі зачыняюцца. Ключы зьвіняць. На турэмным двары шматгалосыя крыкі. Гюнтэр, хістаючыся, пацягнуўся ў сваю камэру.

Вечар. Страляніна прыпынілася. Вайсковая оркестра канцэртавала на пляцы Ратушы. Гукі меднае оркестры мэталёва аддаваліся ў паветры „Да малітвы!“

Цераз краты зьзяе сінь вечару. Цень за ценем... Глыбей... Цямней... Каманды на калідорах замаўкаюць. З аднаго кутка турмы чуецца. хрыплівае дыханьне паміраючага.

„Ра-ра-ра“—каротка і адрывіста.

Гюнтэр успомніў, як усё гэта здарылася. Лёс!?

Усё яго цела калацілася, дрыжэла.

— Не!..

Ён закрыў рукамі твар. Зарыдаў, успомніўшы аб застыглых вачох жонкі ў часе яго арышту.

Сьвятло прожэктараў пранізвала ноч.

Гюнтэру было траха ня 35 год, як ён прачнуўся для жыцьця.

Чым больш насоўвалася ноч, тым менш яму спалася. Раз-по-раз ён усё з большым зьдзіўленьнем расчыняў вочы.

Ён ішоў ад абуджэньня да абуджэньня.

У сваіх абуджэньнях ён дайшоў да выходнага пункту свайго жыцьця, да тае каламутнае, заражанае беднасьцю і хваробамі крыніцы, з якой ён і мільёны людзей чэрпалі струмень жыцьця.

Гаварыў бяз слоў:

„Некаторыя, праўда, кажуць: дзяцінства чалавека падобна саду, які вольна носіцца над зямлёй. Гэта бывае нават тады, калі дзяціныя гады даўно скончыліся, прымаюць ва ўспамінах вобраз казачнага вострава—чуваць даўно заглухшыя званы“...

У думках ён яшчэ раз аглядаў сваё жыцьцё.

Ён праходзіў міма знаёмых: гэта былі дзіўныя спатканьні з такою сардэчнасьцю і цяплынёй, якіх ён ніколі не перажываў. Другі раз ён хаваў сваіх бацькоў, прыводзіў да парадку іх спадчыну, хоць і нечага было прыводзіць да ладу. І зноў ён пачаў сваю вучобу, як прабіваючыся цераз бязьмежнае плоскаўзвышша.

Ужо на гэтым шляху набыў ён нейкую надзвычайную чуласьць слуху.

З глыбіні людзей, ад якіх ён паходзіў і з якімі разам вырас, ён выразна чуў голас, які ляжаў у аснове ўсіх іншых галасоў і часамі рэзка іх заглушаў.

Магутны бязгукавы гымн з тысячы вуснаў:

„Голад у нас паўстаў, мы крычалі: хлеба!? І пайшлі да іншых, елі зямлю і звалі гэта жыцьцём“.

Гэта быў голас беднасьці, які праклінаў, голас страху жыцьця, які, адступаючы ўсё ў больш цесны куток жыцьця, рыдаў. Гэта была скарга, што ўсё таксама і таксама аднастайна паўтаралася, або крык роспачы прыгнечанага чалавечага існаваньня.

Гэты голас стаў целам і крывёю. Гэта ня была процэсія, у якіх Гюнтэр у дзяціныя гады часта прымаў удзел у родным сяле, калі цяпер ўся гэта бедная вёска насоўвалася на яго, быццам хмара, што паўзе над полем. Гэта былі квола-абрысаваныя твары, што малілі. Гэта былі з мальбою выцягненыя, разгорнутыя рукі, якія, аднак, не адчуўшы на сваіх далонях нічога, апрача зімовай пустаты, моцна сьціснуліся ў кулакі і сударгава схапіліся за бліскучыя рэчы: тапары, стрэльбы, косы, якія, падобна рою жалезных дзюбаў, зьвінелі ў марозным паветры.

Тут Гюнтэр аддзяліўся ад ранейшага свайго жыцьця.

Ён выбраў кірунак, з якога ён вайну ўбачыў іншымі вачыма, вачыма, што сталі цьвёрдымі, як сталь, і прасякаючымі стальнымі ядрамі сьвядомасьці і бадзёрасьці.

Тайна, якая апляла і жыцьцё Гюнтэра, лёс, ня вытрымалі гэтага пагляду. Яна стала сьвятлець жудасным чынам.

Новы выбух сьвету.

Дзьве вялізарныя чалавечыя групы, адна з іх узброеная з ног да галавы, рэзка адасобленыя, стаялі адна супроць другой у барацьбе за існаваньне. З прагавітасьцю кінуўся Гюнтэр у сваё новае жыцьцё: на далёкім краі небасхілу яго сяло, беднае, зруйнаванае, з палямі і сенажацямі наўкол, што належалі ўзброеным. Недахопы і голад усюды, хваробы, пасеяныя ўсюды, але ўзброеныя заўсёды ўмелі звальваць усю цяжкасьць існаваньня на гушчы няўзброеных. А гэтыя стаялі па горла ў гнаі жыцьця, у поце і крыві, і жыцьцё іх сьцякала крывёю. Яны выбіваліся з сіл, жылы іх ад бязупыннай цяжкай працы напруджваліся да немагчымасьці, раты разрываліся ад крывахарканьня і ўдушлівага кашлю, не хапала паветра для дыханьня і можна было бачыць старых і дзяцей, члены якіх роўнамерным ліхаманкавым тэмпам круціліся ў такт машынам, што гудуць.

VI

Пануючыя тут катаваньні існуюць на законных падставах.

Барацьба пачалася.

Масы перамагалі масы.

Масавыя магілы ўядаліся ў зямлю, якая ў шмат мясцох прадстаўляла ўсьцяжную скулу.

Але высока над гэтым гнілым чадам, напоўненым стагнаньнем скрогатам і глуха маўчаўшым, уздымаўся другі сьвет, цудоўны і пышны,— для таго, каб уласнае існаваньне, выцягнутае з чаду, сплялося з шугаючым лёсам людзкога неба.

А чад з глыбіні ўздымаўся ўсё вышэй і вышэй.

Ён прасякаўся ва ўсе сітавіны неба. Жыхары гэтага неба паміралі ад атруты, якую яны самі выдумалі, але якую яны лічылі далёкай ад сябе і зусім бясьпечнай для свайго ўласнага існаваньня.

У летнім харастве цяжка грукатала родная вёска Гюнтэра.

Барозны на тварах старых бедных сялян, іх рубцы і маршчыны палалі. Гэта руны, таемны сэнс якіх быў разгаданы.

Яны працягвалі свае высахшыя рукі насустрэч мільёнам рук беднага гораду. Рукі, высушаныя сонечнай гарачынёй, выедзеныя потам, хапаліся за рукі, прашпікованыя жалезнымі апілкамі і прасякнутыя чорным маслам.

Зямля ўздымалася.

Жыцьцё маўляў бяз лёсу.

Утворанае людзьмі. Пражытае імі. І зноў абуджанае людзьмі да іншага сапраўднага жыцьця.

Гюнтэр канчае бязгучна.

Загадка вырашана. Вось ісьціна.

Чыгуначны працаўнік, які абходзіць сваю дзялянку, качагар, машыністы, вясковы працаўнік, цэмэнтныя заводы, дымары, карабельныя памяшканьні, вялізарныя вадаправодныя і электрычныя станцыі, газавы завод, а там у далечы фабрыка за фабрыкай, увесь гэты хмурны падмурак, на якім пабудаван сьвет шчасьця і радасьці... і, наадварот, адсутнасьць жаданьняў, выкананьне ўсялякіх капрызаў, прастора і час,—гэта для тых, якіх жыцьцё пабудована на жывым граніце зыску. Лятуценьні для таго, хто мае пад сабой цьвёрдую глебу—сьпіны працуючых. Мір для таго, хто заняў пэўнае месца ў бойцы працы. Жыцьцё для тога, хто прымушае іншых пакутваць і працаваць на сябе.

* * *

Начныя цені спускаюцца за кратай. Птушка шчабеча. Цэлы хор птушак.

Насуваецца навальніца. Гюнтэр чуе абуджэньне вязьняў. Завіруха каманды, праклёнаў, крыкаў, стук дзьвярэй, звон ключэй,—усё гэта ўзрушыла будынак.

Шлях, па якім Гюнтэр хацеў пайсьці ў юнацтве, потым шлях у кірунку да апошняй мэты—„дасканалага чалавека", усе гэта цяпер жыва ўваскросла перад яго вачыма. Гэта ня быў шлях у звычайным сэнсе слова. Гэта быў шлях людзкіх мас. Кірункам загадваў пролетарыят. Людзкія масы ўтваралі ядро. Колёны бастуючых працаўнікоў, натаўпы сялян-паўстанцаў, стрэльбы, якія моцна сьціскалі ў сваіх руках працаўнікі, вось з чаго складаўся гэты шлях. Ён быў заліты крывёю.

Аднаногія, сьляпыя інваліды, чурбанкі, цясьніны брацкіх магіл. Стрэлы, крыкі, грукат калёс, стук машын,—дарога коціцца. Гэты вялікі шлях коціцца, плыве, хоць шлях самога Гюнтэра ўжо канчаецца.

## VII

Лёс Гюнтэра быў ясна напісаны на зямлістым твары яго жонкі, якая раніцой прышла да яго і прынесла старанна захутаную ў паперу яго драўляную нагу.

Разьвіталіся яны ў прысутнасьці цэлага натоўпу салдат. Малады вясковы дзяцюк з чырвоным тварам выцягнуўся ў струнку. Гюнтэрава жонка стаяла з кульбакай у руках і хістала яе.

Гюнтэр пажартаваў: Вазьмі яе лепш з сабой. Лепш будзе і прынамсі не ўцяку.

„Стройся"! Вязьні былі выведзены на двор.

Кучка ў 10 чалавек была аддзелена ад іншых.

„Рыхтуйся!“ З Гюнтэрам уперадзе процэсія накіравалася па прасёлку. Потым збочыла па сьцежачцы ў кірунку да пясочнай ямы.

Рэштка арыштаваных засталіся ззаду.

Пад канвоем пяці чалавек з фэльдфэбэлем, Гюнтэр пайшоў далей.

Ён быццам адчуваў тонкі мэталёвы звон, ад якога ўсё цела яго дрыжэла: быццам прывязаны да вядучай яго стужкі, борзда рухаўся ён уперад.

Ён ціха сьпяваў.

Як быццам расплаўляўся ў гэтым сьпеве, які, здавалася, нясе яго ў вышыню.

Ён спусьціўся на некалькі ступенек у пяшчаную яму.

Гюнтэр засьпяваў моцна, падымаўся вышэй.

Моцна стаяў на адзінай сваёй назе.

Нязьлічона многа ног, нязьлічона многа.

Мільёны ног. Мільённыя крокі. Ідуць.

Нястрымана.

Стаяў на адкрытай вышыні з поглядам на далёкі сьвет.

Сонейка парыць высока над вёскай, якая распасьцірае свае палі і лугі, зьліваючыся разам з гарадзкім жабрацтвам у вадну вялікую будаўнічую чалавечую адзінку.

З нямецкае мовы пераклаў **П. Росіч.**

# СЬЦЕЖКІ-ДАРОЖКІ

**Міхась Зарэцкі**

Раман

Частка трэцяя

I

На прыклецьце прыляцеў з усходу густы прамень барвянага сонца і лёг яскравай плямай на вочы Лясьніцкаму. Лясьніцкі млява пажмурыўся і пачаў прачынацца. Тады ў яго сьвядомасьць, яшчэ спавітую пялёнкай цягучае дрэмы, уварвалася разам: самадавольнае сакатаньне курэй, клапотліва жвавае ціўканьне на страсе вераб'ёў, далёкія—з поля—галасы, перамяшаныя з рыканьнем кароў і бляяньнем авец, і нейкі незразумелы рытмічны грукат на суседнім двары. Усё гэта, прасычанае сьвежым, ядраным пахам пагоднага раньня, узьняло ўнутры Лясьніцкага ціхую радаснасьць. Ён шчасна ўсьміхнуўся і ўспомніў, што сёньня Купала.

Уставаць не хацелася—у галаве яшчэ плавалі цені нейкага прыгожага сну, яшчэ іскрыліся ў сэрцы пераліўныя ўсплёскі салодка забытых адчуваньняў. Ён пацягнуўся і зноў задрамаў з асьветленай сонцам усьмешкай на твары.

Канчаткова прачнуцца прымусіў Лясьніцкага стук хатніх дзьвярэй і гучныя галасы на двары. Адзін голас быў бацькаў, а другі—невядомы, але дзіўна-знаёмы і прыемны. Лясьніцкі расплюшчыў вочы і з цікавасьцю зірнуў на двор. Да яго йшоў сваёй мякка-развальнай хадою Андрэй. Ішоў і ўсьміхаўся—прыветна, ласкава.

— Яшчэ сьпіш?.. Здароў! Ці чакаў мяне, га?

Ён ускочыў на прыклецьце, сеў на ложак к Лясьніцкаму.

— Іш ты, як прыладзіўся... Добра тут спаць... А я толькі што з чыгункі. На станцыі сустрэў аднаго вашага, дык разам прышлі, паказаў, дзе ты жывеш...

— Бязногі?

— Так...

— Гэта наш выбарны, езьдзіў у горад па грамадзкіх справах...

— Я ведаю, ён усё расказаў мне па дарозе. Нічога ня вышла там у яго. Прыехаў злосны, як воўк—чыстым бальшавіком зрабіўся, ха-ха...

Сьмех у Андрэя астаўся такі, як і быў—мэталічны, рэзкі... І тая-ж таемная ўсьмешка блукала на вуснах. Але Лясьніцкаму чамусьці ён цяпер здаўся зусім сымпатычным. Лясьніцкі шчыра ўзрадаваўся гэтай сустрэчы,

быццам убачыў некага блізкага, роднага. І ён з цёплым, чыста сваяцкім пачуцьцём любаваўся дужай фігурай Андрэя, яго буйным, выразна і разам з тым мякка акрэсьленым тварам.

Андрэй за гэты час многа пасталеў, набыў больш сур'ёзнасьці і глыбіні. Ад яго цяпер яшчэ шырэй веяла той мяккай сілай, той ласкавай мужнасьцю, якую заўважыў у ім Лясьніцкі раней.

Андрэй прывёз Лясьніцкаму подых сумятлівага гораду. Дасюль ён, ні разу і ня ўспомніў пра горад—так далёка-далёка быў ён астаўся. А цяпер раптам пачуў яго, убачыў у таемнай усьмешцы Андрэевай, у яго хітравата шчырых вачох. І закарцела ўзнаць, што там, у горадзе, робіцца якой сумятнёй поўніцца ліхаманкавы вір гарадзкога жыцьця. На яго запытаньне Андрэй адказаў, троху падумаўшы:

— Добра ўсё ў горадзе, лепш і ня трэба. У стаўцы зьбіраюцца крумкачы, пачынаецца чорны паход. Прыяжджае часта Керанскі—заваёўвае букеты і жаночыя сэрцы. Ён дужа спрытна пяе арыю з опэры „Вайна да пабеды“ і яму пляскаюць у ладкі... Ну, што-ж яшчэ... Цкуюць бальшавікоў, цісьнуць рабочых, абяцаюць установчы сойм і розныя палёгкі. Расьце галадоўля, масы галеюць... Словам — рэволюцыя разбухае. Чым горш—тым лепш, ха-ха... Разумееш?

— Ня зусім. Ты-ж ведаеш, я тут далёка адстаў ад апошніх падзей. А ты яшчэ гаворыш нейкімі загадкамі...

— Нішто... Будзе час, дык усё раскажу падрабязна. Чакай, табе-ж ліст ёсьць у мяне ад Халімы... І прывітаньне ад Ніны забыўся перадаць...

— Халіма хіба ў горадзе?

— Ужо скора месяц, як прыехаў. Паступіў на нейкую службу...

У лісьце было навэдзгана нязграбнымі, як сам Халіма, літарамі:

„Васілю—шанаваньне!

Шкадую цябе, што брасьнееш у затоцы сваёй зяленіцкай будзёншчыны. Жыцьцё разварачваецца віхурна. Можна буяніць. Прыяжджай, калі хочаш, дык навучу выбіваць шыбы. Помніш?

Халіма“.

Лясьніцкі засьмяяўся. З гэтых радкоў выглядаў, як жывы, Халіма— любы, слаўны буян з даўгім носам і энэргічна-нязграбнай фігурай. Ён ужо знайшоў нейкі спосаб выліць сваю непакорна-бурлівую сілу, ужо гатоў буяніць, калаціць шыбы.

Лясьніцкі даў прачытаць ліст Андрэю. Пакуль той чытаў, ён з асалодаю пацягнуўся на ложку і глыбока зірнуў у бязьмежны блакіт спакойнага неба. Стала на душы вальготна, радасна. Падумалася: вось недзе там ідзе калатня, нехта нечага дабіваецца, спрэчкі розныя, Халіма шыбы зьбіраецца біць, а тут так ціха і роўна цячэ жыцьцёвая плынь, тут так шырока сінее чыстае неба, так мілосна разьліваецца сонца, і недзе на полі бязрупатна сьпее ў плоднай цяжэрнасьці жыта, і ярына ўсьміхаецца дзявоцка-чыстай вясёлай руньню.

— Затока, ха-ха!.. Гэта ён здорава...

Лясьніцкі сур'ёзна зазначыў:

— Так, у нас тут спакойна. У горадзе заўсёды бывае больш нэрвовасьці, чымся на вёсцы. Тут такі ідылічны спакой, такая патрыархальная ціхасьць. Добра, Андрэй, тут жыць... Цяпер, з рэволюцыяй, пачнецца новая праца, шырока пойдзе асьвета, селянін пачне культурна расьці... Памойму, будучыня ўсё-ткі за вёскай, а не за горадам... Як ты глядзіш на гэта?

Андрэй адказаў тож сур'ёзна, нават без свае звычайнае ўсьмешкі:

— Вось табе пакажуць яшчэ і будучыню, і культуру і што толькі хочаш... Пачакай...

Потым працягнуў задуменна:

— Затока, хм...

І задумаўся. Лясьніцкаму здалося, што ён нешта сам з сабой рахуе, нешта падлічвае. Ён яму не перашкаджаў, моўчкі сачыў за рухамі яго твару. Твар гэты быў сур'ёзны цяпер і глыбокі, нават звычайная мяккасьць яго неяк разьвеялася, агаліла цьвёрдую сілу буйных энэргічных рысаў.

Раптам Андрэй лэпнуў Лясьніцкага па плячу і праказаў поўным вясёлай надзеі голасам:

— Нічога, Васіль, не прападзём!.. Ускаланецца затока, і хвалі пойдуць. Ды яшчэ якія хвалі—ого!.. Многа чаго пазьмятаюць яны, многа чаго пазальлюць... Нічога, Васіль, пажывём—убачым.

Потым ён чамусьці нахіліўся бліжэй да Лясьніцкага і пачаў амаль што шопатам пералічаць з нейкай дзіўнай зларадаснасьцю:

— У Пракудзіне сяляне высеклі дзесяць дзесяцін панскага лесу і забілі двух стражнікаў... У Хадулёх сяляне самавольна падзялілі панскую зямлю і спалілі панскія сьвірны... У Аўсянішчы сяляне, абураныя жывадзёрствам памешчыцы, спалілі да-шчэнту маёнтак і разабралі ўсё панскае збожжа. Спалены маёнткі Шчамялёва, Гонкі, Лісічына, Лавы... Пачынаецца, Васілёк, чуеш, га?

І ён закаціўся сваім мэталічным рогатам. Лясьніцкаму не па сабе неяк стала.

— Слухай, Андрэй, гэта-ж анархія? Гэта-ж пагібель наша? Гэта-ж пагібель рэволюцыі, свабоды, пагібель усяго, што мы да гэтага часу прыдбалі...

Андрэй зноў стаў сур'ёзны.

— А ці ведаеш ты, Васіль, што значыць анархія? Ці ведаеш ты, што анархія—гэта й ёсьць рэволюцыя, што толькі з анархіі, толькі з непарадку, з разбурэньня ўсіх законаў і норм можа вырасьці новы парадак?.. Гэта я сьмяюся, жартую, што—чым горш, тым лепш... Але так яно й выходзіць—такі закон гістарычнага разьвіцьця... Ну, але аб гэтым мы справімся яшчэ пагутарыць... Вось яшчэ... Як ты глядзіш на гэтую вашу

справу з сенажацьцю? Ці ня думаеш ты, што тут таксама ўжо ёсьць зародак гэтае твае „анархіі“, га?

Лясьніцкі замятушыўся.

— Так, так... я гэта ведаю. І я зрабіў быў усё, што мог, каб ня даць разгарэцца дрэнным інстынктам сялян. Так, ты праўду кажаш—іх лёгка было распаліць...

— А цяпер ты думаеш усё добра? Ха, ха... Ты дужа наіўны... Але досыць ужо. Надзявайся ды пойдзем на вёску—там пэўна ўжо пачалося...

Лясьніцкі з трывогай зірнуў на Андрэя.

— Слухай, Андрэй. Я буду ўсё рабіць, каб ня даць сялянам дайсьці да якога-небудзь непарадку, я спадзяюся, што і ты мне паможаш.

Андрэй засьмяяўся.

— Ха-ха-ха!.. Чым горш—тым лепш... Надзявайся!..

Андрэй сказаў праўду. Калі яны, пасьнедаўшы, вышлі на вуліцу і падаліся пад другі канец вёскі, яны зараз-жа ўбачылі гурму народу, які сабраўся каля Аксэнтавай хаты. Адтуль нёсься прыглушаны далячынёй гоман, у якім, аднак, выразна чуваць была нэрвовая ўзьнятасьць і ажыўленьне.

У Андрэя заблішчэлі вочы гульлівай давольнасьцю, на вуснах зайграла ўсьмешка.

— Бачыш, Васіль? А ты думаў, што ўсё абышлося. Угаварыў, ха-ха...

Каля Аксэнтавай хаты сышлася бадай што ўся вёска. Праз напята расчыненыя хатнія дзьверы то ўваходзілі, то выходзілі сяляне. Самога Аксэнты на вуліцы ня было.

— Пэўна яшчэ сьнедае,—падумаў Лясьніцкі.

Народ разьмясьціўся навокал у самых рознастайных паставах. Адны сядзелі на ганках, другія на прызьбе, трэція на траве, чацьвертыя стаялі, пятыя ляжалі. Іншыя ня мелі пэўнага месца, хадзілі ад адных да другіх, дзе-ні-дзе ўстаўляючы да-ладу ці не да-ладу свае слова. Аўтух з сваёй кампаніяй скалазубаў прытарнаваўся да плоту—вакол яго, як заўсёды, грымеў бязупынны раскатны рогат.

Ужо кожны ведаў, чым скончылася паездка Аксэнты, але чакалі, хацелі паслухаць самога. Ды яшчэ кожны чуў, што на гэтым не абыйдзецца, што яшчэ нешта трэба будзе рабіць, меркаваць. А пакуль што адны распальвалі сябе, без канца выказваючы ўсім, хто толькі слухаў, свае абурэньне, другія, больш разважныя, „зюкалі“, ціхамірна-спакойна загадвалі на тое, чым кончыцца ўся гэта справа.

Аксэнта вышаў на ганкі, зважна абцёр вусы, паглядзеў, прыплюшчыўшы вока, на сонца і сышоў уніз з такім відам, быццам ён і ня ведае зусім, што яго тут чакаюць, быццам проста вышаў прайсьціся. Калі-ж яго абкружылі, абсыпалі з усіх бакоў запытаньнямі, ён моўчкі пайшоў да прызбы, сеў, закурыў і тады ўжо пачаў апавядаць. Вакол яго ўраз вырасла шчытнае, роўнае кола застыглых у вострай цікавасьці сялян.

шмоткай і заціраць асобныя дробныя іскрачкі,—ці будзе гэта разумна, га? Ці будзе ў гэтым сэнс які-небудзь?.. Дык вось, Васіль, усё гэта—іскрачкі. А сапраўдны агонь яшчэ будзе, ён выбухне разам, і гэтыя іскрачкі растануць у ім, увальлюцца ў яго. Ён ідзе гэты агонь, набліжаецца. Гэты агонь будзе страшны—у ім будуць і стогны, і кроў, у ім будзе чорная сьмерць, у ім будзе вялікае руйнаваньне. Ён таму й будзе жыватворчы гэты агонь, што скалане ўсё магутным ударам свайго зьнішчэньня, разбудзіць сьвежыя сокі зямлі, дасьць балючы, але патрэбны штуршок застыгламу ў аледзянелых формах жыцьцю... Пажар набліжаецца... Ха-ха... Пажар будзе не такі, які ты бачыў сягоньня, гэта толькі прэлюдыя, толькі падрыхтоўка... Ужо відаць зарава, ружавее на ўкрытым чорнымі хмарамі небе... Жыцьцё, Васілёк, разьвінаецца, жыцьцё будзе цікавае, дзіўна-прыгожае... будзе агонь, а з агня родзіцца новае, нябачанае...

Андрэй гаварыў у нейкім гарачым захапленьні. Яго вочы дзіўна пацямнелі, страцілі мяккасьць сваю, загарэліся чорным, вострым агнём. Ён быў падобны на нейкага таемнага вяшчуна, на прарока. Ён фанатычна верыў у тое, што гаварыў.

Лясьніцкаму рабілася страшна. Ён верыў Андрэю, чуў у словах яго нямінучае, чуў жорсткую, жудасную праўду. У гэтых словах, у ліхаманкавым бляску вачэй, у жудасным вешчаваньні Андрэевым лунаў чорны цень тэй трывогі, што зьявілася ў апошні час, навісла цяжэрнай хмарай, прыдушыла глухой няўцямнасьцю.

Не заспакоіў Андрэй Лясьніцкага, ня даў яму таго, што-б пагадзіла яго з гэтым неадступным, страшным, што-б разьвеяла трывогу. Толькі больш жудасьці, страху набыў ён ад гэтае гутаркі.

Далей ішлі моўчкі—кожны думаў сваё. Не даходзячы гоняў з двое да станцыі, убачылі Макрыну. Яна сядзела каля дарогі і весела сьмяялася ім насустрэчу.

— Во, якія яны... Я чакаю-чакаю...

— Чаго-ж ты сядзіш тут?

— А што я там буду... Ня люблю, дзе многа народу... Ды ўсё чужыя...

Раптам Андрэй утаропіўся ў яе, з жартлівым адчаем разьвёў рукамі:

— А бач! Яна ўжо й разуцца пасьпела... Ну, што-ж мне рабіць з табою... Гэта-ж ты, чаго добрага, і ў горадзе так прылаўчышся.

Макрына вінавата сьмяялася.

— Калі-ж ня звыкла я. Улетку ды ў чаравіках...

Яна нехаця набулася, і яны пайшлі на станцыю. Там Андрэй узяў білеты, яны патаўкліся троху сярод густога натоўпу падарожных і потым вышлі на залітую сонцам пляцформу.

Тут сустрэла Лясьніцкага дзіўная нечаканасьць. На краю пляцформы, дзе пачынаюцца рэйкі, стаяла паненка Раіса і пільна ўглядалася ў той бок, адкуль павінен быў прыйсьці поезд. Яна страшэнна зьмянілася—вочы глыбока запалі, суха гарэлі ліхаманкавым агнём, твар пакрыўся густой, хваравітай цьмянасьцю. Яна пачула іх крокі і інстынктыўна перавяла на іх марудны, зморана погляд.

Лясьніцкі прывітаўся. Яна заўважыла, радасна ўсхапянулася і пайшла да яго з сумна-прыветнай усьмешкай.

Мусіць нешта вельмі яскрава адбілася ў гэты момант на твары Лясьніцкага, бо Макрына, якая сачыла за ім, раптам працялася тым адчайным спалохам, які ўжо бачыў Лясьніцкі ў яе ў час іхняе гутаркі пасьля весткі аб сьмерці мужа. Яна шырока раскрыла вочы, быццам убачыла нешта нечакана-страшное, дзікае, і недалужна схапілася за руку Андрэя, прытулілася да яе, нібы шукаючы абароны. Гэта заняло ўсяго адзін момант і, апрача Лясьніцкага, бадай што ніхто гэтага не заўважыў.

Раіса падышла, запытала:

— Вы едзеце, Васіль Данілавіч?..

— Не, я ня еду. Я праводжу свайго таварыша. Вось будзьце знаёмы...

На яго дзіва Раіса адказала з едкай усьмешкай, за якой хавалася трывожнае хваляваньне.

— Мы сустракаліся. Мы знаёмы... Добры дзень...

Яна наўмысьля падкрэсьліла сваё прывітаньне, каб паказаць на яго недалікатнасьць. А ён адказаў зусім спакойна, нібыта-што:

— Добры дзень!

— Куды вы едзеце?

Андрэй адказаў. Яна хвіліну маўчала, нібы разважаючы нешта, нібы хацела нешта сказаць, ды ня важылася. Потым загаварыла з наўмыснай рэзкасьцю.

— Я таксама еду туды... адна. Я даўно ня езьдзіла і баюся цяпер... Я-б хацела, каб ехаць разам з вамі...

Андрэй з нейкай загадкавай усьмешкай разглядаў мысок свайго бота.

— Што-ж, паедзем разам... Вось таксама падарожніца... Пазнаёмцеся.

Ён паказаў на Макрыну. Паненка з пасьпешнай гатоўнасьцю падала ёй руку. Лясьніцкі заўважыў, як ледзь-ледзь кранулісяк уточкі яе вуснаў, як прасьлізнуў па твары ў яе цень грэблівай грымасы. А Макрына нясьмела ўзяла пешчаную панскую руку, нязграбна яе патрымала і неяк скоранька, палахліва выпусьціла, быццам ня рука была гэта, а страшная гадзюка.

У гэты час аднекуль зьявіўся бацька Раісы. Яна яму весела крыкнула:

— Вось я найшла сабе падарожнікаў!

Пан падозрона азірнуў іхную несамавітую кампанію, але—што зробіш?—прышлося ветла, саладжава ўсьміхнуцца.

— Так-так... гэта добра... я дужа рад...

Праз хвіліны тры прышоў паўнютка набіты поезд. Андрэй неяк упіхнуў адну за аднэй сваіх падарожніц, і толькі ўскачыў сам, як заядла сьвіснуў кандуктар, захрыпеў асіплы ад зморы паравік, і поезд крануўся.

Лясьніцкі астаўся адзін. Ён стаяў на пляцформе, аж пакуль, закрыўшыся клубком белага дыму, ня зьнік поезд за далёкім лясістым заваротам. Тады прайшоўся яшчэ разы са два па пляцформе, быццам баяўся, каб чаго тут не забыцца, быццам што ўспамінаў, і, пануры, пабрыў са станцыі.

І вось агарнуў усяго цяжкі беспрасьветны сум. Пачуў сябе адзінотным, усімі пакінутым. Успомніў вёску—не захацелася ісьці туды, палохала там нешта варожае, чорнае.

Андрэй разумее. Андрэй тож быў злосны тады, яшчэ так пагардліва, дрэнна ўсьміхаўся. А потым-жа зразумеў, нават першы захацеў гаварыць з ім. А вёска гэтага не даруе. Там іначай, там проста: з намі, ці не...

Лясьніцкі дайшоў да ляска, забраўся ў густыя кусты алешніку і лёг там, глыбока аддаўся свайму шчымліваму суму. Неяк жыва, выразна паўсталі ўваччу твары Андрэя, Макрыны, Раісы—ахінуліся смутнай прыветнасьцю, сяброўскай ласкай. Усе былі цяпер аднакава любыя, усе былі блізкія, родныя.

Макрына, дарагое дзіця... Што яна думае цяпер пра яго? Яна нават ня ўсьміхнулася на разьвітаньне, толькі зірнула глыбока, так жаласна. І гэты адчайны спалох—ён астаўся ў любых ясных вачох—у чорным маўклівым прадоньні.

Што цяпер рабіць? Куды падацца? Дзе знайсьці прытулак азьнібеламу сэрцу, дзе разьвеяць чорную жудасьць, трывогу?..

А вакол так пярэста зьзяе жыцьцё, так цудоўна зьвініць бязрупатная весялосьць, шырокая радасьць. Міма, міма йдзе гэта жыцьцё—з сонцам, з чыстым срэбрам жаўранкі; з ціха-пявучым блакітам—пакідае яго самотнага, хворага, пакідае на зьежу чорнаму суму.

Што рабіць? Куды падацца?

І доўга, мо' колькі гадзін ляжаў так Лясьніцкі—адзінотны, пакінуты—і ў бязьмежнай роспачы прыслухоўваўся да болю свайго, да мукі. Калі-ж сонца пад поўдзень падабралася, калі застыгла ў паветры душна-яскравая сьпякота, тады ўзяла сілу фізычная змора—заснуў цяжкім ліхаманкавым сном.

У той дзень увечары, прышоўшы дахаты, Лясьніцкі пісаў ліст Нікадзіму Славіну. Вось пачатак таго ліста:

„Любы мой, дарагі друг!

Пашкадуй мяне, бо мне страшэнна цяжка. Жыцьцё ўстала глухой, непраглядней сьцяной, агарнула ўсяго цемра і жудасьць. Ня ведаю, куды

падацца, дзе знайсьці сабе месца. Чую, нешта йдзе, набліжаецца—нешта страшнае, і дрыжу, баюся, гатоў, як той стравус, зарыцца ў адчаі галавой куды-небудзь, каб нічога ня чуць, ня бачыць. Адзінота... Добры мой Нікадзім! Ці зазнаў ты калі цяжар беспрасьветнай адзіноты?.. Гэта такая нясьцерпная мука, калі адзін, абсолютна адзін, калі няма каму слова сказаць. Сягоньня я ўспомніў нашы апошнія дні ў горадзе. Ці помніш ты іх? Ці помніш нашы бяссонныя ночы, лятуценьні нашы—такія непазбыўнапрыгожыя, такія сьветлыя? Помніш вечары ў Матруніна?.. Я знаю, ты не забыўся на гэта на ўсё. Ты-ж яшчэ большы романтык, як я, ты сьмялей, паўней умееш аддацца лятункам. І вось—слухай, Нікадзім,—усё-ж гэта паляцела, разбурылася, адзін-жа попел астаўся, брудная шума. Няма таго радасна-сьветлага—чорна ў жыцьці, страшна і жудасна. Ня ведаю, што рабіць, баюся, дрыжу, гатоў зрабіць з сабой штонебудзь нядобрае. Ратуй мяне, Нікадзім, скажы такое слова, каб супакоіць мяне—я цябе зразумею—дай падтрыманьне. Хоць тое вярні, што было тады, каб зноў забыцца на жыцьцё, каб зноў было радасна-сьветлае, нязбытна-прыгожае, каб былі лятуценьні. Пашкадуй мяне, родны, бо цяжка мне, дужа-дужа цяжка...“

І яшчэ ў той вечар хадзіў Лясьніцкі на прыгуменьне і плакаў там пад старой разложыстай бярэзінай.

*(Працяг будзе).*

# ДЗЬВЕ БАРАЗНЫ

**М. Нікановіч**

I

Няпрыветна-халоднай жаўцізнай раніца ўсьміхнулася і зьлілася з адміраючым лісьцем бяроз і ліп, ды прыпала к роснай пажоўклай траве за гумнамі. У гэты час і космы сонца гультайна выпаўзьлі з-за няроўнага берагу леса, паказыталі трохі мутна-валавяныя і рэдкія хмары і з мокрай цяжкасьцю апалі на ральлі...

Драліся на вёсцы маладыя пеўнікі, сакаталі куры, і вераб'і цэлымі чародамі коўзаліся па кустох пад вокнамі хат і стараліся перамагчы ўсе зыкі вёскі.

Падняўся вецер і разагнаў слабыя, мокрыя хмары. І сонца з ціхай журбою пачало цярусіць над вёскаю свае слабыя прамені,—само дзівячыся сваёй слабасьці. А як паднялося вышэй яно і стала сушыць расу на траве, тады і павуціна даўгімі бліскучымі ніткамі пачала паўзьці ў паветры. Тады-ж і Пятрок выехаў на сваім Гнядым узьмяшаць папар свой, які, заскароджаны і за доўгі час выпетраны, шырока ляжаў за вёскаю, упіраючыся адным канцом сваім у гумнішча Пятрыка, а другім—недзе далёка губляўся з блізка падышоўшымі палосамі суседняе вёскі Курасьлепіцы. Пятрок і сам добра ня знаў мяжы свайго кавалка, і з-за гэтага кожны год у яго была цэлая вайна з сваім суседам па паласе, пакуль не ўстановяць як сьлед мяжу. Мяжа то была вызначана здаўных, але кожны з іх хацеў адціснуць яе на дзьве баразны, пабольшыць свой палетак; вось таму замест мяжы і было толькі адна няглыбокая разора. І мяжа ўстанаўлівалася проста: хто хутчэй засяваў свой вучастак, за тым і заставаліся гэтыя спрэчныя дзьве баразны. Так вялося з даўных-даўна, аж ад дзядоў Пятрыка і яго суседа Кузьмы,—і тады яны так ваявалі, як цяпер іх унукі. Ня раз на сходзе калі ці на полі ўвосень, горбячыся ў шэрых сьвітках ад рэзкага сіверу, казалі суседзі Пятрыка ці Кузьмы, смаркаючыся ў халодны кулак.

— От дурні!.. Ніяк не разьбяруцца!.. Прадсельсавету трэба пазваць сюды—і ўсё дзела будзе ў шапцы!..

— Прадсельсавету, ён на месцы тут, значыцца, як-бы вам сказаць, мужчынкі, наогул...

Але ня слухалі радаў гэтых ні Пятрок, ні Кузьма, адразу браліся загрудкі, доўга вадзіліся, саплі і, нарэшце, так і расходзіліся. У гэтым

годзе вышла так, што і Пятрок і Кузьма на сваіх сумежных палетках будуць сеяць жыта. Якраз падышла зьмена, і адзін перад другім, стараючыся зрабіць як найхутчэй засеў, апярэдзілі нават і сваіх суседзяў, каб якнебудзь кончыць справутак, каб захапіць гэтыя праклятыя дзьве баразны.

Як у Пятрыка, так і ў Кузьмы папар ужо быў узораны і адначасна паскароджаны, і кожнаму з іх трэба было яшчэ падвезьці на свае палосы гною, бо гэтага патрабавала сівая сялянская практыка ды яшчэ і поле галоднае, высушанае...

Рана ўстаў сягоньня Пятрок і первым дзелам схадзіў на двор за сваёй патрэбай, а тады, намацаўшы ў цёмных сенцах чарпак, плёхнуў ім у вядро халоднай вады і лінуў сабе на чорныя рукі і гэтакі-ж твар, увесь у змаршчакох у рыжа-пруткай шэрсьці ды з балючым нечым у шэрых вачох. Абцёр збольшага рукавамі сарочкі і, увайшоўшы ў хату з хуткасьцю, з якой і памыўся, выцерся чорным трапкачом і тады палез за стол, дзе худая і хворая, надарваная цяжкой працай, яго Ганна, ужо пасьпела адвярнуць цэлую гару гарачай, у вялізнай пары, бульбы і паставіла яшчэ даёнку агурочнага расолу.

Сьвяточнымі днямі, лезучы за стол, калі-небудзь хрысьціўся Пятрок, але ў буднія дні ён гэтага не рабіў ніколі.

„Часу няма, не да гэтага!.. У сьвята крыж на сябе налажыць—гэта другая справа, а буднім днём—не канечне гэта і патрэбна!..“ так, па крайняй меры, падумалася Пятрыку, як залез ён за стол і, моршчачыся ды шыкаючы, качаў гарачую бульбіну ў роце, а вачыма шукаў сярод груды лыжак „сваю“...

Сьпяшаўся за гэтай работай Пятрок і ўжо канчаў поўдаёнкі расолу, калі Ганна прынесла вялікую гліняную міску кіслага малака.

— Пасьля расолу добра будзе і малака сербануць!.. Трэба ачэрпаць хоць трохі,—і, кінуўшы расол, Пятрок узяўся за малако, і пакуль Ганна схадзіла ў клець упарадкаваць гладышы там і вярнулася, каб сесьці разам з ім зьесьці гэтага малака з гарачай бульбай, Пятрок ужо толькі ў дне міскі боўтаўся лыжкай.

Ганна хацела нешта сказаць, адышлася к печы, зірнула ў чалесь нікі і, успомніўшы, як летась яна бегла цераз гумно разводзіць Пятрыка з Кузьмом і, бягучы, зьбіла аб камень вялікі палец на назе, яна зірнула на гэты без пазногця палец і падала:

— Ты-ж глядзі, Пятрок, каб і сёлета ня было так, як і летась!?

— Як?..

— А так!.. Каб ня зьбіраліся людзі з усяго сяла разводзіць вас дурных... прадсядацеля ўзяў-бы ці што?!—нясьмела параіла яму Ганна і, ухапіўшы чапялу, палезла з ёю нечага ў печ.

— Ты ведаеш што?!. Ды я яго, гада, там на месцы палажу, калі што!..—вылазячы з-за стала заявіў моцна Пятрок і, ухмыльнуўшыся, пачаў нацягваць на сябе шэрую сьвітку, шукаючы вачыма па лаве шапкі..

— А божа-ж мой!.. То ты гэта і зробіш?! Глядзі, чалавек!.. Адвага твая!..—спуджана ўставіла яна свае карыя, выцьвіўшыя вочы на Пятруся, але той, доўга не гамонячы, вышаў на двор і, запрогшы ў плуг Гнядога, паехаў на палетак, нават і не заходзячы ў хату. І ўжо зварочваючы за гумно цераз іржышча на свой загон, думаў аб гэтым Пятрок, а як абарваліся гэтыя думкі, тады толькі мігнулася слаба на паверхні мазгоў ці то ў пачуцьцях.

„Пагода сягоньня вельмі-ж слаўная... араць будзе, дык за мілую душу... А з Кузьмом сягоньня патузаемся...“—і пачаў абворваць межы.

Ішоў конь паволі, махаючы ў тахт хады з раздутымі ноздрамі і напружанымі на іх жыламі галавой і слаба сьцябаў густым хвастом. Скіголіў плуг аб маленькія каменьчыкі па акладні, а за імі з нейкай нэрвовасьцю, часта ступаючы аднэй то другой нагой, з баразны на цаліну і наадварот, ішоў Пятрок, ужо нічога ня думаючы, бо думкі неяк дзіўна перасыпаліся, на поўдарозе абрываліся і не давалі яскравага ўяўленьня прадуманага, толькі шырока і востра адчувалася глыбока ў пачуцьцях радасьць працы, ды яшчэ сыравата-мяккі пясок над босымі нагамі, і тады ўздумалася:

„Гэта-ж цэлы канец току я наклаў хлеба... І сена больш, як летась... Узьмяшаю толькі я гэты палетак, дык толькі і рупіць будзе што бульба!..“

І ўсё араў ды араў, аж пакуль не дайшоў да спрэчных баразён Кузьмовага палетку...

— Тпбр!..—нацягнуў лейцы Пятрок і, зьняўшы шапку, абцёр ёю свой лоб і твар, а тады, паставіўшы яе над вачыма, пачаў углядацца ў бок Курасьлепаўкі: ці ня відаць мо' адтуль Кузьмы. Пыліла дарога, трохі прабавала калаціцца ад зямлі нагрэтае сонцам паветра, а за шэрым іржышчам, каля хлявоў вёскі нехта калупаўся з канём...

— Ня йначай Кузьма гэта гной падчышчае за хлявамі... Ці ня думае ён вазіць яго сюды?!—і, радасна ўсьміхнуўшыся, надзеў шапку, скінуў на іржэўнік свайго суседа па хаце, плюнуў на чорныя далоні і, трохі іх пашараваўшы, узяўся за ручкі плуга...

— Сёлета маё брала!..—і з нейкім няўпэўненым адчаем пагнаў каня, адводзячы новую сабе баразну.

## II

У такі-ж самы час, калі і Пятрок, устаў і Кузьма і, насёрбаўшыся аднэй і тэй-жа стравы, што і Пятрок, ды парадзіўшыся з жонкай наконт работы на сёнешні дзень, пайшоў з сваім большым сынам Зьмітром, дванаццацігадовым хлапчуком, у хлеў накідаць гной.

— Недажджэ ён,—падумаў Кузьма пра Пятрыка, накапаўшы воз гною і запрагаючы ў яго свайго сівага каня,—сёлета, як і летась, мае будуць гэтыя дзьве баразны. Вывезу я гной раней такі за яго, а там

бог-бацька!.. Пакольki я летась карыстаўся і ўвёў у падатак—павінна застацца і сёлета...

І ўжо вывез Кузьма свой воз на дарогу і тут-жа ўздумаў, што згрэбача забыўся, ня будзе чым гной скідаць... А варочаючыся назад, заўважыў, што нехта, раней яго, вазіў гной каля яго двара і вялікімі кускамі пасеяў па дарозе, ды яшчэ з яго воза зьехала вялікая плітка гэтага гною...

— Нашто, каб дарэмна прападаў ён!?—буркнуў у свае пруткія вусы Кузьма і памеркаваў было ўзлажыць гэты ўвесь гной згрэбачам, але паказалася яму такая работа вельмі нявыгоднай і маруднай, і ён, зірнуўшы на свае тоўстыя, заскарузлыя і чорныя, як гэты згрэбач, пальцы, падумаў:

„Эт, адзін чорт, што гэты згрэбач, што рукі! . Раз за гэтым дзелам стаю, дык шкадаваць іх нечага, абмыю!.. Ня панскія яны!..“

І, убіўшы згрэбач у гной на возе, Кузьма падкасаў рукавы, кашулі і пачаў зграбаць увесь гной з дарогі. Згроб яго, прыпляскаў к таму, што на возе, і, абцёршы рукі аб балясы драбінкі, а потым аб порткі, пагнаў каня. А як ішоў ён за возам каля Сымонавага саду—не ўцярпеў і, уткнуўшы ў частакол свой крыва ўсьміхаючыся твар пад блінаватай шапкай, крыкнуў нявестцы Сымонавай, Ляксандрыне.

— Падай ты, Ляксандрыначка, яблычкаў з пару!?

Тая, гойдаючыся шырокім задам і нічога ня кажучы, падняла некалькі яблычкаў з-пад яблыні і панесла яму, высока перастаўляючы босымі, бурачкова-тоўстымі нагамі ў густой крапіве.

— Гэта-ж умарыўся я, ды і сьліну вельмі-ж пагнала... Дай, думаю сабе, папрашу, яблыка...—гаварыў Кузьма, бяручы ад Ляксандрыны яблыкі ў свае каравыя, пахнучыя гноем, рукі.

Змоўчала Ляксандрына і толькі ў знак згоды ці чаго там кіўнула галавою і, адвярнуўшыся, пайшла ў глыб саду, а Кузьма яшчэ раз абцёр правую руку аб калошыну порткаў, потым узяў яблыка, выцер яго аб кашулю і пачаў са смакам есьці, ідучы за возам...

Толькі зусім ужо пад‘ехаўшы к свайму палетку Кузьма ўгледзеў, як Пятрок разганяў загоны. Кінула яго раптам у жар, паляцелі адна за другой абрыўкі думак:

„Кончу я яго тут, усё роўна!..“

„Плуг зламлю!..“

„...Я ня ведаю, што я яму зраблю!..“

І тады-ж сярод гэтых кавалкаў яшчэ адна думка выплыла, цьмянаняпэўная, але здавальняюча-радасная.

— Ці чорт яму даў араць?! Не пасьмее!.. Усё-ж такі я дужэй за яго, дый гады мае старэйшыя... Так блізка на гадкоў восем яшчэ пузырыцца яму да мяне!..

Араў моўчкі Пятрок, як-бы не зважаючы на ўсё гэта, а Кузьма, паставіўшы каня з возам у другім канцы свайго палетку, пайшоў к Пятрыку

глядзець, ці прыараў ён, Пятрок, к сабе тыя дзьве баразны, што ўжо два гады былі за ім, Кузьмою...

Па суседзтву з Пятрыком аралі свой папар Амяльлян і Рыгор, а там яшчэ далей іх „мяшаў“ ворыва Вінцэсь... Як толькі ўгледзелі яны, што Кузьма ідзе,—дааралі барозны, а Вінцэсь на палавіне баразны стаў, паставілі коняй і, падпіханыя цікавасьцю, не сьпяшаючыся, пайшлі к мяжы загонаў Пятрыка і Кузьмы. Вінцэсь—пражыўшы сорак тры гады і сорак тры разы быўшы ўжо на судзе ў сьведках—ішоў памалу, дастаючы з-пад поясу бараньні капшук з табакай і паперу з шапкі ды паволі думаючы.

— Не канечне мне і лезьці ў гэту кашу... Могуць ізноў за сьведку запісаць... А Кузьма мусіць здарава і ўзлаваўся, калі гэтак скора сігае... Ну, і будзе-ж тут работа, эх-х!!

А Кузьма, з непамернай цікавасьцю, аж галаву, як бусел, падняў угору, ішоў як найхутчэй, каб убачыць, што зрабілася з дзьвюма стрэчнымі baрознамі... Ён толькі раз кінуў вокам на суседзяў і потым, убачыўшы, што мяжа, якая ад часу ўжо трохі была і парасла дзікаю травою і пакрылася цяпер узоранаю сьвежа-тлустаю зямлёю, і гэта мяжа чорнай разорай ад‘ехала ў яго палетак,—стаў, і, пляснуўшы растапыранымі тоўстымі пальцамі па сваіх сьцегнякох, трагічна выцадзіў, ківаючы ў тахт гаворкі галавою:

— А бо-о-о-жа-ж-ж мой!.. А гад-жа ты смаляны!?—і ўжо болей пастаяўшы ды нэрвова пацерабіўшы вусы, зьвярнуўся к Амяльляну, які стаяў каля яго і вярцеў цыгарку.

— Ну зірні ты адно, братка Амяльлян, што ён гэта мне зрабіў!.. Гэта-ж маё роднае, крывавае раскалупаў, каб ён, даў бог, сэрца гэтак раскалупаў сваёй жонцы... дзеткам!

Амяльлян махнуў галавою, выяўляючы гэтым ні то згоду з Кузьмой, ні то зьдзіўленьне, і, палэпаўшы потым па кішэнях сьвіткі, шукаючы сярнічак, адвярнуўся назад.

— Рыгор, сярнічкі ты маеш?..

Залапаў і Рыгор па кішэнях і, азірнуўшыся ды ўбачыўшы Вінцэся, кінуў цераз загоны.

— Ідзі ты хутчэй ды нясі агонь!..—і зьмяніўшы голас, ужо цішэй дадаў,—гэта-ж я дома забыўся сваіх сярнічак, каб на іх пярун!.. Пад старасьць зусім няма галавы... Дзе паложыш, дык колькі находзішся, пакуль уздумаеш тое месца... Надоечы гэта я быў у лясьніцтве, дык там мне далі квіток...

— А што ты думаеш?!—перабіў яго раптам Амяльлян і, адышоўшыся ад Рыгора ды расставіўшы босыя ногі на сьвежай, трохі цёплай ад сонца ральлі і гледзячы ў бок то Пятрыка, то Вінцэся, які падворваўся ўжо к чарадзе, гукнуў:

— Скарэй ты там, хай цябе маланка!.. Гэта-ж ідзе, усё роўна як назаўтра трэба!..

— Пасьпееш!..—адазваўся Вінцэсь і нешта ціха, сам сабе забубнеў пад нос.

Плавалі здаровыя і вясёлыя ад здавальненьня, што ёсьць дзе пакрычаць і іх выявіць як сьлед, галасы, крычалі цяжка вароны і, шумна махаючы крыльлямі, нязграбна садзіліся за Пятрыком на ральлі... Нешта звонкае і прарэзьлівае плыло з канца вёскі, як бы то быў звон касы ці то адсякалі на кавадле кавалак жалеза, і яно мяшалася там з слаўным жаночым голасам і так даляцеўшы аж сюды на загоны, расплываліся гэтыя зыкі тут дзіўнай музыкай... Падышоў да чарады Вінцэсь і ў гэты-ж час пад‘ехаў сюды і Пятрок і, спыніўшы каня, абцёр рукавом пот на ўстрывожаным, крыху зьбялелым твары і, не сьпяшаючыся, падышоў к мужчынам. Вінцэсь, падышоўшы к грамадзе, адвярнуўся ад ветру, затуліў бараду ў каўнер сваёй сьвіткі і, чыркнуўшы сярнічкай, стаў прыкурваць сваю тоўстую цыгарку, паглядаючы адным вокам на мужчын і няясна думаючы:

„Чорт яго бяры, няхай вайдуюць самі з сабою, абы я ня бачыў... А такі будзе тут работы...“

К яму па чарзе падышлі Амяльлян і Рыгор і пачалі прыкурваць.

— Дзень добры вам!..—спуджана-нясьмелым голасам кінуў Пятрок і пачаў у кішэні сваёй згрэбнай рубашкі шукаць пачак учора купленай у коопэратыве махоркі...

— Добры дзень, то добры, але нашто ты, маць тваю дыхала, мае дзьве баразны пераараў?! Га?! Гэта ты думаеш я табе дарую?!,

— Гэткія яны і мае, як твае!..—ня гледзячы на Кузьму, адказаў Пятрок і, дастаўшы махорку, пачаў рваць з газэціны кавалак на цыгарку.

— Як гэта яны твае?..—зачырванеўся ад злосьці Кузьма.—Да ці помніш ты, сукін ты сын, як мой дзед нябожчык хадзіў яшчэ к пану старому купляць гэтую дзесяціну, і ён тут капец паставіў?! Ты ведаеш, дзе мяжа?..

І з гэтымі словамі Кузьма падбег к барознам і рукамі адвярнуў скібы ральлі, каб паказаць старую мяжу. Амяльлян, зацягнуўшыся і пусьціўшы цераз жорсткія чорныя вусы хмары дыму, не сьпяшаючы падышоў сваімі маленькімі крокамі к Кузьме і з роўнадушнасьцю зірнуў цераз яго плячо; відаць было, што ён больш цікавіўся работай Кузьмы, чымсьці месцам сапраўднае мяжы. Гэтак зрабіў і Рыгор. Толькі Вінцэсь стаяў на адным месцы на скібах ральлі і моўчкі пазіраў на вёску.

— Бачыш ты, сьвінячае рыла, дзе мяжа?.. Га?.. Ты бачыш, каб ты ня ўбачыў сонца і цябе сягоньня твае ўласныя дзеці?.. Ты цяпер бачыш ці не?.. Скажы ты мне?..

Церабіў скоранька Кузьма і што дальш, больш прыходзіў у буйную ярасьць...

Маўчаў Пятрок і, стоячы ўсё на адным месцы, круціў заскарузлымі, чорнымі ад работы на зямлі, пальцамі цыгарку. Калацілася яна ў яго руках і нешта дрыготна-спуджанае гуляла па яго твары.

Маўчалі суседзі, толькі адзін Вінцэсь яшчэ дальш на некалькі крокаў падаўся ў бок ад чарады, як-бы нешта важнае заўважыўшы на вёсцы, пачаў з вялікай увагай там разглядаць, аднак, быў ён поўны вострых думак тут, сярод гэтай чарады, і лавіў кожнае іх слова.

— Бачу!.. Ну, бачу, ну!.. Ты летась араў—твае шчасьце, я сёлета—маё!.. Не твае ўжо гэтыя барозны!..

— Як гэта не мае?.. А падатак хто за іх плаціў летась?..

— Дармо!.. Летась ты плаціў, а сёлета я буду плаціць за іх!..—ціха, але рашуча сказаў Пятрок і, зацягнуўшыся цыгаркаю, адвярнуўся ў бок Вінцэся.

— Вот якія яны твае!!!—і ахоплены дзікай злосьцю, Кузьма скамячыў здаровую фігу і з сілаю сунуў Пятрыку ў нос.

Гэта Кузьма зрабіў так нечакана і такою сілаю сунуў Пятрыку пад нос, што, не чакаўшы гэтага, Пятрок спачатку адкінуў галаву назад, як-бы выпіваючы да дна чарку, а потым, ня стрымаўшы роўнавагі, паляцеў плячмі на сырую ральлю, высока задраўшы ўгору босыя і чорныя ад гразі ногі.

Усе зарагаталі, нават Вінцэсь і той, забыўшыся аб усім, падбег к Пятрыку і скрозь рогат усхліпнуў:

— Лоўка садзануў, каб на яго пярун!..

Як плюнуць, усхапіўся Пятрук, і што трэба было чакаць: пачаў накладаць па галаве Кузьме. Той, выцягнуўшы перад сабой рукі, адступаў моўчкі назад, пакуль не зачапіўся сваім шырокім лапцем за разору і паваліўся... Як зьвер, накінуўся на Кузьму Пятрок і пачаў біць яго ўжо ляжачага, нібы спаганяючы гэтым доўга састрыманую злосьць за некалькі год. Круціўся Кузьма, як злоўлены ўюн, хапаўся рукамі за скібы і, нарэшце, як-бы аб нечым здагадаўшыся, ён перавярнуўся і з усяго размаху пляснуў цэлай жменяй зямлі Петраку ў твар.

Сеўшы з каленьмі на Кузьму, Пятрок ухапіўся за вочы і з праклёнамі пачаў выціраць іх кулакамі; у гэты час Кузьма патрабаваў выбрацца як-небудзь з-пад Пятрыка, але Пятрок, кінуўшы гэтую работу, пачаў душыць Кузьму зноў, рыкаючы ад болі і скрыгаючы зубамі.

Ужо пакінулі яны біцца і цяпер, толькі абняўшыся, як добрыя і блізкія прыяцелі,—качаліся па ральлі, поўнячы прасторы лаянкай і крыкам...

— Гых!.. Га-а!.. Вазьму такі, кішкі з цябе вон!..

— Г-г-гмух!.. Пранцы-б цябе р-р-разьелі!..

— За паяскі бяры, за паяскі!..—крычаў, перабіваючы ўсе галасы, нямаведама каму Амяльлян.

— У паджывотніцу яму, сукінаму сыну!..

— Го-го-о-о-о!.. Так, так!..

— „Рускім барцом“ бяры яго!.. На лапаткі к-к-кладзі!..

Кузьма з Петраком забыліся пра бойку і поўнасьцю ўвайшлі ў борканьне...

Сьмяялася сонца з чыста-блакітнага неба, вецер-раздольнік налятаў на чараду мужчын, падхопліваў гам галасоў здаровых і весела нёс іх за высокія межы к лесу; упёршыся рукамі ў калені, сагнуўся Вінцэсь над шчапіўшыміся Кузьмой і Петраком і з нейкай сьветлай радасьцю ў выліняўшых вачох, успамінаючы сваю маладосьць, назіраў за імі, смокчучы мокры канчар цыгаркі, а воддаль стаяў у плузе Петракоў „Гняды“ і з халоднай абыякасьцю пазіраў на гаспадара...

— Што гэта тут такое ў вас робіцца, мужчынкі?..—раптам ацьвеазіў усіх незнаёмы і зусім чужы, у гэтым для іх блізка знаёмым гаме, голас...

Хто стаяў—азірнуліся і, убачыўшы постаць свайго старшыні сельсавету, вінавата ўхмыльнуліся; Амяльлян-жа, паздароўкаўшыся, зноў вымаючы табаку, кінуў:

— Гэта-ж, на-ліха ім, барозны не падзеляць... Нямнога тут іх, а бойка ідзе вось ужо цэлую гадзіну!..

Вінцэсь, заўважыўшы старшыню, зноў адышоўся ад чарады і пачаў углядацца ў бок вёскі.

— Дык што-ж гэта?—закратаў мяккімі, даўгімі вусамі старшыня і пацёр шэрсьць даўно нябрытай барады.—Чаго гэта вы дзівіцеся ўсе?.. А ня можаце разьвесьці іх ці што?..

І ўжо зусім грозна, паначальніцку:

— Чаго гэта вы качаецеся, як сьвіньні?!. Га?..

Неяк вылузаўся з-пад Петрака Кузьма і, усхапіўшыся, ды раз-по-разу плююючы ад набітага ў рот пяску, залапатаў, ледзь пераводзячы дух.

— Гэта-ж, бачыце самі, таварыш-грамадзянін, што два гады... увёў у падатак і ў страхоўку... Плаціў усё... А ён яшчэ б‘ецца, каб яму, дай бог, кашаль грудзі ўзьбіў вышэй носу!..

— Што ўвёў у падатак?.. Чаго ён?..—не зразумеў старшыня.

Падняўся і Пятрок і, гледзячы на старшыню адным вокам, бо ў другім было поўна пяску, пачаў тлумачыць ён, як гэта так вышла, што прышлося ім да бойкі...

— Гэтак у нас кожны год, таварыш старшыня!.. Прывыклі мы да гэтага ўжо!..

— Іншы раз бывае яшчэ і лепш, усё сяло зьбіраем!..—дадаў Кузьма і пачаў шукаць пад сьвежымі скібамі ральлі мяжу, каб паказаць старшыні прычыну іх бойкі.

Сонца зьвярнула з паўдня, пакуль разабраў старшыня іх спрэчку і вызначыў ім мяжу.

— Трэба так, каб было аднаму і другому—табе баразна і табе!.. Не хапайцеся вельмі, хлопцы... Ці многа гэта вам трэба гэтай зямлі?.. А калі ды ўступіць адзін другому трохі, дык, думаеш, ужо і пабяднееш?..

Га?.. Не забярэш яе, зямлю гэтую, з сабой „на той сьвет“... Зараз зямлі будзе аж па горла... Каморніка чакаем толькі, зараз прыедзе разьбіць яе, як гэта сьлед... Самі-ж вы на сходзе пастанавілі...

— А што ты думаеш?..—абазваўся Пятрок.

— Дык яно верна!..—цярэбячы бараду, адазваўся і Кузьма.

— Верна то верна, але нашто ты, калі гэта ведаў, кашулю, яшчэ новую, мне пашастаў, вочы пяском засыпаў, рэжуцца так, ды яшчэ фігу так сунуў, што аж нюхаўка бульбінай паднялася?!.—выціраючы рэштку пяску з вачэй, пакрыўджана заявіў Пятрок.

— Бо дурны быў!.. А зямлі хопіць яшчэ на наш век, абы здароўечка!.. Не гады нашы дужацца гэтак з-за яе і жываты надрываць!..—падаў Кузьма і, падумаўшы моўчкі, падышоў да коліка, што разьбіваў спрэчныя дзьве баразны напал, вырваў яго і адкінуў убок ад сябе.

Усе зьдзіўлена пазіралі на Кузьму, нават Вінцэсь і той ахнуў, убачыўшы гэтае, прывыкшы ў гэтакай справе бачыць вырашэньне такое справы толькі цераз суд.

— Ары, Пятрок, гэтыя праклятыя барозны, летась я карыстаўся, ну, а сёлета ты... Аднолькава будзем багаты!..

— Ну і пападзе-ж гэтаму Кузьме ад жонкі!.. Ну і пападзе-е-э!..—сам сабе зьдзівіўся Вінцэсь...

. . . . . . . . . . . .

Не гаманіла ўжо грамада, а гучна грымела аб нечым вясёлым, слаўным, сьмяяўся Пятрок, нешта гаварыў Кузьма, і сонца сьмяялася, і шырокая радасьць палявых прастораў здавалася бязьмежнай, як была бязьмежна радасьць у сэрцы гэтых людзей...

# СОНЭТ

**Максім Багдановіч**

Ne ris point du sonnet,
o critique mogueur.
S. Beuve.

На цёмнай гладзі сонных луж балота,
За сьнег нябёснай вышыні бялей,
Закрасавалі чашачкі лілей
Між пачарнеўшых каранёў чарота.
Ўкруг плесьня, бруд,—разводзіць гніль сьпякота,—
А краскі ўсё-ж ня робяцца гразьней,
Хоць там плыве часамі сьлізкі зьмей,
ржаўчына ляжыць, як пазалота.
Цяпер нават здаволена багно:
Гніль сотні год зьбіраючы, яно
Смуроднай жыжкаю узгадавала
Цьвятоў расістых чыстую красу.
Маліся-ж, каб з літоўнасьці стрымала
Тут сьмерць сваю нязвонкую касу.

## СРЭБНЫЯ ЗЬМЕІ

**Максім Багдановіч**

Срэбнымі рожкамі мгліцца
З цёмных нябёс маладзік;
Возера плешча, бурліцца,—
Рушыцца ў ім вадзянік.

Ў хвалях гуляць выпускае
З віру зьмяю за зьмяёй;
Вось іх грамада ўсплывае,
Срэбнай ірдзіцца луской.

Будуць яны ўсю ноч віцца,
Ў хвалях хрыбтамі блішчаць;
Будуць сьціскацца, круціцца,
Гэтак да раньня гуляць.

Сьвецячы блескам чырвонца
Праз парадзеўшую мглу,
Пусьціць, ўставаючы, сонца
Ў іх залатую іглу.

Згіне зьмяя за зьмяёю,
Зьнікне з нябёс маладзік.
Доўга па іх пад вадою
Будзе ўздыхаць вадзянік.

1911 год

# У ВЁСЦЫ

**Максім Багдановіч**

Zumen coeli sanctà rosa!
А. Пушкін.

Хвалюють сэрца нам дзявочыя пастаці,
І душы мацярэй нас могуць чараваці;
Вышэйшая краса—ў іх зьлітнасьці жывой!
Артысты-маляры схіляліся прад ёй,
Жадаючы зьявіць цераз свае хальсьціны
Пачуцьці мацеры у вобліку дзяўчыны.
Красы тэй сымволам, маць-дзева, стала ты,—
І глянулі твае з-пад пэндзаляў чэрты.
З таемным трэпетам на іх я пазіраю,
А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю.
Мінулае сваё прыпамінаю я!
Між цёмных абразкоў прайшоўшага жыцьця
Шукаю сквапна штось трывожнаю душою,
І здарэньне адно ўстае перада мною.

* * *

Калісьці летняю рабочаю парой
Праз вёску я ішоў. Панураю чаргой
З абох бакоў крывой і вузкай вулкі хаты
Стаялі—шэрыя, струхлеўшыя; як латы,
Віднеліся ў сьцянах сьляпыя вокны іх,
І аж чарнелася салома стрэх гнілых.
Ўсё руйнавалася, старэла, адмірала,
І мала што вакол хоць трохі аздабляла
Вясковую нуду; мак яркія цьвяткі
Рознакалёрныя, як тыя матылькі,
У градах высыпаў і цешыў імі душу,
Ды можна йшчэ было там-сям пабачыць грушу
Крывую, старую... вось толькі і ўсяго.
І да таго-ж з людзей ня відна нікаго,—
Яны на полі ўсе; не мельканець спадніца,
Ня пройдзе з вёдрамі па воду маладзіца,

Ня ўгледзіш белую магерку мужыка,
Ў паветры не памкне іржаньне жарабка,
І песьня сумная не паліецца звонка...
Што-ж дзіўнага, калі, раптоўна крык дзяцёнка
Пачуўшы, дрогнуў я і аглядзеўся. Ах!
Я спудзіў хлопчыка: на руках і нагах
Ён, бедненькі, папоўз па траўцы ля сьцяжынкі,
Да нянькі траплячы—так год васьмі дзяўчынкі.
І вось дабраўшыся, ў падолак разам к ей
З трывожным голасам уткнуўся ён хутчэй;
І, як схіляецца ад ветру верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася, і, сьлёзкі
Сьціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач—зусім, як быццам маць;
І саліваліся ў жывы абраз ядыны
Той выгляд мацеры ды з воблікам дзяўчыны
Дзіцячым, цененькім; і ў гэты час яна,
Здавалася, была аж да краёў паўна
Якойсь шырокаю, радзімаю красою,
І, помню, я на міг пахарашэў душою.
А можа не краса была ў дзяўчынцы той,—
Дзяўчынцы ўпэцканай і хілай, і худой,—
А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
Стараўся выявіць праз маці божай лікі.

* * *

Страніца лепшая ў штодзённіку жыцьця,
Зноў з ціхай радасьцю цябе чытаю я.
Хай шмат чаго (ўжо) з тых гадоў крыніца змыла—
У памяці маёй, хай тэй дзяўчынкі мілай
Ўжо воблік губіцца у цёмнай глыбіне,
Я веру, ў цяжкі час ён гляне на мяне.

# МАСЫ

## І. Бэхэр

Завылі фабрыкі. З усіх сваіх дзьвярэй
Дамы выкідваюць на вуліцу людзей;
Паўзуць па гораду яны
Цераз пляцы, масты,
Сьвідруюць далеч зрокам.
Так крок за крокам
Ідуць працоўных масы...

Было так кожны дзень, было так кожны год.
Цяжкі лёс масаў масы іншыя нясьлі.
Хлеб-камень бедны еў народ;
Струмені з волкіх сьцен цяклі.
Ім што-суботу пэнсію давалі,
А ў панядзелак: „як-жа жыць?!“—пыталі.
Маўчалі глуха масы...

Штодзень, штоноч у гарадох
Гарматы грозныя равуць,
Ўзрываюцца крывёй ў палёх.
То масы сьмела ў бой ідуць...
Ў магілах брацкіх—масы...

Наябрскі бой! Наябрскі бой!
Патоп гранат і куль струмень
Астрыг пляцы, заліў крывёй.
Надзеі залаты прамень
Надоўга ў сэрцы згас.
Настаў пахмуры час...
Ляжаць ў магілах масы...

З пахмурых шахтаў, з нетр зямлі
Працоўных шэрыя рады
Наверх адразу папаўзьлі.
Зноў барыкады, зноў драты,
Шугнуў, як вадаспад з гары,
Магучы зык: „Пролетары!
У бой за масы!“

Па вуліцах і па завулках гарадоў
Пяе-гуляе вецер, як арол на волі,
У муры стукае дамоў,
Разбурвае дахі і столі.
Шугнулі масы морам,
Хвалістым, чорным морам.
Адкуль вас столькі, масы?!

---

Барджэй імкнісь ты
Ў апошні бой!
Вось мэталісты—
За строем строй,
Там шахтары,
Вось грабары!..
Агонь ракой ліецца:
То войска ў бой імкнецца
Магучых мас.

---

Настаў жыцьця шчасьлівы час:
Па вуліцах рады ідуць
Працоўных, перамогшых мас.
Паўсюды радыё гудуць:
„Перамаглі мы!“ Ноччу змрок
Прожэктараў сьвідруе зрок.
Па вуліцах маршуюць масы,
**Бо ў масах толькі моц!**

Пераклаў з нямецкае мовы **П. Росіч.**

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

*Урывак з поэмы*

**Якуб Колас**

Спыніся, дружа, ды падумай:
Твая дарога так далёка,
А ў небе цьміцца павалока—
Устануць хмары чорным тлумам,
Цябе сустрэнуць грозным шумам
У падарожжы адзінокім,
Цябе агорне полаг ночы,
Ты сьмех пачуеш патарочы,—
То будзе водгук тваім думам.

Дарога, знаю я, цяжкая,
Ды вольна будзе мне ў пуціне:
Злажу я песьню тэй краіне,
Што ў цьме сваіх дарог шукае,
І песьня водгульле спаткае,
І ў сэрцы сьлед яе ня згіне.
Вясеньні звон гудзе ў прасторы,
Скрозь полаг цьмы ірдзяцца зоры,—
„Ідзі-ж, ідзі!“ мне штосьці гукае...

. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

II

Было іх двое ў пятай роце
Стодвадццацьтрэцяга палка.
Вайны крывавая рука
Іх пазганяла здаляка,
І першы з іх быў на адлёце—
Чарга сачыла юнака.
Яго бацькі дзесь на Валыні,
Цяпер па той бок рубяжа.

Пад ціскам буры-грабяжа
На ўсход адкінута мяжа.
І меў ён смутак па дзяўчыне.
Юнак той, прапаршчык Дзяжа.
У росьце мерны, цёмна-русы,
Шырокі ў персях і плячах,
З сукрытай думкаю ў ачах,
Любіў ён слухаць мар спакусы
І ў іх прыгожыя абрусы
Агортваць свой няпэўны шлях.
У вольны час, на бераг Камы
Выходзіў ён адзін, і там,
Забыўшы ўвесь статутны хлам,
У марах марыў край той самы,
Той самы дом, дзе каля брамы
Правёў пярун па дубе шрам.
А пад рачулкаю бліскучай
Цягнуўся верб купчасты вал;
Між іх зялёненькі прагал
З травою мяккаю, пахучай
Глядзеў усьмешкаю дрыгучай,
І зьзяў на ім расы крыштал.
Пры доме сад быў ніштаваты,
Прасторны двор і агарод,
Дзе нарабіў дарожак крот,
Дзе мак і сонечнік цыбаты
На сонцы ткалі свае шаты,
А гарбузы паўзьлі на плот.
Гародчык чысьценькі на дзіва
Так песьціць думку юнака,
Бо там яе, яе рука
Саджала кветачкі рупліва;
А ён адзін хадзіў маўкліва
І мілай постаці шукаў,
І быў яго той дзень шчасьлівы,
Калі яе, ну, хоць здалёк,
На міг кароткі ўловіць зрок,
Уловіць погляд баязьлівы,
Ці ўчуе песень пералівы
На полі ў сонечны дзянёк.
Да сэрца радасьць прылівала,
І лёгка так было тады,
П'яніў той вобраз малады;

Да тых спатканьняў сэрцу мала,
І сэрца зараз смуткавала,
Яго зноў клікала туды.
І помніць ён адно спатканьне,
Такі выпадак быў дзіўны.
На рэчцы стрэліся яны,
І тут юнак ад нечаканьня
Затросься трэпетам каханьня
І з кладкі скінуўся, дурны!
Яна зірнула, і на твары
Адбіўся страх, а потым сьмех
У вочках ясьненькіх прабег.
На момант спалі з хлопца чары—
За сьветлы міг так многа кары!
І як сьмяяцца ёй ня грэх?
Зачырванеўся—ці-ж ня сорам?—
Хоць ты на сьвеце ня жыві!
І пал астыў у тэй крыві.
І як ня грэх тым вочкам-зорам
Так пацяшацца гэтым горам,
Як ён там плюхаўся ў гразі!
Ды той выпадак-прыключэньне
Яму якраз быў наруку,
Бо паспрыяў ён бедаку
Ажыцьцявіць яго прагненьне
Спазнацца з Насьцяю з Засьценьня,
Што там жыла на хутарку.
  Яна—сялянская дзяўчына,
Зімою ў горадзе жыла,
Дзе гімназысткаю была.
Яе краса—ўсяму прычына,
І смуткаваў па ёй хлапчына,
Тады студэнт, з таго сяла,
Дзе бацька меў пасаду ў школе,
Стары настаўнік, пэдагог,
Навуку сеяў, колькі мог,
А летам сын гуляў на волі,
Хадзіў па лесе і па полі,
І вось раз Насьцю падсьцярог.
І з таго дня, з тае часіны
Ен толькі й думаў, што аб ёй,
Аб Насьці мілай, дарагой,
А там шчасьлівыя хвіліны

Спатканьня з любаю дзяўчынай,
Няясны зоў і неспакой.
А потым—шчырае каханьне,
Адказны зрок і сэрца клік,
Салодкіх мар бясконцы лік
І патаемнае спатканьне,
І тое першае прызаньне,
Што слухаў месяц-маладзік.
Ня раз яны ў цішы зацятай
Сядзелі ціханька ўдваіх,
А зоркі зорылі на іх,
І цьвіркаў штось кажан над хатай,
І нейкай мараю крылатай
Глядзеў прастор нябёс нямых.
Яна даверліва і шчыра
Хіліла голаў да пляча
„Свайго студэнта-паніча“,
Бо часам ён такі прыдзіра—
Яго пужаў дзявочы вырай,
З ім жарты строіла дзяўча.

Праходзіў час, тускнела лета,
Смугою сьцелючы прастор,
Губляла поле свой убор:
Ліхая цьмілася прымета—
Зьбіралася навала дзе-та,
І здань вайны плыла з-за гор.
І грымнуў раптам гром з Карпатаў,
З-пад тых Дунайскіх берагоў,
І пасьць крывавых абцугоў
Раскрыла прагна рот зубаты.
І жах прайшоў, як біч па хатах
Іржавым звонам ланцугоў.
Мятнуўся віхар паднавальны
І пыл узьняў людзкіх пакут.
І месца кожнае і кут
Пачулі плачу жуд прашчальны.
Вайне, крыві прывет ухвальны
Пісаў дваранскі шалапут.
Вайна! вайна! Вось тое слова,
Што цяжкім каменем лягло,
Бы хмары чорнае крыло,
І зачыніла сьвет сурова,
Страхоцьцем поўніла галовы

І смуткам сэрцы абвіло.
Была гадзіна то цяжкая,
Ї завярцелася жыцьцё
У грозным віры, бы сьмяцьцё.
За плыньню плынь цякла людзкая,
Адна сюды, адтуль другая,
Як прыбярэжнае трысьцё.
Ї ў тэй агульнай суматосе
Жыцьцё утраціла цану.
А за чыю, чыю віну
Яму пакутаваць прышлося?
За што ў крывавым тым пракосе
Сушылі долю не адну?
Каго-ж паклікаць да адказу?
Браты! успомніць час аб ім,
Аб зьверу лютым, заклятым,
Што сее ў нас вайны заразу,
Што сэрца й вочы нам замазаў
Ї глушыць бразгатам пустым.

Пакінуў ён у тую восень
Сваю Валынь і бацькаў дом,
Ї дуб, пабіты пяруном,
Ї крыж збуцьвелы між трох сосен,
Дзе іх сачыла неба просінь,
І сад, і лаўку пад акном.
Вось трэці год з тае часіны,
Як разьвіталіся яны.
Падзеі грозныя вайны,
Неспадзяваныя навіны
Ня сьцерлі з памяці хлапчыны
Той гоман радасьці-вясны.
Ї дзе яна? Што з домам стала?
Чаму лістоў адтуль няма?
Їх год чакае, ды дарма.
Ї дзе яго сям'я прапала?
Няўжо скрышыла ўсё навала,
Глынула варажая цьма?
Пісала-ж Насьця тэй вясною:
„Мой мілы, любы, дарагі!
Мне не пазбыць свае тугі:
У сьне, на яве ты са мною,
Са мной ты кожнаю парою,
Ты мой адзін, ніхто другі.

Я часта-часта шлю маленьне
У патаемнай цішыне,
Каб быў хутчэй канец вайне.
Ды хто пачуе клік тамленьня?
Хто сьцішыць боль майго сумленьня?
Ці прыдзеш, любы, да мяне?
У нас тут дома неспакойна—
Падходзіць фронт, бягуць усе,
Гарматны гук зямлю трасе,
А наша армія бяззбройна,
Адходзіць тлумна і нястройна—
І бог Расіі не ўпасе!
Калецтва, сьмерць! Растуць магілы...
Зямля ў крыві і ў моры сьлёз...
І гэты цёмны, страшны лёс...
Не за сябе дрыжу я, мілы,
А тых мне жаль, хто, поўны сілы,
Выносіць голаву на плёс...
Але няхай цябе ўбароніць
Мой голас сэрца, дарагі!
Далёка нашы берагі.
Ды вецер хмары перагоніць,
І сонца твар свой нам адслоніць,
Душа пазбавіцца смугі“.
  І з тога часу ад Настусі
І з дому вестак ня было—
Усё там здарыцца магло,
І ён за іх таміцца мусіў,
І ныла сэрца ў нейкай скрусе,
Згрызоты хмурылі чало.
Занята родная краіна,
Пяройдзен нейкі Рубікон,
Сюды пасунуўся кардон.
Там можа любая дзяўчына
Пакуту зносіць, як айчына,
Дзе вораг чыніць свой закон.
А можа Насьця добрахвотна
Яго зьмяняла на каго
І мо' на ворага яго—
Дзявоча сэрца мімалётна.
І ён у думках тых журботна
Чаго ні думае, чаго!
Падхопяць мары-палятушкі,

На крыльлях зманных паімчаць,
Каб нейкі новы сказ пачаць
І гэты сказ завіць у стужкі,
Ды сэрца радасьцю пагушкаць,
І зьбіць крывавую пячаць.
Вось ён—гэрой, ваяка слаўны,
На фронце робіць там прарыў,
Дарогу войску ён раскрыў—
Такі ён кемны там, упраўны,
І фронт наседжаны, аддаўны,
Скрышыў ён, зьнішчыў, разбурыў...
Ён гоніць ворагаў з Засьценьня,
Дзе Насьця томіцца даўно...
І так за зьвеньнямі зьвяно
Пляце-складае лятуценьне,
То ў радасьць горне, то ў суценьне
Сваё прывіднае руно...
А перад ім струменіць Кама,
У хвалях сонца з вышыні
Бы сее дождыкам агні,
А грэбень гор у сіняй раме,
У люстры водаў сьцеле плямы
І сталіць тыя струмяні.

— Здарова, красная дзявіца,
Барыс Міхайлавіч Дзяжа!
Аб чым задумаўся, душа?—
Паручык статны бледналіцы,
Паўстаў прад ім, бы нейкі рыцар,
І мары другу распужаў.
Паручык Далін родам з Дону.
Казак вясёлы, патрыот,
Пабыў на фронце роўна год,
Быў у баёх такіх шалёных,
Дзе гіблі ў момант батальёны,—
Ён пападаў у пераплёт!
Вакол зямля агнём палала,
У неба рваліся слупы—
Вар'яцтва, пекла, шал сьляпы!
Тупела ўсё, душа ўнікала,
І ня трывожыла ні мала
Ні сьмерць, ні страшныя трупы...
Яму-ж схадзіла ўсё шчасьліва,
Прад боем толькі думаць мог:

„Ах, хоць-бы раніла, даў бог!
І „храбра“ йшоў ён, хоць на дзіва
Душа траслася баязьліва,
Каб сьмерцю „слаўнаю“ ня лёг.
І раз такі шрапнэльлю ўражжай
Пасекла Даліну сьцягно.
І як зрабілася яно,
У першы момант не заўважыў,
І толькі потым, як-бы сажы
Ў ваччу мільгнула валакно.
Упаў. Ачнуўся на насілках
І чуе радасьці прыліў—
„Я ранен, я астаўся жыў!“
І ходзіць шчасьце па ўсіх жылках,
І чуе ён сябе асілкам—
„Я споўніў доўг, я кроў праліў!“
Ляжаў два месяцы ў шпіталі.
Сястрычка там была адна—
Не забываецца яна!
На славу з ёю пагулялі!..
Адтуль у тыл глыбокі далей,
Вайны-ж разьвязкі ня відно.
Цяпер-жа ён у пятай роце,
Да толькі-ж Даліну ня міл
Трусьлівы, брудны, тыльны „пыл“,
Дзе ўсе жывуць у тэй турботе,
Каб акапацца на „рабоце“
І захавацць на далей тыл.
Дзе ўсякіх строгасьцяй так многа,
Дзе гэты тыльны генэрал
Прыходзіць часта ў дзікі шал,
З сябе стратэга крывіць, бога,
А сам ня ведае нічога,
Стары муштроўшчык і капрал.
— Эй, друг Барыс! пакінь журботы,
Ня мар аб кралячках тайком!
Заклічам іх мы вечарком,
Каханьне купім і залёты,
І сьцішым лішнія турботы
Сваім уласным кашальком.
Ёсьць тут адна душа-красуня—
Фугасным б‘е цябе агнём!
А вочы сьвецяць майскім днём...

Эх, друг Дзяжа! прылашчыць Груня—
Ї Магамэт на рай свой плюне!
Жыві, брат, сёнешнім жыцьцём!
Бяры, што можна ўзяць сягоньня,
А заўтра ў богавых руках,
Ї заўтра можа быць нам крах.
Зірнём-жа радасьці ў бяздоньне
Ї на дзявочае улоньне
Прыхілім тленны мы свой прах.
— Паручык, мілы забулдыга!
Зайздрошчу я табе, ей-ей!
Ня маеш іншых ты ідэй,
Як толькі выкарыстаць з міга—
Табе лягчэй і зносіць іга,
Што душыць сьвет і ўсіх людзей.

— Барыс! мы—пыл, нішто ў сусьвеце,
Ї без яго ня зьменіш, брат,
Як не зьмяніў яго Сакрат.
Пакуль-жа молад ты і ў цьвеце,
Жыві, пусьціўшы на ўзьві-вецер
Сур'ёзны гэты сьветагляд.

— А я, паручык, не магу так
Глядзець на сьвет, на сэнс жыцьця
Ї на мінуты забыцьця,
Ї я ня ў сіле пазбыць смутак,
Бо людзі ўперліся ў закутак,
Замест прогрэсу, разьвіцьця.
Їдзе жывое вынішчэньне
Жывой энэргіі, дабра,
Грыміць крывавая ігра,—
Псыхоз і мозгу атручэньне,
Вар'яцтва, шалу спалучэньне—
Пара задумацца, пара!
— Ты памыляешся, мой мілы:
Вайна—такі жыцьця закон,
Ї над усім пануе ён,
А пацыфізм пусты, завілы,
Над ім ані ня мае сілы,
Ў людзкой крыві яго дракон!

Вось так у вольныя часіны
Яны гутарылі ня раз.
Было—спрачаліся падчас,

І кеплі горкія і кпіны
Былі па адрасу айчыны,
Ня ўсё-ж бо ладненька у нас;
І хоць характары ў іх розны,
Але здружыліся яны:
Адна плынь несла іх чаўны,
Адзін гнаў вецер іх марозны,
І вёз адзін іх нейкі возны
Па сьцежках буры і вайны.

## СОНЭТЫ

### Ясакар

У сонцы дзён, у зорнасьці начэй
Я сеяў іскры сэрца поўнай жменяй.
Мільгалі думы хутка, як імгненьні,
Стацьветныя, як водблескі вачэй.

А маладзік, бы срэбназлоты зьмей,
Кідаў у мора яркае насеньне.
Маўчалі пальмы ў ночным задуменьні,
Я запалонен быў красой чыей?—

Яна была чароўна, бы камэя,
Як успамін, як вешніх красак сон.
Панёс віхор, бы шызай чайкі стогн.

Магутны морскі шторм яе завеяў,
А водгук кліча, як падводны звон,
У зорнасьці начэй, у сонцы дзён.

* * *

Тут неба — даль-бязбрэжніца, як мора,
А мора—сінь-блакітніца нябёс.
Тут нізь і высь сьпяваюць адзін лёс
У неабхопным сонечным прасторы.

Тут краскі каляруюць, нібы зоры,
А зоры—нібы коўшыкі мімоз.
Тут звоны хваль—як звоны гучных кос,
Іх водгалас назад вяртаюць горы.

А там—у нас мяцеліца гуляе
Паміж балот, між курганоў стагоў
У белых іскрах спуджаных сьнягоў.

Мароз скрыпіць у гучназвонным гаі,
Жар-сонца спавіваюць хмары-зграі,
А месяц не залоціць глянц лугоў.

Гагры 15-I—26 г.

## МАУРЫТАНКА

### Валеры Маракоў

Ах, якая ты!.. якая дарагая
І на сцэне сонца прадаеш,
Бо сама, як радасьць, маладая,
Бо сама, як сонца, ты цьвіцеш.

Маўрытанка, песьня ты, ці казка,
Ці прыгожай радасьці прыбой,
Бо ў тваіх вачох зусім ня цяжка
Піць чужую песенную боль.

Сігарэт-вясна,—мы ўсе такія.
Толькі й я хацеў-бы так згараць,
Каб вакол былі ўсе дарагія,
І ў крыві маёй цьвіла зара.

Каб хто-небудзь ціха і балюча
Ў мой апошні, мой трагічны дзень
Апаліў сьлязой сваёй пякучай
Гэта сэрца выпітых надзей.

Каб хто-небудзь блізкім і каханым
Ў вусны мне і ў грудзі цалаваў,
І ў сваім апошнім разьвітаньні
Ўсю душу, ўсё сэрца аддаваў.

Каб ў тумане вечным і прыгожым,
Хто кахаў і песьню і зямлю,
Гаварыў мне ціха і трывожна:
„Мілы мой, люблю, цябе люблю!..“

Ах, якая ты!.. якая дарагая
І на сцэне сонца прадаеш,
Бо сама, як радасьць, маладая,
Бо сама, як сонца, ты цьвіцеш!

* * *

**Валеры Маракоў**

Ў гэтай цемры бязрадаснай ночы
Песьня буры ня скажа—„жыві"...
Сёньня мора жыве і ракоча,
Мора хоча ахвяр і крыві.

Ты пайшла ад мяне, ты пакінула
Гэту радасьць маленькіх надзей...
Ты жадаеш зашмат: над магіламі
Не шкадуюць далёкіх людзей.

Выбачай, можа гэта ня гэтак,
Можа праўда, што сонца для ўсіх.
Каб пялёсткамі месячных кветак
Радасьць гордай прыроды расьціць.

Што-ж з таго?.. я ня веру прыродзе,
Нельга верыць ўсяму, што цьвіце:
Хай ўзрасьлі мы з табой ў непагодзе,
Дык затое ў грудзёх больш надзей...

Слухай, мора жыве гэтай ноччу,
Мора хоча ахвяр і крыві,—
Хай яно злосьцю дзікай рагоча,
Я-ж кажу табе—вер і жыві!

1927 г.

## КАРОТКІЯ РАДКІ

**Аркадзь Моркаўка**

Я сэрца слухаю. І, здэцца, мора жыта
Пад латамі рабёр—пад небасхілам сінім,
На палатне палёў прыгожа, самавіта,
Як сотні год назад—і сёньня стане.
Між поўных каласоў пяшчотны, ціхі, кволы
Застыў і васілёк—блакітны дар красе.
Бы нітку доўгую, зьвіваюць песьню пчолы,
І ён жартліва ім галоўкаю трасе.
Між поўных каласоў, аквечанай мяжою
І ты, і я ідзём. І нас тут толькі двое.
Абвіты мы, як сном, ружоваю зарою...
Я сэрца слухаю. Тваё. З крыві. Жывое.

* * *

**Уладзімер Жылка**

Лятунковасьць, нерашучасьць,
Мая вясна, тває удаласьці
Дзён плывучых нямінучасьць
Зьмяняе ў лета пэўнай сталасьці.

Сёньня я ня той калішні
З вачыма—ціхімі заранкамі;
Вусны ўжо ня тыя вішні,
Як некалі вясны сьвітанкамі.

Юнаку было прынадна
Раскідваць звонка і ня лічачы,
Сэрца мудрае ашчадна
Зьбірае дробкамі вялічачы.

Дзе кахаў нацяк, павеўнасьць,
Сугучнай зьбежнасьці, магутнасьці,
Дзе шукаў адно—напэўнасьць,—
Шукаю сёньня іншай сутнасьці.

Ї дзе біўся, плакаў моўча,
Дарма вымольваў з малітоўнікам,
Там з мячом іду станоўча
Я—пераможны—заваёўнікам.

Думны з натаўпам на пляцы,
Мой прудкі крок на стромасьці.
Час упартай, жніўнай працы,
Вітаю час мае сьвядомасьці!

А калі пяшчот прынадзтва
Мне блісьне ў будняў сьцюжнасьці,—
Гэта васілёк юнацтва
На слуцкім пасе кутай мужнасьці.

1926 г.

## НАД ВОЗЕРАМ...

### З. Бандарына

* * *

Больш гонару, веры — ніхто не пазнае:
Ніхто ня прыкмеціць драпежнай гульні...
Душа захлынецца ў крыві...
У восені—
смутак плыве над курганам...
У восені—
ў вырай лятуць журавы...
Над краем каханым зара дагарае,
Над краем каханым ў цнатлівай цішы.
Больш гонару, веры—ніхто не пазнае:
Душа захлынецца ў крыві...

* * *

Над возерам сонным гайдаюцца вербы,
Хвалююць люстраныя далі, вятры.
Ля берагу здані—рыбацкія чоўны,
Навокала стужкай плывуць паплавы.
Над возерам сонным галосіць дзяўчына,
І падаюць сьлёзы—каралі у жвір.
„Пакінь, супакойся...“—шапочуць галіны,
Лясун выплываючы вабіць у вір:
„Там сьцішна, спакойна, палацы з крышталяў,
І радасьць заўсёды красуе вясной.
Вянкі заплятаюць русалкі з ліліяў,
І скачуць, сьпяваюць вясёлай гурбой...“
І вабіць дзяўчыну бяздонная багна,
І белыя рукі зьвівае, пяе...
Калісьці на возеры сінім кахала,
І гушкалі хвалі ў крылатым чаўне...
Ой, рана з расою, з пунсовай зарою,
На поплавы ўвосень кладзецца імгла.
Нам месячык, зоркі сьвяцілі з табою,
і ціхая зорная ночка плыла...

Ой клаліся роўна істужкі-пракосы,
І водгульле ў пушчы люляла каса,
У зрэб'і падраным зласьлівая ростань
Па пожні зялёнай увечар прайшла.
Над возерам сонным дзяўчына чакала...
Анучаю шэрай крадзецца туга.
Пад вішнямі любага песьціць другая,
Пунсовай усьмешкай вітае зара.
І вабіць дзяўчыну бяздонная багна,
І белыя рукі зьвівае, пяе...
Калісьці над возерам сінім кахала,
І гушкалі хвалі ў крылатым чаўне.

12 лютага 26 г.

## У ПОЛАЦКУ

**Е. Пфляумбаум**

Ой, прывольле бялявых абшараў!
Люба мне пасваволіць з табой
І пазбыцца у сэрцы цяжараў,
Залячыцца халоднай жальбой!
        У нязнаных засьнежаных далях,
        Ой, усход румяніцца ад сноў;
        Наніжу я ўспамінаў каралі
        Пад ласкавай чадрой туманоў.
Аднаўлю залатыя паданьні
І далёкія песьні твае,
Заяскравіцца радасьць сьвітаньня,
Вадаспадам вірлівым заб'е.
        Дарагія ды любыя сьцежкі
        У мэлёдыях, згуках Наддзьвіньня,
        Маё сэрца скаванае цешаць
        Твае чулыя вольныя плыні!..
Пераліўы ў зімовых сугуччах,
Зіхаценьне сьвятлеючых зор,
У акордах ліюцца пявучых
Векавечаць бязьмежны прастор.
        Я схіляюся проста і горда:
        Мне айчызьне радасьць укленчыць,
        Пад крыштальную сьвежасьць акордаў
        Шэпт чаруецца цьвецені вечнай...

# ЦІ БЫЎ СЬПІНОЗА МАТЭРЫЯЛІСТЫМ

*(Да 250 гадавіны ад часу яго сьмерці)*

**Б. Быхоўскі**

Лепшы спосаб ушанаваць памяць вялікага мысьліцеля—дапамога правільнаму і па магчымасьці дакладнаму ўяўленьню аб яго поглядах і іх месцы ў гісторыі філёзофіі. Горшы спосаб—падчыстка яго поглядаў, мадэрнізацыя іх, затушоўка тых ці іншых рысаў філёзофа, дыфірамбы замест об'ектыўнага пазнаньня.

Да ліку асноўных спрэчных пытаньняў навокал вучэньня Сьпінозы належыць пытаньне аб яго разуменьні субстанцыі, з вырашэньнем якога зьвязана азначэньне месца Сьпінозы ў генэолёгіі сучаснага матэрыялізму.

Гарачая дыскусія, якая ўзьнікла ў апошні час па гэтым пытаньні ў нашай марксыцкай літаратуры, ці не пацьвярджае яна яшчэ лішні раз усю веліч гэтага вучэньня, якому і больш як 250 год існаваньня ня прынесьлі забыцьця, не зрабілі яго мяшканцам пыльных вуглоў бібліотэчных архіваў.

Для нас Сьпіноза жыве, даючы раду і дапамагаючы адшліфоўваць і адточваць нашыя сучасныя погляды.

У захапленьні дыскусіяй некаторыя таварышы паставілі пытаньне так, як быццам-бы адмаўленьне паступовага матэрыялізму вучэньня Сьпінозы ёсьць пераход на пункт погляду ідэалізму, як быццам-бы гэтае прызнаньне—абавязковая ўмова ортодоксальнага марксызму. Зусім відавочна нясур'ёзнасьць гэткай пастаноўкі пытаньня. Сапраўды, *выяўленьне* непаступовасьці сьпінозізму і *солідарнасьць* з гэтымі непаступовасьцямі,—рэчы зусім розныя. Сумненьню падпадаюць ня тыя элемэнты сьпінозізму, што ўвайшлі ў вучэньне матэрыялістых XVIII стагодзьдзя, Фэйербаха і Маркса, а паказваюць пункты, якія *адрозьніваюць* сьпінозізм ад наступных матэрыялістых, і толькі яны падпадаюць крытыцы. Спрэчка зводзіцца да таго, наколькі вялікай перапрацоўцы падпала вучэньне Сьпінозы, ператварыўшыся ў сучасны матэрыялізм. Мы не спрачаемся аб тым, што заслугі Сьпінозы, як папярэдніка матэрыялізму новага часу, бясконца вялікія, але мы думаем, што нашы вучоныя, што падстрыгаюць Сьпінозу пад марксыцкі грабянец, пападаюць у другую крайнасьць, яны не даацэньваюць орыгінальнасьць і значэньне наступнай перапрацоўкі сьпінозізму матэрыялістымі. У затушоўваньні адзнак вучэньня Сьпінозы ад матэрыялізму хаваецца небясьпека ня толькі гістарычнага скажэньня, але

і сьціраньне выразных граняй паміж матэрыялізмам і сумежнымі вучэньнямі, пашыранае тлумачэньне матэрыялізму.

Проблема сьпінозізму ўзьнята, як вядома, у марксыцкай літаратуры Г. В. Плехановым, галоўным чынам, у яго артыкулах „Бэрнштэйн і матэрыялізм“ (у сувязі з разглядам работы Штэрна) і „Трусьлівы ідэалізм“ (з поваду работы Петцольда). Менш дакладна Плеханов зварочваецца да гэтага пытаньня ў „Асноўных пытаньнях марксызму“, у прадмове да 2-га выданьня „Л. Фэйербаха“, у прадмове да кнігі Дэборына і ў артыкуле „Ад ідэалізму да матэрыялізму“.

Ва ўсіх гэтых працах Плеханов разглядае Сьпінозу, як паступовага матэрыялістага, і гэткае разуменьне Сьпінозы лічыць адзіна правільным.

Заслуга Плеханова ў тым, што ён зрабіў здабыткам марксыцкай гісторыі філёзофіі разуменьне ролі Сьпінозы ў генэзісе матэрыялізму, што, у процілегласьць хору рэвізыяністых, якія мелі намер парадніць Маркса з рэакцыйнай ідэалістычнай філёзофіяй, ён абвясьціў крэўнасьць сучаснага матэрыялізму з вучэньнем гэніяльнага голяндзкага яўрэя. Станоўчы адказ Плеханова на запытаньне аб тым, „ці ёсьць што-небудзь агульнае паміж філёзофскімі ідэямі Маркса-Энгельса, з аднаго боку, і Сьпінозы—з другога“, застаецца нязрушным здабыткам гісторыі матэрыялізму. Няма спрэчак, што ў арсэнале марксыцкай філёзофіі спадчына Сьпінозы займае не апошняе месца, і нам менш усяго падабае трэціраваць яго як „мёртвага сабаку“. Тэй ідэйнай спадчынай, якую асыміляваў наступны матэрыялізм і якую данёс да сучаснага моманту, мы лічым:

1. Натуралізм, адмаўленьне звышпрыроднага пачатку, трансцэндэнтнай мэтазгоднасьці, разуменьне самавыстарчальнасьці прыроды, вывучэньне яе, як causa sui.

2. Монізм, пункт погляду адзінства прыроды, зьнішчэньне разрыву паміж богам і сусьветам, з аднаго боку, і markознымі сфэрамі прыроды—з другога. Разуменьне сусьвету, як сыстэмы модыфікацый аднае і адзінае субстанцыі.

3. Зацьверджаньне дэтэрмінізму ў якасьці кардынальнага прынцыпу існаваньня і мэтоду дасьледваньня. Абвяржэньне тэолёгізму і да канца паступовае правядзеньне прычыннай канечнасьці, як цэнтральнай пружыны мэханізму прыроды.

4. Частковая празорлівасьць нашых гносэолёгічных асновапалажэньняў, гэткіх адносін да проблемы магчымасьці об‘ектыўнага пазнаньня, якое нашы супраціўнікі называюць гносэолёгічным „догматызмам“. Разуменьне немагчымасьці разрыву паміж ідэяй прадмету і прадметамі ідэі.

5. Зародкі гістарычнай крытыкі так званага сьвятога пісаньня.

6. Вызваленьне этыкі і тэорыі дзяржавы ад рэлігійнай залежнасьці, спроба абаснаваць аўтономную ад тэолёгіі антраполёгічную этыку і тэорыю дзяржавы.

Гэтым мы ня думаем вычарпаць усіх пунктаў, якімі сьпінозізм датыкаецца да наступнага матэрыялізму, а толькі адзначыць найбольш важныя.

Разыходжаньне наша з Плехановым адносіцца да пытаньня аб тым, ці законна прыпісваць Сьпінозе таксама і выразны матэрыялістычны пункт погляду. Ці ня прышлося матэрыялістым XVIII стагодзьдзя, якія прынялі пералічаныя дасягненьні яго вучэньня, павярнуць гэтую сыстэму на 90° і паставіць, такім чынам, на матэрыялістычны кант. У гэтым пытаньні, як мы пастараемся давесьці, Плеханов дапусьціў памылковае тлумачэньне вучэньня Сьпінозы. Задачу вучняў складае ня ўпартае настойваньне на памылцы настаўніка, а вызваленьне ад яе яго карысных досьледаў аб Сьпінозе. Калі мы сказалі вышэй, што веліч Сьпінозы ад гэтага ня зьменшыцца, дык ня зьменшыцца гэтым і выдатная фігура Плеханова. Паасобныя яго памылкі, як памылка тэорыі іерогліфаў, і якая разглядваецца, зусім не зварухнуць яго магутнага філёзофскага аўторытэту, бо яму самому мы абавязаны тэй распрацоўкай марксыцкай тэорыі, якая дазваляе нам удасканаліць падобнага роду проблемы.

Якія-ж асноўныя аргумэнты праводзіць Плеханов, каб абаснаваць матэрыялізм Сьпінозы?

Параўнаўшы яго вучэньне з вучэньнем матэрыялістых XVIII стагодзьдзя, Плеханов імкнецца тэкстуальна ўстанавіць, што ня верна шукаць розьніцы паміж абодвума вучэньнямі ў тым, што матэрыялістыя адрозьніваліся ад Сьпінозы тым, што выводзілі мысьленьне з руху, а што, наадварот, яны, падобна Сьпінозе, лічылі мысьленьне разам з рухам, пашыральнасьцю, непрапушчальнасьцю і г. д. уласьцівасьцю матэрыі*). Калі сказанае аб матэрыялістых бязумоўна верна, дык сказанае аб Сьпінозе патрабуе наступных заўваг. З пункту погляду Сьпінозы, як вядома, рух, пашыральнасьць і г. д. ёсьць модусы аднаго атрыбуту,—атрыбуту працягальнасьці, мысьленьне-ж ёсьць другі атрыбут, модусам якога зьяўляецца, напрыклад, розум, воля і г. д. Ставіць у адзін рад гэтыя зьявішчы, з якіх адны модусы, другія атрыбуты—немагчыма. Да таго-ж для Сьпінозы працягальнасьць і мысьленьне—гэта атрыбуты аднэй субстанцыі таксама, як у матэрыялістых яны ёсьць „атрыбуты" аднэй матэрыі. Аднак, гэтая бязумоўна правільная аналёгія застаецца толькі аналёгіяй, а не тожсамасьцю, пакуль не даведзена, што субстанцыя Сьпінозы і матэрыі матэрыялістых—паняцьці тожсамыя, што ён і яны аднолькава ўяўляюць *субстрат адзінства* абодвух атрыбутаў. Толькі калі будзе даведзен гэты тэзіс, аналёгічнае меркаваньне будзе ўтоежсамасьцю. Патрэбна давесьці ня толькі тое, што Сьпіноза, падобна матэрыялістым, ня зводзіць мысьленьне да руху, але і тое, што ён, падобна ім, зводзіць мысьленьне да матэрыі. Апрача таго, канечна, патрэбна даць адказ на пытаньне аб тым, ці ня зводзіць Сьпіноза цалкам і без астачы

*) Г. Плеханов. Сочинения, т. XI и след.

матэрыю да працягальнасьці і руху ў адпаведнасьці з геомэтрычна-мэханічнай концэпцыяй Дэкарта. Мае рацыю Плеханов, калі бачыць падабенства ў дапушчэньні „соединительного звена“ паміж абодвума атрыбутамі, устанаўленьне іх „общего корня“ [1]), але ён не паставіў пытаньня аб *характары* гэтага „соединительного звена“, някрытычна ўтоесаміўшы яго з матэрыяй. У далейшым мы ўпэўнімся, што ніводнага аргуманту ў абарону гэткага разуменьня субстанцыі Плеханов ня даў і даць ня мог. Прыведзены аргумант даводзіць толькі тое, што, падобна матэрыялістым, Сьпіноза быў моністым, але ці быў яго монізм матэрыялістычным, застаецца яшчэ ня высьветленым.

Другім аргумантам, на падставе якога Плеханов ня бачыць зусім ніякае істотнае розьніцы паміж сьпінозізмам і матэрыялізмам Лямэтры і Гольбаха, зьяўляецца дапушчэньне апошнімі *адушаўленьня ўсякай* матэрыі, адрозьніваючы яе толькі па ступені [2]). Для пытаньня, якое разглядваецца, аднак, важна ня гэта, а характар залежнасьці, і ў гэтым выпадку меў-бы рацыю Плеханов, калі-б субстанцыя Сьпінозы была роўна матэрыі; калі-ж, як мы пакажам у далейшым, матэрыі ў Сьпінозы адпавядае атрыбут працягальнасьці, дык паралель паміж гіполоізмам яго і матэрыялістых XVIII стагодзьдзя толькі яшчэ яскравей адцяняе сутнасьць адменнасьці паміж імі.

Сьпіноза рашуча пакінуў бязвыхадны картэзіянскі дуалізм, ён кінуў вучэньне аб дзьвюх субстанцыях, з якіх адна бясплотная. Але, адышоўшы ад дуалістычнага сьветапогляду, ці дайшоў ён да *матэрыялістычнага* монізму ці спыніўся на шляху, на монізьме *паралелістычным*, дзе дуалізм адхіляецца адмаўленьнем субстанцыянальнасьці як духу, *так і матэрыі*, а монізм дасягаецца ўвядзеньнем іманэнтнага абодвум атрыбутам зьвязваючага іх дамінуючага ў іх прынцыпу ня духоўнага і не матэрыяльнага. Плеханов мае рацыю, калі адзначае, што Сьпінова парваў з тлумачэньнем мысьленьня з уласьцівасьцяй бясплотнай субстанцыі, дзякуючы чаму яго філёзофія радніцца з Гольбахам, але ў вучэньні Сьпінозы яшчэ не зарубцаваліся сьляды разрыву з дуалізмам Дэкарта: яго вучэньне паднялося толькі да моністычнага паралелізму атрыбутаў.

Заметка, якая прыводзіцца Плехановым з XV тому „Энцыклёпэдыі“ ў карысьць свайго погляду, у сапраўднасьці нядвухзначна абвяргае Плехановскі погляд: „Ня варта—пачынае сваю заметку Дзідро—зьмешваць адных з другімі старых і новых сьпінозістых“. Чаму-ж ня сьлед іх зьмешваць, у чым адрозьніваньне паміж імі? У тым, „што апошнія (г. зн. новыя сьпінозістыя. Б. Б.) выходзяць з таго асноўнага прынцыпу, што матэрыя здольна адчуваць“. Відавочна, у адзнаку ад іх, *старыя* сьпінозістыя ня лічаць, што матэрыя здольна адчуваць. Спаслаўшыся на факты, якія гавораць аб ператварэньні нежывога ў жывое, Дзідро канчае

[1]) Сочинен. I. VIII стар. 126.
[2]) Том XI стар. 15.

заметку словамі: „Адсюль яны (г. зн. новыя сьпінозістыя ў адзнаку ад старых. Б. Б.) выводзяць, што існуе адна толькі матэрыя і што яе існаваньне служыць выстарчаючым аб'ясьненьнем усіх зьявішч“ [1]). Урэшце, яны цьвёрда трымаюцца ўсіх вывадаў старога сьпінозізму. Здаецца ясна, што пры ўсёй сваёй крэўнасьці з матэрыялізмам, сьпінозізм, па думцы Дзідро, адзначаецца ад яго тым, што прызнае існаваньне не аднэй толькі матэрыі, і тым, што не прызнае, што матэрыя здольна адчуваць. Як мог Плеханов на гэтай падставе вывесьці, што Сьпіноза быў матэрыялістым, і пісаць (у прадмове да кнігі Дэборына), што матэрыялізм Сьпінозы быў апрануты ў тэолёгічную вопратку. („Гэніяльны Дзідро разумеў гэта, і *таму* ён, як мы бачылі вышэй, не хацеў зьмешваць „новых сьпінозістых“ з старымі“ [2]). Не, зусім не таму перасьцерагаў Дзідро ад іх зьмешваньня, а таму, што ня лічыў стары сьпінозізм матэрыялістычным. Зусім ня дзіўна, што Плеханов адкрыта прызнае, што з гэтага яшчэ ня зусім ясна відаць, у чым ёсьць, па думцы Дзідро, „перавага новага сьпінозізму параўнаўча са старым“ [3]), адмовіўшыся ад прадузятага пункту погляду на „субстанцыю“ Сьпінозы, гэтая перавага становіцца „зусім ясна віднай“, і дапушчэньне Плеханова, што „вельмі праўдападобна, магчыма, зусім верна, што Дзідро адмаўляў *толькі* тое, што называюць пантэізмам Сьпінозы [4])“ становіцца зусім няпраўдападобным.

На папярэдніх старонках таго-ж тому „энцыклёпэдыі“, адкуль узята прыведзеная Плехановым заметка „Сьпінозіст“, зьмешчаны вялікі артыкул Дзідро „Сьпінозізм“, з якога прыводзім толькі адно месца, якое мае адносіны да нашай тэмы: „Каб разабраць пытаньне па сутнасьці, трэба весьці разважаньне з сьпінозістымі наступным чынам. Ці падыходзіць матэрыі адносна да бога існцінны і сапраўдны характар модыфікацыі, ці не... Калі вы скажаце, што ён (Сьп. Б. Б.) зацьвярджаў, што бажэственная *субстанцыя ёсьць прысутны суб'ект матэрыі*, працягальнасьці і мысьленьня ва ўсёй іх шматвобразнасьці, у тым-жа сэнсе, у якім, згодна Дэкарту, працягальнасьць ёсьць прысутны суб'ект руху, душа чалавека ёсьць прысутны суб'ект адчуваньняў і палу, гэта ўсё, што мне патрэбна, так я зразумеў Сьпінозу, на гэтым грунтуюцца ўсе мае супярэчаньні“ [5]). Мусіць, ня знойдзецца нікога, хто-б жадаў спрачацца, што ў гэтай цытаце Дзідро ня ўтоесамлівае „субстанцыю“ Сьпінозы з матэрыяй і якраз на гэтай розьніцы грунтуе свае супярэчаньні. Падагульніўшы вынікі аналізу спасылкі Плеханова на Дзідро, трэба сказаць, што калі наступныя аргуманты Плеханова *не давялі* правільнасьці яго погляду, дык пададзены—даводзіць яго няправільнасьць.

---

1) Encyclopèdie t. XV p. 474. Пер. Плеханов соч. т. XI стр. 16-17.

2) Сочин. т. XVIII стр. 316.

3) Том XI стр. 17.

4) Ibidem.

5) Encyclopèdie t. XV p. 468. Руск. пер. „Под знаменем марксизма“ за 1923 г. № 6-7 стр. 171-172.

Раней чым зьвярнуцца да другіх аргумантаў, мы лічым саячасовым прывесьці нейкія заўвагі ў карысьць таго, што паняцьце субстанцыі ў вучэньні Сьпінозы мае зусім інакшы сэнс, чым паняцьце матэрыі.

Сьпіноза пакінуў у сіле картэзіянскае адрозьніваньне працягальнасьці і мысьленьня ва ўсёй іх спэцыфічнасьці і ўзаемнай незвадзімасьці: „Ні цела ня можа абумовіць душы да мысьленьня, кі душа цела да руху ці да спакою, ці да чаго-небудзь іншага (калі ёсьць што-небудзь гэткае) [1]) Два розныя атрыбуты ня могуць абумовіць якую-небудзь *агульнасьць* паміж рэчамі працягальнымі і мысьленымі. Модусы абодвух атрыбутаў самі па сабе ня могуць быць у якой-бы то ні было сувязі адно да аднаго і зусім ня здольны абумовіць адзінства рэчы. Такім чынам, разабшчоннасьць атрыбутаў застаецца ў сіле, і *самі па сабе* яны, як і дэкартаўскія субстанцыі, нязьмерны і непрапушчальны адзін для аднаго.

Прызнаючы два самастойных атрыбуты, Сьпіноза імкнецца разьвязаць проблему тым, што яны зьяўляюцца *двума* атрыбутамі *аднэй і тэй-жа* субстанцыі. Такім чынам, устанаўленьне сувязі пераносіцца на насіцеля абодвух гэтых розных пачаткаў, на субстанцыю, якая ўвасабляе і зьдзяйсьняе адзінства абодвух нязводзімых адно на аднаго пачаткаў. „З гэтага відаць, што хоць і могуць быць прадстаўлены два атрыбуты, рэальна розныя, г. зн. адзін без дапамогі другога, аднак, з гэтага мы ня можам рабіць вывад, што яны складаюць дзьве істоты ці дзьве розныя субстанцыі. Бо прыродзе субстанцыі ўласьціва, каб кожны з яе атрыбутаў уяўляўся сам па сабе, так як усе атрыбуты, якія яна мае, заўсёды разам былі з ёй, і адзін з іх ня мог быць вытвараны другім; але кожны з іх паказвае рэальнасьць ці істоту субстанцыі“ [2]).

Такім чынам, калі ў Дэкарта за розьніцай атрыбутаў ідзе сьледам іх рэальнае разабшчэньне, г. зн. уяўленьне аб існаваньні кожнага з іх самастойна, асобна, у адсутнасьці другога,—у Сьпінозы гэтай рознасьці атрыбутаў не спадарожнічае іх *рэальная самастойнасьць*. Наадварот, ніколі адзін з двох розных атрыбутаў бяз другога ня існуе; абое, ва ўсёй сваёй адменнасьці і нязьмернасьці, ня маюць самастойнага існаваньня, а прадстаўляюць сабою адзінства, у якім наяўнасьць аднаго з атрыбутаў дапушчае наяўнасьць і другога. Тут мы маем формальную сувязь, сувязь па існаваньні, больш дакладна,—канечнае адзінства існаваньня. Усе рэчы двохбаковыя, усякае адзінства дваістае, у кожнай рэальнай зьяве маюць месца корэляцыйныя—працягальныя і мысьлячыя — выяўленьні аднэй і адзінай субстанцыі.

Разгледзім, што зьяўляецца насіцелем гэтага адзінства і, перш за ўсё, ці не зьяўляецца ім матэрыя. Не, субстанцыя ня ёсьць матэрыя. Мы маем простыя ўказаньні Сьпінозы, у якіх ён адмаўляе тожсамасьць яго „субстанцыі“ з матэрыяй. Так, у „Богаслоўска-палітычным трактаце“ ён

[1]) Этика ч. III т. 2.

[2]) Этика ч. I ех. т. 10.

заўважвае, што „я разумею пад прыродай не адну матэрыю і яе стан, але, апрача матэрыі, і іншае бязьмежнае“ [1]). Таксама і ў лісьце да Ольдэнбурга: „Калі некаторыя чытачы лічаць, што „Теолого-Политический Трактат“ выходзіць з думкі аб тожсамасьці бога і прыроды (прычым пад прыродай разумеецца нейкая маса ці рэчавая матэрыя), дык яны вельмі памыляюцца [2]), у чым-жа падстава звычайных памылак у тлумачэньні Сьпінозы ў гэтым пытаньні? Яны выплываюць з адрозьніваньня, якое робіцца паміж матэрыяй і працягальнасьцю. Працягальнасьць, гавораць, не адэкватна матэрыі, а зьяўляецца толькі аднэй з яго ўласьцівасьцяй. На гэтай падставе адмаўляюцца бачыць у *адным* з атрыбутаў увасабленьне матэрыі, і утоесамліваюць адносіны працягальнасьці да субстанцыі з адносінамі працягальнасьці да матэрыі. Але-ж гэтае разважаньне зьяўляецца продуктам модэрнізацыі. Для Сьпінозы (і ў гэтым пытаньні ён быў зусім *сынам* сучаснай яму навукі і аднадумцам Дэкарта) якраз і характэрна *геомэтрычна-мэханічнае разуменьне матэрыі,* утоесамліваньне матэрыяльнага з працягальным. Для мэханістых матэрыя ёсьць працягальнае, яе зьмены—мэханічны рух, перамена месца. Матэрыя разумеецца ня як «corpus», а як «solide», не як фізычнае, а як геомэтрычнае цела. Досыць учытацца ва ўсе тыя аддзелы, дзе Сьпіноза гаворыць аб целах, каб не засталося ніякай спрэчкі аб гэткім абстрактна-мэханічным разуменьні Сьпінозай матэрыі. Для яго ўсё ў матэрыі, апрача працягальнасьці, формы і руху—імагінацыя, выдумка, памылка, якой няма месца ў існцінай філёзофіі. Вось чаму *ўтоесамліваньне працягальнага і матэрыяльнага* пры разглядзе сьпінозізму—абавязкова. Сьпіноза ўтоесамлівае матэрыю з атрыбутам працягальнасьці.

Да розьніцы ў разуменьні матэрыі паміж Сьпінозай і Дзідро можна дапасаваць словы Маркса наконт Гобса і Бэкона. У першага „зьявішчы надворнага сусьвету трацяць свае фарбы і становяцца адцягненымі зьявішчамі геомэтра. Фізічны рух прыносіцца ў ахвяру руху мэханічнаму ці матэматычнаму. Геомэтрыя абвяшчаецца галоўнейшай навукай“ [3]), у другога-ж „матэрыя захоўвае поэтычна-чулы бляск і ласкава ўсьміхаецца цэльнаму чалавеку“ [4]). Было-б удзячнай задачай для ўясьненьня розьніцы паміж паралелістычным монізмам Сьпінозы і матэрыялістычным монізмам параўнаць вучэньне Сьпінозы і Гобса.

Вырашаючае значэньне для разуменьня таго, як у самай справе мысьліў Сьпіноза гэтага насіцеля адзінства, г. зн., што ён разумеў пад паняцьцем субстанцыі, мае VII-ая тэорэма 2 часьці „Этыкі“, якая гаворыць: „Парадак і сувязь ідэй тожсамы парадку і сувязі рэчаў“ (Ordo a connexio idearum idem est ac ordi ex connexio rerum). Мы ведаем, што

[1]) Гл. VI § 10 примечание.

[2]) Письмо № 21 от ноября—декабря 1675 г.

[3]) Маркс-Энгельс „Святое семейство“, гл. VI, § 3.

[4]) Ibidem.

целы і ідэі ня толькі ня тожсамыя, але зусім розьняцца; што-ж зьяўляецца субстратам адзінства гэтых розных атрыбутаў? Адзіным у гэтых розных атрыбутах зьяўляюцца іх *парадак і сувязь*. Самі атрыбуты розьняцца, іх парадак і сувязь тожсамыя. Ordo ex connexio—вось што азначае адзінства абодвух атрыбутаў, бо ён у іх „Idem esx". Іманэнтныя атрыбутам парадак і сувязь, г. зн. законамернасьць—*адзінае*, што агульна абодвум атрыбутам, што можа быць насіцелем іх монізму. У гэтай тэорэме Сьпіноза з поўнай яснасьцю раскрыў сэнс, які ўкладаецца ім у паняцьце субстанцыі—субстрату адзінства атрыбутаў.

У наш час знаходзяцца дзівакі, якія гатовы гэтую тэорэму разглядаць, як довад матэрыялізму Сьпінозы. Чаму, кажуць яны, ня сказана што парадак рэчаў адпавядае парадку ідэй, а не наадварот. Гэткім опонэнтам застаецца ад усяе душы рэкомэндаваць набыць элемэнтарныя веды з школьнай лёгікі. Маючы гэткія веды, яны-б зразумелі, што парадак частак гэтага сказу меў-бы значэньне, калі-б паміж імі ўстанаўляліся адносіны залежнасьці, суб'ордынацыі, але зусім усё роўна, калі ўстанаўляецца стасунак тожсамасьці. Гэта ўсё роўна, як лічыць, што сказ „Парадак і сувязь пальцаў мае правае рукі той-жа, што і левай" адрозьніваецца ад сказу: „Парадак і сувязь пальцаў мае левае рукі, той-жа, што і правай". З гэткім-жа правам можна ўгледзець у адным з гэтых сказаў левы ўхіл, у другім—правы. Таксама заўважым, што ў Сьпінозы гаворыцца не аб тожсамасьці парадку ідэй з парадкам цел (corporum), а з парадкам рэчаў (rerum). А гэта для Сьпінозы зусім не адно і тое самае, так як рэч—ёсьць модус субстанцыі ў абодвух яе атрыбутах—цела+ідэя. Для Сьпінозы, згодна якому, ідэя ёсьць ня толькі ідэя цела, але і ідэя ідэі, прыведзеная ім формулёоўка больш дакладная, урэшце, сам Сьпіноза выразна і ня двухсэнсоўна гаворыць аб гэтым, паўтараючы ў доказ з т. I ч. V прыведзеную формулу: „Парадак і сувязь ідэй той-жа, што парадак і сувязь рэчаў, і, наадварот, парадак і сувязь рэчаў той-жа, што парадак і сувязь ідэй. Пагэтаму, як парадак і сувязь ідэй у душы ўчыняецца па парадку і сувязі ўражаньняў цела, так і, наадварот, парадак і сувязь уражаньняў цела ўчыняецца згодна таму, як разьмяшчаюцца і зьвязваюцца ў душы мысьлі і ідэі рэчаў,—што і патрэбна было давесьці".

Возьмем яшчэ некалькі адрыўкаў, каб пацьвердзіць тое, што адна і адзіная сусьветная законамернасьць, якая праяўляецца ў паралельных зьменах атрыбутаў, працягальнасьці і мысьленьня і іманэнтная ім—і зьяўляецца істотнасьцю,—субстанцыяй прыроды. „У прыродзе няма нічога, што можна-б было аднесьці да яе неўдасканаласьці; бо яна заўсёды і ўсюды адна і тая-ж, і яе сіла і здольнасьці дзеяньня заўсёды аднолькавы; г. зн. законы і правілы прыроды, па якім усё робіцца і мяняецца з адных форм у другія, заўсёды і ўсюды адны і тыя-ж, і таму існуе толькі адзін спосаб зразумець прыроду ўсякіх рэчаў, іменна пры дапамозе агуль-

ных законаў і правіл прыроды [1]). Об'ектыўная законамернасьць—асяродак адзінства прыроды. „Калі-б у прыродзе здарылася што-небудзь гэткае, што пярэчыла-б яе ўсеагульным законам, то гэта пярэчыла-б і разуму, і прыродзе бажэственнай; ці каб хто запэўняў, што бог робіць штонебудзь наперакор законам прыроды, той быў-бы павінен у той-жа час запэўняць, што бог робіць наперакор сваёй прыродзе. Большай бязглуздзіцы быць ня можа. Гэтае-ж самае лёгка можна было-б паказаць з таго, што магутнасьць прыроды сапраўды ёсьць сама бажэственная магутнасьць і сіла, бажэственная-ж магутнасьць ёсьць самая што ні на ёсьць істота бога [2]). Інтэлектуальная любоў да бога, гэты поўмістычны—поўрацыяналістычны фінальны акорд вялікай філёзофскай сымфоніі Сьпінозы ёсьць нішто іншае, як углыбленьне ў пазнаваньне гэтай усё пранікаючай сусьветнай законамернасьці.

З сказанага выплывае, што ніякіх пераваг мэтод пазнаньня законамернасьці прыроды пад атрыбутам працягальнасьці ня мае параўнаўча з вывучэньнем той-жа законамернасьці пад атрыбутам мысьленьня. Абодва мэтоды аднолькава роўнапраўны для мэт пазнаньня рэальнай законамернасьці, бо кожны з атрыбутаў выказвае вечную бязьмежную існасьць [3]), абодва аднолькава рэальны, і тут няма месца для прывілееванага становішча об'ектыўна-матэрыялістычнай мэтодолёгіі. Выяўленьне прычыннай сувязі пад атрыбутам мысьленьня роўнарэальна прычыннай сувязі пад атрыбутам працягальнасьці і незалежна ад яго. Тып сувязі паміж абодвума атрыбутамі рэчы, магчыма, можа быць выказан паняцьцем „со-данность“ или „со-бытие“, ці больш дакладна „единобытие“, біморфнае існаваньне законамернасьці. Тут няма ня толькі ўзаемадзеяньня, тут няма і „формальнай“ *первястковасьці* аднаго з элемэнтаў, первястковасьці па існаваньню. Няма ня толькі суб'екта бяз об'екту, але і об'екту бяз суб'екта. Душа не ўласьцівасьць цела, а *адзінства* душы і цела, рэч,—модус бязьмежнай законамернасьці. Так трэба разумець словы Сьпінозы: „Душа і цела—адна і тая-ж рэч, якая разглядаецца то пад атрыбутам мысьленьня, то пад атрыбутам працягальнасьці [4]). Адзінства сусьвету не ў яго матэрыяльнасьці, а ў яго законамернасьці.

Зьвернемся да другіх аргумантаў Плеханова. Ён ня раз прыводзіць водзыў Фэйербаха аб Сьпінозе, згодна якога, субстанцыя Сьпінозы нішто іншае як прырода, а асноўны недахоп яго філёзофіі—ператварэньне прыроды ў мэтафізычную тэолёгічную існасьць, утоесамліваньне яе з богам.

Наконт гэтай спасылкі на Фэйербаха абмяжуемся двума заўвагамі. Папершае, Фэйербах указвае, што таямніца сьпінозізму—прырода, але-ж не займаецца аналізам гэтага паняцьця, не аналізуе: ці разумеецца пры-

---

1) „Этика“. Предисловие к ч. III.

2) Богословско-политический трактат гл. VI § 9.

3) „Этика“ определ. 6 и т. II ч. III.

4) Ibid. ч. III ех т. 2.

рода матэрыялістычна, ці як-небудзь інакш, для яго ў гэтым выпадку важны натуралізм, антытэолёгізм Сьпінозы. Фэйербах лічыць патрэбным зрабіць заўвагу: „Адменнасьці паміж матэрыялізмам, эмпірызмам, рэалізмам і гуманізмам тут, у гэтым артыкуле ня, маюць, канечна, значэньня [1]). А для ацэнкі разглядаемага пытаньня гэта адрозьніваньне мае *рашучае* значэньне, пастаўленае-ж Фэйербахам пытаньне аб натуралізьме Сьпінозы зусім *бясспрэчна*. Падругое, Фэйербах, і ў тым-жа самым адрыўку, *не згаджаецца* з Плехановым „ён (Сьпіноза Б. Б.) пісаў Фэйербах, ператварае *матэрыю*, адмаўленьне бога ў *прэдыкат ці атрыбут* бажэственнай істотнасьці. Але, ператвараючы матэрыю ў *атрыбут бога*, ён тым самым абвяшчае яе бажэственнай істотнасьцю“ [2]). Зусім нядвохсэнсоўна Фэйербах у процілегласьць Плеханову ня лічыць субстанцыю матэрыяй, а *суб'ектам, прэдыкатам* ці атрыбутам, *якой* зьяўляецца матэрыя. Відавочна, Фэйербах утоесамліваў у вучэньні Сьпінозы матэрыю з *працягальнасьцю*. Такім чынам, трэба было не *спасылацца* на Фэйербаха у пацьверджаньне свайго тэзісу, а *абвергнуць* яго. Плеханов прыводзіць словы Фэйербаха: „ісьціныя адносіны мысьленьня да існаваньня складаецца з таго, што існаваньне гэта суб'ект, мысьленьне—прэдыкат і г. д.“, але ня бачыць, што розьніца паміж Сьпінозай і Фэйербахам ёсьць у тым, што для першага з іх і матэрыя—прэдыкат. Ergo, спасылка на Фэйербаха таксама даводзіць зваротнае таму, што хацеў давесьці Плеханов, як і спасылка на Дзідро.

Дальш, Плеханов спасылаецца на 12 т. II ч. „Этыкі“, дзе гаворыцца: „Усё, што здараецца ў прадмеце ідэі, якая складае чалавечую душу, павінна быць успрымаема чалавецкай душой, другімі словамі, аб тым неабходна будзе ў душы ідэя, г. зн. калі прадмет ідэі, якая складае чалавечую душу, будзе цела, дык нічога ня можа здарыцца ў гэтым целе, што ня было-б успрынята душой“.

Ці могуць падобныя мысьлі (а іх шмат у этыцы) служыць пацьверджаньнем матэрыялізму Сьпінозы? Ці можна на падставе гэткага ходу мысьляў утоесамліваць сьпінозізм з філёзофіяю Фэйербаха? Не, і вось чаму.

Мысьленьне можа разглядацца дваяка: папершае, як суб'ект ідэй, як прымальнік і насіцель мысьляй, як нейкага роду дзейнасьць, ці па тэрмінолёгіі Сьпінозы—формальная рэальнасьць. Атрыбут мысьленьня застаецца самім сабою, *што-б ён ні мысьліў*. Яго рэальнасьць і ўласьцівасьць—неабходная ўмова ўспрыняцьця якіх-бы то ні было ідэй. З другога боку, мысьленьне можа разглядацца з пункту погляду яго зьместу, з пункту погляду таго, *што* ім мысьліцца, што ператвараецца ў ім. Хоць і няма мысьленьня бяз мысьлімага, але-ж было-б вялікай памылкай зьмешваць гэтыя паняцьці—мысьленьне з яго зьместам, мысьленьне, як суб'ект

[1]) Фэйербах сочинения т. I. стр. 94.
[2]) Ibid стр. 93.

з об'ектам мысьленьня. Адпаведна, ня сьлед зьмешваць двох радоў залежнасьці: залежнасьць мысьленьня ад матэрыі, *як уласьцівасьць*, з залежнасьцю *зьместу* мысьленьня ад матэрыі, як яе *аб'екту* (уяўленьне) [1]). Тое, што дадзены прадмет абумоўлівае вядомае атабражэньне у люстэрку, канечна, не даводзіць, што дадзены прадмет абумоўлівае здольнасьць люстэрка атабражаць і самае існаваньне атабражаючага люстэрка. Зьмешваньне абоега роду залежнасьцяй ёсьць зьмешваньне гносэолёгічнага і онтолёгічнага пункту погляду.

„Згодна вучэньню Сьпінозы мысьленьне знаходзіцца ў об'ектнай залежнасьці адносна да цела, г. зн. залежнасьці адносна зьместу; зьместам, об'ектам мысьленьня зьяўляюцца цялесныя зьмены (паміж іншым, ня толькі яны, бо душа адначасова і idea mentis). Дасягаецца гэта ня ў сілу таго, што цела робіць уплыў на душу і вызывае ідэі, а дзякуючы таму, што тая-ж законамернасьць, якая азначае цялесныя зьмены, у той самы час ёсьць законамернасьць, што азначае парадак і сувязь ідэй, г. зн. у сілу паралелізму атрыбутаў субстанцыі. Каб Сьпіноза трымаўся процілеглае думкі, г. зн. лічыў, што зьмест мысьленьня, матэрыяльныя об'екты—толькі ўласьцівасьць, продукцыя мысьленьня, дык ён быў-бы непаралелістычным моністым, а ідэалістычным моністым, прыхільнікам ідэалістычнай тожсамасьці. Але гэтага прызнаньня мала, каб быць залічаным у матэрыялістычныя моністыя. Для апошняга неабходна прызнаваць і онтолёгічную другараднасьць мысьленьня, другараднасьць мысьленьня адносна да матэрыі па істоце і існаваньню. Сьпіноза гэтага не зрабіў.

„*Формальнае* існаваньне ідэі кола можна зразумець толькі цераз другі модус мысьленьня, як цераз сваю бліжэйшую прычыну; гэты ў сваю чаргу цэраз трэці і так бяз конца; так што, калі рэчы разглядаць, як модус мысьленьня, дык і парадак усяе прыроды ці сувязь прычын мы павінны выказаць з дапамогаю атрыбута мысьленьня [2]). Сьпіноза не прызнае онтолёгічнай первястковасьці матэрыі адносна да мысьленьня. Сьпіноза дапушчае ўнутраную псыхічную прычыннасьць. Для яго, у адменнасьць ад нас, мысьленьне ёсьць мысьленьне ня толькі суб'ектыўна, але і об'ектыўна. Утоесамліваньне гэткага разуменьня з фэйербахаўскім „Што дзеля мяне, ці суб'ектыўна, ёсьць чыста духоўны, нематэрыяльны, непачуцьцёвы акт, тое само па сабе, об'ектыўна, ёсьць акт матэрыяльны, пачуцьцёвы“ [3]) — ёсьць ці неразуменьне сьпінозізму, ці неразуменьне фэйербахіанства.

Плеханов спадзяваўся, што „апублікаваньне рукапісаў, якія находзяцца сярод літаратурнай спадчыны Маркса-Энгельса, унясе новы

[1]) „Об'ект для мяне ёсьць ня толькі адчувальны прадмет, але таксама аснова, неабходная ўмова майго адчуваньня“; Плеханов соч. т. XVIII. стр. 189.

[2]) Этика ч. II, т. VIII.

[3]) Т. XI. стр. 19.

сьвет у гэтае пытаньне“ [1]). Але чаканьні Плеханова ня спраўдзіліся. У „Дыялектыцы прыроды“, якая нездаўна апублікавана, таксама ёсьць толькі дзьве фразы аб Сьпінозе. Першая: „Трэба лічыць вялікай вартасьцю і гонарам тагочаснай філёзофіі, што яна...—пачынаючы ад Сьпінозы і канчаючы вялікімі францускімі матэрыялістымі—настойліва імкнулася тлумачыць сусьвет з яго самаго, аддаючы дэтальнае апраўданьне гэтага прыродазнаўству будучыны“ [2]). Другая: „Сьпінозаўская субстанцыя ёсьць causa sui—добра выяўляе ўзаемадзеяньне“ [3]).

Ці-ж выцякае з усяго сказанага, што формула Плеханова, згодна якой сучасны матэрыялізм зьяўляецца як быццам-бы сьпінозізмам, няверная. Зусім не. Калі прынімаць гэтую формулу, дык неабходна падумаць аб тым, *якім родам* сьпінозізму зьяўляецца вучэньне Фэйербаха. Наш адказ на гэта пытаньне гаворыць, што „філёзофія Фэйербаха, як і вучэньне Дэідро, было толькі матэрыялістычным сьпінозізмам. Пасьля ўсяго сказанага павінна быць ясным, што гэтыя словы не зьяўляюцца таўтолёгіяй.

Можа, аднак, узьнікнуць пытаньне: хіба-ж мысьлім іншы род сьпінозізму акрамя матэрыялістычнага, хіба-ж магчыма ідэалістычнае разьвіцьцё сьпінозізму? Сьпінозізм, як я імкнуўся давесьці, быў монізмам, які не перайшоў ні ў матэрыялізм, ні ў ідэалізм. Наступныя філёзофы, перамагаючы паралелізм вучэньня Сьпінозы, прыходзілі: адны—да матэрыялістычнага монізму, другія—раствараючы атрыбут працягальнасьці ў субстанцыі і ў атрыбуце мысьленьня—прыходзілі да об'ектыўнаідэалістычнай тожсамасьці і да панлогізму. Дамо гістарычную паралель гэткага процэсу. Ці можна сказаць, што матэрыялістычная тэорыя пазнаньня была родам сэнсуалізму? Зразумела. А аб вучэньні Бэрклі можна сказаць, што яно было родам сэнсуалізма? Канечна. Але вучэньне Гольбаха—матэрыялістычны род сэнсуалізма, Бэрклі—яго ідэалістычны род. Сам-жа сэнсуалізм, які выражаецца і ў тым і ў другім кірунку, яшчэ ня ёсьць ні матэрыялізм, ні ідэалізм. Мы думаем, што сьпінозізм сам па сабе таксама ня быў ні матэрыялізмам, ні ідэалізмам, але вырашаўся ён ці ў матэрыялізм (вучэньне Фэйербаха ёсьць матэрыялістычны сьпінозізм) ці ў ідэалізм (а сыстэме Гегеля можна гаварыць, як аб ідэалістычным сьпінозізьме). „Сьпіноза—пісаў Фэйербах—зьяўляецца сапраўдным роданачальнікам сучаснай рацыяналістычнай філёзофіі, Шэлінг—яе адбудоўцай, Гегель—завяршыцелем [4]). Трэба помніць, што абое параўнаньні патрабуюць дасьціплага абмежаваньня, бо абое вучэньні разьвіліся ня толькі, як роды сьпінозізму, але і перамагалі шэраг элемэнтаў вучэньня Сьпінозы. І калі Плеханов мае рацыю гаварыць, што

[1]) Ibid. стр. 21.
[2]) „Архив К. Маркса и Ф. Энгельса“ т. II, стр. 161.
[3]) Ibid. стр. 27.
[4]) Сочинения т. I. стр. 59.

„ідэалістычны монізм Фіхтэ, Шэлінга, Гегеля ўзьнік з опозыцыі Сьпінозе“ [1]), дык гэта толькі адзін бок ісьціны, бо, па словах Маркса, „францускі матэрыялізм XVIII стагодзьдзя зьяўляецца ня толькі барацьбой проці існаваўшай рэлігіі і тэолёгіі, але таксама і адкрытае змаганьне проці мэтафізыкі XVII стагодзьдзя, проці мэтафізыкі Дэкарта, Мальбранша, *Сьпінозы* і Лейбніца“ [2]). Зразумела, матэрыялізм XVIII стагодзьдзя і абсолютны ідэалізм былі рэакцыямі на процілеглыя элемэнты сьпінозізму. А гэта дапушчае, што вучэньне Сьпінозы мела шмат проціЛеглых магчымасьцяй. Маркс у „Сьвятым Сямействе“ протэстуе проці назвы францускіх матэрыялістых „францускай школай Сьпінозы“— ён усьлед за Гегелем лічыць больш падходзячым называць матэрыялізм XVIII стагодзьдзя „рэалізацыяй сьпінозаўскай субстанцыі“ [3]), адпаведна гэтаму проціЛеглы напрамак у філёзофіі трэба было-б назваць „сьпірытуалізацыяй сьпінозаўскай субстанцыі“, калі-ж разумець слова рэалізацыя ў сэнсе зьдзяйсьненьня, дык было-б правільна гаварыць, што „сьпінозісцкі элемэнт сыстэмы Гегеля“ ёсьць паступова-ідэалістычная, а ў сыстэме Фэйербаха—паступова-матэрыялістычная рэалізацыя сьпінозізму.

На пытаньне аб тым, ці быў Сьпіноза матэрыялістым, нельга даць мэтафізычны адказ па формуле ці-ці. Правільным будзе разгляд Сьпінозы ў рэальнай гістарычнай сувязі, як зьвяна ў працэсе *станаўленьня* францускага матэрыялізму XVIII стагодзьдзя з картэзіанскага дуалізму XVII стагодзьдзя. Мае рацыю Плеханов, калі гаворыць, што „важна тое, што ім (Сьпінозай Б. Б.) ва ўсякім выпадку адхіляецца дуалізм духу і матэрыі“ [4]). Але, адплыўшы ад бясплодных берагоў дуалізму, Сьпіноза не дасягнуў правільнага і паступовага выращэньня монізму; карабель філёзофіі давялі да плоданоснага берагу паступовага матэрыялізму толькі, пераняўшыя руль у Сьпінозы, наступныя філёзофскія пакаленьні.

Сьпіноза *ўжо* ня быў дуалістым, але *яшчэ* ня быў паступовым матэрыялістым. Ад гэтага яго славутнасьць *пачынацеля* ніколькі не зьмяншаецца.

---

[1]) Т. XVIII, стр. 166.

[2]) „Святое семейство“ гл. VI, § 3. Д.

[3]) Ibidem.

[4]) Т. VIII, стр. 316.

# ЯК УЗРАСТАЎ І РАЗЬВІВАЎСЯ АМЭРЫКАНСКІ ІМПЭРЫЯЛІЗМ

*(Гістарычны нарыс)*

**Л. Каган**

Амэрыканскі імпэрыялізм займае ў цяперашні час першае месца ў сусьветным концэрце драпежніцкіх капіталістычных дзяржаў. Непамерна ўзрасьлі багацьці П.-А. З. Ш., непамерна ўзрасла іх удзельная політычная вага. Няма цяпер такога буйнага пытаньня міжнароднае політыкі, якое-б ня было зьвязана проста або ўкосна з політыкай амэрыканскага імпэрыялізму. Пасьля сусьветнай буржуазнай „притчи во языцех"— Савецкага Саюзу—Амэрыка [1]) самая популярная тэма ў эўропэйскім друку. За адно толькі апошняе дзесяцілецьце аб Амэрыцы напісаны сотні кніжак, тысячы газэтных і часопісных артыкулаў; шмат увагі аддае Амэрыцы і наш друк, хоць, праўда, тое, што мы маем аб Амэрыцы на расійскай мове,—пераважна пераклады прац замежных буржуазных экономістых і публіцыстых, і толькі некалькі таленавітых монографій, якія належаць пяру рэволюцыйных марксыстых.

Мэта данага невялікага нарысу—даць кароткую гісторыю паступовага нарастаньня і разьвіцьця імпэрыялізму Амэрыкі. Аб унутраной-жа сутнасьці амэрыканскага імпэрыялізму і імкненьнях яго далейшага разьвіцьця, у прыватнасьці—пытаньне ўзаемаадносін між Амэрыкай і Японіяй—больш падрабязна ў наступным нарысе.

## I

Перш за ўсё—экономічная фізыономія Амэрыкі ў сучасны момант [2]).

Па даных, апублікаваных офіцыяльным Статбюро ў 1924 г., нацыянальнае багацьце Амэрыкі складала: у 1912 годзе—186,3 мільярдаў даляраў, у 1922 г.—320,8 мд. даляраў. Тыя-ж даныя для іншых краін:

| | Англія | Францыя | Нямеччына | Італія |
|---|---|---|---|---|
| 1912 г. | 79,3 мд. дал. | 57 мд. дал. | 77,8 мд. дал. | 23 мд. дал. |
| 1922 г. | 88,8 „ „ | 67,7 „ „ | 35,7 „ „ | 26 „ „ |

[1]) Пад „Амэрыкай" умовімся разумець Паўночна-Амэр. Злуч. Штаты.

[2]) Лічбы запазычаем з кнігі М. Галіна: „Америка на мировой арене"—ГИЗ 1927 г.

Гэты ўзрост нацыянальнага багацьця Амэрыкі (з 186,3 мд. дал. да 380,8 мд. дал.) трэба, між іншым, прыняць з аднэю вельмі істотнаю агаворкай: у пэрыод між 1912 і 1922 г.г. пакупная здольнасьць даляра зьнізілася на 55 проц. і, значыцца, за памянёнае дзесяцілецьце багацьце Амэрыкі ўзрасло не на 72,2 проц., а толькі на 11 проц. І другая агаворка: гэтыя даныя, бязумоўна, зьменшаны, бо амэрыканскія капіталістыя вельмі ашукваюць пры падачы вестак у дзяржаўныя ўстановы аб колькасьці сваіх капіталаў. Але нават відавочна зьменшаныя лічбы аб велічыні нацыянальнага багацьця Амэрыкі пакідаюць далёка ззаду сябе адпаведныя даныя для іншых буйнейшых імпэрыялістычных дзяржаў сьвету: Англіі, Францыі, Італіі.

Пераходзім да амэрыканскай прамысловасьці: тут перш за ўсё кідаецца ў вочы „мэталёвая“ сіла Амэрыкі, якая відна з прыведзенай ніжэй табліцы:

| | Вытапляецца чыгуну ў мільёнах тон | | | Вытапляецца сталі ў мільёнах тон | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1913 г. | 1920 г. | 1924 г. | 1913 г. | 1920 г. | 1924 г. |
| Сусьветная вытворч. | 77,8 | 59,8 | 64.6 | 75.8 | 68.2 | 77,3 |
| П.-А. З. Ш. . . . . | 31,4 | 37,5 | 31.0 | 31,8 | 42,8 | 36.6 |
| Вялікабрытанія . . . | 10,6 | 8.2 | 7,3 | 7,8 | 9.2 | 8.2 |
| Францыя . . . . . | 5.2 | 3,4 | 7.6 | 4,7 | 3.0 | 6.8 |
| Нямеччына . . . . | 12,9 | 5,7 | 7.1 | 15.3 | 6.7 | 9,1 |
| Іншыя краіны . . . | 17,7 | 5 | 11.6 | 1.2 | 6,5 | 16.6 |

Праўда, у 1925 г. доля Амэрыкі ў сусьветнай выплаўцы чыгуну ўжо некалькі зьмяншаецца—на 7 проц. у параўнаньні з пяцігодзьдзем 1920-1924 г.г.—дзякуючы некаторай стабілізацыі эўропэйскага капіталізму. Але ўсё такі Амэрыка прадаўжае ў шмат раз перавышаць усе іншыя дзяржавы сьвету па сваёй „мэталёвай“ сіле: Вялікабрытанію, прыкладам, у 5 раз, Францыю—у 8 раз. Яшчэ трэба адзначыць, што амаль уся маса чыгуну і сталі П.-А. З. Ш. ідзе на патрэбы ўнутранога спажываньня краіны.

І на фронце здабычы вугалю П.-А. З. Ш. займаюць месца ня менш пачэснае, як на „мэталёвым“: 1.344 мільёнаў тон сусьветнай здабычы вугалю ў 1913 годзе і 1.163 мільёнаў тон у 1924 г. пры долі Амэрыкі ў 517 і 557 мільёнаў тон!

У 1925 годзе гэтая лічба ўзрастае яшчэ больш—да 565 мільёнаў тон, перавышаючы ангельскую здабычу вугалю ў 2 разы, нямецкую—ў 4, французскую—у 9 раз.

Амэрыканскія-ж нетравыя паклады вугалю складаюць, па разьліках геолёгаў, 3.500 мільярдаў тон—палову сусьветных нетравых пакладаў.

Нафта. Тут магутнасьць Амэрыкі выступае яшчэ ясьней. З 1857 г. па 1924 г. ува ўсім сьвеце здабыта было 12,4 мільярда барэляў (барэль—42 галёны—$8^1/_3$ пуда) у П.-А. З. Ш.—7,9 мільярда барэляў—63,1 проц. сусьветнай здабычы нафты! К 1925 году і гэтая лічба ўзрастае—764 мільёны барэляў з 1055 мільёнаў барэляў ува ўсім сьвеце.

Вялізарнае і спажываньне нафты ў Амэрыцы: адны толькі аўтомобілі, якіх у Амэрыцы 15,6 мільёнаў з 18,6 мільёнаў ва ўсім сьвеце,—спажываюць 204 мільёны барэляў у год.

Нафта—Ахілесава пята Амэрыкі: яе запасы ў краіне хутка вычэрпваюцца і, па думцы дырэктара амэрыканскага горназаводзкага бюро, Амэрыка павінна стаць перад пэрспэктывай нафтавага голаду ўжо ў бліжэйшыя 2-3 гады. Тут захоўваецца разгадка амэрыканскай экспансіі за межы наогул, да багацейшых у сьвеце каўкаскіх нетравых пакладаў нашага Саюзу—у прыватнасьці. Між іншым, з-за крайняй патрэбы для Амэрыкі ў нафце ня варта рабіць надта сьпешных пэсымістычных вывадаў: Амэрыка пакуль што яшчэ ўдачна лавіруе спосабам сусьветнае экономічнае экспансіі, каб задаволіць сваю патрэбу ў нафце. Але ўсе крокі амэрыканскага ўраду ў пасьляваенныя гады на сусьветнай арэне—часам ясна бачнымі, часам ледзь-ледзь прыкметнымі ніткамі цягнуць да гэтага грунтоўнага стрыжню амэрыканскай экономікі—нафты.

Дадамо для паўнаты малюнку, што па колькасьці „белага вугалю“ (потэнцыяльных вадзяных сіл), Амэрыка займае другое месца пасьля Афрыкі.

Наогул-жа, П.-А. З. Ш. уладаюць $^1/_5$ усіх сусьветных энэргетычных рэсурсаў (вугаль, нафта, вада).

Цяпер аб будаўнічых справах і чыгунках у Амэрыцы. У 1925 годзе каштоўнасьць новых пабудоў у Амэрыцы складала 5,8 мд. даляраў. На адных толькі пабудовах, у вузкім сэнсе гэтага слова, у Амэрыцы занята $2^1/_2$ мільёны чалавек.

Вялізарны і ўзрост аўтомобільнага будаўніцтва ў П.-А. З. Ш. З 500 тыс. аўтомобіляў агульнай каштоўнасьцю ў 425 мільёнаў даляраў у 1913 годзе да 3 мільёнаў 800 тыс. аўтомобіляў каштоўнасьцю ў $2^1/_2$ мільярды даляраў у 1925 г.! У Амэрыцы адзін аўтомобіль прыпадае ў сярэднім на дзьве сям‘і.

Згодна амэрыканскаму „Standard of life“ (жыцьцёваму ўзроўню) аўтомобіль у Амэрыцы не прадмет раскошы, а прадмет канечнай патрэбы. Між іншым і з аўтомобілямі таксама, як з нафтай, у Амэрыцы ня ўсё ў парадку—Амэрыка мае звышвытворчасьць аўтомобіляў, і ніякая агітацыя за 2-3 аўтомобілі ў кожнай сям‘і палажэньня ня выратуе: з 1916 году аўтомобільная вытворчасьць Амэрыкі ўступіла ў паласу зацяжнага, па ўсіх прыметах, крызісу.

Пяройдзем к проблеме замежнага гандлю Штатаў. У 1925 годзе вартасьць экспорту і імпорту складала 9,132 мільёны даляраў супроць 8 мд. даляраў у 1924 годзе і 4,3 мільярдаў даляраў у 1912-1913 гадох,— відавочная, значыцца, тэндэнцыя к росту ў параўнаньні з даваенным часам (на 25 проц. вышэй даваеннай). Гэта ў той час, як гандаль Эўропы ў 1924 годзе быў на 24 проц. ніжэй даваеннага, а гандаль Англіі зьнізіўся к таму-ж часу на 25 проц. Балянс П.-А. З. Ш., зразумела, актыўны (у 1925 г.—4,933 мільёны даляраў вывазу і 4,083 мільёны даляраў увозу).

Проблема гумы. Тут Амэрыка ў большай залежнасьці ад Англіі— сусьветнага монополістага гумы. Досыць адзначыць, што для аднэй толькі аўтомобільнай прамысловасьці Амэрыцы канечна патрэбна 625 мільёнаў фунтаў гумы ў год! І хоць як амэрыканскі, так і ангельскі друк запэўняюць, што вайна паміж абедзьвюма дзяржавамі „нямысьліма“, Амэрыка ўзмоцненым тэмпам загатаўляе запасы гумы і імкнецца ад ангельскай гумавай апекі вызваліцца: распрацоўваюцца пляны пабудовы плянтацый у Каліфорніі, на Філіпінах, у Бразыліі, на Суматры і сумежных астравох; амэрыканская фірма Файрстон і К-⁰ атрымала буйнейшую гумавую концэсію, якая ацэньваецца ў 100 мільёнаў даляраў, у нэгрыцянскай рэспубліцы Лібэрыі.

Сельская гаспадарка Штатаў. Паводле даных амэрыканскага дэпартаманту зямляробства, удзел Амэрыкі ў сусьветнай сельскай гаспадарцы выяўляецца за пэрыод 1919—23 г.г.: пшаніца—4,2 мільярда бушэляў, або 26 проц., жыта—15 мд. бушэляў, або 73 проц. Гэта значна больш унутраных спажываньняў Штатаў, і разам з бавоўнай непрамысловы вываз з П.-А. З. Ш. складае амаль палову ўсяго вывазу.

Нарэшце, аб замежных пазыках Амэрыкі. Тут малюнак узросту Штатаў за апошнія гады выяўляецца асабліва дзіўны. Сапраўды, да вайны 1914 г. Амэрыка была дэбэторам Эўропы, цяпер-жа ўсе амаль эўропэйскія дзяржавы запазычыліся ў Амэрыкі, і аб велічыні іх запазычанасьці даюць нам уяўленьне наступныя лічбы: агульная запазычанасьць эўропэйскіх дзяржаў Амэрыцы—22.048.362.303 даляры. Сюды яшчэ не ўваходзіць запазычанасьць Аўстрыі ў 30 з лішкам мільёнаў даляраў, Грэцыі—у 17.625 тысяч даляраў, Паўднёвай Славіі—у 65½ млн. даляраў. Калі гэтыя пазыкі адтэрмінаваць, як гэта зроблена Амэрыкай у адносінах да Францыі, на 62 гады, атрымаецца, што разам з процантамі Эўропа павінна выплаціць Амэрыцы *дваццаць два з паловай мільярды даляраў*.

А залатое поўнакроўе штурхае амэрыканскі прыватны капітал на новыя і новыя пазыкі Эўропе. Вось пералічэньне галоўнейшых з іх пасьля 1924 году: 200 мільёнаў даляраў Нямеччыне, 100 мільёнаў даляраў Францыі, 150 млн. даляр.—Японіі, 75 млн.—Аўстраліі, 105 млн.— Аргентыне, 208 млн.—Канадзе, 300 млн.—Англіі, 100 млн.—Італіі,—пера-

лічэньне далёка няпоўнае. Гувэрам усе амэрыканскія інвэстыцыі за мяжой ацэньваюцца (ня лічачы памянёных 22½ мд. даляраў ваеннай пазыкі)—у 11,6 млд. даляраў за пэрыод пасьля даўэсызацыі Нямеччыны.

Такім чынам, мы пазнаёміліся ў асноўных рысах з гаспадарчаю дужасьцю сучаснай Амэрыкі—ня будзем пакуль што рабіць ніякіх вывадаў з гэтай экономічнай базы амэрыканскага імпэрыялізму—гэта складзе тэму нашага наступнага нарысу.

Цяпер-жа зоймемся высьвятленьнем іншага цікавага пытаньня: як дайшла Амэрыка „да жыцьця такога“?

Гістарычнае разьвіцьцё амэрыканскага імпэрыялізму?

## II

У імпэрыялістычны прабег свайго разьвіцьця амэрыканскі капіталізм уваходзіць у апошняй чвэрці мінулага сталецьця. Прычыны зараджэньня і разьвіцьця амэрыканскага імпэрыялізму ляжаць у зьменных экономічных умовах краіны: адыходзяць на задні плян раней панаваўшыя аграрныя адносіны, прамысловасьць і гандаль выступаюць на першае месца. Калі ў 1880 г. вываз продуктаў прамысловасьці складаў толькі 12 проц., у 1896 г. ён ужо ўзрастае да 26 проц. Капіталу цесна становіцца ў межах уласнай краіны—у нядаўна ўзьнікшых і ўзьнікаючых ва ўсё большай і большай колькасьці паўночна-амэрыканскіх трэстаў і іншых капіталістычных монополій зьяўляецца імкненьне выпхнуць эўропэйскі капітал з лаціна-амэрыканскіх дзяржаў і Ўсходняе Азіі, зрабіць гэтыя краіны рынкам збыту тавараў і набыцьця сырцу толькі для сваёй краіны.

Першым у шэрагу імпэрыялістычных стычак П.-А. З. Ш. належыць лічыць барацьбу за Кубу, якая пачалася ў часе прэзыдэнцтва Клівэлэнда (1895-97 г.г.) і ўдачна скончылася для Штатаў у наступнае прэзыдэнцтва Мак-Кінлэя (1897—1901).

Для П.-А.З.Ш. Куба была надзвычайна ласым кавалкам: $^4/_5$ нацыянальнага багацьця Кубы месьцілася ў цукры, складаўшым асноўны прадмет яе вывазу, і вывозіўся гэты цукар амаль выключна ў Злучаныя Штаты. Калі дадаць, што большасьць цукровых плянтатараў у Кубе былі або амэрыканскія капіталістыя, або купцы, якія жылі ў Штатах—нам стане зразумелым імкненьне Амэрыкі захапіць Кубу, адлучыўшы яе ад Гішпаніі. Гэта жаданьне ўзмацнялася яшчэ разьвядзеньнем у Гішпаніі больш таннага ў параўнаньні з Кубай бурачнага цукру (у Кубе разводзіўся цукровы чарот) у Касьціліі, што ставіла ўласьнікаў цукровых плянтацый у Кубе і рабочае насельніцтва Кубы ў цяжкае становішча.

Злучаныя Штаты спачатку інсьпіравалі паўстаньне на Кубе супроць гішпанцаў, організаваўшы з мэтай падрыхтоўкі яго звыш 200 клюбаў на тэрыторыі Штатаў, у Мэксыцы, у Сярэдняй і Паўднёвай Амэрыцы. Тут-жа ўтвараўся на амэрыканскія грошы пляцдарм для палкоў паўстанцаў, кіраўнікі паўстанцкіх опэрацый Хозэ Марці і Кесада карыста-

лісяамэрыканскім госьцяпрыемствам. Паўстаньне выбухнула 24-га лютага 1895 году; 2 гады яно амаль адкрыта падтрымоўвалася Злучанымі Штатамі, прычым амэрыканскі друк спрытна апрацоўваў грамадзкую думку ў тым сэнсе, што гішпанцы ўжываюць барбарскія спосабы барацьбы з паўстанцамі, што ў іх концэнтрацыйных лягерах практыкуюцца сярэдняявяковыя зьдзекі. А з 11-га красавіка 1898 году П.-А. З. Ш. абвясьцілі сябе ў палажэньні вайны з Гішпаніяй.

Вайна за Кубу скончылася поўнай перамогай Штатаў. Апошнімі былі пастаўлены ўмовы: безадкладны выхад гішпанцаў з Кубы, задаваленьне П.-А. З. Ш. шляхам перадачы ўсіх вэст-індзкіх уладаньняў, а таксама аднаго з Марманскіх астравоў па выбары Штатаў, заняцьце Манільскай бухты на час мірных перагавораў да вырашэньня пытаньня аб будучым урадзе Філіпін.

Вайна з гішпанцамі дала Штатам Кубу разам з усёй сумежнай групай астравоў і Порта-Рыко.

Пасьля ратыфікацыі мірнага дагавору між Штатамі і Гішпаніяй 17-га сакавіка 1899 году, апошняя апынулася канчаткова выціснутай з Амэрыкі, і за эўропэйцамі ў Амэрыцы засталіся толькі наступныя землі: У Англіі—Канада, Нью-Фаўндлэнд, астравы, Бэрмундзкія і Багамскія, Ямайка і іншыя вэст-індзкія астравы: Грынідад, брытанскі Гондурас, брытанская Гвіяна, Фальклёндзкія астравы; у Францыі—астравы Сэн-П'ер, Мікэлён, Гвадэлюпа, Мартыніка з сумежнымі астравамі, францускамі Гвіяна; у Голяндыі—голяндзкая Гвіяна і некаторыя вэст-індзкія астравы, як Курасао; урэшце,—у Даніі тры невялікіх астравы ў Вэст-Індыі.

Заставалася выкраіць зусім прыемную для Амэрыкі „незалежнасьць“ Кубы. Яна і была складзена спрытнымі тактычнымі захадамі Конгрэсу, і прадстаўленьне аб ёй могуць даць наступныя вытрымкі з дагавору Штатаў з Кубскім „урадам“: 1) „Куба ня мае права рабіць умовы з чужымі дзяржавамі, якія накіраваны да скарачэньня яе незалежнасьці або да наданьня ім права колёнізацыі, пабудовы цытадэляў або контроль над якой-колечы часткай востраву“. 2) „Яна ня мае права рабіць дзяржаўныя пазыкі, для пакрыцьця якіх нездавальняючы былі-б звычайныя прыбыткі за вылікам бягучых выдаткаў па кіраваньні“. 3) „Яна надае Злучаным Штатам права інтэрвэнцыі ў мэтах захаваньня сваёй незалежнасьці і ўмацаваньня ўраду, які быў-бы здольны ахоўваць жыцьцё, маемасьць і асабістую свабоду і выканаць вызначаныя парыскім трактатам абавязкі“: . . . . . 7) „Прадае або аддае ў арэнду Злучаным Штатам вугольныя станцыі і суднавыя стаянкі, аб якіх адбудзецца больш дэтальная згода з тым, каб Злучаныя Штаты маглі ахоўваць незалежнасьць Кубы, абараняць яе насельніцтва і сябе саміх“. 8) „Замацоўвае ўсе папярэднія пастановы заключэньнем доўгатэрміновага дагавору з Злучанымі Штатамі“.

Вайна з Гішпаніяй, апроч ужо памянутых здабыткаў у Новым Сьвеце, дала яшчэ Злучаным Штатам Філіпіны. Праўда, весткі аб „новым гаспадару“ выклікалі на гэтых астравох паўстаньне тубыльцаў, пад кіраўніцтвам Агінальдо. Барацьба з паўстанцамі вялася тры гады—з 1898 па 1901 год,—вялася нялюдзкімі мэтодамі концэнтрацыйных лягераў, што было асуджана Штатамі ў час вайны за Кубу. Справа скончылася захопам у 1901 годзе Агінальдо і лютым прыдушэньнем паўстаньня. Філіпіны былі „заміраны“ і „прылучаны да цывілізацыі і культуры“.

L'appetit vient á manger! Набыцьцё Філіпін пацягнула за сабой шэраг іншых захопаў у Ціхім акіяне з боку Штатаў, як-бы з мэтай акругліць там свае ўладаньні. Першым у шэрагу гэтых набыткаў былі астравы Самоа. Яны, праўда, не цалком дасталіся амэрыканцам. Паводле дагавору ад 2 сьнежня 1899 году, Злучаныя Штаты атрымалі ўсе астравы на ўсход 171°, сярод іх важнейшы Гутуіля з гаваньню Паго-Паго, Нямеччына-ж—Уполу і Савайі.

7-га лістапада 1900 году Злучаныя Штаты купілі, наперад іх окупаваўшы, за 100 тыс. даляраў астравы Кайаган, Сулю і Сыбуту ў абшары Філіпінскіх астравоў.

Як вядома, у 1900 годзе адбылося боксэрскае паўстаньне, і ўдзел у яго прыдушэньні (у паходзе на Пекін) даў амэрыканскаму ўраду 24 млн. даляраў контрыбуцыі.

Усе гэтыя посьпехі надавалі сьмеласьці ўраду Штатаў у яго агрэсыўнай імпэрыялістычнай палітыцы, падштурхвалі яго да рашучых крокаў у ажыцьцяўленьні аднэй з галоўнейшых для Амэрыкі проблем—проблемы Панамскага каналу. З набыцьцём Філіпін пытаньне хутчэйшага правядзеньня каналу паўстала для Злучаных Штатаў асабліва актуальным.

Мы ня будзем тут закранаць гісторыі проекту злучэньня каналам двух акіянаў у Амэрыцы—гэта патрабавала-б спэцыяльнага вялікага артыкулу. Пачнем адразу з вядомага ў справе пабудовы так званага дагавору Хэй-Понсфута, які быў заключан 1 сьнежня 1901 году, ужо ў часе прэзыдэнцтва Рузвэльта. Гэты дагавор катэгорычна адмяняў у першым-жа сваім артыкуле клэйтон-бульвэраўскі дагавор 1850 году, які надаваў выключныя правы ў карыстаньні будучым каналам ангельцам. У процілегласьць яму дагавор Хэй-Понсфута рабіў П.-А.З.Ш. бязумоўным гегемонам каналу: Штаты атрымоўваюць права ўтрымоўваць уздоўж каналу ваенную паліцыю „ў колькасьці, патрэбнай для абароны ад беззаконнасьці і непарадку“; блёкада, ваенная дзейнасьць і наогул усялякія варожыя акты ў канале забараняюцца (чытай для ўсіх, апроч армій П.-А. З. Ш.).

Забясьпечыўшы сабе такім чынам бязумоўную гегемонію, каб уладаць будучым каналам, Штаты прыступаюць да „апрацоўкі“ дзяржаў Лацінскай Амэрыкі, праз тэрыторыю якіх гэты канал павінен быў прайсьці. Тут у ход быў накіраваны ўвесь арсэналь амэрыканскага імпэ-

рыялізму: подкупы, інсцэніроўкі рэволюцый, ваенныя пагрозы. І, зразумела, супраціўленьне маленькіх дзяржаў Сярэдняй Амэрыкі было лёгка зломлена Штатамі, і пабудова Панаму была распачата.

Дарэчы—некалькі яшчэ цікавых адзнак для характарыстыкі гегемоніі Штатаў у канале. Па дагаворы Хэй-Понсфута вызначаецца 10-мільная нэўтральная зона каналу, якую П.-А. З. Ш. маюць вечнае права займаць па свайму ўгледжаньню; гэткае-ж права Амэрыка мае ў адносінах да астравоў Пэрыко, Наос, Кулебра, Фляменка, якія ляжаць за межамі памянёнай зоны; Панама абяцала поўнае вызваленьне ад падаткаў чыгункі і каналу. Памянёныя прывілеі Штатаў у Панаме—толькі нязначная частка ўсёй сумы ўступак, на якія Амэрыка прымусіла Панаму. Інтарэсы-ж Колюмбіі, сапраўднага сувэрэну зоны каналу пры заключэньні дагавору Хэй-Понсфута, былі ігнараваны зусім.

Набыўшы Кубу і Панаму, амэрыканскі ўрад павінен быў падпарадкаваць сабе ўсю Вэст-Індыю,—інакш засталіся-б няпоўнымі памянёныя дзьве буйныя перамогі імпэрыялізму Штатаў. У гэтым кірунку дзейнічаў, і прытым вельмі ўдала, Рузвэльт аж да скончаньня сваіх прэзыдэнцкіх поўнамоцтваў у 1909 годзе. Ён пасьпеў за гэты час бяскроўна пакарыць С.-Домінго [1]), наступнік-жа Рузвэльта Тафт за 4 гады свайго прэзыдэнцтва дамогся яшчэ большых посьпехаў у сваёй імпэрыялістычнай політыцы ў адносінах Нікарагуа, Гондурраса, Мэксыкі.

Важнейшыя факты амэрыканскай экспансіі за межамі пасьлятафтаўскага пэрыоду (з 1913 г.): у часе прэзыдэнцтва Вільсона—дзьве карныя экспэдыцыі ў Мэксыку, як-бы для барацьбы з бандытызмам (1914 і 1916 г. г.); фактычнае падпарадкваньне Нікарагуа (1914 г.), Гаіці—(1916 г.), паўторная перамога С.-Домінго (1916 г.), ваенная экспэдыцыя ў Кубу (1917 г.) з мэтай пасадзіць там жаданага Штатам прэзыдэнта. Апошнія два прэзыдэнты Амэрыкі—Гардынг і Кулідж вядуць далей справу сваіх папярэднікаў, прычым апошнія надзеі дня ў Амэрыцы—гэта барацьба з Нікарагуа і амэрыканская экспансія ў Мэксыку і Канаду. Для паўнаты малюнку—яшчэ ўмяшаньне Амэрыкі ў сусьветную вайну ў 1917 годзе, якое не дало Штатам новых тэрыторыяльных здабыцьцяў, але ажыцьцёўленае, і надзвычайна ўдала, амэрыканскім імпэрыялізмам у мэтах падтрыманьня сваіх дэбітораў у Эўропе і аслабленьня асабліва ненавіснага амэрыканскаму імпэрыялізму—імпэрыялізму нямецкага.

Цяпер некалькі больш падрабязна аб проблеме пасоўваньня амэрыканскага імпэрыялізму ў Мэксыку і канада-амэрыканскіх адносінах.

III

Намі ўжо прыводзілася кароткая гісторыя барацьбы Злучаных Штатаў за экономічнае зьняволеньне багатых нафтай, гумай і нітратамі [2])

[1]) Формальна С.-Домінго—„самастойная“ рэспубліка па сучасны момант, але „самастойнасьць“ гэта вельмі проблематычная.

[2]) Нітрат—азоцістая матэрыя.

краін Лацінскай Амэрыкі. З усіх гэтых краін самым ласым кавалкам, які вельмі цяжка даваўся ў рукі Амэрыкі, і была Мэксыка. Наколькі пажадана для Штатаў поўнае заняволеньне Мэксыкі, можна бачыць з аднаго толькі таго, што запасы нафты ў Мэксыцы, паводле ацэнкі геолёгаў, складаюць 32 проц. сусьветных запасаў, у той час, як на тэрыторыі П.-А.З.Ш. гэтых запасаў усяго толькі 14 проц. сусьветнай колькасьці. Гэта пры непамерна вялікім спажываньні нафты ў Штатах, якое складае звыш 70 проц. сусьветнага спажываньня.

Прыводзім сьціслы нарыс барацьбы Штатаў з Мэксыкай, асноўнай спружынай якое была заўсёды нафта.

У 1914 і 1916 г.г. Вільсон, пакорны вяленьням. магутнага Standart Oil і іншых нафтавых прадпрыемстваў Штатаў, накіроўвае ў Мэксыку дзьве карныя экспэдыцыі.

1918 і 1919 г.г. характарызуюцца шэрагам нясур'ёзных, яўна падрыхтаваных Штатамі „захопаў“ і „нападаў“ мэксыканцаў на амэрыканскіх грамадзян, каб утварыць casus belli. Сярод гэтых „захопаў“ асабліва цікавы, як гэта бясспрэчна давялі мэксыканскія газэты, „самазахоп“ агента амэрыканскага консульства ў Пуэблі Джэнкіно, як-бы з мэтай атрыманьня выкупу. І ў выніку гэтых махінацый, напад амэрыканскага войска на Мэксыку ў 1919 годзе.

Пры наступніку „дэмократа“ Вільсона Гардынге,—дэмонстрацыя амэрыканскіх суднаў у Гампіко ў 1921 годзе з мэтай зрабіць уплыў на прэзыдэнта Обрэгона і прымусіць яго адмяніць ненавісны амэрыканцам § 27 мэксыканскай канстытуцыі [1]) і экспортную мыту на нафту.

Пры Куліджу „дзіўным“ чынам (зноў, як гэта даведзена з бясспрэчнасьцю, рука Штатаў) выбухае ў Мэксыцы контр-рэволюцыя, на чале якой стаў Хуэрт, згрупаваўшы навокал сябе духавенства, памешчыкаў, арыстократыю. Вашынгтон, інсьпіраваўшы контр-рэволюцыю, „шляхетна“ падтрымоўвае рэволюцыйны ўрад Обрэгона і за гэта дамагаецца адмены § 27 канстытуцыі і абяцаньня наконт выплаты Мэксыкай запазычанасьці Штатам і „добрапарадачных паводзін“.

Калі ў 1924 годзе Обрэгона зьмяняе „трудавік“ Кайэс, ён першым крокам едзе ў Вашынгтон засьведчыць перад апошнім сваю бязумоўную „палітычную благанадзейнасьць“. Характэрна, што Кайэса ў Вашынгтоне ўрачыста сустрэў ня толькі Кулідж, але і нябожчык Гомпэрс.

Так, і было за што вітаць Кайэса: Штаты к 1924 году ўладалі ў Мэксыцы 73 проц. нафтаносных зямель—$^1/_3$ усяго нацыянальнага багацьця Мэксыкі.

У 1925 і 1926 г.г. адносіны між Штатамі і Мэксыкай зноў становяцца напружанымі: Штаты пужае ўзрост рэволюцыйных настрояў у Мэксыцы, і яны груба пагражаюць Мэксыцы генэралам Першынгам,

[1]) Па гэтаму параграфу права на нетры прызнаюцца толькі за тымі ўласьнікамі, якія да распрацоўкі іх прыступілі да 1917 году.

„гэроем“ папярэдніх амэрыканскіх карных экспэдыцый. Цікавая адзнака: калі ў апошні час у Мэксыцы пачало ажыцьцяўляцца на практыцы адлучэньне царквы ад дзяржавы і гэтае мерапрыемства ўдарыла па каталіцкай царкве ў Мэксыцы, амэрыканскі пасол Шэффільд у афіцыяльнай ноце Кайэсу ўступаецца за каталіцкую царкву. Гэта ў той час, калі ў самых Штатах пануе антыкаталіцкая царква і каталікі там, пры відавочным нядбайстве ўлады, падлягаюць нападкам з боку Ку-Клукс-Клана[1]).

Сярэдняй Амэрыкай канчаецца сфэра бязумоўнага экономічнага панаваньня Штатаў: так моцна, як у Панаме, Мэксыцы, Кубе і інш. пунктах Сярэдняе Амэрыкі, у дзяржавах Паўднёвай Амэрыкі Штаты яшчэ не замацаваліся. А весьці барацьбу ёсьць за што: нітраты Чылі, нафта Аргентыны, багацейшыя даліны Бразыліі. Усе гэтыя краіны—заўтра амэрыканскага імпэрыялізму: тут яшчэ трэба перамагчы супраціўленьне, даўно і моцна ў гэтых краінах засеўшага, імпэрыялізму ангельскага.

---

Калі ў Паўднёвай Амэрыцы экспансія Штатаў яшчэ не дала асабліва прыкметных вынікаў і за аўладаньне экономічнай гегемоніяй у Аргентыне, Чылі і Бразыліі Штатам яшчэ трэба будзе весьці барацьбу і з урадамі гэтых дзяржаў і з ангельскім экономічным у іх засільлем,—гэтага нельга сказаць пра Канаду.

Зьвернемся да мовы лічбаў.

Пачнем з экспорту з Канады ў Штаты і Англію. Ён выяўляецца:

| | У мільёнах даляраў | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1921 г. | 1922 г. | 1923 г. | 1924 г.[2]) |
| У Штаты . . | 561,7 | 304,1 | 380,3 | 441,6 |
| У Англію . . | 314,2 | 300,3 | 379,9 | 361,2 |

Ня менш выразныя лічбы імпорту ў Канаду з П.-А. З. Ш. і Англіі. Імпорт у Канаду ў мільёнах доляраў [3]).

| | 1921 г. | 1922 г. | 1923 г. | 1924 г. |
|---|---|---|---|---|
| З П.-А. З. Ш. . | 856,1 | 515,9 | 540,9 | 601,2 |
| З Англіі . . | 213,9 | 117,1 | 141,3 | 153,6 |

З гэтых табліц відаць асаблівае засільле амэрыканскага імпорту ў Канаду. Па параўнаньні з ангельскім ён перавышае апошні ў 4 разы.

[1]) Ку-Клукс-Клан—фашысцка-фанатычная організацыя ў П.-А. З. Ш.
[2]) Op. cit.
[3]) Op. cit.

Як узрастае ўплыў Штатаў на Канаду, відаць і з параўнаньня амэрыканскіх інвэстыцый у гэтым ангельскім домініёне ў 1913 і 1923 г.г.: з 420 мл. дал. у 1913 г. (пры 1.860 мл. дал. ангельскіх інвэстыцый) яны ўзрасьлі да 2.425 мл. дал. (пры 1.890 мл. дал. ангельскіх) у 1923 г. Чым не „экономічная перамога", аб якой не без падстаў б'е трывогу ангельскі друк?

Злучаныя Штаты выкачваюць з Канады яе жывую. Факт гэты ўстаноўлен бязумоўна, але яго цяжка пацьвердзіць лічбавымі данымі з прычыны таго, што Канада—амэрыканская мяжа—мае працяг амаль у 5.000 кілёмэтраў і слаба абараняецца, да таго-ж канадцы ў час прыезду ў Амэрыку не падлягаюць рэгістрацыі. Каб не плаціць мыты, амэрыканцы шырока практыкуюць організацыю аддзяленьняў сваіх фабрык у Канадзе. Іх, за адны толькі апошнія 2-3 гады, у Канадзе абаснавалася звыш 2.000.

Канадцы маюць усе падставы быць нездаволенымі мэтрополіяй: душаць падаткі, душыць дэфіцыт вялізарнай чыгуначнай сыстэмы краіны, адпаведнай імпэрыялістычным тэндэнцыям краіны, але ні ў якім разе не яе гаспадарчым патрэбам. Да таго-ж яшчэ няўдзячным для ангельцаў фактарам зьяўляецца барацьба між фэрмэрскім Захадам і індустрыяльным Усходам Канады, а таксама пастаянныя супрэчнасьці паміж 2,4 мл. французаў і 2,5 мл. ангельцаў, якія жывуць у Канадзе.

У выніку памянёных экономічных прычын—сэпаратыцкія тэндэнцыі Канады, яе амэрыканафільскія тэндэнцыі, зразумела, энэргічна падтрымліваюцца Штатамі. Ужо ў 1922 годзе Кліг вядзе сэпаратныя перагаворы з Вашынгтонам адносна абароны раёну Вялікіх Азёраў, што па конституцыі Вялікабрытаніі мог рабіць толькі брытанскі пасол.

У сакавіку 1923 году Штаты, таксама „незаконна", заключаюць дагавор з Канадай адносна рыбнага лову, і Канада, пасьля падпісаньня гэтага дагавору, дамагаецца права весьці самастойную ад мэтрополіі замежную політыку.

Яшчэ больш яскравы прыклад непаважлівасьці „дачкі" Канады (ды і іншых домініёнаў Англіі) да краіны-матушкі (motler country) у 1922 г., калі туркі ў час перагавораў у Лёзаньне пагражалі ангельцам сілай выцісьнуць іх з Константынопалю і Дарданэлаў, і Лёйд-Джорджу вельмі жадалася вайны, Вялікабрытаніі ад ідэі вайны прышлося адмовіцца—Канада, а за ёй і іншыя домініёны, заявілі мэтрополіі, што паўторна праліваць крoў ня будуць.

У 1924 годзе канадзкі прэм'ер адмовіўся прызнаць Лёзанскі дагавор на тэй падставе, што ўрад Канады не атрымаў запрашэньня на конфэрэнцыю.

Англія не зачыняе вочы на сэпаратыцкія імкненьні Канады, яе амэрыканафільства. Вось адрывак, які прыводзіцца Галіным у яго вельмі добрай кніжцы аб Амэрыцы („Америка на мировой арене") з артыкулу сэра

Пірса ў газэце „Manchester guardian Commercial“ ад 15 лютага 1925 году (артыкул носіць назву „Наход Злучаных Штатаў на Канаду“): „80 проц. акцый канадзкіх аўтомобільных кампаній знаходзяцца ў руках Злучаных Штатаў. Захоп лясной і ваўнянапапяровай прамысловасьці прыняў такія разьмеры, што ў брытанскай Колюмбіі (Заходняя Канада) усе буйныя фабрыкі належаць амэрыканцам. 98 проц. усёй лясной продукцыі экспортуецца ў Злучаныя Штаты і толькі астатак—у Вялікабрытанію... Той самы ўплыў Амэрыкі назіраецца ўва ўсякай галіне канадзкай прамысловасьці. Нашы мінэральныя рэсурсы страчаны для Канады і Брытанскай імпэрыі, бо амэрыканскія даляры захапілі нашыя найбольш важныя капальні. Амэрыканізацыя нашай індустрыі мае надта згубныя вынікі для айчыннага гандлю Канады... Fhat is sturtling! (Гэта жудасна!)“.

Комэнтарыі тут зусім залішні.

---

Такі сьцісл нарыс гістарычнага разьвіцьця амэрыканскага імпэрыялізму. Самы малады ў сьвеце, ён апынуўся на практыцы самым экономічна моцным і агрэсыўным. Няхай параўнальна ня так ужо вяліка амэрыканская імпэрыя (так назваў Штаты Скотт Нірынг і назваў правільна—„рэспубліканская“ абалонка сутнасьці не мяняе), тэрыторыяльна ўся Паўночная Амэрыка (Канада па сутнасьці ўжо ў большай ступені Штаты, чымся ангельскі домініён), уся Сярэдняя Амэрыка, Філіпіны—экономічная моц Штатаў і іх апэтыты пакідаюць далёка ззаду ўсе іншыя імпэрыялістычныя дзяржавы сьвету: Японію, Англію, Францыю. І як лёгка гэта вывесьці з данага невялікага нарысу—у „сяброўскіх“ Англіі і Штатаў, самая думка аб сутычцы між якімі—„вар‘яцтва“ (выраз Лейд-Джорджа ў аднэй з яго параўнальна нядаўніх прамоў) досыць награмадзілася прычын для конфлікту, і конфлікт гэты ня так ужо проблематычны. Але на чарзе ня гэты конфлікт. Не ў прадугледжваньні яго ўзбройваюцца да зубоў Штаты. Чарговая сутычка двох драпежнікаў—гэта немінуючая барацьба між Амэрыкай і Японіяй.

Аб прычынах гэтай барацьбы, яе магчымым характары і разьвіцьці—у наступны раз.

# АБ САРОМЛІВЫХ „ДАПУШЧЭНЬНЯХ“ [1])

**Аляксандар Цьвікевіч**

Хоць беларускі культурны рэнэсанс сёньня—ужо даведзены факт, аднак, яшчэ і сёньня ён адчувае на сабе ўдары варожага лягеру, часам адкрытыя, часам замаскаваныя. Яшчэ і сёньня ідзе і ў жыцьці і ў навуцы жорсткая, сьмяртэльная барацьба—„быць, ці ня быць“—барацьба за права беларускіх працоўных мас на сваё культурнае адраджэньне, за сваё месца пад сонцам. Асабліва цяжкай і ўпартай зьяўляецца гэтая барацьба на Захадзе, пачынаючы ад Вільні і канчаючы Прагай. Там нясупынна цягнецца „дыскусія“ на тэму аб беларускім нацыянальна-культурным руху і вядзецца актыўная, варожая гэтаму руху пропаганда.

У зьвязку з гэтым набываюць пэўнай вартасьці некаторыя ўвагі і спраўкі з нядаўнага мінулага, датычныя поглядаў на нацыянальную справу ранейшай лібэральнай інтэлігенцыі. Ня трэба думаць, што погляды традыцыі гэтага сорту людзей цяпер канчаткова памерлі і нідзе ня дзейнічаюць. Законным спадкаберцам іх зьяўляецца ў Заходняй Беларусі польскі лібэралізм, часьцей за ўсё ў так зв. „крэсовым“ адценьні, а далей на захад—расійская „левая эміграцыя“. Не бракуе недабіткаў гэтых лібэральна-буржуазных традыцый і ў нас у Савецкім Саюзе, асабліва ў Савецкай Беларусі. Тут яны выступаюць звычайна ў абліччы „пшчолкаўшчыны“, якая вядзе свой пачатак і сваю аргумантацыю беспасрэдна ад „краёвага дэмократызму“ паноў Саланевічаў.

У процілежнасьць старому агрэсыўнаму „общерусизму“ тыпу Меншыкова і К° і ў процілежнасьць напорыстай „вшехпольскасьці“, якія ішлі і ідуць супроць беларускай нацыянальнай ідэі адкрытай вайной,—сучасная „пшчолкаўшчына“ і лібэральная „крэсовая польскасьць“ ставяцца да гэтай ідэі як быццам прыхільна. Яны прымаюць адраджэньне Беларусі, але... толькі з пэўным абмежаваньнем. Яны прызнаюць яго ў так зв. „этнографічным“ сэнсе, г. зн. у сэнсе захаваньня і разьвіцьця мясцовых народных асаблівасьцяй, але ні ў якім выпадку ня ў сэнсе адраджэньня нацыі, ствараючай новую, самастойную культуру. Пры гэткім прызнаньні яны ўжываюць фомулу так зв. „дапушчэньняў“, пры якім, па іх думцы,

---

[1]) З многімі месцамі ў артыкуле А. Цьвікевіча рэдакцыя ня згодна, але друкуе яго, як увогуле цікавы. *Рэдакцыя.*

проблема адраджэньня Беларусі павінна захавацца ў рамках „разумнага“ грамадзкага чыну і з культурнага „бунту“ пертварыцца ў рэч здаровую і прыемную.

Перш за ўсё і галоўней за ўсё формула „дапушчэньня“ датычыць беларускае мовы. У сваіх адносінах да яе буржуазна-культурны дэмократызм ня можа стаць на грунт абсолютнага яе адмаўленьня. Не, ён прызнае яе, але толькі, як „дыялект“ мовы польскай, ці эвэнтуальна-расійскай. Ён ня можа не згадзіцца з тым, што на гэтым „дыялекце“ гаворыць мільённая маса жыхарства, але разам з тым ён ня хоча прызнаць за гэтым „дыялектам“, за гэтай gwarą праў сапраўднай нацыянальнай мовы.

Ад гэткіх максымумаў яго захоўвае „лібэральная навука“. Яна даводзіць, што беларускі „дыялект“ ніякай быццам літаратурнай вартасьці ня мае і мець ня можа. Яна даводзіць, што гэта толькі „сыры матэрыял“, вельмі блізкі да агульна-польскай ці эвэнтуальна-агульна-расійскай мовы, і што гаворачы ім народ ня імкнецца да пертварэньня яго ў нешта вышэйшае: расійская і польская літаратурныя мовы з лішкам быццам здавальняюць беларусаў у іх патрэбах. Аднак, гэта ня значыць, кажа „лібэральная навука“, што беларускі „дыялект“ павінен забараняцца. Наадварот,—як мясцовая адзнака, як спадчына гісторыі, праўда часовая, ён павінен захоўвацца, бо ўсялякае прыняволеньне, усялякая штучнасьць пры выхаваньні народу добрых вынікаў не дае. Беларускі „дыялект“ павінен мець пэўнае прызнаньне хоць-бы нават таму, што ён уплывае на разьвіцьцё як мясцовых творчых сіл, так і на расійскую (польскую) літаратуру. Апошнія ўзбагачваюцца коштам „окраин“, „kresow“. Дзеля гэтага яго трэба падтрымаць і „дапусьціць“ у ніжэйшую школу, у мяшаную „двуязыковую“ школу, друкаваць на ім „кніжкі для народу“, наогул толераваць яго разам са ўсімі іншымі этнографічнымі адзнакамі беларускага племені.

Што крыецца ў аснове гэткай апініі? Няўжо толькі жаданьне разьвіцьця „мясцовых сіл“ і імкненьне да „ўзбагачэньня“ расійскай і польскай літаратуры? З аднаго боку, так,—буржуазны „культурны дэмократызм“ зусім шчыра пераконаны ў гэткім „падсобным“ значэньні беларускае мовы; заявы гэткага зьместу можна вельмі часта чуць і ў Вільні, і ў Варшаве, і ў Празе, а часам і ў нас—у Менску. Але, з другога боку, ня зусім так. У гэтых прызнаньнях і „дапушчэньнях“ ёсьць сваеадменная, таемная надзея, што беларуская мова ніколі не разаўецца і не зраўняецца з літаратурнай расійскай і польскай мовай, і тым самым не падкапаецца пад яе ўплыў. У гэтым пункце культурны дэмократызм няшчыры, тут ён фарысействуе. Раскрыць гэтае фарысейства — значыць выкрыць яго памылку; а выкрыць яго памылку—значыць давесьці яго хлусьню і прымусіць яго да капітуляцыі.

Для таго, каб выкрыць хлусьню буржуазнага лібэралізму—задамо пытаньне: ці можа дыялект, наогул,—незалежна ад таго, беларускі гэта, ці провансальскі, або флямандзкі,—пертварыцца ў літаратурную мову?

Аб гэтым спрэчкі ў навуцы няма. Вядомы нямецкі філёлёг Пауль (Paul, „Principien der Sprachgechichte“) кажа, што „розьніца паміж мовай і дыялектам ёсьць чыстая *„абстракцыя“*. А расійскі вучоны С. Буліч дадае, што „розьніца паміж мовай і дыялектам ёсьць *пытаньне часу*. У тэорыі— даводзіць ён—„кожны дыялект мае поўную магчымасьць пэратварыцца з часам у мову“.

Калі так, дык, значыць, і беларускі „дыялект“ *у тэорыі і з часам* можа пэратварыцца ў мову.

Выдатнейшы польскі філёлёг Бодуэн-дэ-Куртэнэ разьвівае гэтую думку ў стасунку да беларусаў у наступным выглядзе: „На мой погляд,— кажа ён,—беларускі моўны абшар ня можа быць цалкам процістаўлены вялікарускаму моўнаму абшару. Ён па сваіх асноўных фонэтычных і морфолёгічных адзнаках зьяўляецца толькі прадоўжаньнем паўдзеннай вялікарускай паласы, сумяшчаючай у сабе гаворкі так зв. „акаючыя“ ў адрозьненьне ад паўночнай паласы „окаючых“... Я ад усяе душы жадаю беларускім патрыётам усялякага посьпеху ў іх імкненьнях стварыць асобную беларускую літаратурную мову дзеля ўсялякага ўжытку ня толькі для фольклёрных запісаў і выданьня кніжачак для народу, але нават для ўжытку па ўсіх галінах літаратуры ў вышэйшым стылі і навуцы. Аднак, калі са сфэры асабістых прыхільных адносін перайсьці ў сфэру назіраньняў і заснаваных на гэтых назіраньнях прадугледжаньняў, дык я павінен заўважыць, што беларуская мова так блізка да мовы вялікарускай, што ёй наўрад ці ўдасца ўтрымацца побач з гэтай апошняй. Для патрэб мастацкай літаратуры і для патрэб навукі беларусы магчыма будуць карыстацца і ў будучыне агульнарасійскай мовай. Калі-ж хтонебудзь з беларусаў будзе адчуваць сябе gente Russus albus, natione Polonus (па паходжаньні беларусам, а па нацыянальнасьці палякам), дык ён, зразумела, будзе лічыць польскую мову сваёй літаратурнай яднаючай мовай“ [1]).

Свае разважаньні на гэтую тэму Бодуэн-дэ-Куртэнэ канчае вельмі характэрнай заявай, што „ўсё тое, што ён тут выказаў, мае пакуль што так зв. „акадэмічнае значэньне“.

Што можа быць больш неакрэсьленага і больш нявыразнага, чым гэтая апінія? З аднаго боку, поўная прыхільнасьць да беларускае мовы і шчырае жаданьне найлепшага яе разьвіцьця; з другога боку—халодны скэптыцызм і гэткае-ж поўнае адмаўленьне ёй у якой-бы то ні было будучыне. Тыповае „лібэральнае“ разважаньне, што трымаецца „залатой сярэдзіны“.

---

[1]) Свой погляд на беларускую мову паважаны вучоны выказаў сем год таму назад у артыкуле: „К вопросу о восточных границах Польшчы“ Варшава, газ. „Варшавское Слово“, красавік, 1920 г., № 93. Вельмі магчыма, што сёньня гэты погляд зьмяніўся. У кожным разе, тыя лісты, з якімі Бодуэн-дэ-Куртэнэ зьвярнуўся да нядаўна адбыўшайся ў Менску Акадэмічнай Конфэрэнцыі па пытаньнях беларускага правапісу і азбукі сьведчаць аб тым, што ён ставіцца да проблемы беларускае мовы са ўсёй сур'ёзнасьцю і пашанай.

Але для нас даволі таго, што проф. Бодуэн-дэ-Куртэнэ цалкам згаджаецца з тым філёлёгічным прынцыпам, што беларуская мова *мае магчымасьць* разьвіцца да дасканалага літаратурнага значэньня.

Чарговае запытаньне: як *практычна* адносіцца да гэтай магчымасьці? Вядома, што кожнае жыцьцёвае зьявішча разумее ў стасунку да сябе адно з двух: або падтрыманьне, або зьніштажэньне. Тое, што можа *жыць*, можа і *памерці*. Калі мы, прыкладам, садзім дрэва ў грунт і ведаем, што яно можа вырасьці, калі яго паліваць, і можа загінуць, калі яго пакінуць без дагляду,—дык мы кіруемся сваім жаданьнем: калі мы хочам, каб яно вырасла, дык мы яго будзем паліваць, а калі не,—дык мы аб ім забудземся. Тое самае і з чалавекам: у залежнасьці ад нашага жаданьня ён можа вырасьці ці дурным дзікуном, ці асьвечаным разумным працаўніком. Усё залежыць ад таго, як мы хочам, чым яму быць.

У стасунку да мовы, як поўнага соцыолёгічна-біолёгічнага пачатку, гэткі падыход адзіна магчымы. Мова жыве і разьвіваецца, як кожнае іншае органічнае зьявішча, прычым процэс яе разьвіцьця цягнецца неакрэсьлена доўгі час. Адносіцца да яго абыяк і не зварочваць на яго ўвагі—немагчыма. Дарма той-жа Буліч кажа, што „імкненьні патрыётаў тварыць сваю самастойную літаратурную мову ня будуць пасьпяховы, калі яны ў сапраўднасьці бязгрунтоўны і, наадварот, спробы затамаваць яе разьвіцьцё зьяўляюцца ці лішнімі, ці бязмэтнымі“.

Сама па сабе гэтая мысьль зусім правільна, але ў даным выпадку яна падобна да старога грэцкага софізму аб мэдыцыне. Стары софісты разважаў аб патрэбе мэдыцыны ў наступным парадку: кожнаму хвораму чалавеку, якому радзяць зьвярнуцца да доктара, суджана адно з двух—або памерці, або выжыць. Ніякі трэці выпадак немагчымы. Калі яму суджана памерці, дык дактары яму ўсё роўна не дапамогуць, а калі яму суджана выздаравець, дык незалежна ад таго, ці будзе пры ім доктар, ці не—ён выздаравее. Выходзіць, што дактары непатрэбны.

Як разьвязваецца гэты софізм, мы ведаем з элемэнтарнага курсу лёгікі. Але і бяз лёгікі кожны нормальны чалавек вельмі спрытна разьвязвае гэты софізм тым, што ў выпадку хваробы хутчэй кліча доктара. Бо кожны з нас вельмі добра разумее, што незалежна ад таго, што яму „суджана“, доктар становішча не пагоршыць, а дапамагчы можа; кожны з нас добра разумее, што самую „суджанасьць“ доктар можа пакіраваць ці на карысьць сьмерці, ці на карысьць здароўя,—у залежнасьці ад таго, якое дасьць лякарства.

Думка С. Буліча аб мове мае гэткае-ж самае значэньне. Зусім справядліва, што калі мова *ня мае* тых асноў, якія даюць ёй магчымасьць ператварыцца ў дасканалую форму для максымальнага ўжытку, дык усё роўна праца яе абаронцаў сплыве на нішто. Калі-ж у ёй заложаны такія потэнцыяльныя сілы, пры якіх яна *ўсё роўна* дасягне дасканалага разьвіцьця, дык спробы яе ворагаў спыніць яе разьвіцьцё будуць дарэмнымі.

Аднак, ня трэба забывацца, што калі мы будзем мову падтрымліваць, калі мы будзем клапаціцца, каб яна мела адны спрыяльныя ўмовы і ня мела перашкод, дык будзе адзін эфэкт. А калі мы будзем прасьледваць яе, забараняць яе і зьдзеквацца над ёй, дык эфэкт будзе зусім іншы.

Выходзіць, што справа тут не ў „патрыётах", якія імкнуцца „адрадзіць" мову незалежна ад прысутнасьці, ці адсутнасьці ў ёй патрэбных „элемэнтаў", а справа ў тым,—хочам, ці ня хочам мы яе падтрымліваць і разьвіваць. Знайсьці „асновы", вымаганыя навукай, для вызнаньня мовы нельга ўжо таму, што сама навука не дае нам ніякага крытэрыя для акрэсьленьня гэтых „асноў". Апрача таго, няма і тэй інстанцыі, якая-б была компэтэнтна вырашыць пытаньне—ёсьць яны ці адсутны ў даным конкрэтным выпадку.

Зазвычай кожны вырашаў і вырашае гэтае складанае пытаньне на свой густ і смак. За прыкладамі далёка хадзіць ня трэба,--даволі ўспомніць хістаньні Расійскай Акадэміі Навук адносна мовы украінскай, якія цягнуліся 50 год з лішкам, і тую „дыскусію", якая цягнецца яшчэ і сёньня аб мове беларускай.

Як-жа быць, калі гэта пытаньне „акадэмічна" ня вырашана? Жыцьцё ня можа стаяць на месцы, яно павінна скіраваць штодзенны факт ці туды, ці сюды. У жыцьці трэба ясна ведаць—якую школу ў даным выпадку адчыняць: польскую, ці беларускую; якія друкаваць падручнікі—беларускія ці расійскія; як навучаць дзяцей чытаньню, пісаньню, арытмэтыцы, географіі і г. д. Той, хто кіруе жыцьцём, ня можа спыніцца на поўдарозе і *ніяк* не адказаць на гэта практычнае запытаньне.

„Патрыёт" мовы і яе адкрыты вораг маюць ясны адказ на гэта: першы кажа—толькі беларускую, другі кажа—толькі польскую—расійскую. А „лібэральны дэмократ", саромячыся папроку ў ненавуковасьці і баючыся закіду ў дэнацыяналізатарстве, адказвае напалову: разьвіваць беларускую мову можна, але толькі да парогу сярэдняй школы, дазваляць яе можна, але толькі для „дамовага ўжытку".

Сваё абмежаваньне „культурны дэмократызм" тлумачыць дзьвюма прычынамі: папершае, таму, што беларускі „дыялект" быццам яшчэ не разьвіўся да літаратурнай і навуковай формы і, падругое, таму, што на вышэйшых ступенях культуры беларусаў здавальняе мова расійская, эвэнтуальна—польская.

Нават пры павярхоўным азнаямленьні з гэтымі „аргумэнтамі" можна заўважыць іх унутраную супярэчнасяць. Сапраўды,—як-жа беларускі „дыялект" можа разьвінуцца да значэньня навуковай мовы, калі яго ня пушчаюць далей ніжэйшай школы? З другога боку,—ці-ж ня мог-бы беларускі „дыялект", *калі-б ён разьвінуўся да літаратурнага значэньня*, задаволіць беларускія патрэбы нароўне з мовай расійскай (польскай)? Тут атрымліваецца клясычны circulus vitiosus: беларуская мова ня можа

апанаваць вышэйшую школу і навуку дзякуючы таму, што яна не разьвіта, а ня разьвіта яна таму, што ня мае доступу ў вышэйшую школу. У сваю чаргу, *калі-б* беларуская мова разьвілася да ступені расійскай мовы, дык нішто не перашкаджала-б ёй заступіць месца апошняй; аднак, разьвіцца да гэтай ступені, пры забароне пераступаць парог сярэдняй і вышэйшай школы, яна ня можа; увесьці-ж яе ў гэтую школу нельга быццам з прычыны яе „элемэнтарнасьці“.

Такім чынам, з аднаго кругу родзіцца другі,—і пытаньне робіцца безнадзейным. Выйсьці з яго немагчыма.

II

Трудна думаць, каб гэтае зачараванае кола ў плыні разважаньняў „культурнага дэмократызму“ ня было ім самім заўважана. Бязумоўна, тыя, каму трэба было ведаць, тыя ведалі. Раней за ўсіх убачылі гэтую блытаніну тыя, хто займаўся пытаньнем беларускай мовы па абавязку службы, хто займаўся ім на практыцы, а не ў тэорыі.

Спачатку, калі пытаньне аб мове і дыялекце ў расійскай навуцы толькі паўстала, гэтую супярэчнасьць неяк „прагледзелі“ і шляхам „дапушчэньняў“ надавалі няпрызнаным мовам усялякіх абяцанак. Але пасьля хапіліся і пачалі адступленьне. Даванае раней „дазваленьне“ абвясьцілі нядзейным, а самае пытаньне аб няпрызнаных мовах вызналі дзяржаўна небясьпечным.

Здарылася гэта дзякуючы зноў такі тым „патрыётам мовы“, аб якіх успамінае Бодуэн-дэ-Куртэнэ, Буліч і інш. дасьледчыкі. Патрыёты гэтыя, маючы перад сабой факт існаваньня „дазволенай“ мовы і маючы ад навукі прынцыповую згоду на яе разьвіцьцё, так прасякнуліся гэтым разьвіцьцём, што перайшлі „дазволеную“ меру: замест таго, каб здаволіцца зьбіраньнем фольклёрнага матэрыялу і пісаць „кніжкі для народу“, яны пачалі апрацоўваць граматыку мовы, пачалі ствараць паважныя поэтычныя рэчы, пісаць романы і г. д. Народныя масы з глыбокай сымпатыяй адгукнуліся на гэтую працу. Пачалі тварыцца літаратурныя гурткі, навуковыя таварыствы, а за імі, бач,—і політычныя „ўхілы“. Справа разьвярнулася неяк сама сабой,—гэта было з украінскім рухам у 40—60 г.г. мінулага веку.

Як-жа аднеслася да гэтага, нормальнага з пункту гледжаньня навукі, процэсу расійская лібэральная інтэлігенцыя? Здавалася, яна павінна была-б вітаць яго дзеля таго, што разьвіцьцё мясцовых сіл ёю „дазвалялася“. Аднак вышла наадварот. Расійская лібэральная думка адносілася да гэтага руху з надзвычайнай варожасьцю.

Перш за ўсё яна абвясьціла спробы пісаць на украінскай мове „сьмешнымі“, а затым „злонамеренными“. Часопісь левых славянафілаў „День“ заняла пры гэтым позыцыю, як сам казаў, „бесстаронную і практычную“. Яе „бесстароннасьць і практычнасьць“ выразіліся ў артыкуле

вядомага славістага В. Ламанскага, які пісаў: „Прызнаемся, думка аб магчымасьці асобнай маларускай літаратуры (а не мясцовай слоўнасьці) уяўляецца нам найвялікшай бяссэнсіцай („величайшей нелепостью“). Гэтая літаратура магчыма толькі пры ўмовах самых надзвычайных. Так, прыкладам, трэба пераканаць у яе патрэбнасьці ўсіх думаючых маларасіян, трэба забыцца ўжываньня расійскай мовы, кінуць чытаць расійскія кнігі, трэба выхаваць цэлыя пакаленьні маларасіян у няведаньні расійскай мовы і літаратуры. Бяз гэтых умоў украінская літаратура немагчыма. Аднак, калі немагчыма самастойная маларуская літаратура, дык магчыма і карысна літаратурнае апрацаваньне дыялекту маларускага, побач з агульна-расійскай мовай, *асобная маларуская слоўнасьць* побач з расійскай літаратурай, з расійскай навукай і асьвечанасьцю“ („День“, № 21—1861 г.).

Як бачым, гэты гарачы протэст супроць украінства прадыктаваны далёка не бесстароннымі меркаваньнямі. Уся „бесстароннасьць“ лібэральных прыяцеляў украінскага руху выявілася адзіна ў тым, што яны прызнавалі адраджэньне украінскай мовы „для домашняго обихода“, дзе яна, казаў той, „мае сваю карысьць“. У падобны спосаб пісаў аб ёй Хомяков у „Русской Беседе“ (артыкул аб казаньнях украінскага папа Грэчулевіча), таксама адзываўся аб ёй Аксаков і г. д.

Рэдакцыя „День“ у № 20 праз год пасьля гэтага пісала: „Мы ня думаем, каб разьвіцьцё маларускае народнай літаратуры калі-небудзь *раздвоіла* расійскую літаратурную мову, мову асьвечанага грамадзтва ўсяе зямлі рускай бяз розьніцы, але мы ніколі-б не парадзілі ні Шэўчэнку, ні Марку Ваўчку пісаць першаму надзвычайна прыгожыя вершы, а другому—украінскія аповесьці на мове агульналітаратурнай, а не на простанароднай“. Пры гэтым рэдакцыя сьвядома прыводзіла спраўку, што вось дзеньнік свой Шэўчэнка пісаў парасійску.

Тыя-ж самыя думкі выказваліся ў той час і ў стасунку да Беларусі. Беларуская мова прызнавалася таксама як „дыялект“, якому трэба з прычыны „практычных мэт“ даць некаторую свабоду: „Патрэбна, каб селянін разумеў гасудароў загад і ўнушэньні расійскай улады зусім выразна, без непаразуменьняў, патрэбна, каб адчуў сябе зусім расійцам, а для гэтага ён павінен адчуць сябе перш за ўсё беларусам. Адразу вылепіць з яго вялікарускага мужыка немагчыма, дый няма патрэбы“. У сувязі з гэтым „мы лічым,—пісала рэдакцыя,—што было-б надзвычайна карысна выкладаць пачатковыя веды і сэнс урадовых загадаў беларускаму селяніну на беларускім дыялекце, навучаць чытаць яго і пісаць пабеларуску, а пасьля абавязкова парасійску і царкоўна-славянску“ („День“, № 25 за 1863 год).

І ня толькі ў публіцыстыцы і навуцы,—сярод лепшых расійскіх пэдагогаў таго часу жыла гэтая думка. Водовозов, Ушынскі, Вэссэль, бар. Корф,—усе яны патрабавалі, каб мясцовы дыялект“—беларускі і украінскі—ужываўся ў народных школах, дзе адначасова прыходзіцца і

навучаць чытаць, і навучаць разумець чытанае; усе яны прызнавалі, што „мясцовы элемэнт“ павінен адыгрываць ролю „точки отправления“, пасьля якой ідзе мова дзяржаўная, расійская. На гэтым прынцыпе, як вядома, пабудавана і сучасная нам тэорыя „двуязыковых школ“, аб якой гэтак шмат гавораць і пішуць у Заходняй Беларусі. Аднак—толькі гавораць і толькі пішуць, а ў жыцьцё не праводзяць. Польскі ўрад ня хоча пайсьці нават і на гэткую мізэрную ўступку беларусам, бо для яго страшна ня толькі вышэйшая беларуская, але і ніжэйшая. У Заходняй Беларусі стан рэчаў зложыўся такі, што „навучыць чытаць і разумець чытанае“ беларускае дзіця пабеларуску, значыць зрабіць з яго рэвалюцыянэра, выхаваць яго ў „antypanstwowym“ настроі.

III

З прыведзеных прыкладаў яскрава відаць, якую памылку робіць культурны дэмократызм, у якое нявыразнае і супярэчнае становішча ён трапляе. Бо як, сапраўды, прымірыць акадэмічнае цьверджаньне аб потэнцыяльных магчымасьцях кожнае мовы з заклёнамі Ламанскага, які абвяшчае украінскую мову „найвялікшай нісянеціцай“? І які можна палажыць крэс „патрыётам“ гэтае мовы, каб яны займаліся ёй толькі для „дамовага ўжытку“? Што, урэшце, рабіць з імі, калі яны пачынаюць пропаганду словам і справай за програму-максымум. Саджаць іх у турмы? Пакідаць іх бяз увагі?

Лібэральная расійская інтэлігенцыя ня ведала, што тут рабіць. А затое расійская ўлада ведала вельмі добра: не разважаючы тэорытычна, яна так-такі саджала „патрыётаў“ у турмы і выдавала драконаўскія загады аб забароне самае думкі аб няпрызнаных мовах.

Увесь сэнс лібэральных пераконаньняў і іх саромлівых „дапушчэньняў“ тоіцца, зразумела, не ў акадэмічнай аргумэнтацыі і не ў об‘ектыўных асаблівасьцях тэй ці іншай мовы. Ен тоіцца ў самым грубым эгоізьме культурнага дэмократызму, у яго суб‘ектыўным нежаданьні, каб падбітая мова дасягнула вышэйшай дасканаласьці. Правадыры ранейшага лібэральнага „общеруссизма“, таксама, як і сёнешнія яго расійскія і польскія эпігоны, ня столькі *ня вераць* у адраджэньне беларускай мовы, кольк *ня хочуць*, каб гэта сталася. Яны рабілі і робяць „уступкі“ ёй толькі ў сваіх эгоістычных мэтах, спадзяючыся „ўзбагаціцца“ коштам жывых мясцовых крыніц.

Паказаная позыцыя настолькі-ж супярэчная, наколькі небясьпечная. Небясьпечнасьць яе тлумачыцца тым, што лібэральнай інтэлігенцыі ня была вядома істота нацыянальнай проблемы, як гэткай, ня былі вядомы тыя дыялектычныя няўнікнёнасьці, якія цягне за сабой хоць-бы і этнографічнае прызнаньне пэўнай нацыянальнасьці. Большасьць старых расійскіх лібэралаў, як у асобе славянафілаў, так і ў асобе заподнікаў, не ўяўлялі сабе нацыянальнага пытаньня ва ўсёй яго шырыні.

Яны падыходзілі да яго толькі з пункту погляду опозыцыі тагочаснаму ўрадоваму напрамку. У іх галовах было нявыразнае ўяўленьне тэй „небясьпекі“, якую несла з сабой нацыянальная проблема ў расійскай імпэрыі, але разам з тым яны адчувалі гвалтоўнасьці расійскага самаўладзтва ў стасунку да прыгнечаных нацыянальнасьцяй і шукалі „справядлівага“ вырашэньня іх лёсу. Яны імкнуліся да ўстанаўленьня лагодных, „разумных і дэмократычных адносін паміж народамі старое Расіі, у зьвязку з чым „дапускалі“ разьвіцьцё мясцовых сіл для агульнага дабра“.

Як прыклад падобнага стасунку, можна прывесьці вядомага дасьледчыка гісторыі славянскіх літаратур А. Пыпіна. У яго працы, прысьвечанай гісторыі адраджэньня паўдзённых славян і іх літаратуры [1]) можна знайсьці ня мала заяў, якія сьведчаць аб зусім шчырым і паважным, хоць, зразумела, на свой капыл, прызнаньні украінства і украінскай мовы (гл. стар. 350—388). Але і яго ўяўленьне справы туманна і расплывіста. Найбольш крытычныя разважаньні над украінскай проблемай ён чамусьці хавае у заўвагах пад радкамі, што ня кожны раз можна тлумачыць цэнзурнымі ўмовамі. Некаторыя з гэтых заўваг ласьне і сьведчаць, што Пыпіну была няясна істота рэчы.

Так, прыкладам, на стар. 352 сваёй працы ён робіць гэткую дзіўную зноску:

„Умовы, на якія сьпіраюцца супроць украінскай справы расійскія і некаторыя заходня-славянскія вучоныя, ляжаць у тым, што украінская літаратура стаіць у суседзтве з моцнай расійскай літаратурай, якая быццам забясьпечвае украінскі нацыянальны інтарэс. Але ўнутраныя адносіны (?) расійскай літаратуры, на жаль, не даюць яшчэ поўнае асновы для гэткага меркаваньня“.

Якая думка схавана ў гэтай цёмнай фразе і што разумеў Пыпін пад „унутранымі адносінамі“ ў расійскай літаратуры—зразумець трудна. Аб адным толькі можна дагадвацца,—што расійская літаратура, па думцы Пыпіна, да часу, пакуль у ёй ня зьменяцца „ўнутраныя адносіны“, ня можа адыгрываць ролі, якая ёй быццам прызначана, і што калі гэткія „адносіны“ ў ёй дасьпеюць, дык яна здаволіць патрэбы ўсіх народаў расійскай імпэрыі.

А Пыпін дакляруе ў літаратуры своеадменны „літаратурны“ фэдэралізм,—на якім пункце гледжаньня стаяла большасьць расійскай інтэлігенцыі (дый цяпер стаіць!) і які быў пэўнай модуляцыяй „этнографічнага прызнаньня“ недзяржаўных нацыянальнасьцяй. Аб гэтым сьведчыць погляд Пыпіна на Гогаля. Зазначаючы, што ў адносінах расійскага грамадзтва да украінства мала „утешительного“, што ў гэтых адносінах „неприязнь порождает неприязнь“ і, згаджаючыся з Гільфэрдынгам, што

*) „История славянских литератур“, А. Пыпина и В. Спасовича, изд. второе, т. I. СПБ. 1879.

„толькі пасьля прызнаньня украінства адбудзецца нашае ўласнае (расійскае) народнае акрэсьленьне“,—Пыпін кажа: „У разьвіцьці нашае навейшае літаратуры ёсьць зьвяно, якое абодва бакі могуць з роўным правам назваць сваім,—гэта Гогаль“ (Ibid., стар. 387).

Як вядома, украінскае культурнае адраджэньне не залічыла Гогаля ў лік сваіх будаўнікоў. Тое самае здарылася ў нас на Беларусі з Адамам Міцкевічам, якога польская фэдэрацыйная тэорыя хацела разглядаць, як свайго роду „зьвяно“ паміж беларусамі і палякамі, свайго роду „беларускага Гогаля“ з польскага боку.

Фэдэрацыйны прынцып у літаратуры хацеў, каб беларуская літаратура і культура былі адначасова і расійскімі (для палякоў адначасова— і польскімі). Жыцьцё паказала, што гэта рэч немагчымая. Той, хто цьвярдзіў аб культурным фэдэралізьме, проста не дадумаў пытаньня да канца. І пэўна не дадумаў яго і Пыпін. Справа ня ў тым, што „неприязнь порождает неприязнь“, хоць гэта пры ўсіх умовах вельмі справядліва, а справа ў тым, што Беларусь—гэта не Расія, таксама, як не Расія— Украіна, Грузія і г. д. Справа ў тым, што калі культура зьяўляецца расійскай, дык, значыць, яна ўжо не беларуская і, наадварот, калі яна беларуская, дык, значыць, не расійская.

Цікава зазначыць, што калі сёньня ў умовах савецкага будаваньня Беларусь, Украіна, Грузія і г. д. акрасьляюцца як самастойныя дзяржавы, ствараючыя пэўны фэдэральны саюз *палітычна*, дык усё-ж такі аб *культурным* фэдэралізьме мовы ў іх няма. Разам з тым, сёньня, пры палітычнай сувязнасьці і пры поўнай культурнай аддзельнасьці, няма ў нас і гутаркі аб якой-небудзь „неприязни“—усе нацыі жывуць на рэдкасьць згодна. Выходзіць, што гэтая самая „неприязнь“, якая існавала паміж рознымі нацыямі ў старой Расіі,—існавала не дзеля адсутнасьці ў адраджаючыхся народаў права на ўласную літаратуру і культуру, а дзеля адсутнасьці ў іх права на палітычную свабоду, існавала дзякуючы таму палітычнаму ўціску, які праводзіўся цэнтрам на „акраінах“. Уціск культуры гэтых „этнографічных акраін“ быў толькі вынікам палітычнага ўціску, і калі расійскі лібэралізм падымаў пытаньне аб „літаратурным прызнаньні“—ён пачынаў справу не з таго канца.

Трэба згадзіцца, што расійская лібэральная інтэлігенцыя кшталтам Пыпіна ўтрымлівалася ў стасунку нацыянальнай ідэі ў старой Расіі ў даволі прызваітых рамках. Але яе вучні на Беларусі ў гэтых рамках далёка ня ўтрымліваліся і падалі вельмі нізка. Яны тут не маглі заставацца на „акадэмічнай вышыні“, факты білі ім у вочы і патрабавалі безадкладнага адказу—або прызнаваць нацыянальны рух, або не. Тэндэнцыі нацыянальна-культурнага адраджэньня былі ім знаёмы на практыцы, а не ў тэорыі, і таму гадунцы лібэральнай школы прымалі тут, на Беларусі, аблічча ці самых зацятых русыфікатараў, ці проста людзей, выбітых з каляі.

Максім Гарэцкі вельмі трапна заўважыў (гл. яго „Гісторыю беларускай літаратуры“), што, прыкладам, сябры так зв. „Белорусскаго Общества“ ў Вільні „самі сабе звычайна ішлі наўпрэкі: у вадным нумары свае часопісі „Крестьянин“ была ганьба на беларускую мову, у другім Пшчолка зьмяшчаў свае вершы „на роднай мове“.

Рэдакцыя „Крестьянина“ ласьне і стаяла на грунце тых „этнографічных дапушчэньняў“, якія, як мы паказалі вышэй, заводзяць у нявылазны круг супярэчнасьцяй, і прымушаюць ісьці сваіх спавядальнікаў самім сабе наўпрэкі.

Саромлівыя лібэральныя „дапушчэньні“ маюць адну цікавую асаблівасьць: калі на іх шлях стане чалавек „чэсны з сабой“, які прывык рабіць з сваіх разважаньняў цьвёрдыя вывады, дык ён няўнікнёна прыходзіць да прызнаньня ня толькі далейшых этапаў прызнаньня мовы, але і наогул да прызнаньня ўсяе програмы нацыянальна-культурнага адраджэньня. Вельмі часта здараецца, што ласьне шляхам нявінных з віду „дапушчэньняў“ людзі прыходзяць да нечаканых і вельмі далёка ідучых пераконаньняў. Тут уся справа толькі ў лёгіцы, шчырасьці і часе.

З расійскіх дзеячоў і вучоных таго часу мала хто вядом сваёй шчырасьцю ў гэтым пытаньні. Можа быць, толькі адзін Міхайла Бакунін ня спужаўся тых вывадаў, якія цягнула за сабой прызнаньне нацыі ў „этнографічным“ сэнсе. Ён адзін бяз ніякіх папярэджаньняў прызнаваў, што „Беларусь таксама, як і іншыя славянскія краіны, будзе самастойным сябрам агульна-славянскага саюзу“.

У украінстве бліскучым сьведчаньнем нашае думкі быў Антановіч і, асабліва, Драгоманів. Першы прышоў да украінства з польскага боку і сам казаў аб сабе, што ён „перевертень“; прышоў—шляхам „дапушчэньняў“. Другі спачатку быў адкрыта супроць украінства, як асобнага пачатку ў гісторыі, і толькі з 1871 г., сьледам за расійскімі лібэраламі, пачаў лічыць, што украінская літаратура карысна для „дамовага ўжытку“, для такіх практычных мэт, як, прыкладам, барацьба з палёнізацыяй у Галіччыне. Аднак, раз зрабіўшы гэткае „дапушчэньне“ і мысьлячы над справай да канца, Драгоманів хутка прышоў да праконаньня, што „для украінскага народу можна працаваць толькі ў украінскай форме“, і што „вышэйшыя соцыяльныя, палітычныя і культурныя ідэалы могуць быць ажыцьцёўлены на Украіне толькі ў украінскай нацыянальнай форме“. (Гл. Б. Кистяковский,—„М. Драгоманов“, 1908).

Нямала падобных-жа прыкладаў можна знайсьці і ў гісторыі беларускага культурнага руху.

Як агульнае правіла, трэба зазначыць, што сёньня, у умовах рэволюцыйнага будаваньня беларускай культуры, да ўсялякага гатунку „акадэмічных дапушчэньняў“ трэба ставіцца з асаблівай засьцярогай. Яны, гэтыя „дапушчэньні“, сёньня вельмі небясьпечны сваёй практычнай нявыразнасьцю і неакрэсьленасьцю. У той час, як небясьпеку „общерус-

сйзма“ і „вшехпольскосьці“ можна лёгка заўважыць і можна загадзя прыгатавацца да змаганьня з ёю, тут, сярод дэмократычнага лібэральнічаньня можна лёгка заблутацца. Шлях напоўпрызнаньняў і напоўмер звычайна толькі замазвае сапраўдныя мэты і жаданьні „левай“ расійскай і польскай інтэлігенцыі. Як соцыял-дэмократычныя і наогул згодніцкія ўгрупаваньні ў політыцы зьяўляюцца заслонай для наступленьня капіталу, таксама тут „акадэмічныя ўступкі“ і лібэральныя залагоджваньні адыгрываюць ролю заслоны для дэнацыяналізатарскай і асыміляцыйнай практыкі.

Асабліва гэта трэба мець на ўвазе ў Заходняй Беларусі, дзе польскі „крэсовы дэмократызм“ вельмі спрытна выконвае сваю заслонную ролю. Уся сыстэма „двуязыковых школ“, салодкія размовы аб „справядлівых уступках“ у галіне нацыянальнай культуры, фальшывыя нападкі на ўрад, які вядзе „мядзьвежую“ політыку, абяцанкі, што вось-вось і беларуская культура зацьвіце пад абаронай Польскай рэспублікі,—усе гэтыя рэчы зьяўляюцца прывычнай хлусьнёй сьвядомым ці несьвядомым—гэта ўсё роўна—жаданьнем прымірыць беларускае адраджэньне з польскім буржуазным панаваньнем. Да гэтых захадаў і комбінацый лібэральнае „крэсовае дэмократыі“ трэба ставіцца са ўсёй сьвядомасьцю захаванай у іх пагрозы. Лепш мець перад сабой воўка ў яго натуральнай вопратцы, чымся воўка ў авечай скуры.

# СПАЖЫВЕЦКАЯ КООПЭРАЦЫЯ БССР

Л. Расін

Калі ўсе галіны народнай гаспадаркі ў папярэднія гады перажывалі пэрыод адбудовы, то спажывецкая коопэрацыя толькі ўступала ў пачатковы пэрыод свайго організацыйнага будаўніцтва. Тое коопэрацыйнае, што ў нас было да вайны, было такім нятрывалым і мізэрным, што ня можа быць узята пад увагу. Калі нашай прамысловасьці і нашай сельскай гаспадарцы ў рэзультаце перажытых войнаў і рэволюцыйных бур, у рэзультаце даволі працяглага гаспадараньня польскай ваеншчыны засталіся хворыя і разбураныя організмы, вымагаўшыя адбудовы, засталіся хоць касьцякі, то адносна спажывецкай коопэрацыі гэтага сказаць нельга: тут было пустое месца. Прыходзілася будаваць зусім новы коопэрацыйны гмах, якога дарэволюцыйная Беларусь амаль ня ведала.

Коопэрацыйнае будаўніцтва пачынаецца ў нас толькі ў 1917 годзе; з гэтага часу і пачынаецца вельмі шпаркі рост спажывецкіх коопэрацыйных аб'яднаньняў, найбольшы лік якіх прыпадае на 1924 год.

| Час узьніканьня | Лік спажывецкіх аб'яднаньняў | У %/%/% |
|---|---|---|
| Да 1914 г. . . | 10 | 1,8 |
| „ 1914—1916 г. . | 47 | 8,7 |
| У 1917 г. . . | 78 | 14,4 |
| „ 1918—1919 г. . | 106 | 19,6 |
| „ 1920—1923 „ . | 110 | 20,4 |
| „ 1924 г. . . | 126 | 23,3 |
| „ 1925 „ . . | 58 | 10,7 |
| Невядома калі . . | 6 | 1,1 |
| Усяго . . | 541 | 100% |

Тут прыведзены толькі тыя таварыствы, якія дажылі да 1926 г. Сапраўды-ж лічба таварыстваў, паўстаўшых у пасьлярэволюцыйныя ча-

сы, куды большая і толькі частцы іх удалося ўзмацнець і выйсьці на шырокі коопэрацыйны шлях. Аб гэтым сьведчаць наступныя даныя. У б. Магілеўскай губ. ў 1914 г., згодна з календаром-даведнікам статыстычнага аддзелу Магілеўскага земства, мелася 45 спажывецкіх таварыстваў; па даных-жа на 1 кастрычніка 1925 г. на тэрыторыі сучаснай Магілеўскай акругі маецца ўсяго толькі 1 коопэратыў, які заснаваўся да 1914 г. Пры ўсёй умоўнасьці параўнаньня б. Магілеўскай губ. з сучаснай Магілеўскай акругай факт ліквідацыі гэтых коопэратываў сьцьвярджаецца. Таксама і ў адносінах да пасьлярэволюцыйных часоў. У пачатку 1925 г. было 520 таварыстваў, зноў паўстала ў 1925 г.—58, лічыцца-ж у пачатку 1926 г. 524 таварыствы, г. ё. 54 тав. ў 1925 г. спынілі, як відаць, сваё існаваньне, або былі рэорганізованы ў аддзелы суседніх т-ваў. 10 спажывецкіх т-ваў, заснаваных да 1914 г., і 47 т-ваў, якія організаваліся пад-час імпэрыялістычнай вайны—вось наш актыў перад пачаткам савецкага коопэрацыйнага будаўніцтва ў БССР. У б. Расіі ў пачатку 1914 г. лічылася 10.080 і ў пачатку 1917 г. 20.000 спажывецкіх т-ваў, г. ё. Беларусь мела 0,1—0,2 проц. гэтай лічбы. Такім чынам, мы бачым, што спажывецкай коопэрацыі ў даваеннай і дарэволюцыйнай Беларусі амаль зусім ня было, што тлумачыцца, перш за ўсё, цяжкім паліцэйскім рэжымам, які практыкаваўся асабліва на „окраинах“, а таксама і някультурнасьцю насяленьня. Пад-час-жа вайны Беларусь была пляцдармай ваенных дзеяньняў, што, зразумела, не магло спагадаць узьніканьню коопэрацыі. Наступныя гады, гады рэволюцыі і вайны з Польшчай таксама не спагадалі разьвіцьцю коопэрацыйнага руху. І пасьля 1920 г., з прычыны пагранічнага палажэньня БССР, наша маладая, ня здолеўшая яшчэ як-сьлед з'організавацца, беларуская коопэрацыя, разьядалася вельмі небясьпечнай язвай—бандытызмам.

Гэтым, галоўным чынам, і тлумачыцца позьні пачатак гаспадарча-культурнага будаўніцтва БССР наогул і спажывецкай коопэрацыі пасобку.

Наш агляд мы лічым магчымым пачаць толькі з 1924 г. Да гэтага пэрыоду, апрача ўсяго, Беларусь складалася толькі з 6 паветаў б. Менскай губ., а спажывецкая коопэрацыя толькі выходзіла са стадыі разьмеркаванасьці і ўмоў натуральнага абмену. Сапраўднае коопэрацыйнае будаўніцтва Беларусі ў нормальных умовах пачалося толькі ад часу пераходу на добраахвотнае членства (з сярэдзіны 1924 г.) і правядзеньня грашовай рэформы.

**Організацыйнае будаўніцтва**

Сваё оргаџізацыйнае афармленьне беларуская спажывецкая коопэрацыя, асабліва яе верхняе зьвяно, заканчвае параўнаўча нядаўна. Толькі ў канцы 1924 г. (пасьля пераходу б. райаддзелаў на сыстэму райсаюзаў, перакройкі раёнаў дзейнасьці і г. д.) афармляецца сыстэма акрсаюзаў і

організоўваецца адзіны нацыянальна-гаспадарчы і організацыйны цэнтр спажывецкай коопэрацыі Беларусі—„Белкоопсаюз“.

Установчы сход наступным чынам сформуляваў мэты і задачы нанава створанага цэнтру:

„У мэтах аб'яднаньня ўсіх організацый спажывецкай коопэрацыі БССР у адзіную нацыянальную гаспадарчую сыстэму, у мэтах забясьпекі выступленьня акрсаюзаў і ЦРК на рынках СССР і атрыманьня больш ільготных опэрацыйных умоў працы, у мэтах увязкі організацыйна-гаспадарчай працы акрсаюзаў і ЦРК сярод рабоча-сялянскіх мас і ўнядрэньня ў іх быт социялістычных пачаткаў,—прызнаць патрэбным стварэньне новага нацыянальнага цэнтру спажывецкай коопэрацыі БССР, які зьявіцца ў той самы час акруговым саюзам для первястковых коопэратываў Менскай акругі“.

Такім чынам, структура спажывецкай коопэрацыі Беларусі к канцу 1924 г. склалася ў наступным відзе: у верхнім зьвяне—Беларускі саюз спажывецкіх коопэрацыйных аб'яднаньняў, які адначасова зьяўляецца акрсаюзам для нізавой сеткі Менскай акругі, у сярэднім зьвяне—9 акруговых саюзаў, раёны дзейнасьці якіх у большасьці выпадкаў супадаюць з адміністрацыйным дзяленьнем акруг, у ніжнім зьвяне—спажывецкія таварыствы і, нарэшце, рабочая коопэрацыя, аб'яднаная беспасрэдна Белкоопсаюзам праз сваю рабочую сэкцыю.

## Дынаміка сеткі

Пераходзячы да агляду організацыйнага будаўніцтва сельскай спажывецкай коопэрацыі, мы перш усяго спынімся на дынаміцы сеткі за апошнія два гады.

Адпаведныя даныя выражаюцца ў наступным відзе:

| На 1-ае кастрычніка | Абсолютна | | У %% да 1-га пэрыоду, прынят. за 100 | |
|---|---|---|---|---|
| | Лічба спажыв. т-ваў | Лічба крам | Лічба спажыв. т-ваў | Лічба крам |
| 1924 г. . . | 520 | 1.025 | 100 | 100 |
| 1925 „ . . | 524 | 1.351 | 100,8 | 131,8 |
| 1926 „ . . | 530 | 1.59 | 101,9 | 151,1 |

З паданай таблічкі вынікаюць наступныя два асноўных палажэньні: 1) сельская коопэрацыйная сетка Беларусі няўхільна расьце і за 2 гады павялічылася ў $1^1/_2$ разы і 2) гэты ўзрост ідзе за рахунак адкрыцьця новых крам існуючых таварыстваў і пашырэньня раёнаў дзейнасьці

апошніх. Сама-ж лічба спажыв. т-ваў застаецца амаль стабільнай у працягу ўсяго разгляданага пэрыоду. Дынаміка сельскай сеткі ў БССР некалькі іншая, як дынаміка ў СССР [1]) і суседняй з намі УССР, дзе лічба спажыв. т-ваў і крам за 1924-25 г. павялічылася: па СССР адпаведна на 15,1 проц. і 28,1 проц. і УССР на 10 проц. і 10,2 проц.

У сувязі з гэтым і ўдзельная вага Беларусі ў агульнай сыстэме спажывецкай коопэрацыі Саюзу па лічбе спажыв. т-ваў скарачаецца з 2,6 проц. на 1 кастрычніка 24 г. да 2,3 проц. на 1 кастрычніка 25 г., а па лічбе крам павялічваецца за разгляданы пэрыод з 3,7 проц. да 3,8 проц. Такая дынаміка сельскай коопэрацыйнай сеткі Беларусі абумоўліваецца шматкрамавай яе пабудовай.

| | У сярэднім на 1 спажыв. т-ва прыходзілася крам | | |
|---|---|---|---|
| | На 1-X—24 г. | На 1-X—25 г. | На 1-X—26 г. |
| БССР . . | 1,97 | 2.58 | 2,92 |
| УССР . . | 1.20 | 1.20 | — |
| СССР . . | 1.38 | 1.54 | 1.65 [2]) |

Такім чынам, шматкрамавая будова зьяўляецца характэрнай асаблівасьцю беларускай спажывецкай коопэрацыі. Праўда, і па СССР ёсьць тэндэнцыя к павялічэньню сярэдняй лічбы крам, але гэтая тэндэнцыя выяўлена так слаба, што гаварыць аб шматкрамавай сыстэме па СССР, і тым больш па УССР, зусім не выпадае. Такая пабудова сеткі Беларусі зьявілася рэзультатам правадзімай рацыяналізацыі і перабудовы існуючых таварыстваў шляхам зьліцьця слабых экономічна іператварэньня іх у аддзелы больш жыцьцяздольных спажывецкіх аб'яднаньняў.

Практыка апошняга часу, аднак, паказала, што і ў умовах Беларусі тып буйнай шматкрамавай будовы павінен праводзіцца асьцярожна, бо значная адлегласьць таварыства ад пайшчыкаў, нярэдка прыводзіць да аслабленьня тэмпу коопэраваньня насельніцтва, актыўнасьці пайшчыкаў у галіне ўдзелу ў працы коопэратыву.

Што тычыцца разгалінаванасьці сельскай сеткі і ступені насычанасьці ёю Беларусі, то тут могуць быць паданы наступныя параўнаўчыя даныя.

---

[1]) Паданыя ў тэксьце і ва ўсіх табліцах даныя, якія датычаць СССР і УССР, узяты намі з „Отчетного доклада 6-му собранию уполномоченных Центросоюза", выданьне Цэнтрасаюзу за 1925 г.

[2]) На 1 ліпня 1926 г.

На адну спажывецкую коопэрацыйную краму прыпадае:

| | Плошчы ў кв. клм. | Гаспадарак | Насяленьня |
|---|---|---|---|
| БССР на 1-X 1926 г. | 71 | 493 | 2.479 |
| УССР на 1-X 1925 г. | 54 | 612 | 2.867 |
| СССР на 1-X 1925 г. | 583 | 608 | 3.208 |

Па гушчыні сваёй сеткі адносна да колькасьці насяленьня, прыпадаючага на 1 коопэрацыйную краму, Беларусь стаіць на першым месцы, (2.479), за ёю ідзе Украіна (2.867), РСФСР (3.108), а потым усе іншыя рэспублікі Саюзу. Украіна, аднак, выгадна вызначаецца сваім параўнаўча невялікім сярэднім радыусам дзеяньня кожнай крамы пры адначасовай большай лічбе абслугоўваемых гаспадарак, што тлумачыцца значнай шчыльнасьцю яе насельнасьці. На аснове паданых даных трудна, аднак, судзіць аб ступені разгалінаванасьці сеткі, бо крамы з паказаным сярэднім радыусам дзеяньня і сярэдняй лічбай абслугоўваемага насяленьня складаюць адзінкі або іх і зусім няма. Ёсьць таварыствы, якія абслугоўваюць і меншую, і значна большую колькасьць гаспадарак, і „коопэрацыйныя пустыні“, якія зусім не абслугоўваюцца. Аб гэтым сьведчаць хоць-бы наступныя лічбы па 2-х акругах БССР:

| Акругі | Лічба гаспадарак у раёне дзейнасьці ўсіх таварystваў акругі | Лічба гаспадарак, фактычна абслугоўваемых (па паказаньнях спажыв. таварystваў) | % абслугоўваемых гаспадарак |
|---|---|---|---|
| Мазырская . . | 55.852 | 51.647 | 92,5 |
| Калінінская . . | 66.697 | 58.004 | 87,0 |
| | 122.549 | 109.651 | 89,4 |

Такім чынам, поруч са значнай абсолютнай лічбай коопэрацыйных крам, каля 10 проц. насяленьня зусім не абслугоўваецца сеткаю. Гэтыя даныя пераконваюць нас у тым, што ў сучасны момант работа па будаваньню першапачатковай сеткі павінна ісьці не ў напрамку агульнага яе пашырэньня, а павінна быць скіравана ў бок яе нормалізацыі і рацыянальнага разьмяшчэньня. Гэта тым больш патрэбна, што „коопэрацыйныя пустыні“ запаўняюцца, відаць, прыватным гандлем. Аб гэтым

сьведчаць даныя НКФіну, якія паказваюць рост лічбы выбраных прыватнымі асобамі патэнтаў з 11.826 у першым паўгодзьдзі 1925-26 г. да 12.179 патэнтаў у другім паўгодзьдзі. Праўда, гэта павялічэньне лічбы прыватных гандлёвых прадпрыемстваў падае амаль выключна на разносны гандаль (1 разрад), але ў выпадку няпрыняцьця сваячасова канечных мер, коопэрацыя ў будучыне можа сустрэнуцца з ужо ўмацаваным і крэпка асеўшым прыватным гандлем.

### Коопэраваньне насяленьня

Організацыйны абхват насяленьня БССР у сэнсе яго коопэраваньня ідзе наперадзе ўсіх іншых рэспублік Саюзу. Процант коопэраванага насяленьня на 1-ае кастрычніка 1925 году складаў:

| | | |
|---|---|---|
| па БССР . . . . | 25,6 | проц. |
| „ УССР . . . . | 21,6 | „ |
| „ Заход. краіне (без Беларусі) | 16,0 | „ |
| „ СССР . . . . | 22,7 | „ |

Па коопэраваньню насяленьня Беларусь уступае толькі Крыму, Паўночна-ўсходняй краіне і Сібіры, дзе процант коопэраваньня на 1-ае кастрычніка 1925 г. адпаведна складаў 61,8 проц., 51,7 проц. і 46,55 проц. Ва ўсёй сыстэме спажывецкай коопэрацыі Саюзу—БССР, па лічбе сваіх пайшчыкаў, складае 3,4 проц.

Як разьвівалася коопэраваньне насяленьня ў БССР за разгляданы пэрыод часу, відно з наступных даных:

| Даты | Лічба пайшчыкаў у спажыв. т-вах | |
|---|---|---|
| | Абсолютна | % росту |
| на 1-X 1924 г. . | 113.189 | 100 |
| „ 1-IV 1925 г. . | 157.962 | 139,5 |
| „ 1-X 1925 г. . | 171.247 | 151,3 |
| „ 1-IV 1926 г. . | 211.988 | 187,3 |
| „ 1-X 1926 г. . | 248.014 | 219,1 |

Такім чынам, коопэраваньне насяленьня ўзрастала на працягу ўсяго разгляданага пэрыоду з усё большым тэмпам. За два гады лічба пайшчыкаў у спажывецкіх таварыствах павялічылася больш, як у два разы.

На 1-ае кастрычніка 1926 г. коопэравана 32,5 проц. сялянскіх гаспадарак. Горш стаіць справа са зборам паявых капіталаў. Сярэдні паявы ўзнос на аднаго пайшчыка (на 1-ае кастрычніка 1925 г.): БССР—1 р. 46 к., УССР—1 р. 80 к. і СССР—2 р. 60 к.

Больш падрабязную характарыстыку дынамікі паявых капіталаў і прыцягненьня сродкаў насяленьня ў коопэрацыю мы дамо пры разгледжаньні фінансавага становішча сеткі. Тут-жа мы толькі адзначым, што паявы капітал спажывецкіх т-ваў на 1-ае кастрычніка 1926 г. складае 501,2 тыс. руб., што ў сярэднім на аднаго пайшчыка дае 2 руб. 02 кап. Такім чынам, сярэдні разьмер аплачанага паю ў канцы году яшчэ не дасягнуў таго ўзроўню, які быў у СССР у пачатку гэтага году і ўсё яшчэ складае толькі 66 проц. статутнага паю ў 3 рублі.

Гэта адставаньне Беларускай коопэрацыі ад сярэдняга ўзроўню фактычна аплачанага паю па СССР знаходзіць сваё тлумачэньне ў цэлым шэрагу прычын: перш за ўсё ў тым, што 1) БССР на працягу цэлага шэрагу гадоў уяўляла сабою пляцдарму ваенных дзеяньняў і бела-бандыцкіх налётаў, чым пазбаўлена была магчымасьці займацца мірным будаўніцтвам наогул і коопэрацыйным у прыватнасьці—чаго немагчыма сказаць аб цэлым шэрагу раёнаў і краін СССР; 2) агульнае эканомічнае добрае становішча нашай сялянскай гаспадаркі і прыватнае разьвіцьцё ў яе бюджэце грашовых (таварных) элемэнтаў, а таксама значна ніжэй, як гэта наглядаецца ў цэлым шэрагу іншых раёнаў СССР.

Усё гэта і яшчэ шэраг другіх прычын (моладасьць коопэрацыі і г. д.) бязумоўна моцна перашкаджае ў агульнай працы па ўцягненьню ў коопэрацыю сродкаў самога насельніцтва.

Што тычыцца соцыяльнага складу пайшчыкаў, то больш-менш здавальняючых даных у нас, на жаль, няма. Тыя адрывачныя і няпоўныя даныя, якія ў нас ёсьць, сьведчаць як-быццам аб тым, што бядняцкія элемэнты вёскі добра пачалі ахапляцца коопэрацыяй у апошні момант. Па няпоўных даных Белкоопсаюзу, на 1 кастрычніка 1926 г. за рахунак спэцыяльных фондаў коопэравана 30.503 бядняцкіх гаспадарак, што складае 12 проц. усяго ліку пайшчыкаў і каля 45 проц. выяўленай і падлягаючай коопэраваньню за рахунак спэцыяльна ўтворанага для гэтай мэты ад прыбыткаў коопэрацыі фонду.

У сучасны момант фонд гэты дайшоў да агульнай сумы ў 120 тысяч рублёў, што ў значнай меры забясьпечвае магчымасьць коопэраваньня значнай часткі нашых бядняцкіх гаспадарак.

Праца гэта па фактычнаму коопэраваньню беднаты за кошт фонду павінна быць скончана ў пачатку новага гаспадарчага году.

Пераходзячы да выяўленьня організацыйнага абхвату спажывецкай коопэрацыяй гарадзкога насяленьня БССР, мы перш усяго адзначым, што склад рабочай коопэрацыі на 1-ае кастр. 1926 г. ў тым-жа відзе,

у якім ён быў у пачатку 1924 г. Ва ўсіх акруговых гарадох, а таксама і ў 3-х буйнейшых неакруговых (Рагачове, Горках і Шклове) ёсьць цэнтральныя рабочыя коопэратывы, якія абслугоўваюць гарадзкое насяленьне, пераважна рабочых і служачых. Апрача таго, у 4-х негарадзкіх, фабрычназаводзкіх пунктах ёсьць 4 рабкопы, якія абслугоўваюць выключна рабочых і служачых гэтых прадпрыемстваў. Дынаміка сеткі ЦРК, яе разгалінаванасьць і ступень арганізацыйнага абхвату насяленьня відны з наступнай табліцы:

| Пэрыоды | Абсолютна | | | У %% да 1-га пэрыоду, прынятага за 100 | | | На адну краму прыпадае | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік крам | Лік пайшчыкаў | Паявы капітал | Лік крам | Лік пайшчыкаў | Паявы капітал | Пайшчыкаў | Насяленьня |
| На 1-X 1924 г. | 142 | 36.877 | 80.922 | 100 | 100 | 100 | 260 | 2.887 |
| „ 1-IV 1925 г. | 198 | 46.546 | 142.838 | 139 4 | 126,2 | 176.5 | 235 | — |
| „ 1-X 1925 г. | 254 | 52.276 | 168.914 | 178,9 | 141,8 | 208,7 | 211 | 1.674 |
| „ 1-IV 1926 г. | 279 | 64.905 | 217.129 | 196,4 | 176,0 | 268,3 | 235 | — |
| „ 1-X 1926 г. | 315 | 71.963 | 264.560 | 221,8 | 195,1 | 326,9 | 229 | 1.477 |

Такім чынам, за два гады цэрабкопы павялічылі сваю гандлёвую сетку больш, як у два разы. Лік пайшчыкаў узрос амаль не на 100 процантаў і паявы капітал нават на 226,9 проц. З таблічкі відна некаторая, тэндэнцыя нашай рабочай коопэрацыі форсаваць разьвіцьцё сеткі. Так, пры ўзросьце базы цэрабкопаў (пайшчыкаў) на 95,1 проц. лік гандлёвых прадпрыемстваў павялічваецца на 121,8 проц., у сувязі з чым зьніжаецца і лік пайшчыкаў на адну коопэрацыйную краму з 260 на 1 кастрычінка 1924 г. да 229 і насяленьня з 2.877 да 1.477. Праўда, у 1925-1926 годзе гэты перагіб трохі выпростваецца, і сярэдні лік пайшыкаў на адну краму павялічваецца.

Як мы гаварылі вышэй, лік пайшчыкаў цэрабкопаў за два гады павялічыўся больш, як у два разы. Аднак, процант коопэраваньня рабочых і служачых на 1 кастрычніка 1926 г. складае толькі 60 проц. лічбы членаў профсаюзаў, што знаходзяцца ў раёне дзейнасьці ЦРК. Гэта тлумачыцца разгортваньнем прамысловасьці і іншых галін нашай народнай гаспадаркі, уцягваючай усё новыя кадры занятых у ёй асоб, коопэраваньне якіх не магло разьвівацца такім тэмпам, як і адносна старых членаў профсаюзаў.

І адносна цэрабкопаў прыходзіцца адзначыць усё яшчэ невыстарчаючае прыцягненьне сродкаў пайшчыкаў у коопэрацыю.

### Асабісты склад апарату

Па даных перавыбарнай кампаніі 1925 г. ў 448 таварыствах (84,5 проц. сеткі) выбарчы склад праўленьняў і рэвізыйных камісій па паасобных азнаках такі (у процантах):

| | | Праўленьне | Рэвіз. камісіі |
|---|---|---|---|
| Па роду: | 1) Мужчын | 96,2 | |
| | 2) Жанчын | 3,8 | |
| Па социяльным складзе: | 1) Беднякоў | 41,8 | 35,2 |
| | 2) Серадпякоў | 32,6 | 24,5 |
| | 3) Рабочых | 6,0 | 2,7 |
| | 4) Служачых | 19,6 | 37,6 |
| Па партыйнасьці: | 1) Членаў і кандыдатаў КПБ | 21,5 | 15,9 |
| | 2) Членаў і канд. ЛКСМ | 5,8 | 3,7 |
| | 3) Беспартыйных | 72,7 | 80,4 |
| Па коопэрацыйным стажы: | 1) Не прац. у коопэрацыі | 27,0 | 44,0 |
| | 2) Працаваўшых да 1 г. | 25,8 | 22,0 |
| | 3) „ ад 1 да 3 г. | 29,1 | 22,0 |
| | 4) „ ад 3 і больш | 18—1 | 12,0 |

Такім чынам, выбарчы склад сельскай коопэрацыі забясьпечвае ўплыў у ёй партыі і бядняцкіх элемэнтаў вёскі. Як здавальняючы факт, можам адзначыць прыметны ўдзел жанчын-сяляняк у актыўнай коопэрацыйнай працы. Праўда, удзел гэты яшчэ невялікі, але, прымаючы пад увагу спэцыфічныя ўмовы беларускай вёскі, мы павінны гэты факт адзначыць, як дасягненьне беларускай спажывецкай коопэрацыі, тым больш, што гэты ўдзел жанчын мае тэндэнцыю расьці.

Зьвяртае на сябе ўвагу і нязначнасьць коопэрацыйнага стажу нашага вясковага актыву, што тлумачыцца апісанымі ўжо ўмовамі разьвіцьця спажывецкай коопэрацыі ў БССР.

### Гаспадарчая дзейнасьць

Асноўным і самым істотным паказальнікам дасягненьняў нашай спажывецкай коопэрацыі зьяўляецца яе гаспадарчая праца. Тут мы маем даныя, якія сьведчаць аб надзвычайна шпаркім узросьце зваротаў усіх зьвеньняў спажывецкай сыстэмы і яе значэньня ў тавараздвароце рэспублікі.

Адпаведныя лічбы тут такія:

Пасрэдніцкі таваразварот БССР

| ГАДЫ | Абсолютныя (у млн. руб.) | | | | | Разьмеркаваньне звароту па контрагентах (проц. да падрахунку) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | Дзяржаўны | Коопэрац. | У тым ліку спажыв. коопэрацыі | Прыватны гандаль | Дзяржаўны | Коопэрац. | У тым ліку спажыв. коопэрацыі | Прыватны гандаль | Усяго |
| 1923-1294 . . . | 148,39 | 43,79 | 36,96 | 31,01 | 67,64 | 29,5 | 24,9 | 20,9 | 45,6 | 100 |
| 1924-1925 . . . | 251,72 | 85,57 | 85,84 | 70,35 | 80,31 | 34,0 | 34,1 | 27,9 | 31,9 | 100 |
| Проц. да папярэдн. году . | 169,6 | 195,4 | 232,2 | 226,8 | 118,7 | — | — | — | — | — |
| 1925-1926 . . | 386,27 | 128,83 | 156,02 | 127,96 | 201,42 | 33,3 | 40,4 | 33,0 | 26,3 | 100 |
| Проц. да папярэдн. году . | 153,5 | 150,5 | 181,8 | 184,9 | 126,4 | — | — | — | — | — |

Выцякаючы з паданай табліцы вывад аб значных посьпехах нашай спажывецкай коопэрацыі ў справе заваёвы трывалага і пры гэтым усё больш шырокага месца ў таваразвароце краю набывае асаблівае значэньне, калі прыняць пад увагу агульныя экономічныя ўмовы апошніх трох год, ня спрыяўшых разьвіцьцю спажывецкай коопэрацыі.

Як відаць з табліцы, спажывецкая коопэрацыя БССР у 1923-24 г. займала яшчэ вельмі сьціплае месца ў таваразвароце рэспублікі. Дамінуючае значэньне, асабліва ў розьніцы, меў прыватны гандаль. З папярэдняга пэрыоду апекі органаў Наркампроду маладая беларуская коопэрацыя вышла вельмі кволай і мала здольнай да тэй ролі, якую яна павінна была йграць у таваразвароце краю. Набыўшы самастойнасьць і магчымасьць праявы ўласнай ініцыятывы, спажывецкая коопэрацыя апынулася тварам да твару з ужо пасьпеўшым умацавацца прыватным гандлем. Адсутнасьць-жа ўласных сродкаў і патрэбных навыкаў ставіла спажывецкую коопэрацыю ў вельмі нявыгоднае палажэньне. Пры гэтым трэба прыняць пад увагу, што прыватны гандаль у Беларусі вельмі даўно зьяўляўся пераважным заняткам насяленьня гарадоў і мястэчак. Прыватны гандаль, дзякуючы сваёй гібкасьці і надзвычайнай прыстасаванасьці, вельмі хутка асвоіўся з становішчам, утвораным новай экономічнай палітыкай.

Наступныя этапы—асеньняга крызісу збыту 1923 г. і агонізуючага „совзнака"—таксама не маглі спрыяць умацаваньню спажыв. коопэрацыі. Наадварот, асеньні крызіс і наступнае зьніжэньне цэн балюча ўдарыла па спажывецкай коопэрацыі і ўцягнула яе ў люты гаспадарчы крызіс. Тыя невялікія капіталы, якія былі накоплены ў папярэднія пэрыоды, былі

згублены, дзякуючы зьніжэньню цэн. Падаючая валюта ставіла перад спажывецкай коопэрацыяй дылему або магчыма паўней застрахаваць сябе ад магчымых страт па „совзнаку“, або цярпець страты за рахунак сваіх уласных сродкаў. У тых выпадках, калі коопэрацыйныя організацыі ішлі па першым шляху, былі непасільныя для спажывача накідкі і, як рэзультат іх, нездаволеньне насяленьня сваім спажывецкім таварыствам і аслабленьне коопэрацыйнай базы. Другі-ж шлях быў не па сродках коопэрацыі.

Ад такога становішча асабліва цярпела сельская коопэрацыя. Калі ў гарадох процэс: тавар—грошы—тавар, або тавар—„совзнак“—чырвонец—тавар адбываўся з належнай хуткасьцю, забясьпечваючай найменшую магчымасьць страты на курсе, то ў вёсках гэты процэс натуральна зьмяншаў шыбкасьць, і як ні страхавалі сябе сельскія коопэратары, усё-ж яны ў тых выпадках, калі гандаль вёўся не на аснове тавараабмену, прымушаны былі нясьці страты на курсе. І тут істотным плюсам прыватнага гандлю была яго спрытнасьць абараніць сябе ад курсавых страт і ня толькі захоўваць рэнтабельнасьць гандлёвых опэрацый, але і награмаджаць і звышпрыбыткі аднachасовай спэкуляцыяй на валюце.

Гэта агульнае няспрыяючае становішча, створанае об'ектыўнымі ўмовамі разьвіцьця народнай гаспадаркі, падвойвалася яшчэ тым, што крызіс збыту першай палавіны 1923-24 г. і фінансавая слабасьць коопэрацыі далі падставу прамысловасьці і дзяржаўнаму гандлю да спроб ігнараваць спажывецкую коопэрацыю, як сыстэму.

Палітыка і практыка дзяржаўнага гандлю і прамысловасьці ў адносінах да коопэрацыі зьмяняецца ў бок непасрэднай сувязі з нізавой коопэрацыяй, з абыходам акрсаюзаў; намячаюцца нават спробы дзярж. гандлю непасрэдна зьвязацца са спажывачом, шляхам разгортваньня ўласнай раздробнай сеткі.

Праўда, гэты ўхіл нашага дзярж. гандлю быў потым выпрастаны адпаведнай пастановай партыі і рэгулюючых устаноў, але ўсё-ж ён пасьпеў адбіцца на некаторай дэзорганізацыі сувязі спажывецкай коопэрацыі і часткова яе фінансавай гаспадаркі.

Вось, у асноўным, тыя абставіны і тыя ўмовы, пад уплывам якіх складалася гаспадарчая праца спажывецкай коопэрацыі ў 1923-24 і часткова ў 1924-25 г.

Больш-менш нормальныя ўмовы для свайго разьвіцьця спажывецкая коопэрацыя атрымлівае толькі ў 1924-25 г., які характарызуецца буйным як організацыйным, так і гаспадарчым узростам спажывецкай коопэрацыі, і ў якім ужо з поўнай відавочнасьцю выяўляецца ўсё яе народнагаспадарчае значэньне, як асноўнага тавараправодзячага каналу. У 1924-25 г. беларуская спажывецкая коопэрацыя, з кволага і маладога яшчэ організму, перанёсшага ўвесь цяжар папярэдніх год, становіцца магутнай

прыладай аграмаджаньня найбольш важнай і найбольш адсталай у гэтых адносінах галіны народнай гаспадаркі.

Таму 1924-25 г. і займае асобнае месца ў гісторыі нашай спажывецкай коопэрацыі за апошнія гады.

**Спажывецкая коопэрацыя і прыватны гандаль**

З паданай на стар. 169 табліцы відаць, што процэс выцісканьня прыватнага гандлю працягваецца з тэй-жа сілай і ў 1925-26 г. Табліца гэта, аднак, характарызуе ўдзел спажывецкай коопэрацыі ў агульным тавараразвароце краю, як гуртавым, гэтак і раздробным, як з прамтаварамі, гэтак і з с.-г. таварамі. Між іншым для абмеркаваньня ступені абхвату спажывецкай коопэрацыяй рынку асобнае значэньне мае высьненьне яе ўдзельнай вагі ў раздробным гандлі.

Зварот раздробнага гандлю БССР

| ГАДЫ | У мільёнах рублёў | | | | | У %% да падрахунку, узятага за 100 | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | У тым ліку | | | | | | | | |
| | | Дзяржаўны | Коопэрацыйны | У тым ліку спажывецк. коопэрацыі | Прыватны гандаль | Дзяржаўны | Коопэрацыйны | У тым ліку спажывецк. коопэрацыі | Прыватны гандаль | Усяго |
| 1923-24 . . | 89,12 | 5,51 | 23,83 | 20.57 | 59.78 | 6,2 | 26,7 | 23,1 | 67,1 | 100 |
| 1924-25 . . | 134,95 | 13,78 | 51,93 | 44,60 | 69,24 | 10,2 | 38,5 | 33.0 | 51,3 | 100 |
| 1925-26 . . | 196.99 | 20.10 | 84.29 | 71.07 | 92,60 | 10.2 | 42,8 | 36.1 | 47.0 | 100 |

Такім чынам, удзельная вага прыватнага гандлю ў раздробным звароце выяўляе тэндэнцыю няўхільна спадаць. У 1925-26 г. роля прыватнага гандлю акрэсьліваецца ўжо толькі ў 47,0 проц. супроць 51,3 проц. у 1924-25 г. і—67,1 проц. у 1923-24 г. Адпаведна павышаецца роля коопэрацыі з 26,7 проц. у 1923-24 г. да 38,5 проц. у 1924-25 г. і 42,8 проц. у 1925-26 г.

Яшчэ больш цікавы малюнак выяўляецца пры разгледжаньні ролі спажывецкай коопэрацыі ў зваротах з прамтаварамі і асабліва ў зваротах з с.-г. таварамі (па даных ЦСУ за 1924-25 г.):

У %% да падрахунку

| | Звароты з прамтаварамі | Звароты з с.-г. таварамі |
|---|---|---|
| Дзяржаўны гандаль . . . . | 35,6 | 29,0 |
| Коопэрацыя . . . . . . | 34,8 | 29,6 |
| Прыватны гандаль . . . . | 29,6 | 41,4 |
| Усяго . . . . . | 100 | 100 |

Процэс выцісканьня прыватнага гандлю ідзе, галоўным чынам, па лініі прамтавараў у той час, як на с.-г. рынку пераважная роля да апошняга часу ўсё яшчэ застаецца за прыватным гандлем. У гэтым і знаходзіць свой выраз неорганізаванасьць нашага с.-гаспадарчага рынку, які жывіцца многалікімі разрозьненымі вытворцамі, у той час, як рынак прамтавараў рэгулюецца беспасрэдна дзяржаваю, і ўзрост значэньня на ім коопэрацыі можа зьявіцца рэзультатам ня толькі ўзмацняючайся магутнасьці самой коопэрацыі, але і вынікам гэтага экономічнага рэгуляваньня. Цікава яшчэ высьветліць, з якіх рынкаў процэс выцісканьня прыватнага гандлю ідзе найбольш інтэнсыўна і на якім рынку, гарадзкім або сельскім, спажывецкая коопэрацыя адыгрывае домінуючую ролю.

Тут гэткія даныя:

Звароты раздробнага гандлю БССР

| ГАДЫ | У мільёнах рублёў | | | | | У %%% да падрахунку, прынятага за 100 | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | У тым ліку | | | | | | | | |
| | | Дзяржаўны | Коопэрацыйны | У тым ліку спажывецк. коопэрацыі | Прыватны гандаль | Дзяржаўны | Коопэрацыйны | У тым ліку спажывецк. коопэрацыі | Прыватны гандаль | Усяго |
| | У акруговых гарадох | | | | | | | | | |
| 1923-24 . . | 59.33 | 5,34 | 13.82 | 13.15 | 40,17 | 9.0 | 23,3 | 22,2 | 67,7 | 100 |
| 1924-25 . . | 84,86 | 12,18 | 26,64 | 24.55 | 46,04 | 14.4 | 31,4 | 28,9 | 54,2 | 100 |
| 1925-26 . . | 118,08 | 16,81 | 40,15 | 34,52 | 61,12 | 14,2 | 34.1 | 29,3 | 51,7 | 100 |
| | У іншых пунктах | | | | | | | | | |
| 1923-24 . . | 29.79 | 0.17 | 10,01 | 7,43 | 19.61 | 0,6 | 33,6 | 24,9 | 65,8 | 100 |
| 1924-25 . . | 50,09 | 1,60 | 25.29 | 20.05 | 23,20 | 3.2 | 50.5 | 40,0 | 46,3 | 100 |
| 1925-26 . . | 78,91 | 3.29 | 44.14 | 36,54 | 31,48 | 4.2 | 55.9 | 46,3 | 39,9 | 100 |

Такім чынам, процэс скручваньня позыцыі прыватнага гандлю асабліва прыметны ў сельскіх мясцовасьцях. Тут на працягу ўсяго разглядаанага пэрыоду адбываецца абмен ролямі паміж коопэрацыяй і прыватным гандлем. Тая частка таваразвароту, якая выпадае на долю прыватнага гандлю ў 1923-24 г., яна ў процэсе трохгадовай барацьбы ўступае коопэрацыі, сама-ж яна ў працягу 1925-26 прымушана здавольвацца сьціплай роляй коопэрацыі 1923-24 г.

Поруч з гэтым, процэс выцісканьня прыватнага гандлю ў гарадох ідзе вельмі павольна, хоць і там мы маем даволі значныя рэзультаты.

Калі-ж мы зьвернем увагу на даныя веснавога апытваньня сялянскіх гаспадарак аб рыначным звароце, то мы атрымаем наступныя даныя*).

*) Глядзі Бюлетэнь ЦСУБ, № 4, стар. 41.

Набываньне сялянствам прамтавараў у прыватных асоб у 1924-25 г. складала 52 проц. усіх закупак прамтавараў, а на долю коопэрацыі і дзяржаўнага гандлю прыпадае толькі 45 проц. Па асобных-жа, найбольш важных, прамтаварах удзел коопэрацыі ў бюджэце селяніна дасягае 92 проц. (цукар), 83 проц. (соль), 85 проц. (газа), 63 проц. (жалеза), 74 проц. (цьвікі). У той самы час зусім нязначная роля коопэрацыі ў дастаўцы сялянству такіх тавараў, як абутак (11 проц.), начыньне і спрат (23 проц.), мёртвы інвэнтар (31 проц.).

Апошняе тлумачыцца цяжкасьцю для коопэрацыі дастасавацца да ўсіх запытаньняў, якія ідуць з боку сялянства, і канечнасьцю згрупаваць сваю ўвагу на найбольш масавых і важных таварах. Што-ж тычыцца абутку, то там уплыў на нязначнасьць зваротаў коопэрацыі з гэтым таварам робяць местачковыя саматужнікі, вырабы якіх у значнай частцы таней, як вырабы нашай дзяржаўнай прамысловасьці.

## Звароты

Пяройдзем да характарыстыкі дынамікі зваротаў спажывецкай коопэрацыі па асобных зьвеньнях. Тут нас галоўным чынам будзе цікавіць колькасны выраз зваротаў асобных зьвеньняў сыстэмы, гандлёвая сувязь між ім і пытаньне аб зьвеннасьці і яго ўплыву на таваразварот. Разгледжаньне мы будзем весьці па магчымасьці параўнаўча з адпаведнымі данымі па Саюзе і суседняй з намі УССР. Наступная табліца характарызуе дынаміку валавога звароту спажывецкай коопэрацыі за апошнія 3 гады.

| | Прадана тавараў у тысяч. рублёў | | | У %% да папярэд. году | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. |
| СССР[1]) . . . . | 1.935.252 | 3.678.637 | 6.179.222 | 190,1 | 168.0 |
| У тым ліку: | | | | | |
| УССР . . . . | 340.232 | 577.343 | — | 169.7 | — |
| БССР . . . . | 31.012 | 70.354 | 127.961 | 226,8 | 181.9 |
| БССР у %% да СССР . . . | 1,6 | 1,9 | 2,1 | — | — |

Такім чынам, валавы зварот спажывецкай сыстэмы за апошнія два гады разьвіваўся скачкамі, пры гэтым тэмп узросту значна перавышаў адпаведны тэмп па Саюзе, а таксама па УССР. У сувязі з гэтым і вага БССР у агульнай сыстэме спажывецкай коопэрацыі Саюзу павышаецца з 1,6 проц. у 1923-24 г. да 1,9 проц. у 1924-25 г. і 2,1 проц. у 1925-26 г.

*) Без транспартнай коопэрацыі.

Дынаміка зваротаў асобных зьвеньняў спажывецкай сыстэмы БССР відна з наступнай табліцы:

| ГАДЫ | Белкоопсаюз | | | Акрсаюзы | | | Сельская сетка | | | Раб. коопэрацыя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Прамтавараў | С.-г. тавар. | Усяго | Прамтавараў | С.-г. тавар. | Усяго | Прамтавараў | С.-г. тавар. | Усяго | |
| | У тысячах рублёў | | | | | | | | | |
| 1923-24 | — | — | 4587,3 | — | — | 9112,2 | — | — | 7004,4 | 10308,0 |
| 1924-25 | 8986 | 520,1 | 9056,3 | 13247,1 | 3972,5 | 17219,6 | 18547,2 | 4624,6 | 23171,8 | 20906,6 |
| 1925-26 | 26550 | 2150 | 28700.0 | 24290,6 | 3419,6 | 27710,2 | 34292,3 | 4661,2 | 38953,5 | 32.597,1 |
| | У %% да папярэдняга году | | | | | | | | | |
| 1924-25 | — | — | 197,4 | — | — | 190,0 | — | — | 330,8 | 202,5 |
| 1925-26 | 259,4 | 413,4 | 316,8 | 183,4 | 86,1 | 160,9 | 184,9 | 108,0 | 168,1 | 156,1 |

Паданай табл՛ічкай сьцьвярджаецца наш вывад аб тым, што 1924-25 г. займае асобнае месца ў гісторыі нашай спажывецкай коопэрацыі. Звароты ўсіх зьвеньняў узрастаюць амаль у два разы, а па сельскай сетцы нават больш, як у тры разы; пры гэтым узрост ішоў выключна за рахунак усё большага абхвату рынку прамтавараў. У 1925-26 г. тэмп узросту, будучы вельмі значным, параўнаўча з папярэднім годам усё-ж аслабляецца, што тлумачыцца з аднаго боку, посьпехамі спажывецкай коопэрацыі ў папярэднім годзе і ўмовамі таварнага голаду—з другога.

Як ішло разьвіцьцё зваротаў спажывецкай коопэрацыі з прамтаварамі на працягу 1925-26 г., відно з наступных даных:

| | У %% да папярэдняга пэрыоду | | | | У %% да адпаведнага пэрыоду мінулага году | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 кв. | 2 кв. | 3 кв. | 4 кв. | 1 кв. | 2 кв. | 3 кв. | 4 кв. |
| Белкоопсаюз | — | 150,7 | 83,8 | 115,9 | — | — | — | — |
| Акрсаюзы | 138,5 | 108,6 | 96,6 | 94,4 | 233,3 | 198.7 | 167,2 | 137,4 |
| Сельская сетка | 140,8 | 116,9 | 111,5 | 94,7 | 224,5 | 197,5 | 181,2 | 173,8 |
| Рабоч. коопэрацыі | 124,7 | 108,1 | 103,9 | 95,6 | 174,9 | 173,1 | 150,3 | 133,8 |
| Усяго | — | 119,2 | 99,6 | 99,3 | — | — | — | — |

Значыць, зьніжэньне тэмпу ўзросту ішло на працягу ўсяго году, а ў апошнім квартале звароты выявілі нават вельмі прыметны спадак. У той-жа самы час ішло аслабленьне наросту зваротаў параўнаўча з папярэднімі гадамі.

Такая дынаміка зваротаў у мінулым годзе абумоўлена як фактарамі, якія ляжаць у галіне нізавога попыту, які, пачынаючы з другога паўгодзьдзя, аслабяваў, гэтак і фактарамі, якія ляжаць у галіне прамысловай вытворчасьці і завозу тавараў у БССР, абсолютныя разьмеры якога былі далёка невыстарчаючы для пакрыцьця попыту на такія тавары, як мануфактура, скураныя тавары, жалеза. Асобна стаяць пытаньні аб умовах разрахунку, асортымэнце, аб фінансавым становішчы коопэрацыі, сумесны ўплыў якіх таксама адбіўся на таваразвароце коопэрацыі.

Да ліку фактараў, напэўна спрыяўшых разьвіцьцю таваразвароту спажывецкай коопэрацыі і забясьпечыўшых больш-менш нормальную нагрузку яе сеткі, належыць аднесьці політыку і практыку генэральных умоў, шырокае разьвіцьцё якіх адбываецца ў 1925-26 г.

Тут заслугоўваюць увагі наступныя лічбы.

Зроблена генэральных дагавораў:

| | Усяго: | | У тым ліку ў мясц. прамысловасьці | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць дагавораў | На суму ў тыс. руб. | Кольк. дагавораў | На суму ў тыс. руб. | % удзелу ген. дагавораў і зваротаў акрсаюзаў і ЦРК |
| 1924-25 г. | 2 | 560 | — | — | 1.7 |
| 1925-26 г. | 35 | 16.609 | 13 | 1.345 | 30,1 |
| 1926-27 г. | 37 | 27.809 | 11 | 3.250 | 45 |

Такім чынам, пляновая дастаўка коопэрацыі тавараў з году на год набывае ўсё большае значэньне, а для 1926-27 г. імі мяркуецца ўжо абхапіць да 45 проц. усяго звароту акрсаюзаў і цэрабкопаў. Лік дагавораў узрастае з 2-х у 1924-25 г. да 35 у 1925-26 г. і 37 у 1926-27 г., а сума дагавораў на 1926-27 г. перавышае адпаведную суму мінулага году амаль у 9 разоў.

Аднак, практыка ген. дагавораў мае і свае адмоўныя бакі, напрыклад, неакуратнасьць нашай дзяржаўнай прамысловасьці ў іх выкананьні, і пытаньні асортымэнту. Дагаворы на найбольш важныя і дэфіцытныя тавары, за выключэньнем мануфактуры, у канцы году недавыкананы па мэталям—на 15 проц., содапрадуктам—на 25 проц. Па дагаворы-ж на скураныя тавары, на якім коопэрацыі належала здаць 60 проц. усяго завозу ў Беларусь, здана толькі на 270 тыс. руб., што складае каля 40—45 проц. фактычнага завозу. І ў тых выпадках, калі дагаворы выконваліся, усё-ж былі перабоі ў дастаўцы, нявыконваньне ўстаноўленых

тэрмінаў і ў рэзультаце—штучнае затаварваньне, якое зьяўлялася вынікам атрыманьня тавару пасьля сэзону.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя адмоўныя моманты генэральныя дагаворы ўсё-ж адыгралі станоўчую ролю ў справе дастаўкі спажывецкай коопэрацыі тавараў.

Нарэшце, апошняе пытаньне, якое нас тут цікавіць, гэта пытаньне аб гандлёвых сувязях сыстэмы. Даныя, якія маюцца па гэтым пытаньні, выяўляюць даволі выразны малюнак узрастаючай сувязі ўнутры самой коопэрацыйнай сыстэмы. Так, гандлёвыя сувязі сельскай сеткі са сваімі саюзамі ў 1925-26 г. выявіліся ў 72,4 проц. проці 66,4 проц. у 1924-25 г. і 65,8 проц. у 1924 г. Адпаведна ўзросту сувязяй пэрыфэрыі з саюзамі скарачаюцца беспасрэдныя закупкі першапачатковай сеткі ў дзяржаўных органаў з 17 проц. у 1924-25 г. да 15,8 проц. у 1925-26 г. Што да сувязяй сельскай сеткі з прыватным рынкам, то яны падаюць з 8,7 проц. у 1924-25 г. да 6,8 проц. у 1925-26 г. У сучасны момант яны выяўляюцца амаль выключна ў пакупцы саматужных вырабаў.

Аналёгічны малюнак мы маем і па рабочай коопэрацыі, павялічваючай у 1925-26 г. свае закупкі ад коопэрацыйных організацый да 49 проц., проці 24 проц. у 1924-25 г. Роля прыватнага гандлю і саматужнікаў, як пастаўшчыкоў тавараў для цэрабкопаў, зусім нязначная, і ў сучасны момант ідзе выключна па лініі с.-г. тавараў, дзе значэньне прыватнага гандляра яшчэ вялікае.

Такім чынам, адносна першапачатковай сеткі, як гарадзкой, так і сельскай, мы можам констатаваць значныя посьпехі ў галіне коопэратызацыі крыніц паступленьня тавараў і ўзросту гандлёвых сувязяй са сваімі саюзамі, што павінна было ўмацаваць і ўсіліць організацыйную працу апошніх.

Адносна-ж гуртовага зьвяна спажывецкай сыстэмы можна адзначыць наступныя моманты.

Белкоопсаюз атрымлівае асноўную масу тавараў, як і належала чакаць, беспасрэдна ад дзяржаўных органаў і ў меншай ступені ад цэнтрасаюзу (каля 25 проц.), пры гэтым да 25 проц. усіх паступленьняў галоўнай канторы ў Менску складаюць унутрыканторскія звароты са сваімі іншагароднімі канторамі. Сувязь акрсаюзаў і цэрабкопаў з Белкоопсаюзам і яго камісыйна-пасрэдніцкімі канторамі (зварот кантор 1925-26 г. склаў 15.335 тыс. руб.) выяўляецца ў 45—50 проц. зваротаў саюзаў і каля 80 проц. зваротаў Белкоопсаюзу. Рэшта продажу апошняга падае на беспасрэдна абслугоўваную ім сетку Менскай акругі.

Прыведзеныя даныя дазваляюць выявіць коэфіцыент зьвеннасьці. Параўнаўшы валавы зварот спажывецкай сыстэмы з чыстым зваротам, мы ўбачым, што тавар, які паступае на рынак праз спажывецкую коопэрацыю, прарабляе 1,7 звароту ўнутрыкоопэрацыйнай сыстэмы.

Бяручы-ж валавы зварот без кантор БКС, якія па сутнасьці выконваюць толькі камісыйна-пасрэдніцкія функцыі, кофіцыент зьвеннасьці вызначыцца ў 1,4 проц.

Такім чынам, гаварыць аб многазьвеннасьці коопэрацыі, ударажаючай выдаткі гандлю, ня прыходзіцца, прынамсі ў адносінах да спажывецкай коопэрацыі БССР.

Што-ж тычыцца ўмоў разрахунку і хуткасьці таваразвароту, то гэтае пытаньне мы лічым больш мэтазгодным разглядзець у сувязі з фінансавым становішчам коопэрацыі, да высьвятленьня якога мы зараз і пяройдзем.

### Фінансавае становішча

Вышэй мы адзначылі няўхільны рост зваротаў усіх зьвеньняў спажывецкай сыстэмы і яе месца ў таваразвароце краю, якое ўсё больш пашыраецца. Цяпер-жа зьяўляецца патрэбным разглядзець, наколькі гэты рост адпавядае фінансавай базе коопэрацыі і наколькі прыток сродкаў, як знадворку, так і ад самой коопэрацыі, мог забясьпечыць той шырокі размах яе гаспадарчай працы, якім характарызуюцца апошнія два гады.

Сродкі, якія мае коопэрацыя, акрэсьліваюцца сумай яе зводнага балянсу (ачышчанага), які складаецца ў актыве з матэрыяльных каштоўнасьцяй, дэбітораў і няліквідных, ня прымаючых удзелу ў звароце, артыкулаў, а ў пасыве - з сваіх і пазычковых сродкаў.

Дынаміка балянсу спажывецкай сыстэмы відна з наступнай табліцы:

| | Акрсаюзы | Спажыв. т-вы | Цэрабкопы | У %% да папярэдняга пэрыяду | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У тыс. руб. | | | Акрсаюзы | Спажыв. т-вы | Цэрабкопы |
| На 1-X-24 г. | 3658,5 | 2474,4 | 3160.6 | — | — | — |
| „ 1-X-25 г. | 4841,5 | 3940,2 | 5248,1 | 159,2 | 136,6 | 166,0 |
| „ 1-I-26 г. | 6033,6 | 5243.6 | 6259,1 | 124,6 | 133,1 | 119,3 |
| „ 1-IV-26 г. | 6356,2 | 5929,4 | 6757,0 | 105,3 | 113,1 | 108,0 |
| „ 1-VII „ | 5889,5 | 5702,4 | 6643,3 | 92,7 | 96,2 | 98,3 |
| „ 1-X „ | 6501.2 | 5832.7 | 6798.8 | 110,4 | 102,3 | 102.3 |

Такім чынам, сума балянсу ўзрастала на працягу ўсяго разглядаемага намі пэрыоду за выключэньнем другога паўгодзьдзя 1925-26 г., калі прыток сродкаў у коопэрацыю ня толькі спыніўся, але выявіў спаданьне.

З якіх крыніц чэрпала спажыв. коопэрацыя сродкі для свайго буйнага таваразвароту?

Адказ на гэтае пытаньне дае наступная табліца:

Дынаміка ўласных і пазычковых сродкаў спажывецкай коопэрацыі

| | Акрсаюзы | | | | Спажыв. т-вы | | | | Цэрабкопы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Уласныя сродкі | У тым ліку: Нярухомых | У тым ліку: Зваротных | Пазычковыя сродкі | Уласныя сродкі | У тым ліку: Нярухомых | У тым ліку: Зваротных | Пазычковыя сродкі | Уласныя сродкі | У тым ліку: Нярухомых | У тым ліку: Зваротных | Пазычковыя сродкі |
| | У тысячах рублёў | | | | | | | | | | | |
| На 1/X-24 г. . | 358,8 | 260,0 | 98.8 | 3299.7 | 606,2 | 198,0 | 408.2 | 1868.2 | 455,2 | 417.4 | 37,8 | 2705,4 |
| „ 1/X-25 „ . | 309,5 | 274,1 | 35,4 | 4531,8 | 1245,4 | 453,2 | 792,2 | 2694,8 | 862,6 | 625,4 | 237,2 | 4385,5 |
| „ 1/I-26 „ . | 451,6 | 298,3 | 153.3 | 5582,0 | 1594,0 | 555.8 | 1038.2 | 3649,6 | 1105,8 | 670,9 | 434,9 | 5164.5 |
| „ 1/IV-26 „ . | 667,6 | 329,5 | 338.1 | 5688.6 | 2123,4 | 631,1 | 1492,3 | 3806,0 | 1335,6 | 790.5 | 545,1 | 5421,4 |
| „ 1/VII-26 „ . | 717,8 | 344,6 | 373.2 | 5171.7 | 2509,5 | 716,1 | 1793,4 | 3192,9 | 1541,3 | 819,7 | 721,6 | 5102,0 |
| „ 1/X-26 „*). | 652,0 | 410,7 | 241,3 | 5849,2 | 2330,6 | 818.3 | 1512.3 | 3502,1 | 1543,5 | 782,9 | 760.6 | 5447.7 |
| | У проц. да папярэдняга пэрыоду | | | | | | | | | | | |
| На 1/X-25 г. . | 86,3 | 105,5 | 35,8 | 137,3 | 205,4 | 228,9 | 194.1 | 144,2 | 189,5 | 149,8 | 627,5 | 162,1 |
| „ 1/I-26 „ . | 145,9 | 108,8 | 433,1 | 123,2 | 128,0 | 122,6 | 131,1 | 135,4 | 128,2 | 107,3 | 183,3 | 117, 8 |
| „ 1/IV-26 „ . | 147,7 | 110,5 | 220,5 | 101,9 | 133,2 | 113,5 | 143,7 | 104.3 | 120,9 | 117,8 | 125,3 | 105,0 |
| „ 1/VII-26 „ . | 107,5 | 104,6 | 110,4 | 90.9 | 118,2 | 113,5 | 120,2 | 83.9 | 115,4 | 103.7 | 132,4 | 94.1 |
| „ 1/X-26 „*). | 90,8 | 119,2 | 64,7 | 113,1 | 92.9 | 114,3 | 84.3 | 109,7 | 100,1 | 95.5 | 105,4 | 106,8 |

Выцякаючыя з гэтай табліцы вывады могуць быць сформуляваны наступным спосабам:

1. Таваразварот спажывецкай коопэрацыі жывіўся, галоўным чынам, пазычковымі сродкамі.

2. Абсолютныя разьмеры ўласных сродкаў, паявых і іншых капіталаў, ня гледзячы на іх шпаркі рост, які па тэмпу значна перавышаў адпаведны рост пазычковых сродкаў, усё яшчэ адыгрываюць невыстарчаючую ролю, асабліва калі прыняць пад увагу, што частка гэтых сродкаў (па акрсаюзах—4—5 проц., цэрабкопах і спажывецкіх т-вах—12—13 проц. сумы балянсу) загружаны ў нярухомых каштоўнасьцях і ў звароце не

*) Зьмяншэньне разьмераў уласных сродкаў на 1 кастрычніка 1926 г. параўнаўча з папярэднім тэрмінам тлумачыцца, відаць, тым, што к канцу году зроблены рознага характару сьпісваньні рэзультатных рахункаў.

бяруць удзелу. Гэта наша сьцьвярджэньне можа быць ілюстравана наступнымі данымі, якія характарызуюць адносіны ўласных зваротных сродкаў да пазычковых:

| | На 1/X-24 г. | На 1/X-25 г. | На 1/VII-26 г. |
|---|---|---|---|
| Акрсаюзы . . | 1:33,4 | 1:128,0 | 1:2,4 |
| Спажыв. т-вы . | 1: 4,6 | 1: 3,4 | 1:2,3 |
| Цэрабкопы . . | 1:71,6 | 1: 10 | 1:7,2 |

Значыць, суадносіны сродкаў ва ўсіх зьвеньнях мяняюцца ў лепшы бок. Гэта паляпшэньне, аднак, выклікана ня столькі ўзрослым значэньнем уласных сродкаў, колькі неадпавядаючым росту зваротаў спажывецкай коопэрацыі прылівам сродкаў знадворку.

Асобна стаіць пытаньне аб нізавой сетцы (сельскай), фінансавае становішча якой, як быццам, зусім здавальняючае. Аднак, пры ацэнцы паданых лічбаў патрэбна падлічыць і тое, што разьмеры ўласных сродкаў спажывецкіх таварыстваў напэўна перавялічаны. У некаторых выпадках ня сьпісаны з балянсаў рабункі, драпежніцтвы, растраты, неспагнаныя даўгі і інш., якія сумесна могуць значна зьмяніць гэты памысны малюнак. Але прымаючы гэтую агаворку, мы ўсё-ж павінны прызнаць фінансавае становішча сельскай коопэрацыі цьвёрдым.

3. Зьмяншэньне сродкаў гандлёвага звароту спажывецкай коопэрацыі, якое прымячаецца ў другім паўгодзьдзі 1925-26 г., выклікана адлівам пазычковых сродкаў. Рост уласных сродкаў аказаўся нездавальняючым для компэнсаваньня гэтага адліву.

Гэты вынятак сродкаў з коопэрацыйнага звароту ішоў двума шляхамі: 1) шляхам сьцісканьня банкаўскіх крэдытаў і 2) шляхам пагаршэньня ўмоў разрахунку.

### Крэдытныя адносіны

Як разьвіваліся гэтыя процэсы, відаць з наступных даных, якія характарызуюць умовы разрахунку па генэральных дагаворах коопэрацыі з дзяржаўным гандлем і прамысловасьцю.

Па генэральным дагаворы з ВТС на 1296-27 г. умовы разрахунку наступныя: гатоўкай—40 проц., замест ранейшых—35 проц., і крэдыт 30 дзён, замест ранейшых 45, пры гэтым тэрмін крэдыту лічыцца з моманту адгрузкі тавараў, што фактычна скарачае яго на 5—7 дзён.

Па дагаворы з Дубровенскай мануфактурай: 40 проц. гатоўкай, замест 30 проц., і 45 дзён крэдыту, замест ранейшых 52.

Па дагаворы з Белскуртрэстам: 50 проц. гатоўкай, замест ранейшых 25 проц.

Па дагаворы з гумовым трэстам: замест поўнага крэдыту на 60 дзён, 30 проц. гатоўкай і 50—60 дзён (у залежнасьці ад сэзону).

Па дагаворы з Хэмвуглем (содапродукты): замест поўнага крэдыту на 105 дзён, авансам ад 26 да 40 проц. квартальнага забору вэксалямі, тэрмінам 90 дзён; рэшта крэдыт на 90 дзён і г. д.

Гэтыя даныя са здавальняючай відавочнасьцю выяўляюць малюнкі рэзкага пагаршэньня ўмоў разрахунку, што павінна будзе прынесьці яшчэ большы вынятак сродкаў з гандлёвага звароту коопэрацыі.

Што тычыцца банкаўскіх крэдытаў, то дынаміка іх у спажывецкай коопэрацыі такая:

| ПЭРЫОДЫ | Абсолютна (у т. р.) | | У %/% да папярэдняга пэрыоду | | Доля ўдзелу спажыв. коопэр. ў адлічкова-пазычковых опэрацыях банкаў | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Меркавалася па пляне | Фактычн. запазыч. на канец кв. | Плян | Фактыч. запазычанасьць | Па пляне | Па фактычн. запазычанасьці |
| 4-ты кв. 24-25 г. | 3063 | 3106 | — | — | 18,5 | 16,3 |
| 1-шы „ 25-26 „ | 3221 | 3100 | 105,2 | 99,8 | 14,7 | 15,6 |
| 2-гі „ „ „ | 3419 | 3680 | 106,1 | 118,7 | 14,2 | 16,6 |
| 3-ці „ „ „ | 3419 | 3311 | 100,0 | 90,0 | 14,3 | 14,0 |
| 4 ты „ „ „ | 3353 | 3701 | 98,1 | 111,8 | 13,6 | 14,9 |

І тут мы маем сталую тэндэнцыю да зьніжэньня крэдытаваньня спажывецкай коопэрацыі. Праўда, абсолютныя разьмеры крэдытаваньня коопэрацыі мала зьмяніліся і агулам засталіся на ўзроўні пачатку году, але доля коопэрацыі ва ўсім крэдытаваньні народнай гаспадаркі нязьменна зьніжаецца на працягу ўсяго году, пры гэтым фактычнае зьніжэньне яе ўдзельнай вагі ў адлічкова-пазычковых опэрацыях банкаў значна перавышае плянавыя меркаваньні ў гэтым сэнсе.

Наколькі разьмеры крэдытаваньня, а таксама і рост уласных сродкаў не адпавядалі разьвіцьцю тавараздвароту спажывецкай коопэрацыі, відаць з наступнай табліцы:

| СПАЖЫВЕЦКАЯ СЫСТЭМА | За 1923-24 г. | | За 1924-25 г. | | За 1925-26 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зварот па продажу за год | Зваротн. капіт. на 1/X-24 г. | Зварот па продажу за год | Зваротн. капіт. на 1/X-25 г. | Зварот па продажу за год | Зваротн. капіт. на 1/X-26 г. |
| | У тысячах руб. | | | | | |
| Акрсаюзы | 9112,2 | 3398,5 | 17219,6 | 4567,2 | 27710,2 | 6090,5 |
| Спажыв. т-вы | 7004,6 | 2276,4 | 23171,8 | 3487,0 | 38953,5 | 5014,0 |
| Цэрабкопы | 10308.0 | 2743,2 | 20906,6 | 4622,7 | 32597,1 | 6208.3 |
| | У проц. да папярэдняга пэрыоду | | | | | |
| Акрсаюзы | — | — | 188,9 | 134,4 | 160,9 | 133,4 |
| Спажыв. т-вы | — | — | 330,8 | 153,2 | 168,1 | 144,2 |
| Цэрабкопы | — | — | 272,7 | 168,5 | 155.9 | 134,3 |

Як звароты, так і сродкі няўхільна расьлі на працягу ўсяго разгляданага намі пэрыоду. Па тэмпе-ж прыліў сродкаў значна адставаў ад зваротаў, што стварала частыя фінансавыя труднасьці спажывецкай сыстэмы, асабліва яе гуртавога зьвяна і рабочай коопэрацыі, і затрымлівала разьвіцьцё яе гандлёвых зваротаў. І калі пры гэтакіх крэдытных адносінах і становішчы ўласных сродкаў коопэрацыя не згарнула сваіх опэрацый, а наадварот, павялічвала свае звароты і прадаўжала ўмацоўваць свае позыцыі на рынку, выціскаючы адтуль прыватнага гандляра, то гэта дзякуючы аздараўляючым процэсам, якія адбываліся ўнутры самой спажывецкай коопэрацыі і выявіліся ва ўзмацненьні сувязі між зьвеньнямі сыстэмы, частковым укараненьні пляновасьці ў працы і прысьпяшэньні процэсу таваразвароту. Апошняй акалічнасьці спрыяла і высокая гандлёвая кон'юнктура 1925-26 г.

Лічбавы выраз гэтага процэсу такі:

Хуткасьць звароту (у днёх).

| | 1924-25 г. | 1925-26 г. |
|---|---|---|
| Акрсаюзы . . . . | 42 | 29 |
| Цэрабкопы . . . | 42 | 33 |
| Спажыв. т-вы . . | 38,4 | 41 |

Такім чынам, мы маем прыметнае павялічэньне хуткасьці таваразваротаў, выкліканае канечнасьцю прыстасаваньня да мулкіх умоў разрахунку пры недахваце ўласных сродкаў.

Гэтыя даныя аб фінансавым становішчы спажывецкай коопэрацыі набываюць асаблівае значэньне, калі параўнаваць іх з адпаведнымі данымі па СССР.

Зводны балянс спажывецкай коопэрацыі на 1-е кастрычніка 1925 г.

(у тыс. руб.).

| НАЙМЕНЬНЕ АРТЫКУЛАЎ | Па СССР | У тым ліку па БССР | | У %% да сумы балянсу | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Абсолютнага | У %% | СССР | БССР |
| Сума балянсу, у тым ліку па актыву | 940.464 | 16.615 | 1,8 | 100 | 100 |
| Нярухомыя сродкі . . . . . | 137.722 | 1.511 | — | 14,7 | 9,1 |
| Зваротныя сродкі . . . . . | 802.742 | 15.201 | — | 85,3 | 91,5 |
| Па актыву: | | | | | |
| Уласныя сродкі . . . . . | 280.892 | 2.800 | 1,0 | 29,9 | 16,9 |
| Пазычковыя сродкі . . . . . | 659.572 | 13.815 | — | 70,1 | 83,1 |
| У тым ліку: | | | | | |
| Пазычкі і крэд. опэрацыі . . . . | 217.593 | 2.979 | — | 23,1 | 17,9 |
| Уласныя сродкі ў звароце . . . | 143.170 | 1.289 | — | 17,8 | 8,4 |

Удзельная вага БССР у зводным балянсе спажывецкай коопэрацыі Саюзу прыблізна раўняецца яе вазе па зваротах. Уласныя-ж сродкі беларускай спажывецкай коопэрацыі складаюць усяго толькі 1 проц. усіх уласных сродкаў спажывецкай коопэрацыі Саюзу. Поруч з гэтым належыць адзначыць, што БССР выгодна вызначаецца ад СССР сваёй параўнаўча больш спрыяючай структурай актыву (9,1 проц. нярухомых каштоўнасьцяй проці 14,7 проц. па Саюзу).

Аналёгічныя рэзультаты атрымліваюцца пры параўнаньні зводных балянсаў паасобных зьвеньняў спажывецкай коопэрацыі БССР з адпаведнымі зьвеньнямі па СССР, а таксама па УССР. Так, уласныя сродкі райсаюзаў Украіны займаюць 20,4 проц. сумы са зводнага балянсу, а акрсаюзы БССР толькі 9,4 проц.; па сельскай сетцы маем адпаведна 42,3 проц. і 32,6 проц.

Такім чынам, наша сыстэма спажывецкай коопэрацыі без параўнаньня бядней усяе сыстэмы СССР, а таксама і сыстэмы суседняй з БССР УССР.

Справа пагаршаецца яшчэ тым, што беларуская сыстэма церпіць і ад недахвату банкаўскіх крэдытаў. Параўнаўча з СССР яна ў 1924-25 г. была ў значна меншай ступені насычана банкаўскімі крэдытамі (адносна сумы балянсу). Таму скарочаньне яе крэдытаваньня, зразумела, павінна было балюча адбіцца на яе працы.

Са зробленага намі кароткага аналізу фінансавага становішча спажывецкай коопэрацыі БССР выцякае той вывад, што аб'ём сродкаў, якімі яна карыстаецца, зусім не адпавядае аб'ёму задач, якія перад ёю стаяць.

Пры агульным супакаеньні рынку і больш роўным цячэньні гандлёвай кон'юнктуры проблема зваротных сродкаў коопэрацыі набывае асаблівую вострасьць.

Вынікі недахвату гандлёвага капіталу пагражаюць ня толькі спажывецкай коопэрацыі, а і прамысловасьці, якая зацікаўлена ў нормальнай працы таваграправодзячага апарату.

Задача мобілізацыі сродкаў у самой сыстэме спажывецкай коопэрацыі прадаўжае быць у цэнтры ўвагі коопэрацыйных організацый. Аднак, магчымасьцяй у гэтым напрамку ня трэба пераацэньваць. Процэс далейшага разьвіцьця коопэраваньня насяленьня і збору паявых капіталаў — процэс зацяжны, і ў бліжэйшы час колькі-небудзь прыметнага матэрыяльнага эфэкту даць ня можа, асабліва калі ўзважыць няспрыяючыя рэзультаты сельска-гаспадарчай вытворчасьці БССР у 1926 г. Таму пытаньне аб фінансавым становішчы коопэрацыі зараз ставіцца ў плошчу перагляду ўмоў разрахунку і крэдытнай політыкі ў адносінах да коопэрацыі.

# ВЫНІКНЕНЬНЕ І ЗЬМЕНЫ ОРГАНІЗАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ ПАЎСТАНЬНЯ 1863 ГОДУ НА БЕЛАРУСІ

**У. Ігнатоўскі**

У той час, як паўстаньне 1863 году ў Польшчы вельмі добра вывучана і мае шмат літаратуры, паўстаньне гэтага часу на Беларусі амаль што ня вывучана зусім. Цэлы шэраг пытаньняў стаіць перад дасьледчыкам гэтай вельмі цікавай эпохі. Адным з такіх пытаньняў зьяўляецца пытаньне аб організацыйных момантах паўстаньня 1863 году на Беларусі. Утварэньне організацыйных цэнтраў і жондаў у Варшаве і зьмены іх вывучаны добра. Гэтага ня можна сказаць аб Беларусі. Ясна адно, што і на Беларусі таксама, як і ў Польшчы, ішла барацьба паміж чырвонымі і белымі за захоп організацыйных цэнтраў. Апроч таго, трэба вызначыць, што перамога чырвоных над белымі і наадварот у Польшчы вельмі часта рабіла ўплыў на організацыю паўстанцкіх сіл на Беларусі.

Набліжэньне паўстаньня ў Польшчы пачало вызначацца з канца 1860 году, асабліва з пачатку 1861 году. Асабліва тыповымі ў гэтых адносінах зьяўляюцца люты і сакавік 1861 году. Што датычыць Беларусі, то тут сьпевы патрыётычных гімнаў у касьцёлах і на вуліцах, маніфэстацыі і іншыя прыметы організаванага протэсту зьявіліся пазьней. Яны перакінуліся сюды з Польшчы і былі зьвязаны з польскімі падзеямі. Першы раз польскія патрыётычныя сьпевы адбыліся ў адным з касьцёлаў у Вільні 8 мая. З гэтых часоў сьпевы і маніфэстацыі пачынаюць ісьці як у Вільні, так і ў іншых гарадох, напрыклад, у Горадні, Беластоку, Друскеніках і г. д. 12-га жніўня організуецца па гарадох Беларусі і Літвы сьвяткаваньне гадавіны Люблінскай вуніі; апроч урачыстых набажэнстваў і працэсій, адбываюцца вандроўкі за горад і маёўкі, на якіх не абыходзіцца і без сялянства. На маёўках гаворацца прамовы, гуляюцца нацыянальныя танцы шляхты і інтэлігенцыі з мяшчанствам і сялянствам у знак еднасьці станаў. Сялянства далёка не заўсёды ідзе дабрахвотна на маёўкі. Так, напрыклад, было ў Друскеніках, дзе дэмонстрацыю і маёўку організаваў тутэйшы буйны зямляўласьнік граф Валловіч. 18-га жніўня адбываецца вялізная маніфэстацыя-працэсія на Пагулянцы ў Вільні. Яна організуецца як-бы для спатканьня працэсіі, якая ідзе з Коўны ў Вільню. Дэмонстрацыя разганяецца збройнаю сілаю. У Вільні наогул прымячаецца пад'ём настрою. Вучнёўская і рамесьніцкая моладзь групамі ходзіць на Лукіскі пляц, дзе адбылася сьмяротная кара над вядо-

мым рэволюцыянэрам 30-х гадоў Сымонам Канарскім. На месцы яго кары сьпяваюцца жалобныя і рэволюцыйныя сьпевы. Поліцыя разганяе сабраўшыхся. Побач з патрыётычным рухам па гарадох, на вёсках Заходняй і Паўднёвай Беларусі падымаецца соцыяльны сялянскі рух, каторы перакінуўся сюды з Польшчы праз Падлясьсе і з Украіны. Па лясох жывуць якіясь „лясьнікі", каторыя невялічкімі групамі выходзяць з гушчароў і балот і вядуць агітацыю сярод сялянства.

Зусім зразумела, што ўвесь гэты рух як у Польшчы, так і на Беларусі павінен быў кіравацца нейкімі організацыямі. Такімі організацыямі спачатку былі невялічкія гурткі вучнёўскай моладзі, урадоўцаў, дробнай шляхты, рамесьнікаў і г. д. Агульнай дэтальнай програмы ў гурткоў яшчэ няма. Некаторыя з іх зьяўляюцца яўна выразнымі чырвонымі, некаторыя—зусім умеркаванымі. Але ўсе гэтыя гурткі лічаць сябе чырвонымі, уступаюць у зносіны паміж сабою і зносяцца з „пякельным дэмагогам", яскрава-чырвоным дэмократам, вядомым Мераслаўскім, каторы жыве ў Парыжы. У пачатку верасьня 1861-га году адбываецца зьезд у Гамбургу, на якім прысутнічаюць: ад чырвоных варшаўскіх гурткоў—Шаняўскі, ад белай магнатэрыі і шляхты Трэпка і Калачкоўскі і ад Мераслоўскага—яго сакратар Кужына. Зьезд ня даў ніякіх вынікаў. Між тым настрой у Варшаве падымаўся. У канцы кастрычніка зноў пачаліся нарады прадстаўнікоў чырвоных гурткоў. У выніку іх быў утворан Мейскі камітэт, які аб'яднаў чырвоныя варшаўскія організацыі. Праз некалькі тыдняў, у лістападзе, пасьля зьезду прадстаўнікоў з провінцыі, была ўтворана організацыя чырвоных на ўвесь край, якая вядома пад назваю „Кола". Трэба адзначыць, што на зьезьдзе і пры абраньні „Кола" быў прысутны і прадстаўнік ад Беларусі—Браніслаў Шварцэ. Такім спосабам, рух на Беларусі быў увязан з агульна-польскім рухам.

Заварушыліся і белыя. У канцы сьнежня, пасьля зносін з Уладыславам Чартарыскім у Парыжы, у палацы Андрэя Замойскага ў Варшаве адбыўся зьезд белых, на каторы сабралася з Варшавы і з провінцыі каля 15 чалавек. Магчыма думаць, што былі прадстаўнікі і з Беларусі. Зьезд абраў свой цэнтр з пяці асоб, каторы атрымаў назву „Дырэкцыі".

Такім спосабам, к канцу 1861 году ў Варшаве ўжо пабудаваліся два цэнтры і больш-менш усталявалася іх програма. Чырвоныя лічылі канечна патрэбным падгатаўляць паўстаньне для ўтварэньня незалежнай дэмократычнай Польскай рэспублікі. Ускрайнія чырвоныя былі староньнікамі радыкальнага разьвязаньня сялянскага пытаньня і скасаваньня ўсіх шляхецкіх прывілеяў. Белыя павінны былі таксама прызнаць магчымасьць у далёкай будучыне паўстаньня. Галоўным, па іх думцы, было не паўстаньне, а выкарыстаньне дыплёматычных магчымасьцяй. Інтэрвэнцыя чужаземных дзяржаў хутчэй, чым паўстаньне, пабудуе незалежную Польшчу, якая павінна быць пабудована так, як была пабудована старая гістарычная Польшча.

Так стаяла справа ў Польшчы. Паглядзім цяпер, што рабілася ў гэтыя часы на Беларусі. Сярод белых мы тут назіраем некаторы рух. Чырвоныя на Беларусі таксама, як і ў Польшчы, прагнуць да ўтварэньня сваёй організацыі.

Яшчэ вясною 1861 году рускі ўрад на Беларусі пачаў зьнімаць з пасад тых шляхецкіх маршалкаў, каторыя прымалі ўдзел у патрыётычных польскіх набажэнствах і маніфэстацыях. У красавіку быў зволънен з пасады Віленскага павятовага маршалка граф Ян Тышкевіч і выслан з Вільні ў свой маёнтак. Потым звольнілі з пасады Беластоцкага павятовага маршалка Саковіча, Берасьцейскага—Гажыча і Панявескага—Рымкевіча. На чэрвень былі прызначаны выбары новага маршалка Віленскага павету. На выбары сабралася павятовай шляхты каля 60 асоб. Хадзілі чуткі, што шляхта на зьезьдзе хоча зрабіць нейкую опозыцыю ўраду. Аб гэтым даведаўся віленскі генэрал-губарнатар Назімов. Ён выклікаў да сябе дэлегацыю ад прыехаўшых на выбары і даў ім зразумець, што трэба абраць такога маршалка, каторы ня быў-бы падобны на зволенага Тышкевіча. Шляхта як-бы паслухалася Назімова. Маршалкам быў абраны дагэтуль благанадзейны буйны зямляўласьнік А. Ваньковіч.

На гэтым, аднак, справа ня скончылася. Па пропозыцыі аднаго з шляхцічаў, быў складзены і падпісаны прывітальны адрас зволенаму маршалку Тышкевічу. У адрасе яго палітыка была прызнана правільнаю, і ад імя шляхты выражалася яму спачуцьцё. Праўда, ня ўсе прысутныя адважыліся падпісаць адрас: з прысутных 60 дэлегатаў падпісалі толькі 40. Назімов хутка даведаўся аб гэтым адрасе і распачаў рэпрэсіі. Выбары Ваньковіча былі скасаваны, бо Ваньковіч разам з другімі ня толькі падпісаў адрас, але і перадаў яго Тышкевічу пры ўрачыстых абставінах. Двух шляхцічаў выслалі ў Алонецкую губэрню за рэдагаваньне адрасу. Ініцыятара адрасу (Вагнэра) было пастаноўлена выслаць у Яраслаўскую губэрню. Дзякуючы яго старасьці (80 гадоў), ён быў астаўлены ў сваім маёнтку пад наглядам паліцыі.

Тым ня менш шляхта і на гэтым не ўгаманілася. Будуюцца пляны ўтварэньня на Беларусі Рольнічага Таварыства, якое, па думцы шляхты, павінна адыграць такую самую організацыйную ролю, якую мела ў свае часы Рольнічае Таварыства ў Варшаве. Паводле пляну шляхты, яно павінна адчыніцца разам з Крэдытовым Таварыствам. Былі прыгатоўлены проекты статутаў абодвух таварystваў і пададзены на зацьверджаньне міністра ўнутраных спраў. Пасьля доўгага блуканьня па канцэлярыях статуты вярнуліся ў Вільню ў пачатку 1862 году незацьверджанымі. Урад матываваў незацьверджаньне статутаў тым, што ў сучасны момант кожнае таварыства можа прыняць палітычны характар.

Пакуль цягнулася справа з таварыствамі, у шляхты зьявілася думка аб падачы цару палітычнага адрасу. Лічылі, што трэба пачаць з паветаў, павятовыя адрасы злучыць у адрасох губэрскіх і, такім спосабам, пра-

весьці кампанію па ўсёй Беларусі. Мы маем перад сабою адзін адрас, які быў складзены шляхтаю Рагачэўскага павету 22/X 1861 г. Адрас складаўся зусім адкрыта ў памяшканьні павятовага шляхецкага маршалка Богуша. Сутнасьць зьместу яго такая: цар даў вольнасьць сялянам, зразумела, што ён дасьць вольнасьць грамадзкага жыцьця і беларускай шляхце; шляхта просіць—увесьці польскую мову ў школах і ўстановах, прылучыць Рагачэўшчыну і ўсю Магілеўшчыну да літоўскіх губэрань, школы да Віленскае вучэбнае Акругі, зноў адчыніць Віленскі унівэрсытэт, надаць краю поўную свабоду веры; наогул, выканаць старыя абяцанкі Кацярыны II і Аляксандра I аб прадстаўнічым ўрадзе ў былых польскіх землях. Рускі ўрад, даведаўшыся аб адрасе, адказаў на яго рэпрэсіямі. Маршалак Богуш быў вывезены ў Пецярбург і там пасаджаны ў турму. Пачалося дазнаньне па другіх паветах, якое не дало, аднак, ніякіх вынікаў. У сувязі з дазнаньнем некаторыя ўрадоўцы былі зволены з пасад.

Такім чынам, мы бачым, што шляхта на Беларусі ўвесь час прагнулася скарыстаць для руху легальна-існуючыя шляхецкія організацыі. Нічога з гэтага ня вышла. Нелегальнай організацыі, падобнай на польскую „Дырэкцыю“, утварыць яна не змагла. Магчыма думаць, што яна толькі зьвязалася з Дырэкцыяй, якая была ў Варшаве.

У канцы лета і ў пачатку восені 1861-га году (ліпень, жнівень, верасень) чырвоныя колы на Беларусі прагнуцца ўтварыць зародак чырвонай організацыі. Як і ў Варшаве, так і ў Вільні, і ў іншых гарадох Беларусі існуюць паасобныя гурткі, каторыя кіруюць усімі відамі протэсту на Беларусі. Сувязь паміж гурткамі вясною і летам зусім амаль што ня існуе. Толькі з канца лета, як мы сказалі вышэй, кіраўнікі паасобных гурткоў і паасобныя рэволюцыянэры пачынаюць паразумявацца адзін з другімі і, такім спосабам, наладжваць узаемную сувязь. Трудна ўстанавіць, хто ў гэтыя часы іграе першую ролю, ролю агульнага кіраўніка вырастаючай організацыі. З членаў гэтай організацыі, тым ня менш, ужо можна адзначыць некаторых асоб. У Вільні працуе радыкальна настроены, але далёкі ад ускрайняй чырвані, Людвіг Зьвірждоўскі, каторы скончыў у Пецярбурзе акадэмію генэральнага штабу і адбывае службу ў Вільні ў чыне капітана. Пазьней Зьвірждоўскі, пад псэўдонімам Тапара, будзе іграць выдатную ролю ў Горы-Горацкай гісторыі. У Горадзеншчыне і наогул у заходняй частцы Беларусі працуе будучы чырвоны дыктатар паўстаньня на Беларусі, вядомы Кастусь Каліноўскі. Трудна ўстанавіць, ці ён увесь час сядзіць на Беларусі, ці толькі наяжджае сюды да бацькоў з Пецярбургу, дзе ён канчае унівэрсытэт па юрыдычнаму факультэту. Праз Кастуся Каліноўскага і часткаю праз Зьвірждоўскага рэволюцыйны рух на Беларусі ўвязваецца з рэволюцыйнымі народніцкімі гурткамі Пецярбургу. Каліноўскі настроены вельмі радыкальна і працуе, здаецца, выключна сярод сялянства і сярод дробнай шляхты. Магчыма думаць, што Каліноўскі мае

нейкія адносіны да тых „лясьнікоў“, каторыя зьявіліся ў Падлясьсі і заходняй частцы Беларусі, бо жандармскі афіцэр Хрулёў у сваім „Дневніке“ зьвязвае гэтых „лясьнікоў“ з імем Малахоўскага, каторы быў бліжэйшым супрацоўнікам Каліноўскага. Радыкалізм Каліноўскага ўжо тады кідаецца ў вочы. Цэлы шэраг тагочасных дакумантаў сьведчыць аб гэтым. Яму прыпісваюць такія думкі і словы: „Паўстаньне павінна быць па сутнасьці сваёй чыста мужыцкім; шляхта, пакольні яна з мужыком ня пойдзе, павінна загінуць. Мужыцкая сякера не павінна затрымлівацца нават над калыскаю шляхецкага дзіцяці“. Вырашэньне соцыяльнага мужыцкага пытаньня высоўваецца Каліноўскім на першы плян. Побач з мужыцкім соцыяльным пытаньнем Каліноўскі высоўвае і нацыянальнае беларускае пытаньне, бо мужыка-беларуса ён процістаўляе шляхцічу, пану-паляку і ўрадоўцу-рускаму. У сваёй агітацыі і пропагандзе сярод сялянства ён карыстаецца беларускай, „мужыцкай“ мовай. Рэволюцыйную чыннасьць сярод служачых і рабочых Пецярбурга-Варшаўскай чыгункі, якая якраз у гэты час будуецца, вядзе інжынэр Браніслаў Шварцэ.

Цэнтрам сваёй дзейнасьці Шварцэ робіць Беласток. Тут яму ўдалося з вялікімі труднасьцямі паставіць падпольную друкарню, якая мела для рэволюцыйнага руху вялікае значэньне. Як друкарня, каторая павінна была абслугоўваць Беларусь, яна часта друкавала адозвы і гутаркі ў беларускай мове. Такой паўстанцкай літаратуры ў беларускай мове мы маем даволі многа. Праз Шварцэ чырвоны рух на Беларусі быў увязан з польскім „Колам“. Яшчэ з рэволюцыянэраў на Беларусі магчыма вызначыць такіх асоб, як Малахоўскі, Такаржэвіч і Грынявецкі, погляды каторых былі таксама радыкальныя. У сувязі з чырвонымі на Беларусі агітуе сярод сялянства Літвы ксёндз Антось Мацкевіч. Яго роля для Літвы тая самая, што Каліноўскага для Беларусі. Гэта—выразна чырвоны народнік, каторы, па яго ўласных паказаньнях, апрануў сутану для рэволюцыйных мэт, каб мець больш ўплыў на сялянства, каторае верыла аўторытэту ксяндзоў. Відаць, такія факты ў часы паўстаньня 1863 году спатыкаліся даволі часта. Не дарма ксёндз-профэсар Пецярбурскай каталіцкай акадэміі—Фэлінскі, каторы потым быў назначаны варшаўскім арцыбіскупам, у сваіх гутарках з канчаючымі студэнтамі акадэміі кажа, што чырвоныя вельмі часта са студэнтаў вышэйшых сьвецкіх школ перарабляліся на ксяндзоў для політычных рэволюцыйных мэт. Фэлінскі папераджае сваіх вучняў, каб яны бераглiся гэтых людзей, каторых ён лічыць ваўкамі ў авечай скуры.

Такім спосабам, 1861 год сабраў чырвоныя сілы на Беларусі. Паміж асобнымі гурткамі, праз іх прадстаўнікоў, завязваюцца сувязі. Утвараецца зародак чырвонай паўстанцкай організацыі, каторая праз Б. Шварцэ ўвязваецца з „Колам“ у Варшаве. Праўда, сувязь паміж Варшаваю і Беларусьсю зусім слабая. Чырвоныя ў Польшчы, апроч таго, не салідарызаваліся з ускрайнім радыкалізмам такіх рэволюцыянэраў, як Каліноў-

скі, Мацкевіч, Грынявецкі і інш. Іх больш цікавіла палітычна-патрыётычнае польскае пытаньне, чым соцыяльнае.

Пераходзім да першай паловы 1862 году.

Дырэкцыя ў Варшаве сябе ў гэты час зусім не выяўляе. Уся яе дзейнасьць накіравана на павялічэньне сваіх капіталаў і на выкарыстаньне тых легальных магчымасьцяй, якія адкрыліся перад шляхтай у сувязі з рэформамі Веляпольскага. Апроч таго, яна падтрымлівае сувязі, праўда, зусім формальныя, з провінцыяю, у тым ліку і з Беларусьсю. Зусім іншае мы бачым у „Коле“. Тут увесь час мы назіраем рухавасьць і актыўнасьць. Ускрайнія чырвоныя, якія згуртаваліся ў Мейскім Камітэце, распускаюць „Кола“, якое яны лічаць вельмі ўмеркаванай і расплыўчатай арганізацыяй. Уладу забірае ў свае рукі Мейскі Камітэт. Умеркаваныя, каторыя часткаю асталіся і ў Камітэце, зрабілі пробу злучыць Камітэт з Дырэкцыяй, але гэтая проба не ўдалася. Тым ня менш ім удалося высунуць з Камітэту ўскрайніх членаў і ў чэрвені ўсталяваўся ўмеркаваны Камітэт, каторы, завязаўшы сувязі з провінцыяй, у канцы чэрвеня абвясьціў сябе Цэнтральным Народным Камітэтам. Гэтым ён паказаў, что ён адзін толькі прадстаўляе інтарэсы народу, ня гледзячы на існаваньне Дырэкцыі.

Аб Беларусі за гэты час мы маем вельмі мала вестак. Абвешчана ваеннае палажэньне. Па загаду Назімова ідзе адбіраньне ў жыхарства зброі, у тым ліку і паляўнічай. Белыя, як і ў Польшчы, не выяўляюць ніякай актыўнасьці. Яны, як і ў Польшчы, прагнуцца выкарыстаць легальныя магчымасьці. Але на Беларусі іх куды менш, чым у Польшчы. З легальных відаў працы тут ёсьць толькі адна культурная праца, якою і занялася беларуская шляхта. Для мужыка-беларуса паны і паненкі адчыняюць польскія школкі. Зразумела, што ад такой працы ня можа быць ніякіх вынікаў. Узмацняюцца сувязі з Варшаваю. На чале белых становяцца відныя буйныя зямляўласьнікі, як Старжынскі, Аскерка, Гейштар і інш. Старжынскі на Беларусі прагнецца іграць ролю галавы ўсяго белага руху. Што датычыць чырвоных, то сярод іх ідзе праца і замацоўваньне організацыі. Вясною 1862 году ў Варшаву прыехаў з Пецярбурскага польскага рэволюцыйнага гуртка Фэрдынанд Вараскі. Па дарозе ў Варшаву ён меў даручэньне азнаёміцца з тым, што робіцца на Беларусі. Гэтае даручэньне ён выканаў. У Вільні Вараскі прасядзеў цэлы тыдзень. Тут ён бачыў і меў размову з членамі Віленскага Камітэту Зьвярждоўскім і Далеўскім. З размовы ён даведаўся, што падгатоўка да паўстаньня на Беларусі ідзе: гуртуюцца людзі і, ня гледзячы на загад Назімова, зьбіраецца і захоўваецца зброя. Адначасна яны вызначылі, што сілы пакуль што слабыя і зброі мала. Завязваюцца сувязі з афіцэрамі тых рускіх войск, якія стаяць на Беларусі, але і тут праца не дала яшчэ значных вынікаў: афіцэраў, каторыя так патрэбны для паўстаньня, яшчэ мала. З Вільні Вараскі паехаў у Горадню. Тут

таксама быў Камітэт, справы ў каторым ішлі прыблізна так, як і ў Вільні. У Горадні Вараскі бачыў членаў Камітэту Заблоцкага і Цэханоўскага, каторыя вызначылі, што організацыя разьвіваецца, але паціху. Куды лепш справа была наладжана ў Белавескай пушчы. Там працаваў, як організатар і агітатар, ускрайні чырвоны Валерыян Урублеўскі, вядомы потым генэрал Парыскай Комуны. Ён офіцыяльна займаў нейкую пасаду ў кіраўніцтве Белавескай пушчы. Пасада давала яму поўную магчымасьць мець бесьперашкодныя зносіны з вартаўнікамі пушчы і з сялянамі, каторыя жылі на тэрыторыі і навокал пушчы. Вельмі хутка яму ўдалося ўцягнуць іх у організацыю. З лясьнікоў, сялян і дробнай шляхты тут зорганізаваўся даволі вялікі паўстанцкі атрад, узброены паляўнічымі стрэльбамі. Лясныя гушчары вельмі дапамагалі організацыі. Сялянства ішло ў рух, дзякуючы соцыяльнай програме Урублеўскага. Не перарывалася праца і ў Беластоку, якая там была распачата Шварцам, ня гледзячы на тое, што сам Шварцэ ў чэрвені выехаў з Беластоку ў Варшаву.

Адным словам, у першую палавіну 1862 году, чырвоныя, як у Польшчы, так і на Беларусі, выявілі даволі актыўную працу. У Варшаве ўжо зьявіўся Цэнтральны Народны Камітэт. Утварыліся Камітэты і на Беларусі. Яны гарнуліся да Віленскага Камітэту, які меў для Беларусі значэньне Цэнтральнага Камітэту. Белыя, як у Польшчы, так і на Беларусі, актыўнасьці ня выявілі.

Другая палавіна 1862 году адзначаецца ў Польшчы ўзмацненьнем Цэнтральнага Народнага Камітэту і аслабленьнем белай Дырэкцыі. Тое самае робіцца і на Беларусі. Організацыя чырвоных узмацняецца, а белыя слабеюць.

Цэнтральны Народны Камітэт 12-га жніўня выдаў да сялянства адозву, якая для Беларусі 15-га жніўня была перадрукована Віленскім Камітэтам. У адозьве Камітэты вызначаюць, што сяляне атрымаюць пасьля паўстаньня зямлю бяз выкупу і правы вольных грамадзян. З 1-га верасьня Цэнтральны Народны Камітэт да сваёй назвы дадае сабе тытул Народнага Жонду, што адпавядае яго ўзросту і ўзмацненьню. 18-га кастрычніка ён выдае дэкрэт аб абкладаньні народу падаткам на паўстанцкія мэты. Тэрмін для ўзносу падатку вызначаны на 1-ае лістапада. Па краі былі пакірованы зборшчыкі для збору падатку, і каса Камітэту-Жонду пачала папаўняцца. Дэкрэт 18-га кастрычніка падлажыў экономічную падваліну пад дзейнасьць Камітэту.

У гэты час зложылася і політыка-нацыянальная програма Камітэту-Жонду, каторая тэорытычна высьвятляе адносіны Польшчы да Беларусі і Украіны. 20-га верасьня Камітэт піша ліст да Герцэна, дзе гэтае пытаньне высьвятляецца. Камітэт прызнае за кожным народам поўнае права распараджэньня сваім лёсам. Камітэт змагаецца за непадзельную, цэлую Польшчу, якую складаюць Польшча, Літва-Беларусь і Украіна,

прычым не павінна быць гегемоніі ні аднаго з гэтых народаў. Кожны з гэтых народаў мае права ці астацца ў зьвязку з Польшчай, ці кіравацца паводле сваёй волі. Аднак, у сучасны момант Камітэт лічыць сваім абавязкам прылажыць усе намаганьні, каб Літва-Беларусь і Украіна ішлі разам з Польшчай і каб паўстаньне ахапіла ўсе часьці прыгнечанай айчыны. Гэты ліст Камітэту быў надрукаваны ў „Колоколе" ў нумары ад 1-га кастрычніка.

Мераслаўскі, даведаўшыся аб гэтым лісьце, рабіў Камітэту папрокі, што ён зракаецца Літвы, Беларусі і Украіны. Камітэт-Жонд на гэтыя папрокі даў адказ у 10-м нумары газэты „Рух" такога зьместу. Паўстаньне, апроч непадлегласьці Польшчы, павінна даць вольнасьць усім насельнікам Польшчы, а таксама роўнасьць і ўшанаваньне праў народаў, злучаных з Польшчай. Гэтыя правы Камітэт прызнае за Літвой-Беларусьсю і Украінай і гэтым не адрывае, а злучае з сабою гэтыя народы. Камітэт ня мысьліць іншай Польшчы, як толькі ў яе даўных межах, але з вольнымі народамі. Цэнтралістычныя пажаданьні адрываюць іх ад Польшчы, а ня злучаюць. Не цэнтралізацыяй, не надужыцьцём і не паліцыяй утрымліваюцца провінцыі і народы ў еднасьці і сувязі, а ўшанаваньнем волі і індывідуальнасьці народнай.

Гэтую прынцыповую програму Камітэту трэба мець на ўвазе, каб разумець яго адносіны да Віленскага Камітэту. Гэтая програма рабіла мост для палітычных ўзаемаадносін паміж чырвонымі паўстанцамі Польшчы і Беларусі. Трэба, тым ня менш, мець ўвазе, што практыка не заўсёды супадала з тэорыяй.

Белая Дырэкцыя пачала з пробы дагаварыцца з Веляпольскім, але з гэтай пробы нічога ня вышла. Тады з дазволу ўлады яна ў першай палове верасьня склікае многалюдны (каля 300 асоб) зьезд. У процілегласьць Камітэту, белыя выказаліся за поўную цэнтралізацыю будучай Польшчы. Потым яны вельмі няўдала заняліся палітычнымі адрасамі, у выніку чаго рускі ўрад выслаў у канцы верасьня заграніцу Андрэя Замойскага, у асобе каторага Дырэкцыя згубіла свайго правадыра. Тады ў першых лічбах кастрычніка Дырэкцыя робіць пробу зьвязацца з масамі і нелегальна выдае адозву да рамесьнікаў, накіраваную проці чырвоных. Адозва асталася бяз вынікаў, і ніхто з рамесьнікаў на на яе заклік не адгукнуўся. Нават пашырэньня адозвы Дырэкцыя не магла добра наладзіць. Белым аставалася толькі сачыць за дзейнасьцю чырвоных, але быць іх конкурэнтамі яны ўжо не маглі. Пры такіх умовах у другой палове сьнежня яны яшчэ раз склікалі зьезд. Усяго сабралася 11 асоб, былі і прадстаўнікі белых колаў Беларусі. На зьезьдзе прызналі, што паўстаньне ня можа адбыцца ў хуткім часе, а калі-б яно і пагражала несваечасова, то яны, белыя, могуць спыніць яго. Усё гэта сьведчыць аб тым, што Дырэкцыя зусім не змагла разабрацца ў склаўшайся сытуацыі. Паўстаньне ўжо вісіць над краем, а яна яго ня бачыць.

Тое самае думае белая магнатэрыя і шляхта на Беларусі. Дэлегаты ад яе на белых варшаўскіх зьездах, на чале з Старжынскім, заўсёды вызначалі, што на Беларусі ўсё спакойна, і што ніякага паўстанцкага настрою ў краі няма. Гэта было праўдаю толькі ў адносінах да іх саміх. Як і ў Варшаве, белыя на Беларусі займаюцца організацыяй падачы політычных адрасоў. У сувязі з адрасамі варшаўскімі, на Украіне і на Беларусі ў шляхты таксама вынікі пляны аб падачы адрасу на імя цара аб прылучэньні Украіны і Беларусі да Польшчы. Гэтыя пляны падтрымліваліся як белай парыскай эміграцыяй, так і варшаўскай Дырэкцыяй. Організатарам выступленьняў шляхты на Беларусі быў Старжынскі, каторы ў гэты час шырака разьвінуў сваю чыннасьць. Ён часта вандруе то ў Пецярбург, то ў Парыж, то ў Вільню, то ў Горадню і г. д. Яшчэ на чарговым зьезьдзе шляхты ў Вільні ў пачатку восені на прыватных паседжаньнях і ў прыватных размовах белымі абмяркоўвалася думка аб падачы рускаму ўраду політычнага адрасу. Парашылі спыніцца на Менскім выбарным зьезьдзе, каторы трэба будзе выкарыстаць для вышэйазначанай мэты. Каб прыхіліць да свайго проекту нават і неадважных зямляўласьнікаў, правадыры белых вызначалі, што яны маюць права, як наогул расійскія дваране (IX том законаў, разьдзел 108), падаваць на імя цара адрасы з выяўленьнем сваіх патрэб і пажаданьняў.

Зьезд шляхты ў Менску сабраўся ў канцы лістапада 1862 году. Прадстаўнікі рускага ўраду вельмі хутка даведаліся аб намеры шляхты выкарыстаць зьезд для падачы політычнага адрасу. Менскі губарнатар напісаў губэрскаму маршалку менскай шляхты Лапу ліст, у якім папярэджваў, што падачу адрасу ўрад будзе лічыць актам ня толькі непажаданым, але і незаконым. З гэтым лістом губарнатара маршалак Лапа азнаёміў шляхту, каторая сабралася на зьезд. Ня гледзячы на гэта, знайшлося шмат ахвотнікаў, каторыя патрабавалі, каб адрас быў складзен. Найбольш агітавалі за падачу адрасу два браты Еленскія, двое Аскеркаў і Корбут. Яны матывавалі неадкладнасьць падачы адрасу тым, што гэтага вымагаюць інтарэсы краю; тым больш, што іншыя заходнія губэрні пададуць адрасы, а гэта зробіць вялікі сорам для менскай шляхты, калі яна не падасьць адрасу. Шуму нарабілася шмат. Але калі пачалі справу галасаваць, то гэты шум скончыўся вельмі ціха. Значнаю большасьцю была прынята сумбурная формулёўка такога прыблізна зьместу. Шляхта Менскай губэрні сабралася на зьезд, маючы на мэце ўзлажыць да трону яго імпэратарскай вялікасьці політычны адрас аб правох заходніх губэрань і далучэньні іх да польскіх губэрань, але, дзякуючы лісту губарнатара, адрасу гэтага не падала. Даведаўшыся аб выніках зьезду, чырвоныя колы Менску і Меншчыны вельмі абурыліся. Праўда, праз некалькі дзён зьмест проекту адрасу быў потайна надрукован і пашыран, як па Менску, так і наогул па Беларусі, але гэта мала памагло справе. Вельмі хуткі зьявіліся ў Менску прылепленыя на рагох вуліц вершаваныя

эпіграмы на мясцовых магнатаў-зямляўласьнікаў, каторыя „маюць усё, апроч адвагі і патрыётызму“. У некаторых паветах, напрыклад, у Слуцку, перад будынкамі павятовых шляхецкіх маршалкаў моладзьдзю і мяшчанамі былі організаваны „кацячыя концэрты“, а потым каменьнямі павыбіты вокны ў будынках. Цікава тое, што мясцовая паліцыя і жандармэрыя аб кацячых концэртах і пабіцьці шыб у будынках маршалкаў шляхты пісала ў Пецярбург свайму начальству так: гэта самі шляхцічы організавалі для сябе кацячыя концэрты і пабіцьцё вакон, каб потым мець магчымасьць адмовіцца ад польскага патрыётызму і гаварыць прадстаўніком рускай улады, што яны пастрадалі за тое, што былі працаўнікамі падачы адрасу. Так ці іначай белыя аскандаліліся і згубілі свае ўплывы на політыку.

Зусім іначай стаіць справа чырвоных на Беларусі. Камітэты на мясцох узмацняюцца і цесна ўвязваюцца з Віленскім Камітэтам, як Цэнтральным. У пачатку восені Цэнтральны Камітэт Варшаўскі праз свайго члена Авэйдэ зьвязваецца з Віленскім Камітэтам. Віленскі Камітэт складаюць у гэты час такія асобы: 1) Людвіг Зьвірждоўскі, 2) Францішак Далеўскі,—служачы Пецярбурска-Варшаўскай чыгункі, 3) Малахоўскі—афіцэр рускай службы, 4) Эдмунд Вярыга—служачы, чыгуначнік, 5) Доктар Длускі, каторы раней служыў на Каўказе і 6) Кастусь Каліноўскі. Ю. К. Яноўскі ў сваіх „Pamiętnikach“ (т. I) называе яшчэ Яна Казелла і Зігмунта Чаховіча, гаворачы, праўда, аб канцы 1862 і пачатку 1863 году. Наогул, Віленскі Цэнтральны Камітэт быў чырвоны і стаяў на грунце незалежнасьці беларускага руху ад польскага, не выключаючы аднак сувязі з Варшаўскім Цэнтральным Камітэтам. Апошні, можа, хоць і ня вельмі ахвотна, павінен быў згадзіцца на гэта, бо, як мы ўжо зазначылі вышэй, ён прынцыпова прызнаваў, хоць і ня ў зусім выразнай форме, права на незалежнасьць провінцый, у тым ліку Літвы-Беларусі. Узаемаадносіны паміж Варшаваю і Вільняю ў канцы лістапада і пачатку сьнежня вышэпамянёны Юзэф Яноўскі малюе так. Сапраўды, улада Варшаўскага Камітэту пашыралася толькі на Конгрэсоўку. Провінцыі, Літва-Беларусь і Украіна, кіраваліся сваімі ўласнымі Аддзеламі (Камітэтамі). Віленскі Камітэт асабліва настойваў на самакіраваньні і незалежнасьці. Ён быў нават незадаволены тым, што Цэнтральны Варшаўскі Камітэт пашырыў свае організацыі на Падлясьсі. Варшаўскі Камітэт даў Віленскаму Камітэту поўную свабоду дзейнасьці, заявіўшы, аднак, што ён пакідае сваю ўладу над Беластоцкім паветам. Мы ня ведаем, як аднёсься Віленскі Камітэт да гэтай заявы.

У Віленскім Камітэце, як і ў Варшаўскім, ідуць спрэчкі паміж умеркаванымі і паміж ускрайнымі яго членамі. Прадстаўніком умеркаваных поглядаў быў Людвіг Зьвірждоўскі. Пасьля таго, як ён, будучы западазроным у неблаганадзейнасьці паліцыяй, прымусова быў пераведзен на службу ў Пецярбург, яго месца заняў чыгуначнік Дзюлёран. Умеркава-

ныя вінавацілі ўскрайніх у залішнім сэпаратызьме ад Варшавы і ў тым, што яны сваёю выразна-радыкальнаю сялянскаю програмаю парушаюць інтарэсы шляхты і гэтым адштурхваюць яе ад паўстаньня. Абаперціся ў паўстаньні на адно сялянства бяз шляхты ёсьць абмылка, якая загубіць паўстаньне. Значэньне Дзюлёрана павялічвалася тым, што ён меў номінацыю Камісара Цэнтральнага Варшаўскага Камітэту на Літве-Беларусі.

Апіраючыся на гэтую номінацыю, Дзюлёран распачаў дзейнасьць сярод шляхты, зьвязваючы яе праз галаву Віленскага Камітэту беспасрэдна з Цэнтральным Варшаўскім Камітэтам. Апроч таго, на аснове дэкрэту Цэнтральнага Камітэту ад 18—X—1862 году аб зборы нарадовага падатку на паўстаньне, ён пачаў збор падатку на Беларусі і грошы беспасрэдна перасылаў у Варшаву. Гэткая дэзорганізатарская чыннасьць Дзюлёрана, падтрыманая яшчэ некаторымі ўмеркаванымі членамі Віленскага Камітэту, хутка стала вядомаю Кастусю Каліноўскаму і ўскрайнім чырвоным членам Камітэту, каторыя складалі яго большасьць. Яны пачалі перагаворы з Варшаваю аб зьняцьці з Дзюлёрана годнасьці Камісара Цэнтральнага Камітэту і выдаленьні яго з Беларусі. Варшава не згадзілася з такою пастаноўкаю пытаньня. Адносіны паміж Варшаваю і Вільняю завастрыліся.

Бязумоўна, самаю выдатнаю фігураю ў Віленскім Камітэце быў Кастусь Каліноўскі. Ён радзіўся 21-га студзеня 1836 году ў фальварку Мастаўляны (па другіх вестках, у фальварку Якушоўка) Воўкавыскага павету ў Горадзеншчыне. Бацькі Каліноўскага паходзілі з дробнай шляхты і ня мелі ўласнай зямлі. Нейкі час бацька Каліноўскага служыў урадоўцам, але, як неблаганадзейны, быў зволены са службы. Пасьля гэтага ён павінен быў жыць і карміць даволі вялікую сваю сям'ю з рамясла. Па адных даных Сымон Каліноўскі (бацька) быў майстрам-наглядчыкам, па другіх—уласьнікам ткацкай майстэрні ў 20 варштатаў, якая знаходзілася недалёка ад мястэчка Сьвіслачы. Майстэрня была даволі добра пастаўлена і выраблялa лепшы гатунак палатна, вядомага пад назваю ангельскага. На гэтых варштатах з дзяцінства навучыўся працаваць і Кастусь Каліноўскі. Падросшы, ён папаў у навуку ў Сьвіслацкую пяцікласавую прагімназію, якую даволі пасьпешна скончыў. Па сканчэньні прагімназіі ён накіраваўся ў Маскву, дзе паступіў на юрыдычны факультэт унівэрсытэту. За ўдзел у нейкіх студэнцкіх „непарадках“ яго адтуль хутка выключылі, і ён пасьля даволі вялікіх труднасьцяй, зноў паступіў у Пецярбурскі унівэрсытэт, каторы і скончыў, атрымаўшы годнасьць кандыдата праў. Будучы студэнтам унівэрсытэту, Каліноўскі жыве звычайным жыцьцём студэнта-розначынца. Ён блізка зыходзіцца з рускімі падпольнымі народніцкімі гурткамі і рэволюцыйнымі польскімі гурткамі. Творы Герцэна і Бакуніна робяць вялікі ўплыў на яго сьветапагляд. У 1860 г. Кастусь Каліноўскі ўжо тыповы рэволюцыянэр-народнік таго часу, пры-

чым народніцтва яго зьвязана з беларускім грунтам. У самым пачатку 1862 году, а можа нават у канцы 1861 году, Каліноўскі ўжо зусім асядае на Беларусі. Ёсьць даныя, што для таго, каб бліжэй падыйсьці да сялянства, ён нават нейкі час займае пасаду валаснога пісара. Зразумела, што ў тагочасных беларускіх абставінах ён адразу знаходзіць сабе месца ў лягеры ўскрайніх чырвоных паўстанцаў і вельмі хутка робіцца дзейным членам Віленскага Цэнтральнага Камітэту.

Асабліва разьвіваецца яго дзейнасьць з пачатку восені 1862 году. Ён займае пасаду валаснога пісара ці ў самым мястэчку Сьвіслачы, ці каля яго. У гэтай мясцовасьці жывуць яго бацькі, і сяляне яго добра ведаюць. Тут ён, карыстаючы з сваёй пасады, распачынае агітацыю і пропаганду спачатку сярод знаёмых сялян, а потым і сярод незнаёмых. Дзякуючы нейкаму здарэньню, паліцыя ў мяст. Сьвіслачы даведалася аб рэволюцыйнай чыннасьці нязвычайнага валаснога пісара. Быў дадзены загад арыштаваць яго. Толькі нейкі выпадак выратаваў Кастуся Каліноўскага з рук паліцыі і жандараў. Ён уцёк і перайшоў на нелегальнае палажэньне. Усю восень пад імем Базыля Сьвіткі, апрануўшыся ў сялянскую вопратку, Каліноўскі ходзіць па вёсках добра вядомай яму Горадзеншчыны, наведваючыся час-ад-часу да Вільні па справах Камітэту. Гэтую працу ён вядзе да глыбокай восені, калі ён ужо больш стала асядае ў Вільні. Паліцыя ганялася па яго сьлядох, але злавіць не магла, бо сялянская гушча хавала яго. Ён быў сярод сялян сваім чалавекам, імя яго было акружана ўсялякімі легендамі. Вандруючы па глухіх вёсках, ён зусім пераканаўся, што толькі тады паўстаньне можа мецьпосьпех, калі яно добра і грунтоўна будзе абаперта на спачуцьцё сялянскіх мас; што селянін толькі тады будзе спачуваць паўстаньню і прыме ў ім чынны ўдзел, калі яно будзе пакіравана для здавальненьня кроўных інтарэсаў сялянства і проці інтарэсаў зямляўласьнікаў; што інтарэсы гэтых дзьвюх соцыяльных груп узгодніць няможна. Трэба так пакіраваць паўстаньне, каб яно адабрала зямлю ад паноў цалкам і без усялякіх выкупаў перадало яе сялянству, прыгнечанаму шматвяковай панскай эксплёатацыяй. Трэба змагацца з царскім урадам, каторы падтрымлівае паноў і вызваляе не сялян ад паноў, а зямлю ад сялян і сялян ад зямлі. Трэба стаяць за „мужыцкую праўду“, трэба ўтварыць народную Беларусь, незалежную і ад польскага пана, і ад рускага самаўладзтва, бо яны разам смокчуць кроў беларускага селяніна. Вельмі тыповымі для Каліноўскага зьяўляюцца словы, каторыя часта любіў ён гаварыць сялянам у сваіх прамовах: „Сякера паўстанца не павінна спыняцца нават над калыскаю шляхецкага дзіцяці“, ці „такой кумушцы, як Варшава, ня можна даверыць долю Беларусі“. Апошнія словы Каліноўскага сьведчаць аб тым, што ў яго ня было поўнага давер'я да шчырасьці і настойлівасьці Цэнтральнага Камітэту ў правядзеньні соцыяльнай і нацыянальнай яго программы, бо Каліноўскі лічыў яго склад занадта ўмеркаваным.

Каліноўскі зьвяртаецца да сялянства ў „мужыцкай“ беларускай мове, што робіць яго пропаганду вельмі даступнай і зразумелай для цёмных сялянскіх гушчаў. У беларускай мове друкуе ён падпольна свае адозвы і часопісі-проклямацыі да сялянства, падпісваючы іх псэўдонімам Яська—гаспадар з-пад Вільні. Літаратурны псэўдонім яго робіцца такім-жа популярным сярод сялянства, як і прозьвішча Базыля Сьвіткі. Асабліва шырока распаўсюджваецца падпольная часопісь Каліноўскага „Мужыцкая Праўда“. Энэргічны бясстрашны, поўны энтузіязму і веры ў перамогу рэволюцыі, ён быў найяскравейшаю асобаю сярод чырвоных паўстанцаў на Беларусі.

Ускрайнія чырвоныя, такім спосабам, шукалі падтрыманьня і апоры ў прыгнечаных сялянскіх гушчах, каторым яны прагнуліся аддаць усю панскую зямлю. У гарадох апораю чырвоных паўстанцаў былі рамесьніцкія колы. Селянін на Беларусі ўціскаўся польскім панствам і рускім царызмам. Пытаньне політыка-соцыяльнае пераплялося з нацыянальным. Адсюль чырвоныя на Беларусі мэханічна павінны былі прыйсьці да процістаўленьня ня толькі соцыяльных, але і нацыянальных інтарэсаў беларускага сялянства соцыяльным і нацыянальным інтарэсам польскага панства і рускага самаўладзтва на Беларусі. Яны, побач з соцыяльным вызваленьнем беларускага селяніна ад панства і царызму, ставяць сваёю мэтаю політычнае і нацыянальнае вызваленьне „мужыцкай“ Беларусі ад Польшчы і Расіі. Што датычыць да Польшчы, то яны ідуць з ёю на згоду і часам на сувязь, каб разам перамагчы рускае самаўладзтва.

Белыя на Беларусі лічаць чырвоных сэпаратыстымі і ня згодны з іх незалежніцкаю програмаю. Дзякуючы гэтаму, нязгода паміж чырвонымі (асабліва ўскрайнімі) і белымі на Беларусі яшчэ большая і глыбейшая, чым у Польшчы. У Польшчы яны разыходзяцца паміж сабою ў соцыяльным пытаньні, а на Беларусі, апроч соцыяльных разыходзін, паміж белымі і чырвонымі ідуць спрэчкі па політыка-нацыянальных пытаньнях. Утвараецца вельмі складаная сытуацыя. Паўстаньне 1863 году ў Польшчы і на Беларусі будзе збройна выступаць проці расійскага самаўладзтва, але гэты паўстанец разьбіўся на дзьве групы, зусім не падобныя адна на другую па сваіх поглядах.

У ноч з 22 на 23 студзеня 1863 году распачалося паўстаньне ў Польшчы. На Літве-Беларусі яно распачалося пазьней. У пачатку лютага каля Сямятыч і ў Сямятычах, у Высокім, Бярэсьці, Шэрашаве і інш. мясцох дзейнічаюць паўстанцкія групы, якія перабраліся сюды з Польшчы праз Падлясьсе. 3-га сакавіка Віленскі Камітэт выдаў проклямацыю, каторая заклікала насельніцтва да паўстаньня. Але яшчэ да гэтага, з канца лютага, ужо пачынаюць дзейнічаць паўстанцкія атрады, каторыя організаваліся на тэрыторыі Беларусі. Атрад Людвіга Нарбута распачаў сваю чыннасьць у Лідзкім павеце з 20/II; першая спатычка яго з рускімі сіламі адбылася ў Рудніцкай пушчы за рэчкай Мерачанкай 28 лютага.

З гэтага часу паўстаньне пашыраецца і па Беларусі. Польшча і Беларусь на доўгі час робяцца арэнай барацьбы.

У самым пачатку паўстаньня Цэнтральны Камітэт-Жонд пасьля гарачых дэбатаў ухваліў увайсьці ў зносіны з Мераслаўскім. Яму было прапанована для цэнтралізацыі сіл прыняць дыктатуру ў краі. Мераслаўскі згадзіўся і ў сярэдзіне лютага перайшоў межы Польшчы. Пасьля некалькі няўдалых спатычак з рускімі атрадамі, Мераслаўскі павінен быў пакінуць межы Польшчы. Дыктатура Мераслаўскага, такім спосабам, праваліліся. Зьяўленьне на арэне Мераслаўскага вельмі занепакоіла шляхту. Яна баялася гэтага „пякельнага дэмагога“. Пачалося агульнае направеньне. Гэта адбілася і на Камітэце-Жондзе. Тым больш, што чырвоныя члены камітэту разьехаліся па краі для непасрэднага кіраўніцтва паўстаньнем. Іх замянілі ў цэнтры умеркаваныя элемэнты. У 20-х лічбах лютага ў Кракаве адбыўся зьезд для злучэньня белых з чырвонымі. Ад Варшаўскага Жонду зьявіўся туды, як выявілася потым, самазванны прадстаўнік, Адам Грабоўскі. Белыя высунулі і зьезд ухваліў утварэньне дыктатуры. Дыктатарам прызначылі ўмеркаванага Лангевіча, каторы зрабіўся забаўкаю ў руках белых. Дыктатура Лангевіча 19/III з трэскам правалілася, але ўплывы белых на Камітэт-Жонд значна замацаваліся. Цэнтральны Камітэт пабялеў вельмі моцна.

Усё гэта адбілася і на Віленскім Камітэце. І на Беларусі заварушыліся белыя. Яшчэ ў пачатку лютага ў Вільні з дазволу Назімова, як-бы для нарады па сялянскім пытаньні, сабраўся зьезд шляхты. На зьезьдзе шмат гаварылі і абураліся соцыяльнаю і палітычнаю програмаю чырвоных, асабліва Каліноўскага. Вінавацілі яго і чырвоны Камітэт у дэмагогіі і сэпаратызьме. Было ўхвалена зьнесьціся з Варшаваю для ўстанаўленьня з ёю цеснай сувязі. І тут, як і ў Польшчы, вынік плян утварэньня дыктатуры і было ўхвалена адразу выбраць дыктатара. Дыктатарам выбралі вядомага ўжо нам В. Старжынскага. Ён, зусім неспадзявана для зьезду, адмовіўся прыняць на сябе годнасьць дыктатара. Тады было ўхвалена выбраць Камітэт падобна да чырвонага Віленскага Камітэту. Камітэт выбралі ў складзе шасьці асоб: адмовіўшагася ад дыктатуры В. Старжынскага, князя Мікалая Гедрайца, Якуба Гейштора, Антона Еленскага, Лапы і Аляксандра Аскеркі. Усё гэта былі буйныя зямляўласьнікі. У новаўтвораны Камітэт перабраўся з чырвонага Камітэту Дзюлёран у якасьці Камісара Цэнтральнага Камітэту-Жонду.

Зразумела, што новаўтвораны белы Камітэт адразу пачаў весьці змаганьне з старым чырвоным Камітэтам як па пытаньнях соцыяльнага характару, так і па пытаньні аб незалежнасьці Літвы-Беларусі. Пасьля некаторай спробы ўзгадненьня працы, выяўляецца, што абодва Камітэты разам існаваць ня могуць. Белыя ставяць тады сваёю мэтаю разагнаць чырвоны Камітэт і захапіць уладу і кіраўніцтва паўстаньнем на Беларусі выключна ў свае рукі. У іх змаганьні іх падтрымлівае той факт, што ў

Польшчы белыя ўжо атрымалі ўплыў на Цэнтральны Камітэт-Жонд і пачалі іграць там выдатную ролю, падпарадкаваўшы свайму ўплыву ўмеркаваных членаў, што засталіся ў Камітэце. Для свайго ўзмацненьня Віленскі белы Камітэт увайшоў у зносіны з пабялеўшым Цэнтральным Камітэтам. У Варшаву для гэтай мэты ў самым пачатку сакавіка быў пакіраваны настаўнік прыродных навук і літаратар, Вацлаў Пшыбыльскі. Яму было даручана весьці перагаворы і быць поўнамоцным прадстаўніком белага Камітэту ў Варшаве. Варшаўскі Жонд надаў Пшыбыльскаму годнасьць сакратара Цэнтральнага Жонду па справах Літвы-Беларусі права прысутнасьці на пасяджэньнях Жонду з дарадчым голасам.

Такім чынам, белы Віленскі Камітэт прызнаў галавенства над сабою Варшаўскага Камітэту-Жонду і атрымаў ад яго сваю номінацыю, як Кіруючага Аддзелу провінцыяй Літвы-Беларусі. Праўда, і Аддзелу Жонд надаў нейкую аўтономію, каторая, відаць, не выкарыстоўвалася Аддзелам, бо яна не супадала з іх уласнымі цэнтралістычнымі прагненьнямі ў адносінах да Варшавы. Аўтономія Аддзелу абмежавалася фактычна тым, што ён аставіў за сабою права номінацыі адміністрацыйных і вайсковых урадоўцаў паўстаньня на Беларусі.

А чырвоны камітэт усё не здаваўся і не выпускаў кіраўніцтва паўстаньнем з сваіх рук. Тады белыя зьвярнуліся да вычэрпваючага і радыкальнага сродку, які добра іх характарызуе. На 11-ае сакавіка белыя пры дапамозе Дзюлёрана склікалі агульнае пасяджэньне, на якое запрасілі і чырвоных. Такія пасяджэньні адбываліся і раней, калі ішлі перагаворы паміж абодвума камітэтамі. На гэтым пасяджэньні, заместа якіх-бы то ні было перагавораў, белыя заявілі чырвоным, што Варшаўскі Цэнтральны Жонд перадаў усю ўладу і кіраўніцтва паўстаньнем на Беларусі белым і што гэтым самым ён закасаваў правы чырвонага камітэту. Зразумела, што члены чырвонага камітэту протэставалі проці гэтага самым катэгорычным спосабам. Яны зазначалі, што Цэнтральны Варшаўскі Камітэт-Жонд зьяўляецца поўнамоцным кіраўнікам паўстаньня толькі на тэрыторыі Польшчы; што ён ня мае ніякага права ўмешвацца ў хатнія справы Літвы-Беларусі. Чырвоныя заявілі, што яны ня могуць і не павінны лічыць для сябе абавязковымі пастановы Варшавы, што яны ня згодны прыпыніць сваю дзейнасьць па кіраўніцтву паўстаньнем на Беларусі і перадаць свае правы і абавязкі беламу Аддзелу. Белыя, выслухаўшы гэтую заяву, зазначылі, што яны прымусяць Віленскі Камітэт зыйсьці з дарогі радыкальным спосабам. Яны заявілі, што агалосяць у замежных газэтах прозьвішчы членаў чырвонага камітэту, як чырвоных здраднікаў польскай справы, парушаючых адзінства руху. Пасьля такога агалошаньня польскія паўстанцы ад іх адвернуцца, а руская паліцыя і жандармэрыя будзе добра ведаць, з кім і як трэба распраўіцца. Пасьля такой „радыкальнай“ заявы белага Аддзелу, чырвонаму камітэту не аставалася больш нічога рабіць, як здацца. Каліноўскі, праў-

да, яшчэ прагнуўся змагацца. Ён паслаў протэст у Варшаву на незаконны паступак Цэнтральнага Камітэту і на здрадніцкі паступак Віленскага Аддзелу, але гэты протэст ня меў ніякіх вынікаў, і Каліноўскаму таксама, урэшце, прышлося здацца.

З сярэдзіны сакавіка, такім спосабам, кіраўніцтва паўстаньнем на Беларусі ўзялі ў свае рукі белыя. Некаторыя ўмеркаваныя згадзіліся працаваць з Аддзелам і асталіся на сваіх пасадах. Каліноўскі пакінуў Вільню і распачаў зноў сваю агітацыйную працу выключна сярод сялянства Горадзеншчыны і заходняй Меншчыны. Аддзел узяў новую лінію і пачаў уцягваць у паўстаньне і організоўваць шляхту. Гэта, бязумоўна, адбілася потым на адносінах сялянства да паўстаньня. Сябры Аддзелу разьмеркавалі паміж сабою працу такім спосабам. Гейштар узяў пад свой загад кіраўніцтва ўнутранымі справамі, забясьпечаньне паўстанцкіх атрадаў амуніцыяю і зброяю, а таксама агульны нагляд за імі. Старжынскаму было даручана агульнае палітычнае кіраўніцтва дзейнасьцю Аддзелу і кіраўніцтва чужаземнымі справамі. Паколькі для белых пытаньне аб чужаземнай інтэрвэнцыі было дамінуючым, то зразумела, што гэтаму пытаньню Аддзел аддаваў шмат увагі. Не дарма чужаземныя справы былі даручаны Старжынскаму, каторага белыя лічылі сваім правадыром. Старжынскі ў Вільні амаль што не сядзіць: ён увесь час у разьездах. Еленскаму было даручана загадваньне фінансавымі справамі. Аскерка заняў пасаду начальніка места Вільні, якая мела вельмі вялікае значэньне. Сваім намесьнікам ён зрабіў Малахоўскага, каторы быў начальнікам места Вільні пры чырвоным камітэце. Як ужываліся шэф са сваім намесьнікам, мы ня ведаем. Трудна думаць, што справы ішлі гладка. Аскерка, апроч таго, як па даручэньні Віленскага Аддзелу, так і па даручэньні Цэнтральнага Варшаўскага Жонду, наладзіў зносіны з Польскім Пецярбурскім Рэволюцыйным Аддзелам.

*(Канец будзе).*

# НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ДА ГІСТОРЫІ „НАШАЕ ДОЛІ“

А. Шлюбскі

Да гісторыі выданьня „Нашае Долі“ пакуль апублікаваны ўсяго толькі два артыкулы: адзін удзельніка выданьня часопісі—Ф. Умястоўскага, а другі пішучага гэтыя радкі, напісаны паводле неагалошаных архіўных даных; але трэба адзначыць, што ўсе яны побач з матэрыялам пэўным маюць матэрыял і няпэўны. Прышлося зьвярнуцца з некаторымі запытаньнямі да старых вядомых беларускіх дзеячоў: Антона Луцкевіча—у Вільню, Рамуальда Зямкевіча—у Варшаву і Вацлава Ластоўскага—у Коўну; першы прымаў галоўны ўдзел у выданьні „Нашай Долі“, а апошнія вядомы, як беларускія бібліофілы, якія маюць вялізныя зборы беларускіх рукапісных і друкаваных рэдкасьцяй, якім і прыношу падзяку за паданыя імі матэрыялы.

Ф. Умястоўскі ў сваім артыкуле [1]), які да апошняга часу зьяўляўся адзінай крыніцай да гісторыі ўзьнікненьня „Нашай Долі“, галоўным ініцыятарам, організатарам і рэдактарам часопісі выстаўляе сябе, такі погляд нават існуе і ў некаторых колах беларускага грамадзянства [2]). Што Умястоўскі прымаў некаторы ўдзел у беларускім руху—гэта бясспрэчна, напр., у організацыі беларускіх палітычных партый [3]), але ролю сваю, удзел свой у організацыі і выданьні „Нашай Долі“ Ф. Умястоўскі перадаў зусім няправільна. Ужо Максім Гарэцкі ініцыятарам „Нашай Долі“ называе не Ф. Умястоўскага, а Яна Луцкевіча [4]); раней гэта было выказана ў аднэй віленскай кнізе, ахвярованай Яну Луцкевічу [5]). Дададзеныя да гэтага дадаткі зусім з іншага пункту погляду высьвятляюць пытаньне аб організацыі „Нашай Долі“, чым яго высьвятляе Ф. Умястоўскі. Так, Ант. Луцкевіч піша: ...„Успаміны“ Умястоўскага, у якіх ён выстаўляе сябе ініцыятарам справы выданьня „Нашай Долі“, далёкія ад праўды... роля яго, як галоўнага організатара,—лішне раздутая. Ён даваў толькі перадавіцы ў №№ 1, 2 і 3, а таксама рабіў раскладку матэрыялу і корэктуру ў друкарні, як адзіны сярод мас легальны чалавек.

---

1) *Дзядзька Прануг.* Аб „Нашай Долі“, Беларусь, Менск, 1919 г. № 47.

2) *Ал. Шлюбскі.* Конфіскацыя першай беларускай часопісі „Наша Доля“, Савецкая Беларусь, 1923 г. № 159.

3) *Бурбіс.* Бел. соц. грамада... Беларусь, 1924 г. с. 178.

4) *М. Гарэцкі.* Гісторыя бел. літаратуры, выд III, Менск, 1924 г., с. 264.

5) Памяці Івана Луцкевіча ў першыя ўгодкі сьмерці яго. Вільня, 1920 г., с. 12.

Увесь-жа матэрыял рабілі мы з Цёткай... На № 3 праца Ўмястоўскага спынілася...—Spiritus movens газэты быў, бясспрэчна, Іван Луцкевіч як у сэнсе надаваньня кірунку, так і ў сэнсе організацыі"...

Такім чынам, нарэшце выясьняецца, што беларусы пачаткам свайго легальнага пэрыодычнага друку абавязаны Яну Луцкевічу, і адначасна з гэтым выяўляецца тая роля, якую адыгрываў у выданьні Ф. Умястоўскі.

Другім, ня зусім выразным пытаньнем у справе выданьня „Нашае Долі", было пытаньне адносна выясьненьня асобы Тукеркеса і прычын, якія штурханулі яго да выданьня „Нашай Долі". Ня гледзячы на тое, што „Наша Доля" аддзяляецца ад сучаснасьці ўсяго толькі адным дваццацілецьцем, аб офіцыяльным выдаўцы і рэдактары „Нашай Долі" „віленском мещанине" Іване Адамаве Тукеркесе існуюць самыя проціleглыя погляды—то ён малюецца яўрэем-пярэхрыстам, то латышом, то літоўцам, то асобай, якая была зацікаўлена ў разьвіцьці беларускага адраджэньня і пачала выданьне „Нашай Долі" па чыста ідэёвых пабуджэньнях, то асобай, для якой абсолютна ўсё роўна, што выдаваць, абы зарабіць найбольш грошай, для якой аніякіх ідэёвых пабуджэньняў не існавала *). Гэтую апошнюю думку, якую часткай выказвалі Бурбіс і Ўмястоўскі, канчаткова сьцьвярджае Антон Луцкевіч, які піша: „Ідэйнасьць" Тукеркеса—міф! Магу гэта сьцьвердзіць з усёй станоўчасьцю". Адносна нацыянальнага становішча Тукеркеса сьцьвярджаецца, што ён паходзіў з яўрэяў-пярэхрыстаў.

Даданыя да гэтага лісты А. Луцкевіча і Р. Зямкевіча дапамагаюць выясьніць лік нумароў „Нашае Долі", якія былі выданы. У артыкулах, якія былі выдрукаваны ў сувязі з дваццацілецьцем „Нашае Долі" ў „Савецкай Беларусі" і „Звезде", на падставе некаторых дакумантаў была высунута думка, што часопісь гэта была выдана ў ліку васьмі паасобнікаў, між тым, як памянёныя лісты з пэўнасьцю сьцьвярджаюць ранейшы погляд аб тым, што „Нашай Долі" вышла ўсяго толькі шэсьць паасобнікаў, выдрукаваных маскоўскай транскрыпцыяй і першых пяць паасобнікаў, выдрукаваных чэскай транскрыпцыяй.

Памянёныя лісты далей выясьняюць цэлы шэраг іншых спрэчных пытаньняў, якія зьвязаны з выданьнем „Нашае Долі".

Так выпраўляецца няяснасьць таго месца ў „Гісторыі Беларусі XIX ст." проф. У. Ігнатоўскага, дзе ён піша аб складзе рэдакцыі „Нашай Долі"; выясьняецца як удзел у выданьні Гедвіллы (які рэдагаваў два апошніх нумары), так паведамляюцца адносна яго некаторыя біографічныя даныя; сьцьвярджаецца дагадка, пішучага гэтыя радкі, аб тым, што шосты нумар „Нашае Долі" быў сконфіскаваны, аб чым няма абсолютна ніякіх офіцыяльных даных; і, нарэшце, даецца цэлы шэраг новых матэрыялаў, якія цікавыя ня толькі для гісторыі „Нашае Долі", але нават цікавы для гісторыі беларускага друку наогул.

*) Гл. арт. *Умястоўскага і Шлюбскага,* Сав. Бел., 1923 г.

## Дадаткі

### № 1

Паведамленьне Антона Луцкевіча:

„Тукеркес Ян, сын віленскага фэльчара (жыда-выхрыста), прыяцель Ф. Умястоўскага, быў зарэкомэндаваны апошнім майму брату Івану і мне, як чалавек, каторы мог-бы фінансаваць, як даходнае прадпрыемства, проектаваную намі беларускую часопісь ды ўзяць концэсію на сваё імя, як выдавец і рэдактар. Чалавек гэта быў малады—тыповы „хлышч“ і „прожигатель жизни“, як кажуць парасійску, але па натуры не благі, даволі адзыўчывы. Першы нумар „Нашае Долі“ вышаў за яго грошы, якія ўраз-жа і вярнуліся з прычыны вялізарнага попыту на газэту: у Вільні было прададзена да 3.000 экз. за адзін дзень. Праца наша была, ведама, бясплатная; памяшканьне пад рэдакцыю—таксама. Але ўжо на другі дзень „Н. Д.“ была сконфіскавана, што выклікала ў Тукеркеса прыкрую рэакцыю. Да таго-ж яго ўласныя фінансавыя справы ў сувязі з ведзеным ім спосабам жыцьця пачалі блытацца, дык ён ужо ня толькі не ўкладаў нічога ў газэту (якая далей выходзіла за грошы майго брата, прадаўшага з гэтай мэтай колекцыю сваіх ордэнаў), але, наадварот, рабіў спробы сёе-тое цягнуць з газэты на сваю карысьць. На гэтым грунце (асабліва пасьля неспадзяванага выезду з Вільні Умястоўскага, захапіўшага з сабой... усю налічнасьць касы!) між намі і Тукеркесам адносіны так папсаваліся, што далейшае вядзеньне газэты пад ягонай фірмай аказалася немагчымым, тым болей, што павыкрываліся і былі разьдзьмуханы палякамі нейкія даволі цёмныя справы з ягонага прошлага. Гэта прымусіла нас зьліквідаваць газэту пасьля чацьвертага нумару [1]).

Вось тут і выплывае асоба Гедвіллы. Але трэба перш адзначыць, што брат мой, я і Цётка—увесь склад рэдакцыі „Н[ашай] Д[олі]“ пасьля выезду Умяст. [оўскага]—былі на нелегальным палажэньні і асабліва мусілі ўкрывацца ў сувязі з сталымі конфіскацыямі газэты і пільным надзорам за ёй паліцыі [2]).

Адам Гедвілло—дужа сьветлая фігура, ідэйны рэволюцыянэр (віленец), сябра П. П. С. З намі ён быў у блізкіх адносінах. Вось-жа з ім у нас пазнаёміўся Тукеркес, і, калі мы зьліквідавалі рэдакцыю „Н[ашай] Д[олі]“, Тукеркес, манячыся далей весьці выдавецтва, як рэч магчыма даходную, зьвярнуўся да Гедвіллы аб супрацоўніцтве, кажучы, што абодва Луцкевічы і Цётка прымушаны ўцякаць, няма каму весьці працы.

---

[1]) На першай старонцы чацьвертага нумару „Нашае Долі“ было выдрукавана: „Аб'яўляем, што дзеля прычын, ад рэдакцыі незалежных, „Наша Доля“ больш выходзіць ня будзе“.

[2]) Матэрыялы аб нелегальным становішчы братоў Луцкевічаў знаходзяцца ў кнізе: „Памяці Ів. Луцкевіча“.

Гэтак вышлі №№ 5 і 6 „Н[ашай] Д[олі]“, зробленыя Гедвіллай[1]). Абодва нумары (як і тры з 4-ох папярэдніх) былі сконфіскаваны[2]), газэта зачынена. Тукеркеса засудзілі на год крэпасьці, дык ён уцёк у Парыж, і з таго часу ніякіх вестак аб ім ня было. Гедвілло, сустрэўшыся пазьней з намі, вытлумачыў усю справу. Сам ён хутка памёр ад сухотаў“.

№ 2

Паведамленьне Антона Луцкевіча:

„Магу заверыць, што створаная легенда аб №№ 7 і 8 „Нашае Долі“ пабудавана на... канцэлярскай апісцы віленскае цэнзуры! Справа ў тым, што дакумант, на які Вы пазываецеся, нам ведамы і адносіцца не да „Н[ашае] Д[олі]“, а да № 8 „Нашае Нівы“, які быў друкаваны 23 лютага 1907 году з датай 24-II[3]). За гэты нумар рэдактар Уласаў быў засуджаны на 2 месяцы крэпасьці. Цэнзурная апіска была заўважана ў момант конфіскацыі „Н[ашай] Н[івы]“ і тады-ж выясьнена. Бачыце, як асьцярожна прыходзіцца адносіцца да гістарычных матэрыялаў—нават офіцыяльных актаў!

„Н[аша] Д[оля]“, зусім слушна, не магла выйсьці пасьля яе зачыненьня судом. Дый Тукеркес тады знаходзіўся ўжо, здаецца, заграніцай—у Парыжы, як апавядалі.

Адносна да ўдзелу Гедвіллы ў 5 і 6 нумарох „Н[ашай Д[олі] выясьняю, што ўдзел гэты выявіўся толькі ў працы, і Гедвілло, наколькі памятаю, быў тады ў вельмі незавідным матэрыяльным становішчы.

„Ідэйнасьць“ Тукеркеса—міф! Магу гэта сьцьвердзіць з усёй станоўчасьцю. Характэрна: калі будзеце пераглядаць „Н[ашу] Д[олю]“, дык, здаецца, у № 2 знойдзеце абвестку, каб грошы адрасаваць на імя Е. Сымановіча, гэта затым, каб іх ня мог узяць Тукеркес з пошты, бо яны былі не яго, а пакушэньні на іх былі роблены. Сымановіч-жа служыў у Т[укеркеса] за лёкая і быў узяты за экспэдытара ў газэту. З увагі на тое, што лёкай выказваў да сябе больш давер‘я, чым ягоны „пан“, і была зроблена гэтая абвестка.

---

[1]) Пяты і шосты нумары былі падпісаны Адамам Гедвіллай, як рэдактарам. Офіцыяльна рэдагаваць ён ня меў права, бо рэдактарам офіцыяльным быў Ів. Тукеркес. За „незаконнае“ рэдагаваньне „Нашай Долі“ Гедвілла быў прыцягнуты Віленскай цэнзурай да адказнасьці, аб выніках гэтага вестак няма ніякіх.

[2]) Адносна конфіскацыі шостага нумару офіцыяльных даных пакуль што няма ніякіх. У архіве Віленскага цэнзурнага камітэту, дзе захаваліся дакуманты аб конфіскацыі папярэдніх нумароў, адносна гэтага нумару не захавалася нічога. Толькі Ал. Шлюбскім (у „Сав. Беларусі“ 1926 г. № 208 і „Звезде“ 1926 г. № 210) была выказана думка, што шосты нумар абавязкова павінен быў быць сконфіскаваным з прычыны яго ярка рэволюцыйнага зьместу.

[3]) На восьмым нумары „Нашай Нівы“ адзначана дата 24 лютага. Конфіскацыя гэтага нумару сьцьвярджаецца данымі, якія агалошаны *Ал. Шлюбскім* у арт. „Да гісторыі конфіскацыі „Нашай Нівы“, „Полымя“, 1925 г. № 4.

„Успаміны“ Ўмястоўскага [1]), у якіх ён выстаўляе сябе ініцыятарам справы выданьня „Н[ашае] Д[олі]“—далёкі ад праўды. Дый у Вашых артыкулах роля яго, як галоўнага організатара,—лішне раздутая. Ён даваў толькі перадавіцы ў №№ 1, 2 і 3, а так-жа рабіў раскладку матэрыялу і корэктуру ў друкарні, як адзіны сярод нас легальны чалавек. Увесь-жа матэрыял рабілі мы з Цёткай. Артыкул: „Што будзе?“ у № 1—гэта мой першы дэбют. На № 3 праца Ў[мястоўскага] спынілася, як я вам ужо пісаў. Spiritus movens газэты быў, бясспрэчна, Іван Л[уцкевіч] як у сэнсе надаваньня кірунку, так і ў сэнсе організацыі.

Што датычыцца даных Ігнат[оўскага] аб складзе рэдакцыі „Н[ашае] Д[олі]“ [2]), дык справа ў тым, што ў ЦК Грамады ў 1905-6 г.г. уваходзілі: два Луцкевічы, Іваноўскі, Уласаў, Бурбіс. Вось Ігн[атоўскі] пэўна-ж ведаў аб гэтым і таму іх імёны зьвязаў з газэтай. Іваноўскі жыў тады ў Пецярбурзе і пачаў супрацоўнічаць у „Н[ашай] Ніве“ ў канцы 1906 году (ст. „Як правіць сенажаць“—Вацюк Тройца). Уласаў прыехаў у Вільню толькі ў пачатку 1907 году ў „Н[ашу] Н[іву]“. Колас і Купала жылі на вёсцы і ніякага ўдзелу ў кіраваньні „Н[ашай] Д[оляй]“ прымаць не маглі. Чаму Ігн[атоўскі] прапусьціў імя Ўмястоўскага? Ізноў-жа, мусіць, дзеля тэй-жа прычыны, дзеля якой увёў Іваноўскага і Ўласава: апошнія належалі да ЦК, а Ўмяст[оўскі]—не!..“

## № 3

Паведамленьні Рамуальда Зямкевіча:

„... Што датычыць пытаньня аб газэце „Наша Доля“, дык з пэўнасьцю магу сказаць, што нумары сёмы ды восьмы ніколі з друку ня выходзілі, іначай былі-б яны ў маёй колекцыі. Маю тут пад рукою 2 комплекты „Нашае Долі“: 6 нумароў гражданкаю і 5 лацінікай [3])—гэта ўсё, што вышла. Комплекты гэтыя я асабіста ў Вільні ў 1906 годзе здабываў: № 4, друкаваны гражданкаю, я дастаў найтрудней, бо прышлося яго з вялікімі цэрэмоніямі ды стараньнямі купіць за 10 рублёў у паліцэйскага прыстава!..

„... З выдаўцамі „Нашае Долі“ я пазнаёміўся асабіста, і яны мне казалі ў 1906 і 1907 годзе (Францішак Умястоўскі ды іншыя), што № 7 быў набраны ў друкарні *толькі ў палове першае старонкі* і скончаным ня быў [4]). Гэтак запісана ў маіх успамінах, каторыя пішу і вяду ад 1903 году,

[1]) *Др. Пранук*. Аб „Нашай Долі“, „Беларусь“ 1919, № 47—48—214.

[2]) *Проф. У. Ігнатоўскі* ў „Гісторыі Беларусі ў XIX і ў пач. XX ст.“, кіраўнікамі „Нашае Долі“ называе братоў Луцкевічаў і Іваноўскага, а сярод дзейных удзельнікаў называе Ўласава.

[3]) Цікава адзначыць, што „Наша Доля“, якая належыць бібліотэцы Бр. Эпімах-Шыпілы, таксама мае 6 паасобнікаў, выдрукаваных маскоўскай транскрыпцыяй, і 5—выдрукаваных чэскай транскрыпцыяй. Адсюль прыходзіцца зрабіць вывад, што апошняга выданьня шосты нумар ня вышаў.

[4]) У сваіх успамінах Умястоўскі адзначае, што, здаецца, „Наша Доля“ спынілася на сёмым нумары (Беларусь, 1919, № 48).

году, у якім вышлі лёндонскія беларускія соцыялістычныя выданьні, як, напр., „Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць“ ды іншыя. Гэтыя выданьні мне памятны асабліва тым, што яны захапілі мяне і скіравалі да беларускае роднае працы.

Што датычыць № 8 „Нашае Долі“, дык гэта проста абмылка, бо № 8 „Нашае Долі“ ў 1907 годзе ніякім чынам выдадзеным быць ня мог, а адносіцца гэта да № 8 „Нашае Нівы“ з 1907 г., які сапраўды быў конфіскаваны.

Процін весткі аб менскай газэце ў беларускай мове „Гоман“ [1]) становуча дый катэгорычна протэстую. Такой беларускай газэты ў 1884 г. ніколі ня было! Каб праверыць гэта, я ў 1912 г. ў Кракаве прасіў вучонага гісторыка польскага соцыялістага пана Jodko, каб выпісаў для мяне з архіву PPS у Лёндоне ўсе газэты гэткага названьня. У архіве ёсьць комплекты ўсіх выданьняў ня толькі польскіх, але і расійскіх, і беларускіх. І што-ж аказалася? Газэта ў Менску ў 1884 годзе была расійскай „Гомонъ“ і нічога супольнага з беларусамі ня мае.

„... Газэта „Беларусь“, якая вышла ў Менску быццам-бы ў беларускай і расійскай мовах у 1905 годзе [2]), нідзе, ніколі ня бачыў,—у расійскіх бібліотэках шукаў і знайсьці ня мог, старыя людзі ў Менску заяўлялі мне ня раз, што такой газэты ня было. Вось і гэту газэту лічу міфам.

Затое магу даць вестку аб беларуска-літоўска-польскай газэце, якой вышаў адзін нумар у 1870 г. ў Цюрыху: *Zmowa—kupis susistarimas—hromadzki zhowor* гэтак падае гісторык польскае пэрыодычнае прэсы, як Кухаржэўскі ў кнізе:

Kucharzewski Jan, czasopiśmiennictwo polskie wieku XIX w Królestwie na Litwie i Rusi oraz na emigracji. Warszawa 1911 на стран. 108 і 109. „...W lipcu 1870 roku ukazało się w Zurychu pismo: Zmowa—Kupis Susistarimas — Hromadzki Zhowor, które redagował I. A. Medeksza przy udziale W. Rożałowskiego. W przedmowie do pisma, napisanej 10-go lipca w Paryżu, redakcja oznajmiła: „Pragniemy zmowy ludu Polski, Litwy i Rusi przeciwko wrogom zewnętrznym i przeciwko wszystkiemu, co wewnątrz kraju czyjekolwiek panowanie krzewi, rozwija i popiera.. Odrzucamy i potępiamy wszelkie instytucje na których się opiera nowoczesny porządek społeczny, gdyż takowy fatalnie ciągnie za sobą niewolę, ciemnotę i nędzę dla miljonów... Twierdzącą zaś stronę naszej myśli czerpiemy z widomej, acz na zachodzie bezsilnej, dążności naszego wieku ku wcieleniu, zrealizowaniu nieśmiertelnych przekazów prawdy i sprawiedliwości...

[1]) Весткі аб „Гомане“ падае *Ф. Турук* у сваёй кнізе: „Белорусское движение“, Масква, 1921, на ст. 10; акад. Е. Карскі (Белорусы, т. III, вып. 3, на стар. 152) і польскі вучоны Васілеўскі (Litwa i Białorus, на стар. 275) сьцьвярджаюць, што „Гоман“ быў выдадзены гэктографічным парадкам студэнтамі-беларусамі былога Спб. унівэрсытэту са зьместам яўна выражанай аўтономіі Беларусі. Мажліва, што яго няма ў Лёндонскім архіве па тэй прычыне, што друкаваўся на гэктографе пэўна ў невялікай колькасьці экзэмпляраў.

[2]) Аб газэце „Беларусь“ вельмі глухія весткі падае толькі адзін М. Гарэцкі ў сваёй „Гісторыі бел. літаратуры“, Вільня, 1921 г., стар. 206.

...„W tem uznaniu *bezsilności* zachodu tkwi rys charakterystyczny ówczesnego socjalizmu emigracyjnego. Wojna francusko-pruska przerwała wydawnictwo Zmowy.“—Гэтак піша Я. Кухаржэўскі.

У вядомай польскай бібліографіі К. Эстрэйхэра: Estrejcher Karol, Bibljografja Polska XIX stulecia. Tom V-ty, Kraków, 1880, на старонцы 308 падана: *Zmowa—Kupis Susistarimas—Hromadzki* Zhowor, 1870, *(Ogłoszenie)*. Paryż, druk braci Rouge, Dumon i Tresne, ulica du Tour St. Garmain 43 1870 in 8° kart 2.

Zmowa—Kupis Susistarimas—Hromadzki Zhowor. Zurych, Neumünster, druk S. Kossobrodzkiego 1870 № 1 15 lipca 1870 in 8° stron 16. Wydawca İ. A. Medeksza, współpracownicy W. Rożałowski (polemika z Alfredem Szczepańskim), B. Niebiast, I. Tokarzewicz.

Вось усё, што ведаю аб гэтай газэце. Газэту гэтую буду мець у фотографічных зьнімках. Захады з гэтаю мэтай ужо мною зроблены“...

№ 4

Паведамленьне В. Ластоўскага:

...„Аб рэдактарах „Нашай Долі“ Тукеркесу і Вольскім я мала ведаю. Асабіста іх я ня знаў. У той час жыў я ў Петраградзе, а ня ў Вільні. З пераказаў ведаю, што гэта былі людзі, перахадзячыя ў нашым руху, прыпадковыя зіцрэдактары. Асабіста зналі іх браты Луцкевічы і, здаецца, Уласаў“...

*Архивная копія.*

С резолюціи Правительствующего Сената, по Уголовному Кассаціонному департаменту, 4 отдѣленію, 1907 г. № 2101.

Арестантское.

№ 2101.

1907 года марта 23 дня. В судебномъ засѣданіи „4“ Отдѣленія Уголовнаго Кассаціоннаго Департамента Правительствующего Сената присутствовали Г. г. Сенаторы:

Предсѣдательствующій: *В. Ѳ. Фененко.*
*Д. Е. Рынкевичъ.*
*А. Д. Смирновъ.*
*В. Д. Шидловскій.*

Докладывалъ дѣло Сенаторъ *В. Д. Шидловскій.*

Заключеніе по дѣлу давалъ
Тов. Оберъ-Прокурора *С. М. Зарудный.*

По указу ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА Правительствующій Сенатъ слушалъ: Кассаціонную жалобу на приговоръ Виленской Судебной Палаты Ивана Тукеркеса, по обвиненію его по ст. 129 (п. п. 1 и 2)

Уг. Ул. и по 8 п. отдѣла VIII вр. пр. о повр. издан.—Принимая во вниманіе, что постановленіе Палаты о несущественности показанія неявившегося по законной причинѣ свидѣтеля Куцинскаго, какъ основанное на обстоятельствахъ дѣла, не подлежитъ провѣркѣ (ст. 54 с. у.), что изложенныя въ вопросахъ о виновности печатныя произведенія, помѣщенныя въ бѣлорусской газетѣ „Наша Доля", редактируемой подсудимымъ Тукеркесомъ, заключаютъ въ себѣ признаки преступленія п. п. 1 и 2 ст. 129 уг. ул. предусмотрѣннаго,—Правительствующий Сенатъ опредѣляетъ: кассаціонную жалобу Тукеркеса оставить безъ послѣдствій.

*Владиміръ Фененко,*
*Дмитрій Рынкевичъ,*
*Александръ Смирновъ,*
*Владиславъ Шидловскій.*

Исп. 31 мар. № 2519.

Гэтая выпіска перaслана ў Інстытут Беларускае Культуры ўпоўнаважаным Цэнтрархіва РСФСР у Ленінградзе пры адносьніку ад 11 сьнежня г. г. за № 463: „Препровождая при сем архивную копию с резолюции Правительствующего Сената от 23 марта 1907 г., Управление Уполномоченного Центроархива РСФСР в Ленинграде настоящим сообщает, что *самого производства по данному делу в архивном фонде б. Сената не обнаружено*". Як відаць, гэтая вельмі цікавая для нас справа загінула ў першыя гады рэволюцыі.

## № 5
## Літаратура аб Нашай Долі

1. *Дзядзька Пранук* (Ф. Умястоўскі) „Аб „Нашай Долі", Беларусь, Менск, 1919, № 47—48. Гэты артыкул быў зьмешчаны і ў „Беларускіх Ведамасьцях".

2. *Шлюбскі Ал.* Конфіскацыя першай беларускай часопісі „Наша Доля", Савецкая Беларусь, 1923, № 150.

3. *Шлюбскі Ал.* Да гісторыі конфіскацыі „Нашай Долі", ibidem. 1926, № 208. Тое самае з некаторымі зьменамі ў „Звезде" 1926, № 210.

4. *А. С.* Да юбілею „Нашай Долі", „Звезда", 1926 № 210.

5. *Самцэвіч В.* Праз 20 год, „Сав. Беларусь", 1926, № 208.

6. *Смоліч А.* Да юбілею „Нашай Долі", ibidem.

7. *Сянкевіч А.,* Шэсьць нумароў, ibidem.

8. *Езавітаў К.* 20-ыя ўгодкі легальнае беларускае прэсы. „Голас Беларуса", Рыга, 1926, № 38.

9. *Ш.-Тр. Р.* (Шукевіч-Траццякоў). „Наша Доля", „Беларуская Вёска", Менск, 1926, № 99.

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА М. БАГДАНОВІЧА

*(Да дзесятай гадавіны ад дня сьмерці поэты, 1917—25 мая—1927)*

**Проф. І. Замоцін**

Ня гледзячы на заўчасную сьмерць, М. Багдановіч пакінуў значную літаратурную спадчыну ў розных родах творчасьці.

Усё напісанае ім пры жыцьці, што захавалася часткаю ў друкаваным відзе, часткаю ў рукапісах, складае два вялікіх томы. Першы том, які ўжо скора выйдзе з друку, зьмяшчае ў сабе яго вершы, мастацкую прозу,—усяго каля 28 друкаваных аркушаў. У другі том, прыгатаваны да друку, але яшчэ пакуль што ў друк ня зданы, увойдуць усе яго артыкулы і нататкі крытычнага, публіцыстычнага і іншага зьместу, а таксама невялікая частка яго лістоў, якія захаваліся,—усяго каля 15—18 друкаваных аркушаў.

Для характарыстыкі яго творчасьці найбольш важны першы том. Ён складаецца з сямі аддзелаў. У першым зьмешчаны ў хронолёгічным парадку вершы 1908—1917 гадоў, усе, якія не ўвайшлі ў зборнік „Вянок“; гэты аддзел дае магчымасьць меркаваць аб разьвіцьці тэматыкі і free вершаванай формы ў Багдановіча за гады яго нядоўгага жыцьця ў сувязі з найбольш характэрнымі момантамі яго юнацкіх інтарэсаў, перажываньняў і стрэч. Гэты аддзел пачынаецца раньнімі вершамі, якія захаваліся ў рукапісах 1908 году, характэрнымі і для пачуцьця радзімы поэты, і для яго артыстычнага пачуцьця прыроды, якое так рознастайна выказалася ў яго наступных вершах; канчаецца аддзел вершаванымі накідамі астатніх дзён жыцьця (май 1917 г.), у якіх нязьменнае для Багдановіча захапленьне прыгожасьцю жыцьця ідзе роўналежна з прадчуваньнем блізкай сьмерці. У другі аддзел увайшоў адзіны зборнік, што вышаў пры яго жыцьці, гэта зборнік „Вянок“, які, як мастацкае цэлае, ня раз ужо ацэньваўся і, бясспрэчна, яшчэ будзе ацэньвацца крытыкай. У канцы „Вянка“ даны дадатак—цыкль вершаў (14) пад агульнаю назваю „Каханьне і сьмерць“, пры жыцьці ненадрукованыя, але якія былі вызначаны поэтаю для „Вянка“; гэтыя чатырнаццаць вершаў даюць паступовую гамму настрояў і думак, зьвязаных з пачуцьцём узаемнага каханьня, шчасьцем шлюбу і мацярынствам—яго радасьцямі і пакутамі; трактоўка гэтых тэм глыбокая і ўрачыстая. У трэці аддзел ўвайшлі пераклады Багдановіча з розных літаратур і розных поэтаў; тут ёсьць пераклады з антычных поэтаў, з нямецкіх—Шыльлера і Гэйнэ, з французскіх—Вэрлэна, Вэрхарна, Ар-

вэра, з расійскіх—Пушкіна, А. Майкова, Розенгэйма, але ў гэтым-жа аддзеле чытач сустрэне і перайманьне розных вершаваных жанраў і стыляў, вельмі тонка скомпанаваныя Багдановічам па адпаведных узорах поэзіі скандынаўскай, фінскай, сербскай, гішпанскай, японскай і г. д.; гэты аддзел адразу кажа аб тым, што, апрача асноўнага памкненьня поэты да беларускай культуры і поэзіі, у яго была шырокая зацікаўленасьць сусьветнаю літаратураю ў яе найбольш яркіх прадстаўнікох. Чацьверты аддзел зьмяшчае ў сабе чарнавыя вершаваныя накіды, цікавыя ня толькі як апрацоўка некаторых новых тэм, якія, паміж іншым, лёгка ўкладваюцца ва ўлюбёныя Багдановічам цыклі, але і як матэрыял, што раскрывае процэс працы поэты над сваім стылем і вершаваным складам. У пятым і шостым аддзелах сабраны вершы Багдановіча, напісаныя на расійскай мове; пры гэтым пяты аддзел складаецца з вершаў, напісаных непасрэдна на расійскай мове, а шосты—з уласных перакладаў поэты на расійскую мову некаторых яго вершаў, спачатку напісаных пабеларуску. Сёмы аддзел—гэта мастацкая проза Багдановіча, якая складаецца з раду мініацюр на беларускай і расійскай мовах, напісаных часткаю на тэмы аб прыгожасьці ў жыцьці і мастацтве, часткаю на бытавыя тэмы, якія маюць некаторы аўтобіографічны ўхіл.

Усяго разам першы том дае 320 вершаў і 12 узораў мастацкай прозы; каля паловы гэтага матэрыялу перадрукоўваецца з розных пэрыодычных выданьняў; другая палова ўзята проста з рукапісаў поэты і пры жыцьці яго не друкавалася. Такім чынам, першы том дае ня толькі выстарчальную колькасьць твораў для ўясьненьня творчасьці М. Багдановіча, але і наогул досыць вялікі матэрыял у сэнсе літаратурнай спадчыны поэты, які памёр у раньняй маладосьці, і пры тым-жа матэрыял вельмі рознастайны паводле самога характару літаратурнай продукцыі.

Другі том у сваю чаргу павінен даць багаты матэрыял, каб меркаваць аб Багдановічу, як публіцысту, крытыку і, часткаю, як аб этнографе і гісторыку. Тут зазначаны таксама аддзелы: першы—артыкулы на беларускія тэмы, з гісторыі беларускай грамадзкасьці; другі—таксама на беларускія тэмы, але з гісторыі беларускай літаратуры; трэці—крытычныя артыкулы, прысьвечаныя пісьменьнікам беларускім, расійскім і украінскім; чацьверты—артыкулы па этнографіі і гісторыі,—пераважна па этнографіі і гісторыі славянства; пяты—вельмі рознастайныя артыкулы і нататкі, якія маюць характар аглядаў і рэцэнзій, прысьвечаных навінам сучаснай поэце літаратуры, мастацтва, навукі, публіцыстыкі; урэшце, шосты аддзел—яго лісты (праўда, нешматлікія), якія раскрываюць часткаю яго грамадзкія сувязі, літаратурныя інтарэсы, асабістыя стрэчы і перажываньні. Зразумела, ня ўсе артыкулы Багдановіча зусім апрацованы, і некаторыя (узятыя з рукапісаў) нават ня зусім закончаны; апрача таго, іншы раз яго гістарычныя і крытычныя абагульненьні могуць для нашага часу здацца ня досыць сьвежымі; усё-ж такі—гэта цікавы матэ-

рыял ня толькі для асобы самога поэты, але і для ўсёй яго эпохі, асабліва для характарыстыкі беларускага руху.

Магчымы і трэці том, дадатковы,—ня кніга твораў Багдановіча, але кніга аб Багдановічу: біографічныя і крытычныя матэрыялы аб поэце, у тым ліку мэмуары аб ім і лісты да яго розных асоб. Гэты том таксама і асьвеціць самога поэту і ў шмат якіх адносінах ахарактарызуе яго эпоху.



Дом у Ялце, дзе жыў Максім Багдановіч.

Я спынюся цяпер на ацэнцы першага тому, які амаль ужо надрукованы. У першым томе асабліва зьвяртаюць на сябе ўвагу чытача і крытыка першыя два аддзелы,—орыгінальныя вершы поэты, і трэці аддзел—яго пераклады. Раней за усё аб іх генэзісе.

Адна з асноўных крыніц у творчасьці Багдановіча—яго радзіма, Беларусь, яе мінулае, яе прырода, яе народная поэзія, беларускі рух і яго задачы; але поруч з гэтым поэта чэрпае свае тэмы і з больш шырокіх крыніц,—з соцыяльных пытаньняў сваёй сучаснасьці і нават з агульнапсыхолёгічных чалавечых проблем. У падборы і групоўцы крыніц творчасьці ў Багдановіча назіраецца пэўная стройная ўвязка, якая нясумненна гаворыць аб гармонічнасьці яго маладога, які толькі што складаўся, сьветагляду. Ва ўсіх яго разумовых і грамадзкіх інтарэсах, ва ўсіх назіраньнях над сабою і над людзьмі,—ва ўсіх, нарэшце, крыніцах, адкуль ён чэрпае свае тэмы, жанравыя прыёмы і стылевыя хварбы і контуры,—

ва ўсім гэтым ёсьць два асноўныя цэнтры. Адзін цэнтр—жыцьцё, сапраўднасьць, тое быціе, якім азначаецца сьвядомасьць; другі цэнтр—мастацтва і, у прыватнасьці, мастацка-літаратурная творчасьць, як надбудова над жыцьцём,—вярней, як тое чароўнае, што мастаком ствараецца, асяродзьдзе зачарованых люстраў, у якім жыцьцё ня толькі адбіваецца, але і пераламляецца ў самых прыгожых, найдзіўных формах, у залежнасьці ад творчай асобы мастака. Наўкола кожнага з паказаных цэнтраў ідуць концэнтрычныя кругі,—у кожным выпадку ня менш трох на лік. Наўкола першага цэнтру гэтыя кругі зьвязаны з наступным тэматычным зьместам: першы, самы блізкі да цэнтру інтарэсаў поэты, круг—гэта Беларусь, яе прырода, яе мітатворчасьць, яе быт, яе патрэбы і запыты; другі, больш шырокі,—уся акаляючая поэту дарэволюцыйная сапраўднасьць з яе соцыяльнымі супярэчнасьцямі і памкненьнямі да новае соцыяльнасьці; трэці, самы прасторны концэнтрычны круг,—гэта сьвет агульначалавечых проблем, у пераважнасьці псыхолёгічнага характару. Наўкола другога цэнтру зноў тры концэнтрычных кругі, але ўжо ў пераважнасьці літаратурнага зьместу: першы круг—беларуская народная творчасьць, беларуская літаратура, мастацкі беларускі фольклёрызм; другі—расійская літаратура і літаратуры славянскія (польская, сербская, украінская); трэці—літаратура ў сусьветным маштабе, літаратурны унівэрсалізм з яго рознастайнымі колёрытнымі формамі і з шырокімі агульначалавечымі тэмамі. Вось схэма крыніц творчасьці М. Багдановіча. Ня трэба прымаць яе надта просталінейна: поэта, зразумела, не падзяляў рэзка сваіх тэм і твораў іменна на гэтыя шэсьць груп, якія адпавядаюць шасьці концэнтрам; але ў агульных контурах гэты падзел усё-такі вельмі і вельмі адчуваецца; калі-ж адзін круг часткова засланяў другі круг таго-ж цэнтру, ці калі два кругі двух розных цэнтраў разам стыкаліся, што бывала нярэдка, то ад гэтага толькі, як ніжэй пабачым, выйгравала тэма поэты, становячыся больш багатай зьместам і паглыбленай.

Мы пераходзім да тэм. Яны ўжо азначаюцца часткова толькі што ўстаноўленай схэмай крыніц творчасьці Багдановіча. Першая тэма—Беларусь. Ужо ў самых раньніх вершах поэта зварачаецца да гэтай тэмы („Мае песьні“—1908, „На чужбіне“—1908). Хоць у першым з названых вершаў галоўным мотывам зьяўляецца „беднасьць“ і „нуда“ роднай краіны, аднак замілаванасьць да роднай прыроды, абвеяная чарамі народнае мітатворчасьці, асабліва вабіць увагу поэты. Адсюль шэраг грацыозных вершаў, прысьвечаных ландшафту ў розных яго відах, беларускім порам году; адсюль-жа гэтыя шматлікія вобразы лясуноў, вадзянікоў, пугача, зьмеевага цара і г. д., якія ажыўляюць сваёю таемнаю прысутнасьцю беларускую прыроду; адсюль і срэбныя зьмеі на паверхні возера, і падвей, які ўвасабляе сабою зімовую завіруху, і дажджавыя павукі, што абвіваюць сьцены дому сваімі мокрымі нагамі, і хмара, выглядам вялізарнае жывёлы, якая расьсякаецца мячом, і г. д. Асаблівасьць М. Багдановіча

ў распрацоўцы гэтых карцін прыроды ў тым, што мёртвы ляндшафт у яго пачынае жыць падвойным жыцьцём—жыцьцём народнага міту і жыцьцём філёзофскай мысьлі, укладаемай поэтаю ў свае пачуцьцё прыроды.

Вось два вершы з „Вянка“ (№№ 92, 93)—„Возера“ і „Над возерам“. У першым—карціна прыроды, міт аб затануўшым лясуне і мысьль аб загінуўшым мінулым, у якое намагаецца заглянуць цяперашняе. У другім—тая-ж карціна прыроды, але ўся стылізаваная ў духу жывое мітычнае сцэны і, пры гэтым, прасякнутая адным настроем усёперамагаючай цішыні і спакою ночы. Поэта ведае і бытавую Беларусь („Вянок“—„Згукі бацькаўшчыны“) вясковую—з яе сумнымі напевамі, дзявочым сумам і мацярынскімі сьлязьмі над паміраючым сынам, і гарадзкую Беларусь—у відзе ажыўленых і поўных гарадзкога захапленьня вуліц Вільні („Вянок“—„Места“); поэта ведае і гістарычную Беларусь, прадстаўленую яго „Летапісцам“, „Перапісчыкам“, „Слуцкімі ткачыхамі“, доктарам Скарынай (№ 127—„Безнадзейнасьць“). Да гэтае-ж тэмы далучаюцца і тыя вершы, дзе Беларусь дарэволюцыйная ўзята ў роўніцы яе соцыяльных супярэчнасьцяй і таго клясавага ўціску, пад якім знаходзіўся беларускі селянін (№ 16, I—„З песьняў беларускага мужыка“, N 25—„Над магілай мужыка“, № 142—„Краю мой родны! Як выкляты богам“...). Урэшце, сюды-ж трэба аднесьці і вершы, характэрныя для настрояў і думак беларускага руху (№ 47—„Народ, Беларускі Народ!“, № 58—„Эмігранцкая песьня“, № 84—„Пагоня“, № 141—„Упалі з грудзей“).

Другая тэма першага цэнтру—гэта ўся акаляючая поэту дарэволюцыйная сапраўднасьць, для якое, як і для Беларусі, поэта чакае абнаўленьня. Прачытайце, напр., гэты глыбокі па ідэі верш „Мяжы“ (№ 59), які ахапляе ў адну карціну ўвесь поўны соцыяльнай няпраўды і далёкі ад братэрскага яднаньня сучасны поэце чалавечы сьвет,—і другая тэма Багдановіча разгорнецца перад вамі ва ўсю шырыню. Ці возьмем для прыкладу яшчэ адзін верш - „Вы, панове, пазіраеце далёка“ (№ 164), і зноў карціна соцыяльных супярэчнасьцяй, якія гнятуць поэту, атрымае таксама шырокі характар. Ад гэтае другое тэмы поэта лёгка пераходзіць да трэцяе, калі перад ім паўстае ва ўсёй сваёй вострасьці трагэдыя чалавечага гора, бяссэнсіца людзкое варожасьці і рэдкае мільганьне людзкога шчасьця (№№ 34, 60, 69, 76, 168, 169). Тут ёсьць і думкі аб загадачнай чалавечай сьмерці, і вечная драма ўтратку блізкага чалавека, і незразумелыя пытаньні аб мэце жыцьця, і радаснае прызнаньне шчасьця маладосьці. Багдановіч часта вельмі сьціслы ў формулёўцы гэтых агульначалавечых мотываў, але заўсёды глыбокі па мысьлі і грацыозны па форме. (Прыклад: верш № 169 і той самы верш у перакладзе на расійскую мову).

Пяройдзем да тэм другога цэнтру. У адным з сваіх артыкулаў, прысьвечаных беларускай творчасьці („Забыты шлях“, т. II, аддз. III), Багдановіч настойліва гаворыць аб канечнай патрэбе шырокага скарыс-

таньня ў беларускай літаратуры крыніц народнай беларускай поэзіі Зразумела, адносіны беларускіх пісьменьнікаў да народнай творчасьці ў эпоху Багдановіча нельга назваць „забытым шляхам“: на гэты „шлях“ ужо ўступалі тады і Я. Колас, і Я. Купала, і другія поэты. Тым ня менш, Багдановіч настойліва падкрэсьліваў канечную патрэбу для маладой, якая адраджаецца, беларускай літаратуры больш цьвёрда стаць на гэты шлях. Сам ён увесь час вывучаў народную творчасьць і ўвесь час стараўся ўвязаць як можна мацней свае тэмы і мотывы, сваю лексыку і фразэолёгію, свае сымболі і вобразы, эпітэты і параўнаньні—з узорамі народнае творчасьці; нават словатворчасьць Багдановіча (яго „новатворы“) заўсёды грунтуюцца на народнай мове, што трэба лічыць зусім правільным для нормальнага разьвіцьця поэтычнага стылю; праўда, сам Багдановіч вывучаў беларускую мову не на жывым моўным матэрыяле, а па слоўніку Насовіча і другіх кніжных даных,—і ўсё такі яго творчасьць у галіне лексыкі вельмі жыцьцёвая і сталая. Каля 1915—1916 г. г., у апошнія гады свайго студэнцтва, а таксама ў апошні год перад сьмерцю, у год службы ў Менску, ён з асаблівою ўвагаю прыняўся за апрацоўку народна-песенных тэм, мотываў і стылістычных прыёмаў. Да гэтага часу адносяцца яго поэмы і вершы—„Мушка-Зелянушка“, „Максім і Магдалена“, „Страцім-Лебедзь“, „Лявоніха“, „Скірпуся“, „Вершы беларускага складу“ і г. д. Усе гэтыя творы прадстаўляюць сабою вельмі тонкую, філігранную працу ў сэнсе т. зв. мастацкага фольклёрызму; гэтыя апрацоўкі народнага стылю і перайманьні народнага эпосу і лірыкі трэба лічыць высокімі дасягненьнямі беларускай літаратуры дарэволюцыйнае пары.

Навакол гэтага больш сьціслага кругу другога цэнтру разыходзяцца яшчэ два концэнтрычных і больш шырокіх. Адзін—пераклады і перайманьні славянскай поэзіі, другі—пераклады і перайманьні з розных чужаземных узораў. Пераклады з расійскае мовы не шматлікія (тры вершы), перайманьне сербскіх песьняў—толькі адно; але затое большую колькасьць перакладаў мы сустракаем з украінскай літаратуры, якая паводле свайго гістарычнага лёсу больш родная беларускай: тут ёсьць і Шэўчэнка, і Самойленка, і Франко, і Крымскі і другія. Яшчэ шырэй прадстаўлена чужаземная літаратура: поруч з двума перакладамі з антычнай літаратуры мы знаходзім цэлую сэрыю вершаў, перакладзеных з Вэрлена, поруч з адным чатырохвершаваньнем з Шыльлера,—шмат вершаў з Гэйнэ; ёсьць, апрача таго, пераклады з Арвэра, Вэрхарна і др. поэтаў. Але ў роўніцы гэтага концэнтру самае цікавае—тыя вершы, якія сам поэта назваў трохі неазначана словамі: „скандынаўская“ (г. зн. песьня), „гішпанская“, „японская“ і г. д.; гэта, нясумненна, перайманьні чужых жанраў і стыляў, але напісаныя вельмі мастацка і блізка да ўзораў; яны робяць вельмі моцнае ўражаньне сваім мясцовым колёрытам, які адпавядае данай эпосе і данай нацыянальнасьці, і ствараюць настрой вялікі і складаны; для прыкладу можна назваць „Была Інгсборг, як сасонка,

стройна“ (скандынаўская), „Кто там едзе па Касову полю“ (сербская), „Яснавокая Аніта“ (гішпанская) і інш.

З формальна мастацкага боку, літаратурная спадчына Багдановіча таксама і цікавая і значная. Ён першы з беларускіх поэтаў свайго часу




Магіла ў Ялце беларускага пісьменьніка і поэты Максіма Багдановіча.

зрабіў спробу шырака скарыстаць рознастайныя вершаваныя прыёмы і вершаваныя жанры, выпрацаваныя другімі літаратурамі. І гэта спроба яму ўдалася, наколькі гэта было магчыма для яго нядоўгага жыцьця і пісьменьніцкай працы. Мы знаходзім у яго вялікую рознастайнасьць вершаваных размераў, наяўнасьць вельмі шмат якіх відаў строфікі і, у сувязі з гэтым, цэлы шэраг такіх вершаваных композыцый і жанраў, якія ўласьцівы

наогул вельмі дасканалай і ўдалікатненай версыфікацыі розных эпох і літаратур (пэнтамэтры, рондо, трыголеты, октавы, сонэты і г. п.). Калі прыняць пад увагу музычнасьць вершаванай мовы М. Багдановіча, яго заўсёднае, якое ня здрадзіла яму, пачуцьцё рытму, шчасьлівую рытмоўку радкоў і тую асаблівую чуласьць мастацкай меры, якая рэалізуецца ў кожнай яго вершаванай п'есцы, то трэба прызнаць, што ён, сапраўды, здолеў на слоўным матэрыяле беларускае мовы ажыцьцявіць шмат з таго, што выпрацавана ў галіне мэтрыкі іншымі літаратурамі.

Што датычыць ідэолёгічнай часткі літаратурнай спадчыны М. Багдановіча, то на першы погляд можа здацца, што яна ня досыць выразна і ня досыць устанавілася нават для яго эпохі. Але пры больш уважлівых да яго адносінах, усё-ж такі прыдзецца згадзіцца з тым, што ён, ня гледзячы на сваю маладосьць і раньнюю сьмерць, выказаў у сваіх творах найбольш каштоўныя культурныя і соцыяльныя імкненьні свайго часу, якія склаліся ў гады пералому старога быту ў бок новай соцыяльнасьці нашых дзён.

М. Багдановіч рана стаў адчуваць сваю хваробу і ведаў, што век яго кароткі, і ўвесь час, пачынаючы з першых крокаў сваёй літаратурнай чыннасьці, баяўся, што сьмерць перарве яго працу і ня дасьць яму магчымасьці пакінуць пасьля сябе што-небудзь прыкметнае ў сэнсе літаратурнай спадчыны. У адным вершы 1909 г. (т. І, № 6) ён называе сябе „бальны, бясскрыдлаты поэт“, і робіць сумныя здагадкі аб сваім блізкім канцы: „Мо' жыцьця майго верш ужо сьпет“—кажа ён. Такое-ж прадчуваньне раньняе сьмерці месьціцца і ў вершы: „Ой, чаму я стаў поэтам“ (т. І, аддз. ІІ, № 151). Але, паміраючы заўчаснаю сьмерцю, ён цешыў сябе тым, што ў перадсьмяротныя часы ён быў не адзін: з ім была „Кніга з друкарні пана Марціна Кухты“, г. зн. яго зборнік „Вянок“ (т. І, № 89: „Ў краіне сьветлай, дзе я ўміраю“). На гэту кнігу ён глядзеў як на літаратурную спадчыну, якую ён пакідае сваім блізкім, сваім сучасьнікам і патомкам. Аднак, поэта не адмаўляе значэньня і іншых сваіх твораў, і нават быў упэўнены, што наогул яго „ціхія песьні“, ім прачулыя і выпакутаваныя, перажывуць яго сьмерць і дачакаюцца прызнаньня сваёй мастацкай вартасьці:

Ціхія мае ўсе песьні, цёмныя, як вуголь чорны,
Але ўсё-ж яны засьвецяць, калі я ў агні мучэньня
Іх разжару, распалю:
А як згасьне ён—дык блiснуць, быццам дыямэнтаў зёрны,
Бо абернуцца, застыўшы, у драгацэнныя каменьні
Ў час, як лягу я ў зямлю. (Т. І, аддз. І, № 29).

Словы поэты спраўдзіліся: яго песьні пасьля яго сьмерці зноў аджываюць з яго сшыткаў, рукапісных накідаў і з старонак сучасных яму часопісяй, і ўсё сільней пачынаюць пераліваццa агнямі мысьлі і пачуцьця, убраных у артыстычную форму слова і вершаванага рытму.

# ЦЕНІ І СЬВЯТЛО Ў ТВОРЧАСЬЦІ М. БАГДАНОВІЧА

**Праф. М. Піотуховіч**

Пад блакітным небам далёкага Крыму, на ўбогіх брацкіх могілках, на ўскраіне г. Ялты знаходзіцца адзінокая магіла, у якой 10 гадоў таму назад знайшоў сабе апошні прытулак беларускі пясьняр М. Багдановіч. Сярод разбураных пахілых крыжоў здалёку віднеецца над ёй пастаўлены Інстытутам Беларускае Культуры невялічкі помнік, але ня родная бяроза схіляецца над ім сваімі ветлівымі і ласкавымі галінамі—непадалёку глядзяцца ў неба высокія зграбныя кіпарысы; нібы пэўныя вартаўнікі, адны яны ахоўваюць магільны супакой поэты.

„De mortuis aut bene aut nihel"—„Аб нябожчыках або добрае або нічога". У працягу 10 гадоў беларуская крытыка сьвята і пабожна захоўвала гэты наказ мудрай старажытнасьці. Наваколл аўтара „Вянка" складаўся другі пахучы вянок чыстых імортэляй шчырага праклаленьня. Але для нас, сьвяткуючых зараз ужо 10 гадавіну з дня сьмерці поэты, ён ня толькі дарагі і любы сэрцу нябожчык,—адначасна ён об'ект і бесстароннага навуковага дасьледваньня. Беларуская крытыка да гэтага часу пераважна спынялася на высьвятленьні формы творчасьці М. Багдановіча, формы сапраўды высокамастацкай, па праву выклікаючай панігірычнае захапленьне. Выказваліся думкі, што пясьняр-стылізатар беларускага вершу [1]), што ў яго творчасьці аб'ядналіся два стылі—клясычны і романтычны [2]), што ён тыповы-імпрэсыяністы [3]) і г. д. Але наша крытыка, так грунтоўна спыніўшыся на формальных асаблівасьцях творчасьці М. Багдановіча, параўнальна мала ўвагі аддавала таму, што захоўваецца пад знадворнай бліскучай абалонью мілагучных і рознастайных яго вершаў.

М. Багдановіч менш усяго слоўны жонглёр, для яго слова—гэта толькі формальнае выяўленьне глыбокіх ідэй, захованых эмоцый і рознастайных настрояў. Зграбныя і бліскучыя вершы поэты прасякнуты крывёй яго сэрца; у гэтых вершах гучаць ня толькі пераможныя гімны хараству, у іх адчуваецца стогн хваравітай і надломленай душы. Прыслухацца да

---

[1]) І. Дзяржынскі. М. Багдановіч, як стылізатар беларускага вершу. „Адраджэньне", 1922 г.

[2]) А. Узьнясенскі. Поэтыка Багдановіча. „Крывіч" 1926 г., № 11 (1).

[3]) Піотуховіч. М. Багдановіч, як поэта-імпрэсыяністы. „Полымя", 1923 г., № 7—8.

гэтага стогну, схапіць у ім пэўны соцыяльны рытм—задача нашага эцюду, нашай маленькай даніны на магілу песьняра.

М. Багдановічу прышлося жыць і дзейнічаць у цяжкую пару. Шквал першай рэволюцыі быў зломлены, соннае багна грамадзкага жыцьця зацягвалася мёртвай плесеньню застою і рэакцыі. Інтэлігент па пахаджэньні, М. Багдановіч быў адарваны ад працоўных мас, як быў адарваны ён і ад айчыны. Да ўсяго гэтага далучалася яшчэ спадчынная хвароба—сухоты. Суровы жыцьцёвы лёс рана зганяе з яго твару лёгкую юнацкую ўсьмешку; ён сваёй бязьлітаснай рукой праводзіць глыбокія барозны цяжкога задумленьня, унутранай самаўглыбленасьці, і пясьняр акідае жыцьцё і сьвет смутным, не паюнацку сур'ёзным і змрочным поглядам.

У сьветаадчуваньні поэты ёсьць некаторыя элемэнты сусьветнага смутку, калі разумець апошні ня ў сэнсе гістарычна-культурным, а грамадзка-псыхолёгічным. У гэтым сэнсе, як грамадзка-псыхолёгічная праява, сусьветны смутак нямінуча ўзьнікае там, дзе ёсьць для гэтага адпаведныя соцыяльныя ўмовы. „Гэта ўманастраёвасьць,—кажа проф. Коган,—заўсёды зьвязана з крызісам пануючай клясы, у больш шырокім сэнсе—з крызісам таго ці іншага сьветапагляду. Гэта плынь чыста інтэлігенцкая. Смутак Байрона—гэта, перш за ўсё, трагедыя мысьлі, трагедыя людзей, якія ў моц сваёй профэсіі асуджаны шукаць выйсьця ў межах сьвядомасьці, а ня быцьця. Можна сказаць,—гаворыць далей Коган,—што элемэнты байронізму нямінучы ў сьветаадчуваньні кляс, якія ня прымаюць удзелу непасрэдна ў вытворчасьці. Усякая зьмена, выкліканая законамерным разьвіцьцём тэхнікі і грамадзкіх адносін, застае ўрасплох сьвядомасьць, якая адарвалася ад быцьця, не памятае сваёй матэрыяльнай крыніцы" *).

Марксыцкая крытыка, такім чынам, правільна разглядае сусьветны смутак, як крызіс мысьлі, які вынікае на падставе крызісу грамадзкага. Характэрнымі адзнакамі данага крызісу ў галіне інтэлектуальнай, па думцы проф. Розанава, служаць тры мотывы: разлад чалавека з самім сабою, разлад яго з грамадзтвам і, нарэшце, разлад яго з агульным сьветапарадкам.

На ліры М. Багдановіча моцна гучаць гэтыя хваравітыя енкі разладу ўнутранога, соцыяльнага і філёзофскага.

Праз увесь „Вянок" беларускага поэты, папершае, чырвонай пасмай праходзіць мотыў разладу паміж вострым разумовым аналізам і пачуцьцёвым захапленьнем. Халодны скэптыцызм думальніка і энтузіязм поэты—вось тыя два полюсы, паміж якімі хістаюцца чароўныя вершы беларускага песьняра. З аднаго боку, чыста разумовы пэсымізм, мысьлі на тэму: „суета сует", „всяческая суета"; з другога боку, шчырае эмоцыянальнае захапленьне пекнасьцю прыроды, прыгаствам душы чалавека

*) Байрон. 1824—1924. „Светоч" М. Л. 1924 г., стар. 16.

ў некаторых момантах яе перажываньняў, як, напр., вобраз Мадонны ў творы „Вэроніка“. Сам поэта хваравіта адчуваў сваю дваістасьць; ён сам сьведчыць, што душа яго ня ведала супакою:

Грудзі ныюць, цела вяне,
А спачыць ня можна мне:
Думкі з розуму ліюцца,
Пачуцьцё з душы бяжыць.

У такіх простых словах поэта вылівае сумную скаргу на сваю душэўную дваістасьць. Сам, ня ведаўшы душэўнай гармоніі, ён дае наказ другім імкнуцца да яе. Ён гаворыць:

Жыві і цэльнасьці шукай,
Аб шыраце духоўнай дбай...

Разлад з людзьмі, наўкольным грамадзтвам царскай Расіі гэтак сама яскрава выяўлены ў М. Багдановіча. У яго нярэдка вырываюцца горкія ноткі расчараваньня і сумленьня адносна людзей. Ён лічыць патрэбным напомніць песьняру гэтую сумную ісьціну:

Ведай, брат малады, што ў грудзёх у людзей
Сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня,
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды.

Поэта прасякнуты высокімі ідэаламі нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня айчыны, але ў яго душу закрадваецца мрачная думка аб тым, ці здужае яго пакаленьне выканаць гэтую гістарычную місію; ён звараечаецца да беларускага грамадзтва з горкім запытаньнем:

Таварышы-брацьця! Калі наша родзіна-маць
Ў змаганьні з нядоляй патраціць апошнія сілы,
Ці хваце нам духу ў час гэты жыцьцё ёй аддаць,
Бяз скаргі легчы ў магілу?

У другім сваім вядомым вершы „О, краю мой родны“, нарысаваўшы трагічны малюнак соцыяльнага заняпаду Беларусі, малюнак гора, якое ў яго часы шырокай хваляй затапляла родныя нівы, Багдановіч ставіць усё тое-ж пытаньне, поўнае безнадзейнасьці і балючага сумненьня ў людзях:

Брацьця! Ці зможам грамадзкае гора?
Брацьця! Ці хваце нам сілы?

Ад гэтага сумнага разладу з рачаіснасьцю М. Багдановіч шукае ратунку ў галіне прошлага і ў галіне мары. У сваіх тэрцынах беларускі поэта яскрава выказвае сваё замілаваньне да мінулага, кажучы:

Ёсьць чары ў забытым, старадаўнім,
Прыемна нам сталецьцяў пыл страхнуць.
Пажыць мінулым—гэткім мудрым, слаўным,
Быцьцё дзядоў у смутку ўспамянуць,
Мы сквапна цягнемся к старым поэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.

Добра ведаў гэтак сама пясьняр і панаваньне над сабой усямоцнай мары, гэты асобны стан, калі, асабліва пад уплывам сузіраньня блакітнай вышыні неба,

У душы адрасьце пара крыл,
Узьляціць яна ў сінюю вышу
І ў струях яе змые свой пыл.
Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там няма ні нуды ні клапот.
Ты—царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара—дыван-самалёт.

Нарэшце, элемэнты філёзофскіх разважаньняў гэтак сама выяўлены ў творчасьці Багдановіча. Яго „Вянок", уласьціва кажучы, уяўляе сабой досыць зграбную і цэльную сыстэму думак, дзе адна за другой разбурваюцца ілюзіі чалавечага жыцьця.

З людзей некаторыя імкнуцца яшчэ знайсьці супакой у рэлігіі, ускладаюць свае надзеі на неба, чакаючы адтуль дапамогі і падтрыманьня. Беларускі пясьняр ускрывае ўсю ілюзорнасьць гэтых надзей у вершы „Ян і маці". Ён дае нам трагічны малюнак: маці моліцца за свайго сына, паставіўшы сьвечку перад абразамі, але па думцы поэты дарэмны гэтыя надзеі і малітвы:

Сьвечка сьвеціць, сьвечка зьзяе, сьвечка дагарае,
І ў панурай цеснай хаце хлопец паміpae.

У такім антырэлігійным выяўленьні дарэмнасьці ўсялякіх малітв бязумоўна, заключаецца здаровы элемэнт вызваленьня ад забабоннасьці. Але побач з гэтым ў філёзофскім сьветаадчуваньні поэты ёсьць і іншыя хваравітыя бакі безнадзейнага пэсымізму, дзе ён прабуе паказаць нікчэмнасьць розных праяў чалавечага жыцьця.

Шмат ёсьць людзей, для якіх каханьне—прыгажэйшая кветка жыцьця, але поэта халодным нажом аналізу зрывае пялёсткі і з гэтай кветкі; ён паказвае, што і ў каханьні цяжка знайсьці родную душу, што і ў гэтых перажываньнях цяжка пазбавіцца ад адзіноты; спачатку поэтычныя клятвы „да сьмерці ядынае меці каханьне", але потым суровая проза жыцьця зьніштажае гэтыя клятвы, потым разыходзіны:

На іншыя сьцежкі жыцьцё нас зьвяртае,
Пасвойму кожны свой век пражывае.
У кожнага неба і сонца сваё,
Супольнай-жа праўды крыніца ня б'е.

Іншых вабіць да сябе ціхі прытулак сямейнага шчасьця, але поэта не захапляецца і гэта ілюзіяй; пекнае знадворку сямейнае жыцьцё часта ўнутры заключае ў сабе шмат пошласьці і жыцьцёвага бруду; адсюль вынікае мэфістофэльская іронія „гутаркі з паненкамі":

Пабачце! Ластаўка малая
Для птушанят гняздо зрабіла.
І клапатліва ўкруг лятае,—
Аж пaглядзець прыемна, міла.

Вельмі шаноўныя паненкі!
Тут ёсьць напэўна трохі цуду:
Ў гняздзечку міленькім і сьценкі
І дно яна зьляпіла з бруду.

Нарэшце, вышэйшая асалода і ўкраса жыцьця—мастацтва. Романтыкі лічылі, што поэта—гэта „прарок“, вышэйшы жрэц, у грудзёх якога гарыць нейкі вышэйшы, нябесны агонь. Максім Багдановіч разбурвае і гэтую романтычную концэпцыю мастацтва; ён паказвае, што дар „пекна сьпяваць“ уласьцівы і ніжэйшым жывёлам; пясьняр зазначае:

Вы кажаце мне, што душа у поэта,
Калі спараджае ён дзіўныя вершы,
Нябесным агнём абагрэта,
І ў час той між люду ён—першы...
Ах, дзякуй вам, дзякуй на гэтай прамове;
Душа мая, пэўна, шчасьлівай была-бы,
Калі-б я ня ведаў, панове,
Што пекна сьпяваюць і жабы.

Так і рэлігійная вера, і пачуцьцё каханьня, і сямейнае жыцьцё, і нават мастацкая творчасьць,—усё гэта праходзіць прад судом халоднага і ўсё разбураючага розуму поэты. Над жыцьцёвымі зьявамі распасьцірае ў яго свае мрачныя скрыдлы царыца-сьмерць. Поэта зазначае: „усё зьнікае, праходзіць, як дым“. У другім месцы ён гаворыць:

Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы,
І бяз ясных надзей, бяз трывог,
Загубіўшы апошнія сілы,
Мы сайдземся, спаткаемся там,
І спытаем сябе: для чаго мы
Па далёкіх і розных пуцях
Адзінока ішлі ў край невядомы?
І чаму пасьпяшаліся так,
Напружаючы ўсе свае сілы,
Калі ціха паўзушчы чарвяк
Ўсё-ж дагнаў нас ля самай магілы.

Перад тварам сьмерці блякне нават пекнасьць напружанага і шырокага жыцьця, і да свайго тэстамэнту—жыць, шукаць цэльнасьці і дбаць аб шырыні духоўнай—поэта не прамінуў дадаць сваё „memento mori“, ён кажа:

І ў напружанасьці паўнаты
Свайго шырокага жыцьця
Бяз болю, ціха зойдзеш ты
Ў краіну забыцьця.

У другім вершы мысьль аб сьмерці злучаецца ў Багдановіча з думкай аб роднай краіне. Ён цешыць сябе марай:

Ня будзеш цяжкая ты сыну
Свайму зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе пакой.

Гэтак нават з думкай аб любай айчыне злучаецца ў М. Багдановіча філёзофія нірваны, нябыцьця.

Мысьль аб сьмерці асабліва часта ахапляла хворага целам, і, па яго ўласным прызнаньні, хворага душой беларускага поэты, ён гаворыць:

Ня кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары,
Мо' і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары,
Бо ня тое сьведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае,
Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці-ж тады ты на магілу,
І закувай, як у бары...

Але ў духоўнай постаці беларускага песьняра, апроч смутнага пэсымістага выяўлялася часам і другая старана—бадзёрасьць і ўзьнятасьць. Адсюль у творчасьці поэты чуюцца ня тольхі сумныя мэлёдыі хаўтурнага „reguie“, але часам моцна гучаць і настроі барацьбы, узьнятасьці.

Яму належыць гэты бадзёры заклік:

Рушымся, брацьця, хутчэй
Ў бой з жыцьцём, пакідаючы жах:
Крыкі пужлівых людзей
Ня стрымаюць хай бітвы размах...
Проці цячэньня вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі-ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

Так барацьба, па думцы поэты, ёсьць істотная адзнака жыцьця; дзе яе няма, там гніль, супакой магілы. Барацьба каштоўна ня толькі з боку біолёгічнага, яна каштоўна і з боку соцыяльнага, яна паважна сваімі вынікамі: можа прынесьці плён перамогі над злом, „пэрлаў горы“.

Вось чаму поэта з любасьцю вітае гэту стыхію барацьбы:

Устань навальніца, мкні нанова!
Узвый вецер—ўсе за адно!
У віхры ўляціць палова,
Пакіне чыстае зярно.
Удар, цыклон, удар на мора!
Цалуй яго ў глухое дно!
Ўсплясьні ваду, і пэрлаў горы
На бераг выкіне яно.

Пясьняр у другім месцы заклікае сьледаваць прыкладу дзядоў, якія ўмелі змагацца з прыродай; іх душылі абшары лясоў, а яны агнём зва-

дзілі пушчы, і цяпер „на попеле буйна ўзрасьлі каласы“. Па думцы поэты, трэба

З гэтых дзядоў суровых прыклад нам-бы узяць—
Ня хіліцца з бяды, ня пужацца агня.
Бо мы толькі тады дачакаема дня,
Калі нас не здалее змаганьне зьлякаць.

І поэта бадзёра верыць, што гэты радасны дзень настане, што айчына адбудзіцца ад сну.

Ня згасла сонца, сонца гляне.
Усіх падыме ада сна.
Ён, гэты дзень, яшчэ настане,—
І ачуняе старана.
Я пад яе зімовай маскай.—
Пад сьнегам,—бачу твар вясны,
І вее верш мой дзіўнай казкай.
І ясны ён, як зорак сны.

Поэта моцна верыць, што народ хавае ў сабе потэнцыяльна вялізарныя сілы, якія толькі чакаюць свайго выяўленьня. Гэтую веру пясьняр выразіў у пекнай форме сонэту, яхвяраванага А. Пагодзіну.

Паміж пяскоў Эгіпэцкай зямлі.
Над хвалямі сінеючага Ніла.
Уж колькі тысяч год стаіць магіла.
У гаршчку насеньня жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшыя былі.
Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла
Збудзілася і буйна скаласіла
Парой вясеньняй збожжа на ральлі.
Вось сымвол твой, забыты краю родны:
Зварушаны нарэшце дух народны.
Я верую, бясплодна не засьне,
А ўперад рынецца, маўляў, крыніца.
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца...

Акрылены гэткімі магутнымі настроямі барацьбы і веры ў бацькаўшчыну, М. Багдановіч ствapae сваю чароўную легенду „Страцім-лебедзь“, у якой ужо гучаць настроі богазмаганьня. У гэтым творы, на фоне біблейнай легенды аб патопе, даецца сымболічны вобраз магутнай істоты, якая ня хоча пакарыцца боскай волі: для яе сьмерць лепш, чым рабства, згіненьне—вышэй пакоры... Па загаду бога ў каўчэг Ноя, каб ратаваць сябе ад патопу, сьцякаюцца ўсе жывёлы і птушкі.

Птахі ў небе стаяў лётаюць.
Енчаць жаласна, ад нуды крычаць,
Выглядаюць стуль прытулачку.

Адзін толькі горды Страцім-лебедзь ня хоча пакарыцца агульнаму лёсу.

А па ўсёй зямлі толькі хвалі б'юць.
Толькі хвалі б'юць белай пенаю.
Да па іх дужы сьмела плыве
Страцім-лебедзь—горды, моцны птах.

Узмахне крылом—быццам бор шуміць,
Узмахне другім—як мяцель, гудзіць.
І населі тут на лебедзя
Птахі дробныя ўсёй стаяю.
Пацямнела у яго вачох,
Крыльлі ўрэшце падламаліся,
Галава ў ваду апусьцілася.
І пайшоў на дно мора сіняга
Страцім-лебедзь—моцны, горды птах.

Страцім-лебедзь—гэта як-бы сымболічны вобраз самога поэты. І сам поэта ўяўляў з сябе магутную індывідуальнасьць з настроямі барацьбы і протэсту. Але няспрыяючыя ўмовы жыцьця не далі мажлівасьці разгарнуцца ва ўсёй сіле гэтай індывідуальнасьці.

Другі сымболічны вобраз перажываньняў поэты даны ў яго пекным вершы „Астры“. У шэрую восень пекныя астры марылі і чакалі вясны, але іх марам ня суджана было зьдзейсьніцца:

А ранак спаткаў іх халодным дажджом,
І вецер стагнаў у саду за кустом.
І ўбачылі астры, што ўкруг іх турма,
Убачылі астры, што жыць ім дарма.
І ўмерлі яны. Але тут, як на сьмех,
Паднялося сонца, цалуючы ўсех.

Так і поэта асуджан быў жыць у шэрым тумане нацыянальнага і соцыяльнага ўціску, і навокал яго была турма—турма царскай Расіі, і ён як на сьмех, толькі ўжо на самым закаце сваіх дзён убачыў вялікае сонца рэволюцыі.

Інтэлігент па пахаджэньню, адарваны ад вытворчых сіл і працоўных мас, Максім Багдановіч асабліва паддаўся адмоўным уплывам акружаючай яго няспрыяючай рачаіснасьці. Адсюль вынік яго пэсымізм і хваравітая дваістасьць, адсюль вынікла яго адасобленае месца ў нашай літаратуры.

Другой спадчынай соцыяльнай абстаноўкі, апроч пэсымізму, зьявіўся эстэтызм поэты.

У сваім прозаічным творы „Апокрыф“ пясьняр выступае перад намі ў якасьці прыхільніка тэорыі „мастацтва для мастацтва“. Па яго думцы, патрэбна ўсё тое, што абслугоўвае матэрыяльныя інтарэсы людзей, мае утылітарную каштоўнасьць. Але значна вышэй за ўсё—гэта пекнасьць, хараство: „добра быць коласам, але шчасьліў той, каму давялось быць васільком, бо нашто каласы, калі няма васількоў“.

Плеханов правільна зазначае, што „нахіл мастакоў і людзей, якія жыва цікавяцца мастацкай творчасьцю, к мастацтву для мастацтва, вынікае на грунце безнадзейнага разладу іх з наўкольным грамадзкім асяродзішчам“. Эстэтызм Багдановіча ўяўляе сабой скутак гэтага разладу. Так, у творчасьці беларускага песьняра мы знаходзім значныя цені, але з гэтымі ценямі злучаецца і сьвятло: настроі барацьбы, глыбіня думкі, якая выяўлена ў надзвычайна пекнай форме.

# ПЫТАНЬНЕ АБ МАСТАЦКІМ СТЫЛІ І КАСТРЫЧНІКАВАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ

**П. Даркевіч**

Сярод пытаньняў аб мастацкай культуры і шляхох мастацтва паўстае пытаньне аб стылі і іменна мастацкім. Пытаньне гэта ў апошняе дзесяцілецьце вабіць усё больш і больш як гісторыкаў мастацтва, так і гісторыкаў культуры. Можна сьмела сказаць, што ў сучасны момант пытаньне аб стылі зьяўляецца вельмі вострым пытаньнем у мастацкай культуры. Цікавасьць-жа да гэтага пытаньня ёсьць як у Заходняй Эўропе, таксама і ў нас, у СССР. На гэта паказваюць нам працы друкаваныя, якія прысьвячаюцца гэтаму пытаньню [1]).

Заданьнем гэтага невялікага артыкулу і зьяўляецца, каб разглядзець пытаньне аб стылі ў сучаснай навуцы, гэта папершае; а падругое, гэта застанавіцца на проблеме адносін стылю да рэволюцыі. Бо разьвязаньне гэтай проблемы дасьць яснасьць у практычнай працы на грунце мастацкай культуры.

У сваім далейшым разглядзе пад словам стыль мы будзем разумець тую агульнасьць пачуцьця формы, якая праяўляецца ў такім мастацтве, як архітэктура, разьбярства і малярства.

У сучасным вывучэньні мастацтва пры ўсёй рознастайнасьці яго напрамкаў, плыняй і мэтодаў, можа быць угледжана галоўных толькі два: адзін з іх прытрымліваецца так званага іманэнтнага пункту погляду ў разьвіцьці мастацтва,—гэта школа яшчэ завецца формальнай; другі напрамак стараецца растлумачыць разьвіцьцё мастацтва, прыраўноўваючы яго з агульным ходам культуры, гістарычных зьявішч альбо кляс. Разьмер артыкулу прымушае адзначыць прадстаўнікоў гэтых напрамкаў толькі выключна выдатных, а дзеля гэтага формальная школа вывучэньня мастацтва лепш за ўсё можа быць разгледжана ў асобе Г. Вёльфліна.

У сваёй друкаванай працы „Ренесанс і барокко“ Вёльфлін закранае глыбока пытаньне аб сутнасьці стылю, прычыны зьмены і ўпадку яго.

Пад стылем Вёльфлін разумее і зусім правільна „ўсеагульнасьць новага пачуцьця формы ў сучасны момант“[2]). Увесь аналіз формы стылю разгледжаны Вёльфлінам надзвычайна і глыбока. Супярэчнасьці рэнэсан-

[1]) У нас, у СССР, можна паказаць на кнігу Гінзбурга „Стиль и Эпоха“.

[2]) Г. Вёльфлін „Ренессанс и барокко“, выд. „Грядущий день“.

су і бароко, характэрныя рысы гэтых стыляў—усё гэта прадумана правільна. Тое, што Вёльфлін зрабіў у пазнаньні статычнага моманту, бязумоўна каштоўна, і Вёльфлін тут вялікі знаўца і глыбокі аналітык, але пазнаньне стылю ў яго статыцы яго самога яшчэ не задаваляе, і ён стараецца прадумаць пытаньне аб прычынах зьмены стыляў, выявіць генэзіс формы і прычыну як зьмены, так і ўпадку стыляў. Цікава, як у вырашэньні гэтага пытаньня выяўляецца вучоны, які бачыць толькі мастацтва і не зьвяртае ўвагі ні на якія моманты, якія характарызуюць зьявы. Таксама ў гэтай кніжцы Вёльфлін вырашае гэтае грунтоўнае пытаньне аб стылі наступнымі словамі: „Стыль разьвіваецца сам па сабе, зьнікае сам па сабе,—падбярэце якія хочаце выразы, якімі абазначаюць гэты працэс. Вобраз расквітаючай і вянучай расьліны зусім добра тлумачыць гэту тэорыю. Як расьліна ня можа вечна цьвісьці, а абавязкова павінна зьвянуць, так рэнесанс ня мог застацца назаўсёды верным сабе. Ён вяне, губляючы свае формы, і гэта ягоператварэньне мы называем барока. Нельга вінаваціць глебу ў тым, што расьліна марнее, бо законы яе быцьця захованы ў ёй самой. Таксама і са стылем: канечнасьць зьмены ня звонку навязаны яму, а яна ўнутраная: пачуцьцё формы падлягае сваім уласным законам“[1]).

Гэта квінт-эсэнцыя формальнай школы, і тут, у гэтым вышэйпададзеным адрыўку, ясьней за ўсё формуляваны іманэнтны пункт погляду. Законы быцьця стылю захаваны ў ім самым, а дзеля гэтага „растлумачыць стыль—знача ня больш, як зьвязаць яго з агульнай гісторыяй часу і даказаць, што яго формы гавораць сваім языком і тое самае, што і іншыя сучасныя яму галасы“[2]).

Так з генэтычнага шляху пераходзіць пытаньне на шлях апісальны, які дае добрыя вынікі ў пачатковай працы над стылем, а іменна, у пазнаньні стылю, як ён ёсьць. Калі паставіць пытаньне аб стылі на плошчу дынамічнага разгляданьня, дык мэтод Вёльфліна не растлумачвае нічога, і пытаньне аб разьвіцьці, адраджэньні і ўпадку застаецца нерастлумачаным. Адзначаючы вялікі навуковы падыход формальнага падыходу пры вывучэньні стылю[3]), нас не задаваляе зусім абстрактнае тлумачэньне разьвіцьця, адраджэньня і ўпадку мастацкага стылю. Мэтод Вёльфліна, як і ўсёй формальнай школы мастацтвазнаўцаў, важны і патрэбны, як першая ступень вывучэньня мастацтва.

---

Пасярэдзіне паміж мэтодамі формальным і генэтычным стаіць другі вучоны—Кон-Вінэр[1]), які ў гісторыі стыляў устанаўляе зьмену конструктыўнага стылю дэструктыўным (або дэкоратыўным). Ён разумее пад пер-

---

[1]) Г. Вёльфлін. „Ренессанс и барокко“, 72 стар.

[2]) Ibid. 78 стар.

[3]) Асабліва Г. Вёльфлін—„Классическое искусство“ і „Kunstgeschichtliche Grundbegriffe“ 1915 г.

[4]) Кон-Вінэр. „История стилей“ 1913 г., выд. „Космос“.

шым паняцьце мэтазгоднасьці ўсіх частак як у архітэктуры, так і ў другіх галінах мастацтва, і пад дэкоратыўным такі стыль, дзе зьвяртаецца галоўная ўвага моманту ўпрыгожаньня, заместа строгай мэтазгоднасьці.

Пад конструктыўнымі стылямі ён разумее дорыйскі стыль старажытнай Грэцыі, романскі—сярэднявякоўя і ранейшы рэнэсанс Італіі. „З гістарычнай паступовасьці эўропэйскіх стыляў ад крыжа-мікенскага да дзевятнаццатага сталецьця адзначаецца, што ўсякі раз за конструктыўным стылем паступова ідзе дэкоратыўны, а пасьля ўжо орнамэнтальны стыль, які зноў, у сваю чаргу, выпіхаецца конструктыўным. За грэцкім стылем выступае эліністычна-рымскі, за старажытна-хрысьціянскім і романскім—готыцкі, за ранейшым рэнэсансам—высокі рэнэсанс, барока і ракако“[1]).

Гэта вельмі каштоўнае ўстанаўленьне законаў стылю ў Кон-Вінэра, якое разгледжана дужа тонка. Конструктыўны стыль—па думцы Кон-Вінэра—гэта стыль, які зьвязвае ў адно непарыўнае цэлае архітэктуру, разьбярства і малярства. Адгэтуль характэрныя рысы ў композыцыі разьбярства і малярства. Як першае, так і другое,—двумерныя і фронтальныя. Кон-Вінэр нават у заключэньні робіць здагадкі і стараецца ўстанавіць прычыну, якая робіць уплыў на зьмену стыляў і тут досыць блізка падыходзіць да разьвязаньня пытаньня, але дае яму дужа мала месца і нібы мімаходам. Вось дамо выказацца самому Кон-Вінэру: „Але іменна гэта і даказвае, што агульны народны рух мае на зьмену стыляў моцны, нават рашучы ўплыў. Ня духоўны рух, напрыклад, зьяўленьне і ўпадак рэлігій,—бо яны самі зьяўляюцца продуктам разьвіцьця,—але матэрыяльны рух у галіне народнага руху і экономікі жыцьця. Зусім законамерна, што тэктонічны стыль заўсёды творыцца самым моцным народам свайго часу, што па мясцовасьцях і плямёнах ён выпрацоўвае розныя асаблівасьці мастацтва ў той час, як у стылях, пазбаўленых тэктонічнага пачуцьця, закладзена нівэліруючая інтэрнацыянальная тэндэнцыя, што яны, магчыма, і зьяўляюцца дзякуючы гэтай тэндэнцыі. З другога боку, патрэбна адзначыць соцыяльныя ўмовы, якія стварылі тэктонічны стыль народнай готыкі, а таксама экономічныя прычыны, якія ў дзевятнаццатым сталецьці затрымалі яго (стылю, П. Д.) разьвіцьцё. Усякаму тэктонічнаму стылю належыць нешта дэмократычнае, дзеля таго што прастата яго формаў робіць даступнай і для бедняка любую з яго прыгожасьцяй; і дзеля гэтага нават самы апошні саматужнік можа стварыць яго з аднолькавай паступовасьцю, а значыць і з прыгожасьцю. Дэструктыўны, багаты орнамэнтыкай стыль, зусім наадварот,—дазваляе сьмела карыстацца сваёй прыгожасьцю толькі заможным клясам“[2]).

---

1) Кон-Вінэр, стар. 263.
2) Кон-Вінэр, стар. 263.

Прыведзены адрывак паказвае, што Кон-Вінэр зрабіў вялікі крок, калі параўнаць з Вёльфліным у тлумачэньні генэзісу мастацкага стылю, але ўсе такі Кон-Вінэр зьвязаны яшчэ моцна з формальнай школай. Для нас важна адзначыць той вялізазны крок, а галоўнае паказаць на зьмену конструктыўнага і дэкоратыўнага стылю, як на адну з вялікіх заслуг Кон-Вінэра. Кон-Вінэр не соцыолёг мастацтва, і дзеля гэтага соцыолёгічнай абаснове стыляў даваў мала месца, але ў параўнаньні з Вёльфліным недахопы вывучэньня мастацкага стылю ён стараецца зьвязаць з рэальнымі соцыяльна-экономічнымі сіламі.

---

Тое, што ў Кон-Вінэра чуць адзначана ў сэнсе генэтычнага абаснаваньня мастацкага стылю, у Вільгэльма Гаўзэнштэйна ў яго кніжках [1]) разгледжана і абаснавана з такой навуковасьцю і глыбінёй, што без перабольшаньня можна назваць яго асновапаложнікам соцыолёгіі мастацкіх стыляў, як Плеханова асновапаложнікам соцыолёгіі мастацтва. Таму В. Гаўзэнштэйн у дадзеным выпадку зьяўляецца найбольш цікавым. В. Гаўзэнштэйн тым больш цікавы, што ён пытаньне аб стылі разьвязвае на асновах гістарычнага матэрыялізму, паказвае ясна аб недахопах толькі формальнага падыходу да стылю. Гэта нездаволеньне абстрактным тлумачэньнем знайшло ў асобе Гаўзэнштэйна, які стаў на аснову гістарычнага матэрыялізму, „прарока сучаснага мастацтва“ [2]). І сапраўды, Гаўзэнштэйн сынтэзуе ў адно цэлае і формальны, і соцыолёгічны мэтоды і гэта дае надзвычайныя вынікі, якія вырасьлі на паняцьці рэальна-гістарычных асноў; Гаўзэнштэйн у соцыолёгіі аб стылі і ў самой проблеме яе паставіў вехі і пытаньні, ад каторых соцыолёгія стылю, якая хоча мець добрыя вынікі, павінна ісьці па яго шляху.

В. Гаўзэнштэйн скарыстаў устаноўленыя Кон-Вінэрам тыпы стыляў: конструктыўны і дэкоратыўны, і растлумачыў прычыну зьмены апошніх.

Але падойдзем да больш дэтальнага разгляду думак Гаўзэнштэйна: „Канчатковая прычына руху культурных зьяўленьняў—гэта соцыяльна-экономічны фактар“[3]),—кажа Гаўзэнштэйн ужо на першай старонцы і на гэтым устаноўленым абаснаваньні і вядзе далей соцыолёгічнае абаснаваньне мастацкага стылю. „Калі соцыолёгія стылю, разьвіцьцю якой мы хочам дапамагаць, не для ўсякага часу ёсьць вышэйшая форма эстэтыкі, то яна зьяўляецца гэтакай яшчэ сягоньня і заўтра. Яна—тэорэтыка-эстэтычная надстройка, якая сягоньня і заўтра замяняе абсолютнае пазнаньне [4]). Вось гэта ўжо сапраўды цэлае зацьвярджэньне, ад якога былі так далёка

---

[1]) В. Гаўзэнштэйн. „Искусство и общество“, 1923 г., выд. „Новая Москва“, і „Опыт социологии изобразительных искусств“, выд. 1924 г. „Новая Москва“.

[2]) Словы А. В. Луначарскага ў яго артыкуле аб Гаўзэнштэйне ў кнізе „Рэволюция и искусство“.

[3]) В. Гаўзэнштэйн. „Искусство и общество“, 7 стар.

[4]) Ibidem, 8 стар.

Вёльфлін і Кон-Вінэр. Зусім усьведамляючы, што „соцыяльнае—ёсьць мерка нашага часу і рытм будучага“,—Гаўзэнштэйн і адкрывае ролю соцыяльна-экономічнага моманту ў росквіце і ўпадку мастацкага стылю. „Ідэя стылю, калі разумець яе ў поўным сэнсе гэтага слова, тлумачыць нам замкнуты сынтэз усіх формаў існаваньня. Стыль, па магчымасьці ў позытыўным значэньні гэтага паняцьця, прадстаўляе сутнасьць быцьця, organізованага поўнасьцю, бяз выняткаў і не дапускае распыленьня энэргій, накірованых у розныя бакі дынамічных імкненьняў чалавечага жыцьця“ [1]). Такое паняцьце аб стылі, як сынтэзу ўсіх формаў існаваньня, блізка да тлумачэньня аб стылі ў Шпэнглера [2]). І сапраўды, усе конструктыўныя стылі прасякнуты надзвычайным organізованым сынтэзам формаў. Няхай гэта будзе эгіпэцкі стыль альбо грэцкі, у выразе дорыйскім альбо іонічаскім, альбо, нарэшце, заходня-эўропэйскае сярэднявякоўе эпохі романскага стылю. Усюды дадзены формы надзвычайнага адзінства і моцнай монумэнтальнасьці.

Паглядзім цяпер далей, як устанаўляе Гаўзэнштэйн соцыяльна-эстэтычную схэму разьвіцьця, а гэта схэма прадстаўляе вялікую цікавасьць. Гаўзэнштэйн устанаўляе зьмену культур „органічных“ і „крытычных“, карыстаючыся тэрмінамі Сэн-Сімона; перакладаючы на мову гістарычнага матэрыялізму, гэта азначае—культуры фэўдальнай формацыі і культуры капіталістычнай. Для фэўдальнай культуры характэрным зьяўляецца грамадзка-замкнутая цэльнасьць, і, наадварот, для капіталістычнай культуры—расклад якіх-бы то ні было колектываў і індывідуалізацыя.

...„Мастацтва, якое дзеля гэтага сапраўды заслугоўвае назву стылю, дасягаецца ўсюды толькі там, дзе яно зьяўляецца функцыяй добра зорганізаванай абшчыны: у найбольш агульным сэнсе ўсё роўна, ці адзначаецца гэта грамадзтва характарам соцыялістычнай дэмократыі, фэўдальнай організацыі, альбо моцна скаванага абсолютызму“... „формальна рашаючым заўжды зьяўляецца пытаньне, ці служыць мастак грамадзтву, альбо ён толькі служка індывідуальнай асалоды, maitre de plaisir у коле духоўных мар адзінкавых асоб, ці падлягае ён паняцьцю колектыву аб прыгожасьці, альбо прыносіць сябе ў ахвяру эстэтычнаму суб'ектывізму анахорэта мастацтва, варожага ўсякаму грамадзкаму жыцьцю. У гэтым мы знайшлі найбольш агульны прынцып дзяленьня соцыяльна-эстэтычнай схэмы разьвіцьця. Мы папрабуем зьвесьці дадатнае і адмоўнае разьвіцьцё стылю да пытаньняў соцыяльнага жыцьця. Дадатны стыль—зрабіўшы дапушчэньне—заўсёды адпавядае ў гісторыі часу дадатнай організацыі грамадзтва, упадак стылю адпавядае пэрыодам упадку організацыі грамадзтва [3]).

[1]) В. Гаўзэнштэйн. „Искусство и общество“, стар. 20.

[2]) Шпэнглер, „Закат Европы“, том I.

[3]) Ibidem, 23 стар.

Няхай ня злуюць на мяне, што я так шмат даю выказвацца самому Гаўзэнштэйну. Устаноўлены закон пабудаваньня дадатнага стылю, г. ё. ня толькі пабудаваньне стылю мастацтва, але ёсьць і вядомы сынтэз усяго соцыяльнага быцьця, які вырастае на асновах добра і суцэльна організованай абшчыны. Тут Гаўзэнштэйн устанаўляе таксама такія законы для разьвіцьця стылю, якія дае нам марксызм для разьвіцьця грамадзтва, і дзякуючы гістарычнаму матэрыялізму, на які апіраецца Гаўзэнштэйн, і змог ён устанавіць закон разьвіцьця стыляў не абстрактна, а зьвязаўшы яго з законамі разьвіцьця грамадзка-культурных формацый.

Мастацтва эпох капіталістычных зьяўляецца, як па паходжаньні, так і па выкарыстаньні, даданьнем прыватнай ініцыятывы. Мастак з вытворчасьцю мастацкіх твораў падлягае агульным законам рынку і пры гэтым аслабаненьне асобы мастака з-пад соцыяльнага, разумеючага пачуцьця прыгожасьці прадастаўляе стаць яму выразам эстэтствуючай групы або індывідуальных імкненьняў, тады як мастацтва ў моцна згуртаваных грамадзкіх формацыях ёсьць зьява соцыяльная ў самых глыбокіх сваіх асновах і ствараецца колектывам.

Ужо Кон-Вінэр указвае, што стыль конструктыўны—ёсьць дэмократычны. Пры гэтым, організаваныя грамадзтвы выяўляюць згоду ў выбары зьместу, выплываючага з соцыяльна-накіраванай волі, і зусім адваротнае заўважваецца ў тых грамадзтвах, дзе колектыў падлягае ўпадку. „Гэта буржуазная эпоха, якая мае гонар, што прадметам яе клапот зьяўляецца асабісты элемэнт,—у процілежнасьць анонімнаму сярэднявякоўю, якое і найбольш шаблённым творам давала належнае месца,—зусім ня лічыцца з асаблівымі якасьцямі мастацкага твору, так што пры буржуазнай культуры мастацкаму твору даецца любое месца; а для мастацтва гэта ўсё роўна, што няма бацькаўшчыны“ [1]).

Тут мы падыходзім блізка да пытаньня, што ў XIX сталецьці мастацкага стылю не знаходзіцца. Калі Гаўзэнштэйн кажа: „стыль ёсьць продукт культуры“, дык ён у гэта паняцьце ўкладае прынцып клясавага характару ўсялякай культуры. Толькі разумеючы гэты клясавы характар, можна зразумець прычыну адсутнасьці ў XIX сталецьці мастацкага стылю. Тое, што XIX сталецьце не стварыла стылю, у гэтым пагаджаюцца як формальная, так і генэтычная школа мастацтвазнаўства. Першая тлумачыць гэты факт чыста іманэнтнымі законамі разьвіцьця самога мастацтва, другая—соцыяльна-экономічнымі прычынамі, разумеючы мастацкі стыль, як продукт, моцна і глыбока зьвязаны з соцыяльна-экономічным жыцьцём. Разьмер артыкулу не дазваляе застанавіцца дэтальна на гэтым пытаньні, апроч як на агульных пытаньнях [2]).

Калі стыль тварыўся грамадзтвамі, моцна зорганізаванымі, зьлітаванымі, то яго ўпадку папераджае ўпадак колектыву грамадзтва, а

[1]) Шпэнглер. „Закат Европы“, т. I, 26 стар.

[2]) Мы абяцаем гэтаму пытаньню асобны артыкул.

для XIX сталецьця гэта зьява дыфэрэнцыяцыі вельмі характэрна; і характарызуецца яна надзвычайна вострым дзяленьнем і антагонізмам паміж клясамі. Буржуазія ў сваім разьвіцьці ў сілу неабходнасьці стварыла свайго магільшчыка ў асобе пролетарыяту. Антагонізм, ужо пачаўшы вырастаць паміж гэтымі клясамі, адносіцца ўжо да пачатку XIX сталецьця. Не стварыўшы моцна зорганізаванага грамадзтва, буржуазія не магла даць і адзінай цэлай, якая аб'яднала-б, ідэолёгіі. Анархія рынку парадзіла анархію ідэолёгічнага зьместу. Антагонізм кляс ня мог стварыць роўнавагі; а мастак, які не знаходзіць у жыцьці грамадзтва ідэалаў і, не знаходзячы пачуцьця, якое магло-б быць ім выказана, пайшоў у сябе і ў сваё „я“ [1]). Адгэтуль надзвычайная яскравасьць усялякіх мастацкіх груповак, кірункаў, як ясны паказальнік крызісу соцыяльнага зьместу ў буржуазіі. Калі мастацтва стылю ёсьць мастацтва дэмократычнае, то мастацтва эпохі ўпадку ёсьць мастацтва інтымнага жанравага характару,— адгэтуль той надзвычайны росквіт станковага мастацтва. Мастак стаў ня выразам соцыяльнага вялікага пачуцьця, а выразам індывідуальных перажываньняў, альбо выражаў пачуцьцё эстэтыкі невялікіх груп. Калі ўзяць, як прыклад, францускае мастацтва XIX ст., то мы ўгледзім у зьмене, кірункаў, як дыфэрэнцыруецца мастацтва: клясыцызм пачатку XIX ст., пасьля романтызм у 30-гадох; росквіт пэйзажу ў асобе барбізонскай школы і рэалізм 40—50 гадоў; далей імпрэсыонізм і зьмяніўшы гэты апошні кубізм, а зараз пурызм,—то гэты пералік яркі паказальнік паступовага выветрываньня зьместу і ўсё большая беспрынцыповасьць у поглядах на задачы і сутнасьць мастацтва. Прыклад францускага мастацтва ўзяты таму, што ў XIX ст. яно адно з самых паступовых і яскравых мастацтваў.

Так перад намі стаіць пытаньне аб мастацкім стылі, як пытаньне найбольш важнае ў мастацкай культуры. Калі цяпер узяць далейшае разгляданьне нашай тэмы, г. ё. узаемаадносіны пытаньня аб стылі і рэволюцыі, то тут атрымліваецца проблема захапляючай цікавасьці.

„На пэўнай ступені свайго разьвіцьця матэрыяльныя вытворчыя сілы грамадзтва ўваходзяць у пярэчаньне з існуючымі вытворчымі адносінамі, або, ужываючы юрыдычны выраз з маемаснымі адносінамі, сярод якіх яны да гэтага часу дзейнічалі. З формаў разьвіцьця вытворчых сіл, гэтыя адносіны становяцца іх аковамі. Тады падыходзіць эпоха соцыяльнай рэволюцыі“ [2]).

Гэта адна з вычэрпваючых формул рэволюцыі, якая стала клясычнай. Для нас яна зараз зьяўляецца тэй асновай, па якой мы хочам пабудаваць і вырашыць пытаньне аб стылі. Кастрычнікавая рэволюцыя і зьяўляецца як вынік супярэчаньня разьвіцьця матэрыяльна-вытворчых сіл.

---

[1]) Гэта пытаньне яскравей за ўсё разгледжана ў Плеханова ў яго артыкулах аб мастацтве.

[2]) К. Маркс. „К критике политич. экономии“.—Прадмова, изд. „Московский рабочий“, 1923 г.

На сцэну буржуазіі выступіў пролетарыят з усімі сваімі новымі культурнымі мэтамі і ўстаноўкамі. Кастрычнікавая рэволюцыя вырашыла асноўнае матэрыяльна-вытворчае пытаньне і гэтым зьявілася „творчым актам культуры“ [1]) пролетарыяту. Як акт, рэволюцыя дала тую аснову, на якой з акту вырастае форма культуры.

Адзначанай рысай духу пролетарыяту ад буржуазіі ёсьць колектыўнасьць, аб'яднаньне сіл для стварэньня соцыялістычнага грамадзтва. У парадку з гэтымі асновамі, гаспадарча-матэрыяльнымі проблемамі, пролетарыят вырашае і проблемы так званага духоўнага парадку—ідэолёгічныя, і мастацтва зьяўляецца далёка не апошняй проблемай ідэолёгічнага парадку. Калі мастацтва наогул ёсьць аформленьне эмоцый адзінкавых асоб альбо груп, кляс, альбо цэлых нацый, то мастацтва пролетарыяту павінна быць аформленьнем яго эмоцыянальна-разумовага жыцьця. Гэта аформленьне патрэбна для аб'яднаньня соцыяльных пачуцьцяў, для адзінства і згуртаванасьці, для дасягненьня пэўнай мэты. Пролетарыят пакончыў з анархіяй буржуазнага грамадзтва для паступовага, організаванага, зусім сьвядомага грамадзтва, пабудованага на бясклясавым прынцыпе. Распыленьню соцыяльнай энэргіі буржуазіі пролетарыят процістаўляе організаванасьць і плянавасьць, а для проблемы мастацкага стылю гэта зьяўляецца рашучым момантам. Калі грамадзкая культура прызнае пэўную галіну зьместу дастойным адбіцьця, гэтым самым, папершае, дасягаецца формальны пункт погляду на сапраўднасьць“ [2]). Гэта глыбокая думка Гаўзэнштэйна асабліва важная.

Тут якраз зачэпліваецца пытаньне аб азначаючым моманце формы зьместам. Пролетарыят з паяўленьнем на гістарычнай сцэне прынёс—на зьмену аджыўшаму буржуазнаму зьместу—смагу соцыяльнага культурнага будаўніцтва. Я адчуваю, што мне могуць задаць пытаньне: чаму-ж да гэтага часу ня створана яшчэ нічога стыльнага пролетарыятам? На гэта можна адказаць наступнае: яшчэ няма дзесяці гадоў ад пачатку Кастрычнікавай рэволюцыі і, покуль выявіцца стыль, павінна прайсьці пэўная колькасьць часу; калі пачуцьці выкрысталізуюцца, а самым пролетарыятам будзе створана сума агульназначных каштоўнасьцяй, або іначай, як кажа А. В. Луначарскі, „соцыяльна-псыхолёгічныя комплексы мастацкіх адносін да сапраўднасьці“. А. В. Луначарскі згаджаецца з Гаўзэнштэйнам [3]), дзе ён кажа: „Справа ня ў тым, што выздараўленьне прыдзе, як толькі мастак суб'ектыўна зьвернецца да соцыялізму і па рэцэпту Прудона прылучыць да беднасьці філёзофіі беднасьць малярства, ці добра, ці кепска рысуючы рабочых“. Нават калі соцыялістычны мастак

---

[1]) Выраз Дэборына.

[2]) В. Гаўзэнштэйн. „Опыт социологии изобразит. искусства“, выд. „Новая Москва“, 1924 г., 32 стар.

[3]) А. В. Луначарскі. Зборнік артыкулаў—„Искусство и революция“. Артыкул аб Гаўзэнштэйне. Гэта адзін з самых глыбокіх артыкулаў аб Гаўзэнштэйне.

рабочага зьяўляецца вялікім мастаком свайго часу, як Курбэ або Менье, гэта ўсё яшчэ не гарантуе тую грамадзкую аснову, якая яму неабходна.

Неабходна, перш за ўсё, колькасьць організаванага грамадзтва, або, прынамсі, улавімай прэлюдыі гэтага новага грамадзтва. Новы стыль нараджаецца ня столькі з суб'ектыўнага вобразу думак, колькі з суб'ектыўных грамадзкіх фактаў [1]).

Рэволюцыя дала грамадзкую аснову і ўжо дала нават і формы сучаснай архітэктуры [2]). Малярства і разьбярства знаходзіцца ў пэрыодзе шуканьня, але таксама ўжо стаяць на парозе новага аўладаньня і стварэньня форм. Рэволюцыя дала і „колькасьць новаорганізаванага грамадзтва“, якое вырашае і будуе зараз ня толькі экономічныя проблемы, але і культурныя, бо гэтыя проблемы непарыўна зьвязаны. Мы бачым ужо, што пытаньне аб мастацкім стылі атрымлівае з часу Кастрычнікавае рэволюцыі сваё культурнае вырашэньне. Разьвіцьцё стылю залежыць ад росквіту і пад'ёму нашага гаспадарчага жыцьця. Будаваньне электростанцыі вырашае гаспадарчы момант, а таксама вырашае сваім афармленьнем адлегласьці і форму стылю. Разам з вырашэньнем культурных задач будуць усё яскравей і пэўней устанаўляцца „мастацкія адносіны да сапраўднасьці“, а гэта дае пэўную форму. Форма мастацтва ёсьць форма соцыяльнага быцьця і „выраз соцыяльнай энэргіі грамадзтва“ (Гаўзэнштэйн). Мастацкі стыль зьявіцца формай нашага быцьця.

---

У канцы мне хацелася-б адказаць на тое пэўнае зазначэньне, якое мне можа быць зроблена, а іменна: чаму пры разгляданьні пытаньня аб стылі я ўзяў толькі Вёльфліна, Кон-Вінэра і Гаўзэнштэйна, у той час як ёсьць яшчэ трактаваньні аб мастацкім стылі? Адказваю: таму што гэтыя прадстаўнікі найбольш характэрныя. Прызнаючы вялікую цікавасьць трактоўкі стылю, напр., у О. Шпэнглера ў яго кнізе „Закат Европы“, у *Рыгля*, [3]), Ворынгера [4]) і інш., я ўсё такі палічыў патрэбным на іх ня спыняцца, каб не перагружаць артыкулы. Погляды Шпэнглера на стыль прасякнуты ўплывам як, у першую чаргу, Ворынгерам, так і Рыглем, але гэта тэма ўжо зусім другога артыкулу [5]). Наогул усе тры аўтары зыходзяцца на псыхолёгічным трактаваньні стылю.

---

[1]) В. Гаўзэнштэйн. „Опыт социол. изобр. искусства“, 54 стар.

[2]) Хто цікавіцца, можа зьвярнуцца да часопісі „Современная архитектура“ пад рэд. Гінзбурга і Весьніна.

[3]) Rigel „Stilfragen“, Berlin, 2-ое выд. 1923 г.

[4]) Worringer „Formprobleme der Gotik, München“, 1912 г.

[5]) Хто цікавіцца гэтым, можа зьвярнуцца як да саміх аўтараў, так і да кнігі В. Н. Лазарева „Освальд Шпенглер и его взгляды на искусство“, 1922 г.

# КНІГАПІС

**„Плужанин“**, *двохтидневий журнал спілки селянських письменників „Плуг“, Харків, №№ 3, 4, 5 і 7 за 1927 г.*

Цалкам зразумела, што „Плужанин“ як двухтыднёвы журнал, не належыць да ліку „тоўстых часапісяй“; прыблізны разьмер кожнага з чатырох вышэй зазначаных нумароў 40—48 стар., але, ня гледзячы на гэта, яго трэба прызнаць даволі зьмесным.

Суполка вясковых украінскіх пісьменьнікаў „Плуг“, якая сёлета рыхтуецца да сьвяткаваньня пятых гадавін свайго існаваньня, ставіць перад сабой значна шырэйшыя мэты, як ранейшае „просвітянство“. Галоўныя з гэтых мэт—яднаньне вёскі з горадам, індустрыялізацыя вёскі. Гэтыя мэты і падкрэсьлены былі ў адным вершы, які быў прачытан на пасяджэньні (у Богадухаве), прысьвечаным „Плугу“ (гл. Плужанин, 1927, № 7, ст. 36, а такжа № 3, ст. 30):

> Ми йдемо від Плуга до машини,
> Од села в майбутнє місто.
> Йди до нас, поете-селянине,
> Підемо вперед із робитництвом!

На тым самым пасяджэньні, кажа аўтар справаздачы, вельмі моцнае ўражаньне зрабіла лічба 37—колькасьць плужан з вышэйшай асьветай. Ня меншае ўражаньне было і ад лічбы 68—колькасьці сяброў Плуга з сярэдняй асьветай.

Вось у прыблізных рысах твар Плуга.

Цяпер некалькі слоў аб зьмесьце пералічаных нумароў. Ня ўсё ў іх аднолькавай вартасьці.

Змрочнымі фарбамі малюе цяжкое жыцьцё амэрыканскага пролетарыяту В. Шопинський у апавяданьні „Там, де проливається піт“ (у № 3). Вострая і слушная сатыра на цёмныя бакі сучаснай вёскі вышла-б з апавяданьня Шэвця (наз. скл. Швець) „Андрійова ніч“ (у тым самым 3 №), калі-б аўтар не папсаваў яго тым, што ўсё намаляванае абярнуў у канцы ў сон. І вельмі наіўна, у духу гогалеўскіх крытыкаў, гучыць парада рэцэнзэнта „Андрійової ночи“ (гл. Плужанин, № 7, ст. 31): „хай автор подасть картину з работи, а описів розпусти їхнывої не дуже треба“. і ў рэчаіснасьці сатыры цяпер, як зазначыў на дыспуце і т. Піліпэнка (гл. Плужан., № 3, 32), амаль зусім няма, а між інш. яна вельмі патрэбна. Нам здаецца, што даўно ўжо трэба зразумець, што той, хто ад шчырага сэрца сьмяецца над недахопамі сучаснасьці і імкнецца іх зьнішчыць, адносіцца да гэтай самай сучаснасьці з большай прыхільнасьцю, чымсі той, хто з іезуіцкай зларадасьцю шэпча: „чым горш, тым лепш“.

Кароткая новэля „Сліпа Маріука“ (з молдавського життя) у тым самым нумары цікавая тым, што аддае даніну аднэй з нацменшасьцяй на тэрыторыі Украіны, вельмі, між іншым, блізкай у розных адносінах да украінцаў. Лепшым выяўленьнем гэтай увагі да малдаван зьяўляюцца, як вядома, цудовыя бэсарабскія апавяданьні Коцюбінськага.

4 і 7 №№ адкрываюцца апавяданьнямі П. Тэмчэнка („Інтерв'ю“ і „Святий“). Аўтар добра малюе кулакоў, вясковыя забабоны і іншыя хібы вёскі.

З 4-га № адзначу яшчэ „Мініятюри“ Ю. Будзяка, прасякнутыя шчырым замілаваньнем да дзяцей. Крыху менш спадабаліся нам яго „Мініятюри“ ў 5-ым №, але мова яго і тут вобразная, яскравая. У гэтым самым № знаходзім нядрэнныя вершы Ол. Ведміцькага. Меншай вартасьці „Плавні“ М. Діэва.

Што-ж датычыцца № 7-га, то ў ім, апроч успамянёнага апавяданьня П. Тэмчэнка „Святий“, заслугоўвае яшчэ ўвагі „фэйлетон“ Варвары Чэрэднычэнкавай „За темами“, які становіць вельм яскравы і дасьціпны малюнак з жыцьця літаратурнага гарапашніка.

Выбар перакладных рэчаў не заўсёды можна прызнаць удалым. Лічым, што № 7 мала ўтраціў-бы, калі-б у ім ня быў-бы зьмешчаны пераклад з чэскага пісьменьніка Іржі Волькера „Сестра“.

У аддзеле „статтів“ сапраўдных навуковых артыкулаў ня знойдзем, але тут трапляюцца каштоўныя матэрыялы, (напр., „Стефаник про себе“, № 3, „Леонид Глібов“, згадка М. Самуся, № 4 і некатор. інш.). У сваім кароткім артыкуле „Про Шевченкову мову“ (№ 5) М. Сулима цалкам правільна заўважвае, што „про Шевченкову мову й досі далеко більше говорять, як і говорили, ніж вивчають і знайомляться з нею“. Але, на жаль, і ў гэтым артыкуле яшчэ гаворыцца, „як і говорили“ раней аб мове Шэўчэнка, а фактычна яна яшчэ не дасьледуецца.

Цікавыя месцы можна знайсьці ў крытычных артыкулах Гр. Майфета (у №№ 3 і 7). Звычайна, крытыка „Плужанина“ супроць усякага „занепадництва“ (гл. яшчэ ўвагу С. Піліпэнка ў № 7).

Цяпер некалькі слоў аб нашых справах у „Плужанине“. Як і беларусы сачаць за разьвіцьцём украінскай культуры, таксама і „українська суспільність дуже уважно слідкує за розвитком пролетарської культуры на Білорусі—своєї сусідки, особливо в галузі літератури й мистецтва“.

Т. Віч паведамляе аб адносінах паміж „Маладняком“ і „Узвышшам“. Выходзячы з думкі, што „не поодиноко підуть угору, а групами і масами“, ён радзіць „Узвышшу“ „пам'ятати про (поки невеселий) досвід свого українського товариша „Вапліте“. Рэцэнзія на альманах „Вапліте“ (Вал. Поліщук) ня зусім прыхільная і надрукована зараз-жа пасьля паведамленьня аб „Маладняку“ і „Узвышшы“. Т. Вічу, між інш., яшчэ заставалася невядомай 1-ая кніжка „Узвышша“.

**П. Б.**

**Платон Галавач. „Дробязі“ жыцьця.** *(Апавяданьні). Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск—1927. 32°, 176 стар.*

„Яўленая“—гэтакі загаловак мае першая з апавяданьняў першага зборніка твораў маладога пісьменьніка. „Яўленая“—пэўна зразумела. „Яўленая“, гэта—ікона божай маці, якімі можна казаць, кішэла раней лапцюжная Беларусь. Адпаведна гэтаму ў апавяданьні, якое вядзецца ад імя былога царкоўнага панамара, асяродкавая асоба дзеі—поп, адшуканец „яўленай“ і разам з тым ашуканец цёмнай сялянскай масы, які ў выніку свайго ашуканства адбірае ад сябе жыцьцё. Поп фігуруе і ў апавяданьні „Рубанаўскі вузел“. Побач з ім бачым дзяка і былога царкоўнага сьпяваку, старшыню ВИК Якаўлева, які праціснуўся да пасады. Гэта, разумеецца, адмоўныя тыпы. Да гэтайжа катэгорыі адмоўных пэрсонажаў належаць былыя памешчыкі Галіноўскія, сын якіх—Лявон, абшуквае парабчанку Ніну („Загубленае жыцьцё“), каморнік царскай службы Дразлоўскі, які застаўся на пасадзе і ў першыя гады рэволюцыі, але на стары звычай хапае хабары і абшуквае пры памеры зямлі бедакоў на карысьць заможных, чым усё больш і больш зацягваецца „Рубанаўскі вузел“ завілых зямельных суадносін, урэшце былы белы афіцэр, сын

папа Капцюр, які працуе на фабрыцы і нават працісквaецца ў шэрагі Комуністычнай партыі, але займаецца п'янкамі ды згвалчваньнем і ашукваньнем даверлівых жанчын („Абмылілася“). Побач з гэтымі адмоўнымі тыпамі нашага часу бачым сялян-землеробаў, якія ашукваюцца папамі і былымі памешчыкамі ды чыноўнікамі, вясковых або мяшчанскіх дзяўчат, якія робяцца ахвярамі ашуканства і канчаюць жыцьцё самагубствам (парабчанка Ніна, ашуканая Лявонам Галіноўскім, і дачка краўца Ліда, ашуканая Капцюром). Да больш-менш позытыўных тыпаў вёскі і гораду належаць настаўніца Турбоўская, сваячніца Рубанаўскага папа, якая яшчэ да рэволюцыі зачытваецца недазволенымі кніжкамі, а пасьля рэволюцыі пачынае весьці адкрытую антырэлігійную пропаганду, малады каморнік Шклярскі ды стары работнік фабрыкі Якім, які нюхам прызнае ў Капцюры „чужога“ чалавека. Але гэта—больш пасыўныя, чымся актыўныя ўдзельнікі будаўніцтва новага жыцьця. А нашы актывістыя—комуністыя і комсамольцы,—яны якую ролю іграюць у апавяданьнях? Трэба прызнацца, што, дзякуючы аўтарскай манеры маладога пісьменьніка, вельмі нязначную ролю.

У першым апавяданьні, „Яўленая“, комсамолец *толькі* слухае апавяданьне старога панамара, у другім, „Загубленае жыцьцё“, організатарка жанаддзелу іграе да мізэрнага нязначную ролю пры абароне правоў загубленай Ніны, у трэцім, „Рубанаўскі вузел“, *толькі* ўжо ў самым канцы апавяданьня зьяўляецца як „deus ex machina“, комуністы ў ВИК на зьмену Якаўлева, і таксама ў чацьвертым апавяданьні *толькі* на хвілінку праглядвае твар сапраўднага комуністага, сакратара фабрычнай ком'ячэйкі. Відаць, што аўтар бярэ сучаснае жыцьцё больш з боку яго цьмяных, ценевых зьяў. Бачым у яго і патугі ўцісьнуць горад з фабрыкай у абсяг сваіх думак. Але відаць, што сапраўднага фабрычнага жыцьця аўтар ня ведае. Даніну фабрыцы ён аддае толькі тым, што прахвоста Капцюра робіць фабрычным працаўніком. І толькі. З такім-жа самым посьпехам можна было зрабіць Капцюра, чалавека „з мяккімі і пухкімі рукамі“ служачым кожнай савецкай установы. І як гэта можна дапусьціць, што ў час рэволюцыі ў нашых фабрычных рабочых могуць быць „мяккія і пухкія рукі“? Ёсьць пэўная падобнасьць паміж апавяданьнямі Пл. Галавача і няўдалымі пастаноўкамі Першым Беларускім тэатрам няўдалых п'ес нашых маладых драматургаў Шашалевіча і Ільлінскага („Змрок“ і „Лес цёмны“). І там, і тут ценевыя бакі блізка што зусім засяняюць сьветлыя зьявы рачавістасьці, і там, і тут блізка што не выяўляюцца дадатныя бакі комуністычнага будаўніцтва ў вёсцы.

Канечна, нельга казаць, каб апавяданьні Пл. Галавача зусім ня мелі выхаваўчага значэньня. Так, паасобку, першае апавяданьне зборніка „Яўленая“ мае бясспрэчнае значэньне ў мэтах антырэлігійнай пропаганды, а апявяданьні „Загубленае жыцьцё“ і „Абмылілася“ як быццам наўмысьля прызначаны для нашых дзяўчат і маладых кабет.

Але-ж няможна ў працягу бітых шасьці-сямі гадзін чытаньня кніжкі даваць больш ценевыя бакі нашай рачавістасьці і толькі на 2-3 хвіліны выводзіць на сцэну ідэальных прадстаўнікоў новага ладу. Гэта агульны ўхіл нашых маладых пісьменьнікаў, ад якога свабодны хіба толькі М. Чарот і М. Зарэцкі. Гэты ўхіл выяўляецца і ў Платона Галавача. Аднак-жа, трэба прызнацца, што нашае жыцьцё дае побач з трухлявым гнільлём, рэшткай мінуўшчыны, і шмат парасткаў сьветлай будучыны. Заўважыць праявы гэтай сьветлай будучыны нават у „дробязях„ нашага жыцьця—першачарговая задача нашых бэлетрыстых.

Мова апавяданьняў аўтара мае свае недахопы: тутака багата русыцызмаў як з боку морфолёгії (як напр., „нібы застыўшае паветра“), гэтак і з боку лексыкі і фразэолёгії. Асабліва цяжкі фразэолёгічны бок. Вось-жа піша аўтар: „схіліўшы сьпелае калосьсе, стаіць жыта і *ўсьлед* за *праходзячым* яшчэ ніжэй да дарогі пачынае хіліць калосьсе, *нізка кланяецца* адзінокаму *вечарам у гэтую пару лета ў полі* чалавеку“ (1 сл.). Пэўна, што асоба, знаёмая з беларускай фразэолёгіяй, так-бы ня пісала. Стылістычнай радакцыі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва трэба было-б зьвярнуць асаблівую ўвагу на гэты бок выданьняў Выдавецтва.

Аднак, кніжка выдадзена наогул акуратна.

**М. Байкоў.**

**С. Пилитович. Почва.** *Стихи. Белорусское Государственное Издательство. Минск, 1927, 155—117 мм 47 стр. 1000 экз. Ц. 40 коп.*

Зборнічак складаецца з двох разьдзелаў: „почва“ і „лирика“, але і ў першым з іх вельмі шмат гэтай самай лірыкі, а, значыць, і гутарак поэты пра самога сябе. Наогул, тэматыка гэтага зборнічка вельмі цесна зьвязана з апошнімі. Справядлівей будзе, калі сказаць, што гэты зборнічак поэты складаецца з перажываньняў поэты, яго імкненьняў і яго апавяданьняў пра самога сябе.

О, Белорусь, мои корни
В пергаментной корчме...
(20)

так прыблізна пачынаецца апошняе. Але карчма гінула яшчэ да рэводюцыі, яе падмянялі манапольκі. І вось будучы поэта ў горадзе:

Здесь промотал я
Свое дикое детство,
Палкой длинной гоняя собак.
(8)

Доўгаю палкаю яно больш пэўней, але да справы дайшло трохі пачакаўшы:

И только теперь вот,
Немного осунувшись,
Когда шаг отяжелел и гомон утих—
Я расту здесь в Минске
Сутулым юношей.
А рядом со мной растет мой стих.
(9)

І раптам прыходзіцца нам вітаць новага поэту:

Ах, земля, земля, приветствуй
Лирика с кожевенного завода!
(7)

У яго, хоць і далёка недзе, але ўсё-ж ёсьць, як ён кажа, нешта рабочае:

Где-то в дебрях печенок и селезенок
Затаилось мое рабочее нутро.
(12)

І гэта хлеб, як некалі казалі. Разам з тым ня зусім дрэнна, што лірык з заводу пачаў пісаць аб сабе. Кожны поэта каштоўны, калі ён у вобразах мае сказаць штось другім, падзяліцца сваім зьместам з іншымі. Можа тав. Пілітовіч раскажа аб сваіх уражаньнях аб заводзе, сваіх перажываньнях на ім і г. д.? На жаль, вось гэтага няма. Ён можа ня пісаў-бы і аб іншым, але яго цягне:

Но что-то тянет меня
За волосы к перу.
(32)

Ня верыцца таксама, што поэта з заводу, хоць ён, часамі раніцай, калі ўсе сьпяць, набіраецца адвагі і грозна пытаецца, хто сьмее сумнявацца:

Бывает часто так,
Что в синеве поутру
Я ору, как петух о неведомой мне отваге,
Тогда становлюсь я отважным и храбрым,
Тогда становлюсь я бой-петухом.
Кто отрицать станет,
Что я не от фабрики
Пришел прокричать вам дубленым стихом.
(33)

Шмат і шмат хто. І калі ў іншым месцы ў поэты ёсьць запытаньні:

Ой, ребятки, ой как страшно,
Что это сон или явь?
(35)

дык прыходзіцца адказаць, што сон і дрэнны сон. Бо гэты поэта з заводу не аб працы, не аб уражань-

нях ад працы нават пяе, а аб тым, што ён будзе:

...всегда
С озорством неистовым
Черпать нашу жизнь пареньком лихим.
(3)

Не заўсёды і ўсюды зачэрпаеш, і поэту апаноўвае нуда:

Да, я грущу! Я страшно грущу!
И грусть переливается в тихую тоску.
(18)

Нават горш таго:

Я грущу необычайно
Что меня засосало хмурое гетто.
(18)

І зусім слушна моцна падумаць аб сьмерці!

Я в стихах себе вызваниваю
Невеселую смерть.
(34)

Таму ўжо ня верыцца, калі поэта пераконвае, што зможа пець аб вясёлым:

Я хочу рассказать о веселом,
Я хочу... И я смогу.
Недаром я с комсомолом
На расцветающем берегу!
(12)

бо, мабыць, і сувязь з комсамолам, як і з заводам, даволі выпадковая:

Я человек другога наречия
Другое наречие—иные чаяния...
(18)

Калі гэта сталася, што ў рабочых і комсамольцаў з рознымі „наречиями" розныя „чаяния?" Трэба прызнаць, што моцна сказана і не дарма пастаўлена шмат кропак. І напрасна поэту здаецца, што:

Нас никто ведь не понимает.
(11)

Можна-б было яшчэ шмат паказаць довадаў настрояў поэты, але гэта было-б паўтарэньнем. Іншыя настроі неўласьцівы поэту і па яго ўласнаму прызнаньню бываюць даволі рэдка:

Бывает редко, очень редко
Набежит на лицо мое радость.
(19)

Ды і выходзяць яны з-пад пяра больш важкаватымі:

Гой ты, моя родина—
Ржаная Белорусь!
Твои песни мне отданы,
Как сказочная грусть.
Гой ты, моя родина!
(22)

Некалькі год таму назад гэта было сказана куды званчэй:

Гой, ты родина моя!
Гой, ты бор дремучий!
Свист полночный соловья,
Ветер, степь да тучи!

Наогул сам поэта сазнаецца, што яму цяжка пець:

Друзья! Друзья! Мне трудно петь,
Душа ворочается, как медведь...
И мысли тож. И чувства тож.
И горло давит сплошная дрожь.
(73)

Але аб формальных якасьцях мы не гаворым, паколькі поэта просіць:

Только, друг мой, не говори мне
О моих тяжелых стихах.
(11)

Усё-ж, разыходзячыся ў мотывах, мы з поэтам сходзімся ў пропозыцыі:

Иногда к себе
Берет меня такая жалость,
*Что лучше-б забросить,*
*не писать стихи—* (32)

бо ні расійскай нацменшасьці на Беларусі, ні расійскай культуры яны нічога не дадуць, ды і „почва" ў іх незавідная.

**М. К-ч.**

**Витовт Путна. „К Висле и обратно".** *Выдавецтва „Военный Вестник" Масква—1927 г Стар. 245,* in folio 8°. *Цана 2 р. 40 к.*

Вайна з Польшчай у 1920 годзе адыграла безадмоўную ролю ў сэнсе вызначэньня меж Савецкай Беларусі.

Яскравыя моманты вайны Савецкай Расіі з Польшчай—наступленьне ў 1920 г.; вызваленьне ў ліпні месяцы Чырвонай арміяй г. Менску—сталіцы Беларусі — ад белапольскае окупацыі вызначыла канчатковае ўмацаваньне Саветаў на Беларусі; адступленьне Чырвонай арміі з-пад Варшавы, якое дакацілася аж да Менску; гэроічная абарона яго Чырвонай арміяй ад націску белапольскага войска (у кастрычніку 1920 г.) вырашыла лёс Менску. Менск застаўся савецкім!

Вынік вайны—рыскі дагавор разрэзаў цела Беларусі не дзьве часткі...

Вайна адбылася ў большай частцы на тэрыторыі Беларусі. Фактычна, вайна з Польшчай 1920 г.—гэта барацьба за вызваленьне рабоча-сялянскай Беларусі з-пад кіпцюроў белага арла.

Таму, надзвычайна каштоўнай для нас зьяўляецца нядаўна ўгледзеўшая сьвет праца камандзіра 27 дывізіі—удзельніка вайны 1920 г. „К Висле и обратно“, якая побач з тым, што зьяўляецца фактычнай старонкай гісторыі слаўнай 27 дывізіі, уяўляе каштоўнасьць з боку вайсковай справы і, нарэшце, зьяўляецца каштоўнай гістарычнай працай, якая дэтальна тлумачыць эпоху наступленьня 1920 г. з лёзунгам „Даёш Варшаву“, барацьбу пад Варшавай і адступленьне чырвоных.

Праз усю кнігу чырвонай ніткай праходзіць навука вайсковай тактыкі, апісаньне баёў, перамог, паражэньняў, якія ў сваёй большасьці адбываліся на тэрыторыі Меншчыны, Горадзеншчыны, Віленшчыны—на тэрыторыі Беларусі.

Таму выйсьце ў сьвет гэтае працы трэба толькі вітаць, бо яна, побач з тым, што разьлічана на вывучэньне практыкі вайны 1920 г. з панскай Польшчай каманда-палітычным складам РККА, уносіць у гісторыю барацьбы за Беларусь Савецкую шмат новых дэталяў, весткі аб якіх альбо моўчкі ляжаць у нашых архівах, альбо хаваюцца ў памяці ўдзельнікаў вайны...

*„Я не хотел историю делать гладко причесанной“*. Я стремился сделать свою книгу, по содержанию и стилю, непохожей на обычный тип наших исторических очерков, в которых все гладко, события как-то планомерно развертываются и разумно друг из друга вытекают, и мы, преимущественно, рисуемся героями и победителями.

„Моя работа не носит характера успокоительной повести. Местами она, быть может, даже пропитана некоторой горечью, но она ближе к подлинной действительности, чем описания, с начала и до конца всем и одинаково приятные“. Так піша Вітаўт Путна.

І сапраўды. Тое, што сказана В. Путна, тое відно скрозь яго працу. Перш за ўсё В. Путна—чырвоны камандзір. У вайсковай справе—пунктуальнасьць, дакладнасьць—самае галоўнае. Таму ў працы—фіксацыя, дакладная фіксацыя фактаў, таму т. В. Путна так скупы на той гэроічны эпос, які-б, здаецца, пры складаньні гэткае працы, быў-бы нямінучы. Сур'ёзная навуковая праца. Пры вывучэньні эпохі будаваньня Савецкае Беларусі, эпохі барацьбы за Беларусь Савецкую, кніга В. Путны „К Висле и обратно“—неабходны пасобнік.

Перад чытачом паўстае плян першай армейскай опэрацыі, форсаваньне Бярэзіны, удар на Смалявічы, бой за Менск...—тое, з чаго пачалося...

Перад чытачом уся цяжкасьць наступленьня, калі польскія часткі, „сбиваемые нами без затруднений и промедления, уходя, паджигали лес, густой стеной охватывавший все пути, чем доставляли нам много хлопот и затруднений, ибо было крайне трудно преодолевать разбушевавшуюся стихию огня в лесу, чрез который пролегала дорога. К тому-же, нестерпимо изнуряла знойная погода, а над сплошной стеною лесов в направлении на м. Смолевичи висела густая пелена дыма от лесных пожарищ“.

Перад чытачом усплывае 11-ае ліпня—дзень вызваленьня Менску ад белапалякаў, усплывае бой за Менск, які браўся часткамі Чырвонай арміі—27 дывізіяй пад кіраўніцтвам аўтара працы. Пунктуальнасьць у апісаньні моманту ўзяцьця Менску: „Поляки в районе Озерище и вдоль железнодорожного пути оказывали упорное сопротивление. Здесь с особым напряжением протекал бой на участке 80 бригады. На участке 81 бригады,

еще до рассвета, 241 крестьянский полк, истребив один батальон противника, прорвал укрепленную линию поляков, после чего полки бригады с боем интенсивно развивали свой успех в направлении на ст. Минск—Лошица. 27 кавполк проскочил в прорыв, зарубив в этом деле свыше 100 человек...

„Несмотря на отчаянное сопротивление, поляки были выбиты из окопов, понесли значительный урон людьми и вооружением и начали поспешный и беспорядочный отход, вынужденно сосредоточиваясь в городе, так как южнее и севернее переправ на речках нет. К 11 ч. 30 минутам об'единенные команды конных разведчиков 238 Брянского и 239 Курского полков ворвались в город, внося полное расстройство в проходящие через город и его окраины польские части. К 12 часам 241 крестьянский и 242 Волжский полки, разбив поляков в районе ст. Минск, своими частями вступили в город с юга. По тракту в направлении на м. Койданово бегущих поляков преследовал кавалерийский полк дивизии.

„К 14 часам город был окончательно очищен от противника. В 16 часов в город пришли части головной бригады 17 стр. дивизии.

„В результате дневного боя 27 дивизия взяла у поляков: 6 легких орудий, 32 пулемета, не установленное тогда точно количество винтовок, патронов и снарядов и свыше 300 пленных. Потери дивизии убитыми и ранеными—320 человек".

Апісваючы гэроічнасьць Чырвонае арміі ля Варшавы, В. Путна з запалам гэроя кажа:

„В этот день имели место случаи, которые вряд ли могут повторяться!"

Варшаву ўзяць ня прышлося. Прычын шмат. На іх спыняецца ў канцы кніжкі В. Путна. Яго даводы, бязумоўна, правільныя.

І тут—гэроічнае адступленьне. Ня проста здача позыцый бяз бою... Змаганьне, заўзятае...

Баі пад Менскам у кастрычніку 1920 г. Абарона Менску. Перамір'е. І, дзякуючы абароне 27 дывізіі, Менск застаецца савецкім.

Вельмі цікавай зьяўляецца падслуханая па правадох чыгуначнай лініі гутарка—перамовы штабу польскай групы з палкамі, якая характарызуе змаганьне Чырвонай арміі пад Менскам, прыведзеная ў працы В. Путна:

„Большевики дерутся, как бешенные, и мы, несмотря на максимальную настойчивость наших атак, не смогли осуществить своих намерений". (Захапіць Менск. Іл. Бар.).

Аднак, 16 кастрычніка Менск быў узяты палякамі. Толькі зьбіралася 27 дывізія атакаваць зноў палякоў 17 раніцою, як разьведка данесла, што палякі выходзяць з Менску.

Прычыну гэтага здарэньня і тлумачыць В. Путна:

„Причина их ухода скрывалась в том, что Минск, удержанный нами до 15-го, по условиям перемирия был оставлен за нами; тем самым для польских частей потерала смысл борьба за Минск. Минск немедленно был занят нами, и части к вечеру вышли на линию р. Птичь".

Уся кніга перапоўнена невядомымі дагэтуль фактамі-падрабязнасьцямі з эпохі вайны 1920 г. на Беларусі, што асабліва цікава для гісторыка.

**Іл. Барашка.**

**М. Чарот. Беларусь лапцюжная.** *Поэма. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск—1927. 32°, 30 ст.*

**Чырвонакрылы вяшчун.** *Поэма-фантазія. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск — 1927. 32°, 32 стар.*

Поэмы М. Чарота „Беларусь лапцюжная" і „Чырвонакрылы вашчун" у свой час ужо друкаваліся на старонках „Полымя" (1922 і 1924 г.г.).

Поэмы нашага песьняра з боку свайго зьместу, сваіх мотываў, як нельга больш, адказваюць задачам рэволюцыйнай поэзіі пролетарыяту і маюць глыбокае выхаваўчае значэньне.

Мотывы першай поэмы: удзел сыноў лапцюжнай Беларусі ў гэроічнай барацьбе за вызваленьне працоўных вёскі і гораду, ідэя злучнасьці паміж „дымным горадам“ і „вёскай у шэрані“, удзел лапцюжнікаў вёскі ў фабрычнай працы і ў будаўніцтве новага комуністычнага ўкладу жыцьця, ідэя СССР, як ідэальнай злучнасьці працоўных, „уваскросшая сягоньня Беларусь“, гучны лёзунг „вайна—вайне“. І, урэшце, крылатае прараканьне славы лапцюжнай Беларусі.

Беларусь болей слухаць ня хоча
Аб Рагнедзе і Ізяславе...
Беларусь на крутым перавале
Нараджаецца вольнай сягоньня.

З Усходу—едзе працы рыцар,
Ён на кані чырвонай масьці...
З Заходу—белы конь імчыцца...
На Беларусі бой—
Каму з іх запрапасьці?!

І беламу каню надломаны капыты,
Упаў ён на зямлю... Хістаецца яздок...
Лясы і шыр палёў ваякамі пакрыты,
Што шлях кладуць ад Воршы ў Беласток.

Надходзіць час... Заход струхнелы ляжа
Пад капытом чырвонага каня...

Такім спосабам, у гэтай поэме думка поэты прыкута да сваёй роднай, але работніцка-сялянскай Беларусі.

Мотывы другой поэмы-фантазіі— больш інтэрнацыянальнага зьместу. Поэта хоча ў сваіх думках скінуць вокам з „Чырвонакрылага вяшчуна“— самалёту на ўсе тыя старонкі земнай кулі, дзе адбываецца змаганьне Капіталу і Працы, абутых і босых. Уздым самалёту—над „Беларусьсю *разбуджанай*“...

Паплылі! Паплылі! Паплылі!
Адарваная частка зямлі—
*Беларусь*...

Далей:

Над абшарамі Польшчы
Арол белы ў паветры галошча
Крывавыя когці...

Ад меж Пазнані
Да нізін Рура
Рабочыя ходзяць панура...

Потым ідзе Францыя, край чорнакожых—Алжыр, Атлянтычны акіян, Калюмбія, Чылі, Аргентына, Вялікі акіян, Новая Гвінея, Аўстралія з перапуджанымі колёністымі, Японія, Кітай, край Першай Вялікай Рэволюцыі.

Урэшце „Чырвонакрылы вяшчун“ пачынае кружыцца над Беларусьсю, ужо цяпер, у канцы вялікага пералёту, „Вольнай і Злучанай“.

У цяперашні момант,—момант асабліва напружанай барацьбы паміж Капіталам і Працай у Кітаі і страшэннага ўціску працоўных Заходняй Беларусі,—выданьне гэтых поэм М. Чарота з іх гучнымі заклікамі да змаганьня і разам з тым бадзёрай надзеяй на сьветлую будучыну, зьяўляецца асабліва сваячасным.

Канечна, у сэнсе гэроічнасьці вобразаў „Босыя на вогнішчы“ пакуль што адзіночная поэма М. Чарота, але і перавыдадзеныя ў асаблівых сшытках поэмы знаходзяць сабе належнае месца ў агульным абсягу творчасьці поэты.

Можна было-б папікнуць М. Чарота тым, што ён і да гэтага часу абмяжоўваецца пісаньнем дробных рэчаў. Бязумоўна, што яго поэтычны талент здольны стварыць і вялікую поэму, тыпу монумэнтальных поэтычных твораў.

Можна папікнуць аўтара і за мову, асабліва ў поэме „Чырвонакрылы вяшчун“, дзе знаходзім зусім непатрэбныя русізмы.

— Гэй, Наполеон!
Патугі твае былі дарэм
Здабыць над зямлёй уладарства!

„Дарэм“ у сэнсе „дарма“, „дарэмна“ зусім не пабеларуску і толькі зацьмяваюць сэнс.

Як памылковы, трэба адкрэсьліць радок у 11 разьдзеле:

„Загуло нібы тысяча струн“. Калі тут друкарская памылка, дык яе трэба выправіць. **М. Байкоў.**

**Гео Коляда**. **„Futur-Extra“**, *поезії, Москва, 1927, 40 стар.*

Яшчэ Ломброзо сказаў, што гэні і вар‘яцтва мяжуюць. І граніцу паміж імі часам бывае вельмі трудна правесьці. Гэтую труднасьць адчуваў і я, чытаючы зазначаны зборнік вершаў. Ня мог я зразумець ні харастава „поезій“ Гэо Коляды, а часам ані самага зьместу. Ня ведаю, можа чытачы лепш зразумеюць гэтую красу вершаў украінскага „лефаўца“. Папрашу я прачытаць хоць-бы ўрывак з 1-га ж вершу ў зборніку „Розбита флейта“:

І почав я матюкатись тоді опоезенно,
що всі ви сволочі, як тумби.
А міліціонер слухав мене обезмеженно
і хукав—бо зимно—у руки.

Я підняв тоді свою флейту
і почав бить кожнага в морду,
аж доки не выбився до щенту
і не послав усіх к чорту.

Яшчэ некалькі „ўзораў“:

Сучасність темпом розтерзаним ввись.
Через губу плюється в колодязь минувшини.

І електричний блиск
осяює тьми тіл опростітучених (ст. 31).

Я не вовк і не кобила
І за інших постаять мастак.
Ось вам, сволочі, у рило
Зграі чорних посіпак! (ст. 16).

Вобраз „сволочі“ на кожным кроку вярзецца аўтару, так што з пашаны да яе адзін раз надрукаваў гэта слова нават з вялікай літары:

і пішов я тоді дадому,
бо було мені зимно,
бо було мені більно
од Сволочі! (ст. 7).

Хоць у прыведзеным вышэй вершы наш жартаўнік і кажа, што ён „не вовк і не кобила“, але ўсё-ткі ён вельмі любіць параўноўваць сябе з жывёламі:

Обсервуємо землю оком
і бувають ріжні об‘єктиви.
Сміх та радіння соком
дзюркае з нашого вим‘я (25).
Я дам вам хліба у торбу і від радости
як кінь заіржу (ст. 12).

Прывяду яшчэ некалькі зоолёгічных вобразаў.

Як хвіст піднімае кобила,
забруднюючи асфальти міст
і гартуючи білі копита
лошака пружинить хвіст... (ст. 17).

Єсть красавці жеребці в отарі
звірячого тіла громад.
Єсть прекрасна божественна карість
грубей кобилячих принад (ст. 27).

Тое, што Гео Колядзе і іншым футурыстым здаецца сьмелым вобразам, ёсьць проста чысьцейшая брыдота, у васнове якой не ляжыць нават падабенства; а галоўнае, няма ў іх ніякага пачуцьця меры. Любіць Гео Коляда ня толькі „матюкатись“ і „бить кожного в морду“, але і „плювати і харкати“ (а я буду в гумо-розтруб харкати слину днів, ст. 21).

Рабіць гэта ён загадвае нават чытачом:

„Надінте на леза шаблюки
зневаги людяної сміх
і харкніть в провалля тванюки
епохи сучасної злість! (ст. 29).

І шмат, шмат іншых загадаў (кусайте сонця баклажани, там-жа; кричіте, взриваючи серце бомбами, ст. 25), выкананьне якіх зусім зьяўляецца немагчымым.

Звычайна, як футурысты, Гео Коляда не прызнае ні клясычнай рытмы, ні нават самай украінскай мовы. Але трэба сказаць, што і ў нова-ўтварэньнях у футурыстых ёсьць пэўны шаблён, хоць яны так баяцца шаблёну; па большасьці, усе новыя словы (галоўн. чын., прыслоўі і дзеясловы) Коляда, як і іншыя футурыстыя, утварае з дапамогай прыназоўніка *о*: опоезенно (4), осніжнено (6), омайбутнені (12) і інш.

А шкада пісьменьніка: калі-б ён захацеў, ён змог-бы пісаць лепшыя вершы. Так, набліжаецца да агульна-людзкога, нормальнага разуменьня верш на 23 стар.: „Зажурений тополь, як тінь“.

Звычайна, наш вясёлы поэта прадбачыць, што яго ня прызнаюць ні

крытыкі, ані пісьменьнікі. І вось ён забягае ўперад, каб папярэдзіць іх кпіны.

У вершы „Futur Extra“ дасталася ўсім нам сьмяротным:

„Геніяліні“ Тичини, Сосюри. инші...
    Геть руки!—
„Ви, зграі беззубих критиків
з опетітненим мозком!
з охарканим вигуком!
Ви, гробокопатели, червоточина.
уся рецензентська ошатія“... і г. д.

Разьлік на чытача даволі правільны. Калі чалавек авансам з такой самаўпэўненасьцю бэсьціць сваіх крытыкаў, можа сапраўды яны нічога не разумеюць.

А самаўпэўненасьці ў Гео Коляды, як і ў Маякоўскага, даволі шмат; у прадмове да чытача (на вокладцы), у якой ён, між іншым, тлумачыць, чаму ён прымушан друкаваць даную кніжку на свае сродкі, ён абвяшчае яе „найвартішою зі всіх сучасних книжок на Вкраїні“.

У сваёй спробе сыстэматызаваць украінскую літаратуру (гл. Знання, № 2) В. Полішчук сябе і Гео Коляду (які раней называўся Грыцьком) аднёс да „колективістично-конструктивно - індустріяльної групи“. Але які-б ярлык мы да Гео Коляды ні прычапілі, ясна, што ні цяпер, ні ў „футуры“ яго поэзія ня будзе мець нічога агульнага з індустрыяльнымі колектывамі. „Леф“ у мастацтве не заўсёды зьяўляецца „лефам“ у поглядах.

**П. Б.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

## Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў

* *Янка Купала* працуе над перакладамі з украінскае літаратуры.

* *Якуб Колас* заканчвае другую частку вялікай аповесьці „У глыбі палесься“.

* *Кузьма Чорны* піша роман „Сястра“, які пачаў друкавацца з другога нумару „Узвышша“.

* *М. Грамыка* напісаў для Віцебскага Бел. Дзярж. Другога Тэатру п‘есу„ Воўк“ у 4 дзеях. П‘еса адбівае быт пасьля 1905 года.

Цяпер М. Грамыка працуе над романам у вершах з сучаснага жыцьця „Барацьбіта“.

* *Ул. Дубоўка* заняўся перакладам з пэрсыдзкае і грузінскае поэзіі.

* *Паўлюк Трус* падрыхтаваў новы зборнік сваіх вершаў пад назвай „Зялёны яр“. Зборнік будзе друкаваць ЦБ „Маладняка“.

* *А. Дудар* прадрыхтаваў зборнік сваіх апавяданьняў „Марсэльеза“.

* *Мардвілка* пераклаў з Рабіндраната Тагора „Садоўнікі“.

* *Крапіва* падрыхтаваў да друку новы зборнік мастацкае прозы.

* *С. Дарожным* напісана новая поэма „Каін“.

* *М. Нікановіч* падрыхтаваў да друку зборнік апавяданьняў „Крык працы“. Зборнік будзе друкаваць ЦБ „Маладняка“.

* У дзень гадавіны свайго заснаваньня, 26 траўня 1927 г. „Узвышша“ ладзіць агульны сход згуртаваньня, на якім будуць пастаўлены даклады аб стане сучаснай беларускай літаратуры.

* *Гаўрук Ю.* падрыхтаваў зборнік перакладзеных мастацкіх твораў „Кветкі з чужых палёў“.

## Тэатр, мастацтва, музыка

* 26 красавіка г. г. ў Маскве адбыўся шырокі этнографічны концэрт для дэлегатаў Усес. Зьезду Саветаў. У концэрце прымалі ўдзел артыстычныя сілы Беларускага Дзяржаўнага Тэатру.

* Беларускі композытар М. Аладаў піша музыку для вершаў М. Багдановіча.

* Да 10 гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі Ўсебеларускае аб‘яднаньне мастакоў рыхтуе 2-ую мастацкую Ўсебеларускую выстаўку.

* З пачатку сэзону і да 15 красавіка 1927 г. БДТ 2 выпусьціў шэсьць пастановак („У мінулы час“, „Сон у летнюю ночь“, „Цар Максімільян“, „Астап“, „Вечар студыйных практыковак“ і „Эрос і Псыха“), даўшы шэсьцьдзесят восем паказаў. З пералічаных п‘ес найбольшым посьпехам карыстаецца „Астап“, сучасная комэдыя ў трох дзеях (паказана 19 разоў) і „Сон у летнюю ноч“, комэдыя Шэкспіра (паказана 16 разоў). Вечар студыйных практыковак, у які ўваходзяць тры аднаактоўкі („Гавань“, „Цырульнік з Бэрагу“ і „Чорт і баба“), быў разьлічан на клюбныя і раённыя сцэны, і з гэтага боку зусім дасягнуў сваёй мэты. Асабліва падабаецца гледачу беларускі жарт „Чорт і баба“. На гэтай аднаактоўцы ўпяршыню спрабавалі свае сілы студэнты Беларускага Дзяржаўнага Мастацкага Тэхнікуму, якія апрацавалі пад кіраўніцтвам дырэктара тэхнікуму

Міхала Керзіна макет дэкарацыі і эскізы грыму і вопратак.

За паказаны час працы БДТ 2 адбыў два гастрольныя падарожжы: у Лужэсну (адзін паказ) і ў Полацак (сем паказаў). Падарожжы далі БДТ 2 магчымасьць абслужыць сялянскую аудыторыю, якая сустрэла паказы з асаблівай уважлівасьцю і прыхільнасьцю.

У сакавіку БДТ 2 наладзіў паказ на Віцебскай фабрыцы „Дзьвіна" ў фабрычным клюбе. Чарговай працай (пастаноўкай) будзе драма Эўрыпіда „Вакханкі", у перакладзе на беларускую мову Юльяна Дрэйзіна, якую тэатр пакажа першы раз у пачатку траўня.

БДТ 2 возьме ўдзел у выстаўцы тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва, якая ладзіцца ў Ленінградзе ў залях Акадэміі Мастацтва.

* 26 красавіка г. г. адбыўся вялікі концэрт беларускага композытара М. Аладава.

* Беларускі Вандроўны Тэатр, пад кіраўніцтвам Галубка, выехаў у падарожжа па Беларусі на летнюю працу. Тэатр спыніцца ў Горках, а адтуль пераедзе ў Клімавічы, Рэчыцкую, Мазырскую і Слуцкую акругі.

* Белдзяржкіно вядзе падрыхтоўчую працу па выпуску кіно-карціны „Карчма" па поэме М. Чарота.

* З 17-га мая г. г. пачнуцца гастролі БДТ 1 у Гомелі, дзе тэатр прабудзе да 13 чэрвеня; пасьля Гомелю БДТ 1 пераедзе ў г. Бабруйск.

Гастролі БДТ 2 пачнуцца ў Менску з 14-га мая і працягнуцца месяц. Пасьля Менску БДТ 2 пераедзе ў Магілеў.

Асноўная мэта гэтых гастроляў— азнаёміць шырокія колы працоўных з дасягненьнямі тэатраў.

* Мастацкая камісія пры яўрэйскім аддзеле Інбелкультy зараз рыхтуе да выданьня некалькі монографій вядомых мастакоў, якія нарадзіліся на тэрыторыі Беларусі, і прыступіла да вывучэньня рамесьніцкай мастацкай росьпісі, пачынаючы з XVII ст.

**Рознае**

* Нядаўна у Менску ўтворана Усебеларускае т-ва бібліафілаў. Т-ва ставіць сваёю мэтаю вывучэньне пытаньня культуры кнігі, яе гісторыю і г. далей.

* Францускі вядомы мастак Гранжуа, наведаўшы па даручэньню газэты „Юманітэ" ў мінулым годзе СССР, закончыў альбом пад назвай „Жывая Расія". У альбоме адведзена шмат месца для Беларусі, Украіны і Савецкага Ўсходу. Літаратурныя нарысы аб СССР з малюнкамі друкуюцца ў „Юманітэ".

* Вышаў з друку другі нумар часопісі „Узвышша".

* Менская філія „Маладняк" штотыдзень ладзіць сходы, на якіх разьбіраюцца творы сяброў аб'яднаньня і ставяцца даклады па тэорыі літаратуры.

* Вышаў з друку чацьверты нумар часоп. „Маладняк".

* Праўленьне Бел. Дз. Ун-ту адчыняе ў Менску першы ў БССР інстытут прыват-доцэнтуры. Інстытут будзе адчынен пры Мэдыцынскім факультэце Бел. Дз. Ун-ту.

* Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміяй (Горкі) організоўваецца першы ў СССР Сялянскі Унівэрсытэт. У Унівэрсытэт будуць прымацца сяляне-беднякі, парабкі і серадцякі. Мэта Унівэрсытэту—навучыць сялян культурна весьці сваю гаспадарку.

* Вышаў 1 нумар дадатку да газ. „Савецкая Беларусь" ілюстраванай часопісі „Чырвоная Краіна".

* Пры Наркамасьвеце БССР утворана камісія па сьвяткаваньню 10 гадавіны з дню сьмерці беларускага поэты М. Багдановіча. У камісію ўваходзяць прадстаўнікі ад Галоўпалітасьветы, Інбелкультy, Бел. Дз. Ун-ту і літаратурных організацый „Маладняк" і „Узвышша".

* Вышаў з друку 4 нумар час. „Бальшавік Беларусі“ орган ЦК КП(б)Б.

* Комвузам Беларусі пастаноўлена правесьці тры „нядзельнікі“ беларускае літаратуры для студэнцтва г. Менску.

* У Віцебскі музэй перавезена старынная карціна Мастака Сальватара Розэ „Побиение камнями Стефана“, якая зьяўляецца аднэй з самых каштоўных карцін у Беларусі.

* Да 10-ай гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі ў Маскве выходзіць зборнік „10 год пролетарскай літаратуры ў СССР“. У зборніку будуць зьмешчаны матэрыялы аб сучаснай беларускай літаратуры.

* Фэдэрацыяй пісьменьнікаў і поэтаў Беларусі праведзены два „суботнікі“, на якіх былі пастаўлены даклады аб сучасным літаратурным украінскім жыцьці і аб часопісе „Узвышша“.

* На апошнім пасяджэньні беларускага таварыства „Культурнай сувязі з заграніцай“ выказана пажаданьне аб падарожжы заграніцу членаў прэзыдыуму таварыства: З. Жылуновіча, Я. Купалы, М. Чарота, А. Адамовіча, Б. Аршанскага, С. Шамардзіной і С. Некрашэвіча для ўстанаўленьня сувязі з культурна-грамадзкімі інстытуцыямі Літвы, Латвіі, Чэха-Славакіі і Нямеччыны.

* Прэзыдыум беларускага таварыства „Культурнай сувязі з заграніцай“ заслухаў даклад дырэктара дзяржаўнай бібліятэкі Я. Сіманоўскага аб абмене кніг паміж БССР і заграніцай. Прэзыдыум ухваліў усямерна садзейнічаць кніжнаму абмену шляхам сувязі як праз усесаюзнае таварыства, так і непасрэдна шляхам сувязі з загранічнымі выдавецтвамі і бібліятэкамі.

* Згуртаваньне „Узвышша“ прыступіла да выданьня свае кніжніцы. У першую сэрыю кніжніцы ўвойдзе 12 паасобных зборнікаў памерам ад 2 да 4 друкаваных аркушаў. Будуць выданы зборнікі поэзіі, мастацкай прозы і крытыкі. З 1-ай сэрыі здадзены ў друк зборнікі: 1) З. Бядуля—„Танзілія“—новэлі, 2) Ул. Дубоўка—„Наля“—поэзія і 3) Пятро Глебка—„Шыпшына“—поэзія. Гэтыя зборнікі маюць выйсьці з друку да першай гадавіны „Узвышша“ 26 траўня 1927 г.

* Дасьледчы Інстытут імя Леніна ў бліжэйшы час прыступіць да выданьня пэрыодычнага часопісу падназвай: „Сельская і лясная гаспадарка“. Мэта гэтага часопісу—аб'яднаць працу вопытных установ, сялян-вопытнікаў і агрономаў, апублікаваць іх дасягненьні і кіраваць гэтай працай.

* Зданы ў друк зборнік п'ес маладога драматурга В. Сташэўскага.

## У Інстытуце Беларускай Культуры.

* На апошнім пасяджэньні навуковай рады Інбелкульту з удзелам прадстаўнікоў усіх сэкцый і навуковых камісій разглядаўся проект новага статуту Інбелкульту.

Сход аднагалосна прыняў рэзолюцыю аб сваячасовасьці рэорганізацыі Інбелкульту з новага бюджэтнага году ў Беларускую Акадэмію Навук. Апрацаваньне дакладное запіскі на імя СНК БССР даручана камісіі з т. т. Пятровіча, Смоліча і Некрашэвіча.

* У траўні месяцы 1927 г. выходзіць першы том твораў М. Багдановіча.

* Вышлі з друку „Казкі і апавяданьні беларусаў Слуцкага павету“ А. Сержпутоўскага. Кніга разьмерам 15 друкаваных аркушаў.

* Інбелкультам зданы ў друк зборнік беларускіх песень, запісаных М. Гарэцкім.

* ІБК атрымаў пропозыцыю ад кіраўніка Славянскага Інстытуту пры Бэрлінскім Унівэрсытэце і рэдактара Славянскай энцыклёпэдыі проф. Фасмэра аб устанаўленьні кніжнага абмену.

* Аддзел мовы і літаратуры апрацаваў праграму па зьбіраньні асаб-

лівасьцяй беларускіх гутарак. Кніга выйдзе разьмерам 4 друкаваных аркушы.

* На апошнім пасяджэньні сакратарыяту ІБК быў разгледжан і зацьверджан плян навуковых дасьледчых экспэдыцый, якія маюць быць праведзены гэтым летам.

*Аддзел мовы і літаратуры* мае наладзіць экспэдыцыі: а) па старажытнаму шляху Смаленск—Парэчча—Вяліж дзеля вывучэньня дыялектычных асаблівасьцяй і этнографічных матар'ялаў памянёных абшараў. Пры астаноўках Смаленск—Парэчча—Вяліж маюць быць прачытаны даклады па беларусазнаўству; б) па маршруту Унеча—Сураж—Мглін—Трубачэўск—Старадуб па грунтавых дарогах—з тымі-ж мэтамі.

*Мастацкая сэкцыя* наладзіць экспэдыцыі: а) у Слуцак—для дасьледаваньня і частковай рэстаўрацыі і каляровых зарысовак архітэктурных помнікаў 16—18 стагодзьдзя, б) у верхняе Наддзьвіньне і Наддняпроўе для зьбіраньня народных сьпеваў і мэлёдый; в) у Лепельшчыну для вывучэньня народных танцаў.

Апроч таго, мае адбыцца навуковая камандыроўка на Украіну дзеля вывучэньня экспонатаў славутага беларускага ўрэчанскага шкла.

*Мэдыцынская сэкцыя* правядзе: а) дасьледваньне вальлёвых (зоб) хвароб у Аршанскай акрузе, б) гельмэнталёгічнае дасьледваньне працаўнікоў менскіх разьніц і в) дасьледваньне скляромы (хвароба) у Менскай акрузе.

*С-г. экспэдыцыя* мае дасьледваць сельска-гаспадарчую тэхніку сялянскага ральніцтва. Адзначаная экспэдыцыя організуецца супольна з навуковым т-вам па вывучэньню Беларусі пры с.-г. акадэміі ў Горках; а таксама наладжваюцца дзьве экспэдыцыі па вывучэньню беларускага сялянскага ткацтва (Віцебская і Полацкая акругі) і ганчарства (Барысаўская і Аршанская акругі).

*Гістарычна-археолёгічныя* экспэдыцыі маюць быць наладжаны на р. Сож каля в. Бэрдыж, Гомельскай акругі, дзе будуць праведзены буйныя раскопкі па дасьледваньню першай на Беларусі стаянкі чалавека ляднiковага пэрыоду, якая летась была выкрыта археолёгам К. М. Палікарповічам; будуць наладжаны экспэдыцыі ў тыя мясцовасьці, дзе летась ня былі закончаны археолёгічныя раскопкі: для дасьледаваньня нэолітычных стаянак на сярэдзіне і вярхоўях р. Сожу, дасьледваньня пахавальных урнаў каля Новага-Быхава, гарадзішча жалезнай эпохі на р. Ухлясьці і Банцараўскага гарадзішча каля Менску.

*ЦБ Краязнаўства* наладзіць узорна-мэтодолёгічную экспэдыцыю для дасьледаваньня фауны і флёры Асіпавіцкага раёну.

*Па яўрэйскаму аддзелу*: а) соцыяльна-экономічнае дасьледваньне мястэчак Мазырскага Палесься і Рэчыцкай акругі; б) экспэдыцый па зьбіраньню яўрэйскага фольклёру ў мястэчках Грозава, Цімкавічы і Пагост, Слуцкай акругі.

*Польскі аддзел* мае наладзіць экскурсіі для зьбіраньня польскага сьпеўнага матэрыялу і фольклёру ў польскіх сельсаветах Слуцкай, Бабруйскай і Мазырскай акруг.

* Проф. Салаўёў праводзіў досьледы фауны Горацкага раёну. Некаторыя вынікі яго досьледаў апублікаваны ў саюзным і замежным друку.

* Пры Віцебскім краязнаўчым т-ве існуе сьветазнаўчая сэкцыя. Сэкцыя мае ў сваім карыстаньні розныя астрономічныя прылады і праводзіць назіраньні сонца, месяца, зорак і інш.

Зараз сэкцыя пастанавіла пабудаваць спэцыяльную будку для астрономічных назіраньняў.

* Камісія па ахове помнікаў гатуе да выпуску апісаньне Менску і яго ваколіц. У апісаньне ўвойдуць наступныя аддзелы: прырода і помнікі прыроды; Менск у пэрыоды—дагістарычны, каменнага веку, гарадзішч

і курганнай культуры, а таксама ў пэрыод летапісны XI-XII веку; Менск з XIII веку да апошняга часу з помнікамі архітэктуры, мастацтва, экономікі, прамысловасьці і бібліяграфіі. Выданьне будзе ілюстравана чарцяжамі, малюнкамі і здымкамі.

* У Інбелкульце распрацован проект аб'яднаньня мэдычнай сэкцыі Інбелкульту і камісій па вывучэньню распаўсюджаных па Беларусі хвароб у Інстытут Грамадзкай Мэдыцыны. Практычнай працай апошняга будзе кіраваць Наркамаховы здароўя; навуковае кіраўніцтва бярэ на сябе Інбелкульт.

* Т. Красьнянскі склаў гісторыю г. Віцебску, пачынаючы з XI-га стагодзьдзя.

Гісторыя мае ў хуткім часе выйсьці з друку памерам у 6 друкаваных аркушаў.

* Мазырскае краязнаўчае т-ва распачало зьбіраньне географічнага слоўніка акругі. Слоўнік мае зьмясьціць у сабе матэрыялы падрабязнага апісаньня акругі з географічнага боку.

* Сёлета адбудзецца падрабязнае дасьледаваньне Валынецкага р. Полацкай акругі, і Дубровенскага р. Аршанскай акругі накшталт дасьледаваньня Асіпавіцкага р.

У гэтыя раёны ЦБ Краязнаўства наладжвае дзьве экспэдыцыі для кіраваньня дасьледчай працай.

Апроч гэтага, у Асіпавіцкі раён будуць накіраваны 4 экспэдыцыі для вывучэньня фауны і флёры, дасьледаваньня гароднікцтва і пчалярства і народнага мастацтва.

* Яўрэйскі аддзел ІБК да гэтага часу атрымаў звыш 1000 картак слоў жывой яўрэйскай мовы.

* З наступнага бюджэтнага году ЦБ Краязнаўства мае выдзеліцца ў самастойную організацыю па кіраваньню краязнаўчай справай БССР і будзе толькі знаходзіцца пад ідэёвым кіраўніцтвам ІБК.

**Беларуская культура за рубяжом**

* Ромуальд Зямкевіч (вядомы бібліограф) напісаў кніжку „Кароткі нарыс гісторыі беларускае музыкі". Раней гэтым-жа аўтарам напісана праца „Беларуская бібліографія". Цяпер Р. Зямкевіч працуе над гісторыяй беларускае літаратуры.

* Нядаўна ў Вільні вышла кніжка 1-ая літаратуры і культуры Заходняй Беларусі „Родныя Гоні".

* У лютым месяцы г. г. ў Амэрыцы (у г. Пуамане) Я. Варонка прачытаў лекцыю на тэму: „Школа і хата".

* У Рызе (Латвія) вышаў з друку невялічкі зборнік вершаў маладога поэты М. Талеркі пад назвай „Адгукі сяродкі".

* У Латвіі (г. Рыга) адбыўся першы організацыйны сход Т-ва Беларускага Тэатру, на якім абрана часовае праўленьне т-ва.

* Профэсарам Галомбэкам зьмешчаны ў тыднёвай часопісі „Жыцьцё тэатру" вялікі артыкул „Тэатр на Беларусі Савецкай".

* У Варшаве мэтодычная камісія, якая ўжо выдала раней некалькі выданьняў на беларускай мове, прыступіла да выданьня новай беларускай часопісі „Дух і праўда". У студзені 1927 году ўжо вышаў першы нумар гэтай часопісі.

* У Вільні выходзіць штомесячная ілюстраваная часопісь для дзяцей пад назвай „Заранка".

* У Вільні конфіскаваны № 6 беларускае газэты „Наша справа", беларуская аднаднёўка „Водклік", апошні нумар гумарыстычнай часопісі „Маланка" і апошні нумар газэты „Сялянская Ніва".

# ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* У г. Харкаве пры Дзяржаўным Выдавецтве Украіны пачынае выходзіць літаратурна-крытычная часопісь пад назвай „Гарт“.

Часопісь зьяўляецца органам Усеукраінскага саюзу пролетарскіх пісьменьнікаў (ВУСПП). У склад рэдакцыі часопісі ўвайшлі: В. Карака, І. Мікітэнка, М. Доленга, П. Усэнка, В. Сасюра і В. Юрынец.

* З красавіка месяца г. г. пачала выходзіць у г. Кіеве двухтыднёвая газэта над назвай „Літаратурная газэта“ орган ВУСПП. Газэта ставіць сваёй мэтай шырока высьвятляць перад працоўнымі Украіны ўсе пытаньні культурнага і мастацкага жыцьця.

У газэце будуць аддзелы: а) поэзія і проза, б) крытыка, в) літаратурныя фэльетоны, д) пэрыодычныя агляды літаратурнага, тэатральнага, і культурнага жыцьця, е) мастацкая трыбуна, ж) кнігапіс, з) хроніка Украіны, СССР і інш.

* З складу літаратурнай організацыі Ваплітэ выключаны М. Хвільлёвы, М. Яловы, О. Досьвітны.

* У сярэдзіне травеня ў Харкаве выходзіць першы нумар філёзофска-марксыцкай часопісі „Під пропорай марксизму“.

* Ваплітэ друкуе асобнымі выданьнямі кніжкі: І. Сэнчэнка—„Скарб“ (два вялікіх апавяданьні для дзяцей), П. Панч—„Солом‘яний дим“, Арк. Любчэнка—„Бурэмны путь“.

* Галоўпалітасьветай Украіны праводзіцца конкурс на літаратурны, драматычны і музычны творы.

Конкурс прыстасоўваецца да 10 гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі.

* Пачаў сваю працу нядаўна організаваны украінскі вандроўны тэатр „Веселий Пролетар“.

* Часопісь „Плужанін“ пачынае выходзіць замест двухтыднёвіка—месячнікамі. Разьмерам ён павялічваецца да 5-6 аркушаў. „Плужанин“ будзе выдавацца Дзяржаўным Выдавецтвам Украіны.

* Вядомы украінскі пісьменьнік С. Васільчэнка піша аповесьць „Вертається“ і працуе над новэляй „Ой у лісі, лісі“.

* Асоцыяцыя Рэволюцыйнага мастацтва Украіны (АРМУ) вядзе падрыхтоўчую працу да наступнай усеукраінскай выстаўкі АРМУ. Праведзены ўжо мясцовыя выстаўкі ў гарадох Кіеве, Адэсе, Харкаве і інш.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Лімаоўскі.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ

Стар.



